Гомельскае абласное аддзяленне грамадскага аб’яднання
«Саюз беларускіх пісьменнікаў»

# ПАЛАЦ 2018 6

## ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ

ЗАСНАВАНЫ Ў 2013 ГОДЗЕ
ВЫПУСК 6



МІНСК, «КНІГАЗБОР», 2019



# «АГМЕНЬ ЗАПАЛЬВАЕ ЗЬНІЧКІ»



## Свята Паэзіі на радзіме Анатоля Сыса

У залаціста-сонечны дзень, пад бусляным карагодам, пад грушамі каля роднай хаты паэта 19 траўня 2018 года ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна ладзіўся літаратурны фэст «Агмень». Гэта стала ўжо добрай традыцыяй у літаратурным жыцці краіны. На фэст прыехалі пісьменнікі і сябры Анатоля, сваякі і грамадскія актывісты, журналісты з Беларусі і Польшчы. Блюзмен Юры Несцярэнка і бард Зміцер Цярэнцьеў надалі святу музычнае гучанне.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч сказаў:

— Ад сёння змянілася назва нашага літаратурнага фэсту. Цяпер ён называецца «Агмень» — гэтак называўся першы зборнік вершаў Анатоля Сыса. Чаму мы так зрабілі? Мы хацелі, каб літаратурнае свята пашыралася, праводзілася не толькі на падворку хаты, у якой жыў Анатоль, а выходзіла на большыя абсягі, каб свята стала літаратурным фэстам на ўсёй Гомельшчыне, каб як мага больш людзей далучалася да паэзіі выбітнага земляка. Мяркуецца, што «Агмень» будзе праходзіць і ў Гомельскім універсітэце імя Францішка Скарыны, які скончыў у свой час Анатоль Сыс. Яшчэ ж павінен быць створаны і літаратурны музей Анатоля. І месца іншага мы не бачым, як тут, у яго роднай хаце — у Гарошкаве. Тым больш, што для будучай экспазіцыі шмат чаго сабралі сёстры паэта — Тамара і Валянціна, — яго рукапісы, карціны, яму прысвечаныя. Музей трэба будзе рабіць на грамадскіх пачатках, абапіраючыся на добрую волю мясцовых уладаў. У Анатоля няма кепскіх вершаў, ён пісаў толькі лепшыя, можна сказаць, выбраныя. Прачытаю верш са зборніка «Лён»:

спаўзаючы з церня
кроў смокча слёзы
уп'юся ў яго вачамі — Бог
вуснамі — чалавек
насустрач нашы любові

як два сонцы
імкнуцца ў поўдзень
урэшце звяла нас
вузкая сцяжына ў жыце
ён дастаў з душы хлеб
я — з цела — віно
ён прыгубіў
я асушыў кубак
і паплылі вянцы
цярновыя
жытнёвыя
васільковыя
хто ты мне?
бацька брат сын?
ізноў хачу ўпіцца ў яго вуснамі
а Юда ўва мне шэпча
упіся ў яго зубамі…

Кожны год на дзень нараджэння Анатоля, 26 кастрычніка, на гэтым падворку, які памятае Анатоля, які жыве ягоным духам, збіраюцца сябры і прыхільнікі ягонага таленту. Падобныя святы адбываюцца ў нас па ўсёй Беларусі, прысвечаныя нашым таленавітым паэтам, празаікам, літаратарам. Да прыкладу, на радзіме Тані Сапач — на Маладзечаншчыне, на радзіме Алеся Пісьмянкова — на Магілёўшчыне, на радзіме Ніны Мацяш — у Белаазёрску. І я спадзяюся, што з часам, у перспектыве землякі Анатоля перахопяць ініцыятыву ягоных сяброў, будуць ладзіць святы не толькі на гэтым падворку, дзе яны адбываюцца традыцыйна, але і ў школе, дзе ён вучыўся, у дамах культуры ў бліжэйшых вёсках, дзе бываў Анатоль. І гэтае свята сапраўды стане святам усіх землякоў Анатоля, якія яго памятаюць, якія яго любяць, якія чытаюць яго творы. Не кожная зямля дае такіх людзей, якім быў Анатоль, — такіх таленавітых і, сёння можна сказаць без сумнення, геніяльных.

Паэт, выкладчык універсітэта імя Францішка Скарыны Віктар Ярац:

— Сёння я ўпершыню тут, на гэтым падворку, на гэтай траве, дзе бегаў Анатоль басанож і ў ботах, якія ў нас тут называлі часцей чобатамі. Пазнаёміўся з сёстрамі, Тамарай і Валянцінай, братам Віктарам. Паглядзеў хату, у якой Анатоль жыў, дыхаў, спаў, дняваў, начаваў. Як пісаў Янка Сіпакоў, «усе мы з хат». Ці не адтуль уся беларуская літаратура? Усе мы з хат, з вёсак. Анатоль Сыс быў ва ўніверсітэце маім вучнем, мы нават разам выступалі ў рабочых інтэрнатах, куды нас запрашалі на літаратурныя вечарыны. Чытаў там Анатоль



свае першыя вершы — пра тое ж белае піяніна, рукі, чорныя клавішы. Першыя вершы яго ўражвалі нейкай нешматслоўнасцю, стрыманасцю і нейкім вельмі сваім адчуваннем гэтага свету, у які прыйшоў. Яго любімымі паэтамі на той час былі Максім Багдановіч, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў. Любіў усё, што было лепшае на той час у нашай паэзіі — у яе жывых носьбітах, а таксама тое, што засталося ў спадчыну. Любіў ён і Гарсія Лорку. Адсюль многія могуць заўважыць і супадзенні, блізкія яму, — да маці, вачэй-азёраў, родных сэрцаў. Ужо тады адчувалася, калі будзе праца, калі лёс складзецца да яго літасціва, то вырасце ён у сур'ёзную з'яву. І ён паспеў пра сябе заявіць як пра з'яву надзвычай сур'ёзную, адметную, непаўторную. Ён не спраўдзіў сябе да канца, не рэалізаваў, бо лёс адмераў яму малавата часу.

Яўген Вапа, пісьменнік, рэдактар тыднёвіка «Ніва»:

— Дзякуючы паэзіі Анатоля Сыса, крыху старэйшага за яго Алеся Разанава мы, жывучы ў Польшчы, адчувалі, што беларуская літаратура ёсць роўная сярод іншых еўрапейскіх літаратур. Зборнік вершаў «Агмень», падпісаны Анатолем, стаіць у мяне на паліцы ў ліку святых кніг. Ён у мяне бываў, начаваў. І калі мы ехалі на «Басовішча», заўважыў буслоў. І сказаў: «У вас шмат буслоў, але ў Беларусі больш». Я запярэчыў: «Няпраўда». Біліся аб заклад. Анатоль давай лічыць па дарозе кожную буслянку. Калі прыехалі, Анатоль кажа мне: «Ты выйграў: на Беласточчыне больш буслоў». Анатоль друкаваўся на старонках нашага тыднёвіка «Ніва». Мы прыехалі сюды з Ганнай Кандрацюк, аўтаркай кнігі «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.», прысвечанай Анатолю Сысу і нашым беластоцка-гарошкаўскім сувязям, нашай памяці і нашаму супольнаму палескаму свету.

Сяржук Сыс, паэт і зямляк Анатоля Сыса:

— Пазаўчора я завітаў у Мінску ў адну турыстычную фірму — афармляў дакументы для паездкі дачкі ў Балгарыю. Жанчына, што афармляла паперы, прачытаўшы прозвішча, пытаецца ў мяне: «Вашае прозвішча Сыс, а я ведаю славутага паэта Анатоля Сыса». Пацікавіўся ў яе: «Адкуль вы яго ведаеце?» Адказвае: «Некалі была на яго літаратурным выступленні. Мяне яго вершы тады ўразілі, як і сам паэт. Цяпер хаджу па кніжных крамах, спадзяюся ўбачыць яго кнігі, і не знаходжу…» Праз два дні я прынёс ёй зборнік выбранага Анатоля. Якую я ўбачыў радасць на яе твары — не перадаць. Прывёў гэты факт дзеля таго, каб сказаць, што мы не ўяўляем да канца, якую памяць пакінуў пасля сябе Анатоль Сыс. Хачу прачытаць яго верш:

Я сынам сваёй Айчыны
Завуся да той часіны,
Як памяць бунтуе мая.
Дух — гэта, людзі, Я.
У шчасці альбо ў самоце
Мне шэпчуць крыльцы ў палёце

Гарошкаўскага матыля.
Дух — гэта, людзі, Я.

За гады, што Анатоля няма, сабралася шмат рэчаў, шмат публікацый, звязаных з ягоным жыццём. І яны могуць стаць асновай стварэння мемарыяльнага музея ў яго памяць. Музей быў бы і культурным апірышчам Рэчыцкага раёна, ён прыносіў бы яму гонар і славу. З іншага боку, гэта было б важна і для выхавання маладога пакалення. Бо Анатоль аддана любіў Беларусь і свой Гарошкаў. Гэта важна з многіх бакоў. І таму ўладам трэба было прыгледзецца, пайсці насустрач і ўзяць спачатку гэты дом хаця б на баланс.

Яўген Рагін, літаратар:

— Я ўдзячны яму за тое, што ён раскатурхаў і абудзіў ува мне беларуса, хаця, прызнацца, я напалову старавер. Калі я паказаў яму свае вершы, то ён замест ацэнкі ўзроўню сказаў: «Я забараняю табе пісаць вершы на расейскай мове!» Упікнуў і дапёк, што называецца. Так бы мовіць, закрануў за жывое. Тады ж я і пачаў задумвацца над многімі пытаннямі, і над галоўным: «А хто ж тады мы?» То былі васьмідзясятыя гады. Цнатлівыя гады для Анатоля. Ён тады не дакранаўся да чаркі, нават не паліў. Але што мне запомнілася з таго часу — вочы яго запомніліся. Праніклівыя, строгія і мяккія, дакараючыя і даруючыя. Як сёння, дык я разумею так: адно вока ў яго было ад д’ябла, а другое — ад Ісуса Хрыста.

Георгі Ліхтаровіч, фотамастак, літаратар:

— У 1996 годзе, а калі дакладна — 24 сакавіка, каля Опернага тэатра адбываўся мітынг. Выступоўцы ўзбуджана абмяркоўвалі становішча жыцця ў Беларусі. Потым усе вырашылі рухацца да будынка тэлебачання, каб патрабаваць прамога эфіру. І тут да мяне падыходзіць юнак і просіць: «Сфатаграфуй мяне». Пацікавіўся: «А вы хто?» Пачуў у адказ: «Я — Анатоль Сыс». Я адразу і сфатаграфаваў яго. Я павялічыў той, скажу, гістарычны і адметны здымак, надрукаваў і перадаю цяпер у будучы музей Анатоля Сыса ў Гарошкаве.

Кожны з выступоўцаў прыгадваў свае сустрэчы з Анатолем Сысам. Дырэктар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, паэт Алесь Ліпай, які ўпершыню прыехаў у Гарошкаў, запомніў сустрэчу з Анатолем з-за размоў пра смерць як закон жыцця. З гутаркі нарадзіўся нават верш, пра «звера», які сядае кожнаму чалавеку на калені перад сыходам у іншы свет. Аднак, заўважыў Ліпай, далёка не кожнаму сядае на плячо «срэбны салавей» — Анатолю ён сеў, і паэзія яго вось ужо дванаццаць гадоў гучыць вакол бацькоўскай хаты і наогул там, дзе жыве беларускае слова.

Іван Штэйнер, прафесар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны, доктар філалагічных навук:

— Анатоль Сыс у свой час скончыў філалагічны факультэт універсітэта. Калі я ехаў сюды, то прыгадаў Перадзелкіна, дзе збіраюцца паэты



і барды, каб ушаноўваць памяць Булата Акуджавы. Так і ў нас — сад, стаяць лаўкі і мы гаворым пра нашага Анатоля Сыса. Летась прывезлі кнігі ранніх вершаў Анатоля — яны выклікалі незвычайную цікавасць, разышліся, так бы мовіць, нарасхват. Нам трэба збіраць успаміны пра нашага выбітнага гарошкаўскага паэта, паэта Беларусі. Анатоль пакрочыў з рэальнага жыцця ў свет паданняў і легендаў, у свет міфаў і касмічных сусветаў, — усё гэта неабходна збіраць і паступова выдаваць. Дадам яшчэ. У беларускай літаратуры Анатоль Сыс — досыць вялікая постаць. Ён ужо — легенда, і таму мы можам дапісваць, дапаўняць і пашыраць гэтую легенду. У нас на кафедры збіраюцца матэрыялы пра творчасць Анатоля — пішуцца курсавыя, дыпломныя працы студэнтаў, іншыя публікацыі розных жанраў. У будучым мы плануем прапанаваць некаму з аспірантаў нават адпаведную тэму дысертацыі.

На свяце паэзіі ў Гарошкаве выступалі таксама барды Алесь Камоцкі і Зміцер Захарэвіч, у тым ліку і выконвалі песні на словы Анатоля Сыса. Прагучалі музычныя выступы Змітра Бартосіка, Кацярыны Ваданосавай, Аляксея Галіча, Вольгі Гардзейчык, Таццяны Грыневіч, Касі Камоцкай.



На пярэднім плане сястра Анатоля Сыса Тамара і брат Віктар



Сёстры Анатоля Сыса Валянціна (злева) і Тамара

Вольга Цярэшчанка, настаўніца і бард з Гомеля:

— Панове, скажу два словы ў гонар нашага Анатоля. Анатоль — частка нашага жыцця, частка нашых думак. Анатоль Сыс — гэта гонар Беларусі, адзін з найлепшых беларускіх паэтаў XX стагоддзя. Самае галоўнае, каб тое, што сеяў Анатоль, прарастала з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе. Сёння радасны дзень: мы за Анатоля молімся. Анатоль жыве ў песнях, Анатоль жыве ў сваёй творчасці! Не сумуйце. Не важна, якая сітуацыя вакол нас. Важна, каб у гэты дзень прыходзілі, памяталі, чыталі вершы і спявалі песні. Самае лепшае, што трэба паэту, — памяць. Памяць у ягонай творчасці, у нашых сэрцах. Я хачу праспяваць сваю новую песню на словы Анатоля Сыса з кнігі вершаў «Алаіза»:

Шрыфтам Брайля на калядным снезе
Птушкі вершы пішуць.
А чытаю — рукі змерзлі.
Свае руны мне не вышыць.
Я аслепнуў.
Я аглухнуў.
Птушак не здагнаў — спяшаю,
А вясновы снег пажухнуў.
Часу — тры сняжынкі маю.
А памру — паэт мо прыйдзе,
Разгадае сляды птушак.
Ох ты, лёс мой!
Ох ты, злыдзень!
Дзе салома, дзе падушка?..

Пра адметнасць творчасці Анатоля Сыса гаварылі паэты і літаратары Міхась Скобла, Вадзім Болбас, Ларыса Раманава, Алесь Пашкевіч. Беларускія вершы ў Гарошкаве чыталі і самыя юныя ўдзельнікі свята — дачка Сержука Сыса і сын Ларысы Раманавай.

**Альфабэт Анатоля Сыса**



**А — Агонь** стаў асноўнай стыхіяй для Анатоля Сыса. З агнём звязаная гісторыя нараджэння паэта, з гэтым вобразам цесна злітаваная і яго творчасць. Калі маці, настаўніца пачатковых класаў, была цяжарная, яна, дапамагаючы суседцы падліць газы ў запаленую лямпу, праз неасцярожнасць зрабіла пажар. Маці абгарэла, а ў тую самую ноч нарадзіўся Анатоль. Магчыма, гэты момант і паўплываў на светаўяўленне паэта, а ён сам пачаў асацыяваць сябе з шаравой маланкай — прыгожай з'явай, якая, аднак, мае дэструктыўны пачатак. Сыс казаў: «Паэзія — гэта інтуіцыя, калі хочаш, імправізацыя па матывах душы. Раптам я кідаю ўсё на свеце. У гэты момант мяне лепш не чапаць. Я сам як шаравая маланка…» Агонь часта з'яўляецца ў яго вершах, а першы зборнік, датаваны 1988 годам, зусім не выпадкова атрымаў назву «Агмень». Дарэчы, яго рэдактарам была Яўгенія Янішчыц.

**Б — «Бацькам»** называлі Анатоля Сыса калегі-паэты. А ён іх — сваімі сынамі. Паэт меў аўтарытэт сярод сяброў, якія, прымаючы да ўвагі яго творчыя поспехі, прыслухоўваліся да парадаў таварыша. Ён часцей за ўсё раіў больш думаць пра паэзію і менш «хадзіць па дзяўчатах». Сыс умеў сябраваць. Але вось сапраўдным бацькам ён, магчыма, так і не стаў. Хоць паэт карыстаўся поспехам сярод дзяўчат, і нават хадзілі чуткі, што сын паэтэсы з Веткі Ларысы Раманавай Ціхан — ад Анатоля.

**В — Вышыванку** Анатоль Сыс любіў надзяваць на паэтычныя вечарыны. Але ён з'яўляўся на публіцы не проста ў кашулі. Сябар і аднагрупнік Сыса, паэт Эдуард Акулін неяк прыгадаў: «На трэцім курсе мы з Анатолем пашылі супермодныя тады вельветавыя тройкі (Толя — ярка-ультрамарынавую, я — пранізліва-чорную). Мы любілі надзяваць гэтыя касцюмы не толькі на танцы, але і на паэтычныя вечарыны, надзявалі пад іх кашулі-вышыванкі. І калі мы выходзілі на сцэну, на студэнтак філфака гэта рабіла гіпнатычна-шокавае ўздзеянне».

**Г — Гарадзішча** ў роднай вёсцы Гарошкаў, што ў Рэчыцкім раёне, Анатоль Сыс фактычна выратаваў ад знішчэння. Гэта здарылася яшчэ калі паэт вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Неяк Анатоль заўважыў, што з гарадзішча пачалі браць пясок на будоўлю, таму звярнуўся ў музей і да мясцовых уладаў з просьбай спыніць знішчэнне гістарычнага помніка. Нечакана да меркавання студэнта прыслухаліся і паставілі каля гарадзішча ахоўны знак.

**Д — Дняпро** стаў для Анатоля Сыса не проста рэчкай, на беразе якой ён вырас, але і любімым месцам, дзе ён, прыязджаючы ў Гарошкаў, часта бавіў час, крыніцай натхнення, яркім вобразам у паэзіі. Ён

«дзе-небудзь на Дняпры», — казалі гасцям сваякі паэта, калі першыя не заспявалі Анатоля ў хаце. Дняпро як сімвал радзімы з'яўляецца ў «Маналогу Сяргея Палуяна», сілу прыроды ўвасабляе ў вершы «Чорная быль», згадваецца і ў творах-прысвячэннях паэту, да прыкладу, земляка, паэта Сержука Сыса: «Дагадзіў жа ты мне, Анатоль, / дагадзіў, / як аднойчы вадою / з Дняпра напаіў».

**Е — Есці** Анатоль Сыс вельмі любіў сырыя вясковыя яйкі. Казалі нават, што ён мог і сачыць за курыцай у якое кубло палезе, каб узяць яйка яшчэ цёплым і хутка спажыць. Анатоль лічыў, што сырыя яйкі вельмі карысныя для страўніка, таму піў іх досыць многа. А яшчэ ён любіў частаваць гасцей свежым малаком. Нярэдка проста на лаўцы перад хатай стаяў літровы слоік малака: раптам камусьці захочацца? Калі маці хварэла, Сыс з задавальненнем даіў карову сам.

**Ж — Жанчыны**, здаецца, заўсёды звярталі ўвагу на Анатоля Сыса. Многія ў маладосці былі ў яго закаханыя. Як не пакахаць паэта, які так пачуццёва і шчыра чытае свае вершы? Але жанчыны ў большасці выпадкаў проста сябравалі. Ірына Вабішчэвіч, сяброўка Сыса, якая з ім разам вучылася ва ўніверсітэце, ва ўспамінах піша: «Часта ўсплывае верш Уладзіміра Караткевіча "Зноўку блукаю па вуліцах сумных…", дзе ўпамінаецца "Клуб адрынутых", таленавітых людзей, што так і не знайшлі сваё каханне. На маю думку, добрая жанчына побач можа кардынальна змяніць жыццё любога мужчыны. А мая сяброўка спытала аднойчы: "А ты б змагла пакахаць Сыса?" Я падумала і адказала: "Не. Але такая жанчына ёсць, толькі яны пакуль не сустрэліся"». Але ці хацеў яе сустрэць сам Сыс? У яго паэзіі вобраз жанчыны часцей за ўсё суадносіцца з радзімай, маці, сімвалічным жаночым стваральным пачаткам, у лірычных творах часта гучыць матыў самоты. Ды і ў вершы «У нябёсах маіх дагараюць вагні…» ён вось як адказвае на гэтае пытанне: «Ці любіў я? Любіў! / Сяброў, маці, віно…»

**З — Землякі** для Анатоля мелі не менш важнае значэнне, чым сваякі, тым больш што многія з іх маюць такое ж прозвішча — Сыс. Зямляк паэта Сяржук Сыс прыгадвае знакамітую фразу Анатоля: «Я — Сыс. Тут можаш нікога не баяцца». Гэтыя словы забяспечвалі абарону і дапамогу. Дарэчы, простую назву апошняй прыжыццёвай кнігі паэта — «Сыс» — землякі не ўхвалялі. Яна падавалася ім недарэчнай. Анатоль жа апраўдваўся тым, што такую назву прапанавалі знаёмыя мастакі.

**І — Ікар —** персанаж са старажытнагрэчаскай міфалогіі, які дазволіў Анатолю Сысу, аб'яднаўшы матывы неба, крылаў, сонца, агню і ахвяры, стварыць вобраз дзеяча беларускай культуры, несправядліва асуджанага на смерць. Верш «Беларускія Ікары» ўвайшоў у кнігу паэта «Сыс» і стаў звяном у паэтычным ланцужку твораў, прысвечаных ахвярам Курапат.

**К — Курапаты**, месца на ўскрайку Мінска, дзе пахаваныя больш як 100 тысяч ахвяр, расстраляныя НКУС у 1937–1941 гадах. Гэтае месца

хацеў знайсці і пабачыць на свае вочы Анатоль Сыс. З просьбай дапамагчы паэт звяртаўся да Анатоля Вярцінскага, які ў той час працаваў у «ЛіМе». Ахвярам Курапат прысвечана некалькі вершаў Сыса. Гэта, у прыватнасці, творы «Беларускія Ікары», «Замова ад Курапат» і «Адпусціце мяне, Курапаты». Адметна, што лірычным героем другога з'яўляецца сама ахвяра. Паэт нібыта пераўвасабляецца ў несправядліва абвінавачанага, расстралянага мужчыну і просіць даць яму магчымасць вярнуцца дадому, да дзяцей і жонкі. Значна таксама тое, што ў вершы згадваецца вёска Журавы. Але паэт не ўдакладняе асобу ахвяры, а наадварот, абагульняе вобраз, бо вёскі з такой назвай ёсць у Крупскім, Сенненскім і Ашмянскім раёнах.

**Л — «Лён»** стаў нечаканасцю для многіх скептыкаў. Крытыкі, у тым ліку Аксана Бязлепкіна, прагназавалі: «У Анатоля ніколі не будзе збору твораў ці нават томіка ў цвёрдай вокладцы. Ён напісаў занадта мала, меней за Максіма Багдановіча ці нават Сяргея Палуяна». Але кніга «Лён» пабачыла свет у 2006-м, меней чым праз два гады пасля смерці паэта. Цвёрдая вокладка, фотаархіў, інтэрв'ю, артыкулы, больш як чатыры дзясяткі невядомых раней вершаў. Гэты томік амаль адразу стаў бестселерам і, па словах Леаніда Галубовіча, «дадаў класічнай саліднасці самому паэту».

**М — Маналогі** былі для Анатоля Сыса адным са спосабаў выяўлення акцёрскіх рысаў і здольнасцяў. Пасля заканчэння школы паэт паступаў на акцёрскае аддзяленне тэатральна-мастацкага інстытута, аднак не быў залічаны ў шэраг студэнтаў. У паэзіі Анатоля Сыса лірычны герой часта пераўвасабляецца ў вядомых асобаў беларускай гісторыі, літаратуры. Такім чынам паэт імкнецца нібыта прамаўляць іх галасам. Творы так і называюцца: «Маналог…» Найбольшая колькасць маналогаў — у кнізе вершаў «Пан Лес». Адметна, што паэт выбірае сумныя, нават трагічныя постаці беларусаў, якія да канца так і не здолелі рэалізавацца. Сыс выказваецца ад асобаў Сяргея Палуяна, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Драздовіча, Рамуальда Жакоўскага, Алеся Гаруна, Апанаса Філіповіча і некаторых іншых. Думаецца, традыцыю Сыса прамаўляць галасам памерлых творцаў сёння ў сваіх баладах працягвае Віктар Шніп.

**Н — Нябожчыкі**, вобразы магілы, пахавання, матыў скончанага жыцця нярэдка з'яўляюцца ў паэзіі Анатоля Сыса. Асабліва часта ён звяртаецца да тэмы смерці ў апошнія гады. Падаецца, што лірычны герой не баіцца памерці, ён са смерцю нібыта гуляе, а сам паэт лёгка пераўвасабляецца ў нябожчыкаў. Кажуць, са смерцю гуляць нельга. Аднак ва ўсіх гэтых творах чуюцца ноткі горычы, расчаравання, смутку праз нерэалізаванасць. Рамантычнае бунтарства, змаганне паступова змяняюцца стомленым радком: «Беларусь мая, мая магіла…»

**О — «О** сівая мая, о боская» — звяртаецца Анатоль Сыс да Радзімы ў вершы «Беларусі». Яшчэ ў пачатку творчай дзейнасці паэт выбраў для сябе крэда «Маці — Радзіма — Мова». Але менавіта Радзіма — паняцце

цэнтральнае, яно, як вір, убірае ў сябе астатнія вобразы, на гэтае верацяно намотваюцца ўсе памкненні і пачуцці. Малітва, змаганне, любоў, адданасць… Можа, таму так шчыра, пранікнёна і горка гучаць знакамітыя радкі:

Паэт сказаў: п'ем за Айчыну!
І кожны выпіў: за сябе.

**П — «Пан Лес»** — метафарычная назва другой кнігі вершаў Анатоля Сыса, якая выйшла ў 1989 годзе. Пан Лес — метафара радзімы, магчыма, яшчэ больш глыбокая і духоўная, чым «Агмень». Тут ён апавядае гісторыю свайго нараджэння, піша пра маці, бацьку, бабуліны бурштынавыя каралі, распрацоўвае і сваё паэтычнае крэда. Выхад гэтай кнігі стаў для паэта пэўнага кшталту жыццёвай мяжой. Менавіта пасля яе выдання ён праз хваробу страўніка звольніўся з працы на кінастудыі і пачаў жыць толькі на пенсію.

**Р — Радаўніца**, дзень памінання памерлых продкаў, якая ў год смерці паэта выпала на дату 10 мая, сімвалічна стала днём пахавання Анатоля Сыса. Яго сястра Валянціна тады сказала: «Хаваць будзем на Радаўніцу, бо на Радаўніцу брама ў рай адчыненая, і наш Цішка адразу пойдзе ў рай. Цішка… У нашым Гарошкаве Сысаў многа, таму нас клікалі Цішкамі. Бацька наш — Цішка, і мы ўсе ягоныя Цішкі, а не Ціханавічы».

**С — Сыс —** досыць распаўсюджанае прозвішча ў той мясцовасці, дзе нарадзіўся паэт. Анатоль заўсёды цікавіўся сваімі «сваякамі», вывучаў розныя версіі паходжання слова «сыс». Ён прытрымліваўся меркавання, што яно ўтварылася ад мянушкі «сыса» — так у ранейшыя часы называлі дзяцей, якія доўга смакталі цыцку ці пальцы. Аднак кажуць, што, каб пусціць пылу ў вочы, паэт мог заявіць, што ў прозвішча скандынаўскія карані, а на Беларусь яно трапіла ў час наладжвання шляху «з варагаў у грэкі». Дарэчы, пісьменнік з прозвішчам Сыс ёсць і ў Чэхіі. Карал Сыс — досыць знаны аўтар, з чыёй творчасцю быў знаёмы і Анатоль. Сяржук Сыс успамінае, што неяк Анатоль даў яму сваю кнігу «Сыс» са словамі: «Гэта, Сяржук, трэба перадаць у Чэхію, Каралу. Няхай ведае, што на Беларусі таксама вумныя Сысы ёсць». У кнізе было напісана: «Сыс, кроў мая, ты ў параўнанні са мною — карлік! Я перакладаў твае вершы на беларускую мову! Чарнобыльскі мутант, Сыс».

**У — Успаміны** пра Анатоля Сыса напісалі, здаецца, усе ці амаль усе, хто хоць аднойчы з ім сутыкаўся. Як кажуць, «адмемуарыліся». Але Паліна Сцепаненка неяк адзначыла, што большасць успамінаў — гэта найперш рэфлексіі, аповеды пра «сябе на фоне Сыса ці Сыса на іх фоне». А пра чалавека ніхто не піша. Можа, таму, што насамрэч Анатоля добра ніхто не ведаў. Надта таленавіта ён хаваўся за рознымі маскамі — паэтапасіянарыя, тонкага лірыка, п'янага правінцыяла. Можа, чытаючы гэтыя ўспаміны, усё ж варта глядзець глыбей, а не абмяжоўвацца тонамі бруднай бялізны, што ляжыць на паверхні?

**Ф — Фальклорна** скіраванай паэзію Анатоля Сыса не назавеш. Аднак нельга сцвярджаць і таго, што ён цалкам адмаўляўся ад народнай творчасці. Даследчыкі адзначаюць, што ў сваёй паэзіі Сыс не проста пераймаў мастацкія асаблівасці фальклору, але трансфармаваў іх і нават ствараў. Ён часцей за ўсё выкарыстоўвае алюзіі на ўсім вядомыя народныя творы, тым самым нібыта ведучы гутарку з чытачом-беларусам. Варта прыгадаць хаця б верш «Чорная гадзюка, белая змяя», дзе застаецца толькі народная рытміка, твор «У чароце птушка начавала», што на песеннасці акцэнтуецца рэфрэнам «ой-лю», а «Замова ад Курапатаў» толькі назвай суадносіць верш з народным жанрам і тым самым абазначае асноўную ідэю твора.

**Х — Хата**, дзе нарадзіўся і вырас Анатоль Сыс, заўсёды гасцінна прымала сяброў, гасцей. Прымае і цяпер, пасля смерці паэта. Штогод у дзень нараджэння Анатоля ў Гарошкаве, на падворку яго роднай хаты ўжо традыцыйна праходзяць паэтычныя чытанні, бардаўскія канцэрты — адмысловыя святы паэзіі ў гонар Сыса. Каб ушанаваць яго памяць, збіраюцца землякі, старыя і новыя сябры з розных куткоў краіны.

**Ц — Цырульнікам** па адукацыі Анатоль Сыс не быў, аднак любіў падстрыгчы сяброў. Натуральна, з жартамі. Ларыса Раманава ўспамінае: «Прыехала я аднойчы да Сыса ў госці. Ён кажа: “Хочаш, я буду тваім візажыстам?” Я адказала, што хачу. Тады Анатоль узяў нажніцы і ўрачыста прамовіў: “Ты будзеш як Джулія з «Альпійскай балады»!” Нажніцы былі не вельмі вострыя, але хвілін праз 10 на маёй галаве зусім нічога не засталося. Раптам зайшлі да Сыса аднавяскоўцы. “Ты так добра ўмееш стрыгчы! Толькі няроўна”, — пажартавалі яны».

**Ч — Чарка** стала ці не найлепшай сяброўкай Анатоля Сыса. Яна ж яго, па сутнасці, і загубіла. Дарэчы, у студэнцкія гады Анатоль не надта любіў выпіць і зазвычай ігнараваў застоллі ў Гарошкаве. Паэт прызвычаіўся да гарэлкі ўжо калі жыў у Мінску і цягнуўся не столькі да самой чаркі, колькі да непрадказальнай застольнай размовы. Спачатку яму падабалася атмасфера нязмушанасці, што ўзнікала ў час сумеснай выпіўкі творцаў. А потым… Паэт Зміцер Вішнёў успамінае: «Сутыкаюся з Валянцінам Акудовічам, які хутка бяжыць, яўна з рэдакцыі часопіса “Крыніца”. Філосаф збянтэжана паведамляе: “П’яны Сыс прыйшоў у рэдакцыю — усе разбягаюцца!.. Не ведаю, як там Галубовіч!..”» Кажуць, Сяржук Сокалаў-Воюш папярэджваў сяброў, што не падасць рукі таму, хто будзе піць з Сысам. Ды потым Анатолю ўжо і не надта патрэбная была кампанія…

**Ш — «Шлях да музы»** — самаробны мемуарны «блокбастар» Лідзіі Возісавай, што распаўсюджваецца ў Гомелі. Натуральна, кніга прысвечаная Анатолю Сысу. Сам паэт скардзіўся, што яго зборнікаў няма ў мясцовых бібліятэках, аднак, думаецца, цяпер гэтая хіба выпраўленая. Больш за тое, у Рэчыцы і нават шырэй — на Гомельшчыне — пра паэта памятаюць. Выказвалася некалькі мясцовых ініцыятыў па выданні

кніг Сыса, а прафесар ГДУ імя Ф. Скарыны, раней сябар Анатоля Іван Штэйнер выдаў эсэ-манаграфію «Свае руны мне не вышыць: спадчына Анатоля Сыса». Дарэчы, на сайце Рэчыцкай раённай ЦБС змешчаная неблагая бібліяграфія, што дапаможа пры знаёмстве з творчасцю паэта.

**Э — Эпатажнасць** як рыса характару заўсёды прысутнічала ў Анатолю. Ён умеў не проста здзіўляць, але нават шакаваць. Блізкі сябар паэта, пісьменнік Адам Глобус, ва ўспамінах піша: «Аднаго разу Сыс у рэдакцыі літаратурнага тыднёвіка чэлес паказаў, дастаў з портак і “вось вам пятак, засранцы!” Эпатажны жэст». Сыс мог у запале парваць кашулю на грудзях, голасна крычаць на ўсю станцыю метро, каб трапіць у пад’езд — выламаць дамафон, а неяк нават узняўся на сцэну «Басовішча» і прачытаў верш. Словам, па ўзроўні эпатажнасці з ім складана было б камусьці сапернічаць.

**Ю — Юнацкія** вершы Анатоля Сыса не захаваліся. Прынамсі, такую легенду распаўсюджваў сам паэт. Жывучы ў Мінску, ён часта казаў, што спаліў свой архіў, ніводнага з рукапісаў ранніх твораў не засталося. Аднак у 2011 годзе сястра паэта Тамара расказала Алесю Бяляцкаму і Сержуку Сысу, што неразабраны архіў Анатоля ў Гарошкаве ўсё ж існуе. Перабіраючы рукапісы і друкапісы, сябры паэта сапраўды знайшлі шмат цікавостак. Сярод вершаў, пародый і перакладаў, якія гучалі з вуснаў паэта яшчэ ў студэнцкія гады, знайшоўся і машынапіс зборніка «Берагі майго юнацтва» (ці іншая верагодная назва — «Манускрыпт майго юнацтва»), складзенага з вершаў, напісаных у канцы 1970-х — пачатку 1980-х. Адметна, што Анатоль адсылаў гэтую кніжачку на рэцэнзію ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, аднак атрымаў адмоўны водгук (адказ рэцэнзента таксама захаваўся). Магчыма, менавіта з гэтай прычыны толькі два вершы са зборніка былі пазней апублікаваны. Некаторыя з невядомых раней тэкстаў былі надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў». Спадзяюся, што ў поўным аб’ёме яны выйдуць асобнай кнігай.

**Я — «Ягамосць»** — так хацеў назваць сваю кнігу вершаў Анатоль Сыс. Аднак не здолеў. Сябры паэта часткова выканалі яго задуму і пад гэтай назвай падрыхтавалі кнігу прысвячэнняў Анатолю Сысу. Яна выйшла ў серыі «Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”» да 50-годдзя паэта. Пад яе вокладкай сабраныя творы аўтараў, асабіста знаёмых з Анатолем, а таксама творцаў, якія ведаюць яго толькі па вершах. Ветлівым словам «Ягамосць» беларусы даўней звярталіся да незнаёмых людзей. Дык, можа, Анатоль Сыс усё яшчэ застаецца для нас незнаёмцам?

*Марына Весялуха, budzma.by*



# ПАЭЗІЯ

Наста Кудасава

## МІЖ АБЛУДАЎ ПУСТЭЧЫ ПРАГОРКЛАЙ

* * *

цыравала надрывы, хавала рубцы,
забівала дарэмныя вокны,
але восень прысела ў мяне на гаўбцы
і завыла воўкам.
завывай жа,
зрывай гэты зманлівы рай:
хай у схібах гартуецца схіма,
хай нясецца душа з горкіх шахт
на-гара —
міма часу
і болю
міма.

* * *

ты не кліч, не заві,
толькі верасень — мой візаві.
колкі сівер і вусціш сівілы ў маёй крыві.
але кожным радком я малю цябе, любы,
жыві!
аддавайся дарогам, заблуквай у хмельных травах…
салаўіныя сэрцы кунеж,
заварожвай і княж!
так, бязлітасны час,
але жыць немагчыма інакш,
бо любоў ахінае сабой
свет няўрымслівы наш,

асвятляючы ўсё —
нават самую простую яву.

■ ■ ■

там, дзе лета ахоўвае шчасця няўлоўнага трымт,
дзе зялёнага лесу наўсцяж раскашуецца хорам,
там па сцежках чароўных чароўныя ходзяць звяры,
там дагэтуль жывыя —
давер, спагада і сорам.
лапкай мыш блаславуляе мурог, а вавёрка дупло
высцілае любоўю — сасны гаспадарлівы пробашч…
там на сцежках зямных мы зямное люляем цяпло,
бо не трэба ні раю, ні выраю
там, дзе ты побач.

■ ■ ■

таму што
прашыты кожны
любові нябачнай прошвай,
таму што
ўсе твае пожні — прасцяг да ўзлётнае паласы,
таму — усё яшчэ будзе:
і вецер, і ветразь,
ты вер,
мой харошы…
будзе і саду раскоша пад яблыкаў пошапт,
і дом,
і сын.

не важна,
quodlicetbovi, —
мы ўсе на прышчэпках ад болю
сталелі,
збіваючы столі,
прымаючы сцен ратавальную мазь.
але і ў сувоях войнаў
нябачнае шво
любові
брала нас усіх за жывое,
каб —
трымаць.

■ ■ ■

так свяціцца Імя,
так ідзе Валадарства Тваё,
быццам хтосьці ў грудзях мне прарэзаў
аконны праём
і ўтрапёна ўзіраецца ў свет
зноў жывымі вачыма —
сумны вязень, даўно забыты,
дзівак нічыйны.
кажа:
«Госпадзе, ну і адчайная ж
воля Твая!
але што ні дасі, вось ён я —
Твой маленькі ваяр!
Твой даверлівы блазан,
пылок на Тваім плашчы…
праўда ж, хораша разам, скажы?
ну, чаму Ты маўчыш?
хай да моташы ўвішнае тло мне давалася ў знакі,
але ўсё, што я вынес адсюль, —
гэта енк падзякі.
вось я —
выціснуў боль,
выбіў змрок,
перажыў зіму.
…ладна,
Бог з ім, са словам,
я веру
й дыханню
Тваймy».

■ ■ ■

трыццаць два, а дагэтуль — голая,
без’языкі пакорлівы голем.
не ўрастае ў мяне,
не прымаецца
ні стырна —
толькі крык і памяць.
ты пашый мне кашулю крылатую
з веры кропнай,
спагады мятнай

і пусці мяне ў рай абязболены —
рай дзяцей, сабак і анёлаў.

■ ■ ■

Схамяніся, самотная схімніца,
бачыш,
ветах да вуліцаў хіліцца,
тонкай ножкай
жывое намацвае
між дамамі, палацамі, пляцамі.
Схамяніся,
пачуй, як упрошвае:
«Не згарай! Дарагая, харошая…
Між аблудаў пустэчы прагорклай
не згарай,
будзь маёй зоркай…»



## Наста Кудасава

Нарадзілася ў Рагачове. Скончыла СШ № 5, БДУ — філалагічны факультэт і магістратуру. Выдала кнігі паэзіі «Лісце маіх рук» (2006), «Рыбы» (2013), «Маё невымаўля» (2016). Аўтар шэрагу публікацый у розных перыядычных выданнях. Лаўрэатка прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра «Кніга года — 2016». Творы перакладаліся на рускую, украінскую і балгарскую мовы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Алена Нікіціна

# ЯЕ ТАЕМНЫ ШЭЛЕСТ МНЕ СПАЗНАЦЬ...

## ■ ■ ■

Благаславі мяне, мой родны дом,
Я заўтра адпраўляюся ў дарогу.
Буслiным ахрысцi мяне крылом,
Каб я не склала крылаў ад знямогі.

Благаславі мяне, зялёны клён,
Здымі з мяне усе мае трывогі.
Увесь мой род ты ведаеш здавён
Не горш, чым на куце у хаце богі.

Благаславі мяне, мая радня,
Каб я не абівала ўсе парогі,
Каб песню не змаглі ў мяне адняць,
Як і траву, што мне цалуе ногі.

Па мне ты не журыся вельмі, гай,
І ў лозах азярцо, і крыж убогі…
Вярнуся да цябе, мой родны край,
У ногі пакладу свае дарогі.

## Млечны Шлях

Дзе зоркі як чародка матылькоў,
Бяжыць мая адзiная сцяжынка.
Не ведае ніколі адпачынку
І не губляецца сярод вякоў.

Яе таемны шэлест мне спазнаць
Так хочацца, што забываю горад.
Іду і басанож збіваю зоры,
І уладару толькі я адна.

Абдымкі раскрывае мне Сусвет,
Я чую хор адладжаны вятроў,
Які заве мяне удалеч зноў…
Зайздросна месяц пазірае ўслед.

Як малако, пралітае з глякоў,
Бяжыць мая адзiная сцяжынка.

І я на ёй — касмічная пылінка,
Свячуся радасцю з усіх бакоў.

■ ■ ■

Вось так і я,
Як парастак зялёны,
Што на зямлі адзінае
Прарос.
Цягнулася да сонца,
Улюбёная,
Імкнулася да сонечных
Нябёс.
Любіла я аблокі тыя сінія,
Любіла сваю родную зямлю.
Квітнела кветкаю
Чароўнай, дзіўнаю.
Чаму ж цяпер зажурана стаю?
Ці больш не вабіць сонца у нябёсах?
Ці не дае зямля мне сокаў піць?
Не, у нябёсах воблакі
Як восы.
Зямля мая — Чарнобыль,
Ёй баліць!

## Малітва

Парэпана падлога,
Як рукі у старога.
Псуецца тэлевізар…
Нятленна толькі рыза
Свяціцеля Міколы
Са старой іконы.
— Мікола-Цудатворца!
Ужо распята
Сонца!
Зямля —
Крыжамі ў неба,
Каму ўсё гэта трэба?
Свяціцель наш
Мікола,
Здымі з цвікоў
Хоць Гомель!

## Крыж

Трымціць газніца
Буйной слязой,
Як маладзіца
Над труной.
А ў ёй — бабуля,
Уся ў вянках.
Свяча няўтульна
Стыне ў руках.
Малітва шэптам
Па закутках.
На вуснах — вета
Маўчання… Жах
Зноў запануе,
Як ні смуткуй,
Як пацалую
Яе ў шчаку.
Апошні, мусіць,
Раз… Няйначай.
І я хрышчуся,
І плачу,
Плачу.
Яна шчасліваю
Не была,
Але цярпліва
Свой крыж няслА.
І ён у зацемку
Ляжыць цішком,
Адпеты бацюшкам
І ўсім сялом.

■ ■ ■

На вачах маіх распялі Бога,
Узамен — анічога святога.
Толькі вершы, нібы шчанюкі,
Прытуліліся да рукі.

І вось зноў з-пад яе напрасткі
Выбягаюць мае радкі.
І шумяць, як зялёнае веццe,
Усім рады, як тыя дзеці.

Усё проста для іх.
Усё проста…

А жыццё, нібы тая кароста,
Раз'ядае пачуцці і розум,
І над вершамі тая ж пагроза…

Толькі два уцалелі радкі,
Як жабрачыя дзве рукі.
На вачах маіх…

* * *

Імчыць бяздумна электрычка…
Чутны гамонка, смех.
Малітвы шэпча маладзічка
За нечы грэх.
Як торба, сумка на вяроўцы
Цераз плячо…
І рада кожнай астаноўцы,
Нібы дзяўчо.
У цэлафанавым пакеце
Што у руках:
Рубель, насоўка, семак смецце…
І нейкі жах
Прабраўся з гэтага пакета
Ка мне ў душу.
І я яго ні сном, ні вершам
Не заглушу.



## Алена Нікіціна

(Псеўданім — Алена Алешына.) Нарадзілася ў Гомелі. Скончыла Гомельскае педвучылішча, каледж імя Выгоцкага. Мае чырвоны дыплом Літаратурнага інстытута імя Горкага (Масква). Друкавалася ў газетах і часопісах. Выдала паэтычныя зборнікі «Воленка» (2001), «А вось і я» (вершы для дзяцей).

**Анастасія Дарошчанка**

# ПАЧУЮ ЦЯБЕ НАД СОЖАМ

■ ■ ■

Люблю цябе, мая Радзіма:
Ты край мой родны, дарагі,
Прытулак ты для пілігрыма,
Не трэба мне куток другі.
Калі ж ад хаты адлучуся,
На нейкі час, — то ты
Напомніш мне, што ў Беларусі
Ёсць хлебны колас залаты.
Матулі песню чую ў небе,
Што славіць нашую зямлю, —
Тады укіну я, як сейбіт,
Зярнятка ў свежую раллю.
Вянок валошак прад вачыма —
Запомню я на ўсё жыццё…
Не, я не буду пілігрымам, —
Твая дачка на ўсё жыццё…

■ ■ ■

Зямля адна навекі ў нас,
Як маці — назаўсёды,
Але ў які б ні жыў ты час,
Любіць яе — лагода.

Заўсёды памятайма мы:
Яна нас не пакіне,
Як не пакінуць журавы
Бацькоўскія мясціны.

■ ■ ■

Мова мая прыгожая,
Мова мая цудоўная,
Нібы заранка — гожая,
Нібы песня — чароўная.

Шчырая і пяшчотная,
Разам з другімі — роўная,

Песня мая самотная,
Светлае мары поўная.

Жаданне маё няпростае,
Але вось з такой высноваю:
Ты станеш надзейным мостам
Паміж усімі мовамі.

■ ■ ■

Песня мая прыгожая,
Песня блакіту вачэй, —
Пачую цябе над Сожам —
І робіцца мне лягчэй.

Ты, як малітва Божая,
У душу маю ляці.
Шчасная і прыгожая, —
Лепшую не знайсці.

## Цікаўная дачка

Даймала размовай дачка сваю маці,
Пра ўсё ёй карцела ў яе дапытацца.
Разумнай была то дзіцятачка-цаца,
Не ведала маці, куды ёй схавацца.

Пытала дзіця пра лясы і пра горы,
Пра месяц, што ноччу нам свеціць,
Пра рыб, што жывуць у моры, —
Пра ўсё незвычайнае ў свеце.

Пра снег за акенцам, пра цёплае лета,
Чаму зоры падаюць на дасвецці…
Зямля чаму сонейкам цёплым сагрэта,
Спіць чаму ў застрэшшы вецер.

…Якія цікаўныя сёння ёсць дзеці!

## Надыход вясны

Пачуўшы зранку птушак спевы,
Дзе сад збіраўся зацвісці,
Цябе пабачыць захацела,
Як анікога у жыцці.

Пад гэты спеў было мне добра,
Сядзець, і марыць, і чакаць.
Чакала з любым стрэчы доўга,
Ды крокаў нешта не чуваць.

А птушкі хораша спявалі
Пра беларускі светлы край.
І думкі светлыя ўзнікалі,
Нягледзячы на мой адчай.



**Анастасія Дарошчанка**

Нарадзілася ў Ветцы Гомельскай вобласці, дзе і скончыла СШ № 1. У 2015 годзе скончыла Гомельскі абласны ліцэй. Зараз з’яўляецца студэнткай Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

Яніна Цімашэня

# НА КРЫЛАХ ПРЫЛЯЦІЦЬ ПРЫГОЖЫ СОН

## Маёй бабулі

Мяне час кліча зноў і зноў,
каб у дзяцінства завітала.
Старэнькі, любы сэрцу дом, —
Бабуля там мяне чакала.
Калі ступала я на двор,
Яна насустрач мне спяшала,
Нас абдымаў дваіх прастор,
І вішня кветная вітала.
Мне тую хату не забыць,
Арэлі ў сны мае прыходзяць,
Салодкі дым ідзе з трубы,
І птушкі ў веснім карагодзе.

Дзядуля зэдлік мне зрабіў,
На ім сядзець заўжды любіла,
Як родны край мой дзед любіў!
Бо ён даваў дзядулю сілы.
Сядзела я, прыкрыўшы вейкі,
А ціша звонкая наўкол,
Спявалі калыханку вербы,
Туман збялеў, бы малако.
Я ўспамінаю, ўспамінаю…
Як і раней, цвіце там сад.
Але няма маіх арэляў —
Чужыя людзі ля прысад.
Няма вярбы, няма і вішні —
Усё чужое, ўсё не так,
Не перашкодзіў злому Вышні.
Забыць мне час той аніяк…

Бабуляй я у снах спавіта,
І мкнуся ў думках у той час.
Я чую словы, бы малітву:
«Не забывай, унучка, нас!..»

## Мой край

Вечар сеяў зоркі ў вышыні,
Ліхтары на небе запаліў.
Шамаціць лістота ў цішыні,
І парыжэлыя маўчаць палі.
Усе сцяжынкі помню да драбніц,
І бусла клёкат, купалы царквы…
Як я баялася жыхання бліскавіц,
Як клікалі мяне, малую, паплавы.
Я помню ўсё — не знікне з воч.
Крыжы глядзяць у сінь нябёс,
Гайдаецца ў чаўне маўкліва ноч, —
А то мяне люляў ў калысцы лёс.

## Азёрны абсяг

У небе самалёт малюе Млечны Шлях.
Аблокі праплываюць нада мною.
Сінь васількоў і золата ў палях
Маёй краіны з чыстаю вадою.
Нябёсаў вышыня — спрадвечны рай.
Іх крыжам Ефрасіння ахінае.
Я сэрцам і душой люблю свой край,
Бо тут сам Бог заўжды адпачывае.
Сівая далячынь зарэчных паплавоў,
Лясы, гаі, чароўны покліч плёсаў, —
Ля старажытных сожскіх берагоў
Мая зямля, Радзіма белых росаў.

## Бацькоўскі дом

Да хаты падыду, зірну ў акно,
Пачую слова роднага я гукі, —
То мова, як вясёлкі палатно,
Пяшчотная, нібы ў матулі рукі…

На крылах прыляціць прыгожы сон,
Мелодыяй абдыме гуслі-словы —
І зазвініць, нібы царкоўны звон,
І намалюе свет мне каляровы.

А я ўкладу ў мелодыю душу,
І шум дуброў, і ніці павуціны,
І родны горад, і яго шашу.
І пах грыбоў, і водарнасць ажыны.

Сальецца яна з восеньскім дажджом,
Бы з летам цёплым ранішнія росы, —
І ажыве, як некалі, бацькоўскі дом,
Пральюцца ад сустрэчы шчасця слёзы.

## Палессе

Цягнік нясе мяне ізноў,
У край, дзе кветак пах лунае,
Дзе водар спеліцца грыбоў,
Дзе гай над рэчкаю спявае.
А на слупах буслянак шмат,
Усюды клёкат звонкі чутны, —
Дзе кожнай кветцы чмелік рад,
І рады небу дуб магутны.
…Ізноў нясе мяне цягнік
У край язмінавы прыгожы…
У полі танчаць з ветрам дні —
Нібы анёлы ў раі Божым!



**Яніна Цімашэня**

Нарадзілася ў Гомелі ў 2002 годзе. Вучыцца ў 11-м класе СШ № 57. Любоў да роднага слова пераняла ад сваёй бабулі, а ўдасканальвалася на уроках беларускай мовы, якую выкладала настаўніца Наталля Мікалаеўна Чэркас. Удзельнічала ў алімпіядах па беларускай мове. Мае дыпломы пераможцы.

**Міхась Арцем’еў**

## БУДЗЕ ЖЫЦЬ І СТАГОДДЗІ ПАГОНЯ

### Холад

Холад зноў вярнуўся,
З дрэў ляцяць лісты.
Дзень засерабрыўся,
Недзе чакаеш ты.
Трэба апранацца:
Злючка йдзе зіма.
Мушу я прызнацца —
Футрачка няма.
З мілым як сустрэцца
У такі мароз?
А ў грудзях сэрца б’ецца —
Мо б на руках пранёс?
Сціснуў бы ў абдымках,
Вусны мне апёк, —
Стрэне за адрынкай,
Абы ён не ўцёк.
Футра мне не трэба,
Не пужай, зіма,
Абы ў зорках неба,
Зорка — я сама.

### Роздум

Вершы трэба заўсёды пісаць,
Калі любіш сваю, браце, мову…
Словы знойдзеш, як будзеш кахаць?
Свой як выкажаш стан пачуццёвы?
Ды радаслоўную не забываць,
Змагацца за край быць гатовым…
На пытанні дзяцей што адказаць,
Як з імі разумна весці размову?
Дзе памяці нашай праходзіць мяжа,
Чаму плачуць у скрусе жанчыны…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Думай, браце, і разважай
Над лёсам сваёй Айчыны…

■ ■ ■

Заўсёды патрэбныя словы
Люд берагл на зямлі.
У кожнай знаходзяцца мове,
Ніколі не знікнуць яны.

І свет, што не заўважалі,
Убачыць дапамаглі.
Мы словамі свет адкрывалі,
Роднай Айчыне дзецьмі былі.

■ ■ ■

Спяшаюцца людзі кудысьці
Па сцежках вялікай зямлі.
А я ўспамінаю — калісьці
Малечай мы дробнай былі.

Што гэтак будзе, не ведаў
Пра лёс я ў сваім жыцці.
Я тыя сцяжыны адведаў,
Карцела па іх мне прайсці…

Успомніў, як тата ласкава,
На маці з пяшчотай глядзеў.
…Размовы і мне было мала,
Я з імі застацца хацеў.

■ ■ ■

Што будзе заўтра, не ведаю сёння,
Што некалі будзе на нашай зямлі?
Будзе жыць і стагоддзі Пагоня,
І зерне не ссохне ў цёплай раллі…

■ ■ ■

Як прыйсці нам усім да Бога?
Па якой нам дарозе ісці?
Як прыйсці нам усім да Слова?
Заблудзіліся ў гэтым жыцці…

І не ведаю, з кім падзяліцца
Пра сумненні свае. Дзе мой Бог?

І вучуся ўсё, вучуся маліцца
І спрачаюся сам з сабой.

## Шчасце

Заўсёды імкнёмся кудысьці,
Бяжым і ляцім па жыцці.
І кожнаму, мабыць, калісьці
Захочацца шчасце знайсці.

Яно не ўзнікае так проста,
Часцей не даецца зусім.
Маленькага можа быць росту.
А хочацца мець яго ўсім.

■ ■ ■

Чаго хачу я сёння?
Сказаць мне немагчыма.
Гляджу, як у прадонне,
Сарвуся без прычыны!

Ані табе кахання,
Ні праўды на зямлі…
Разуцца б на світанні
Ды босым па раллі!



**Міхась Арцем'еў**

Нарадзіўся ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна, дзе і скончыў сярэднюю школу. Служыў у войску, працаваў грузчыкам, мулярам. Сёння працуе слесарам на «Гомсельмашы». Друкаваўся ў раённых і абласных газетах. Аўтар зборніка вершаў «Ралля».

**Геннадий Лопатин**

## «ЗА НАС ВЕСЬ МИР И ХРАМ И САД...»

*Избранное для Людмилы*

▪ ▪ ▪

птица сотканная из паутины
распласталась на солнце
и замерла
в ожидании своего стихотворения

▪ ▪ ▪

цветы на подоконнике затем
чтоб дотянулись до окна
деревья

▪ ▪ ▪

во исполнение Весны
вот эти наши ветки вербы
как знак Весне
наш
самый первый

и если в них Весна поверит
ответит
ветками сирени

▪ ▪ ▪

мы даже не две половины одного целого
всё происходит по-другому
потому что всё повторяется в природе
наши души вошли друг в друга
как сирень вонзается в небо
как ветер в кроны деревьев входит
и этот ряд бесконечен
кто из нас весомей кто легче
можно ли вычислить до сантиметра
крылья сирени
крылья ветра

по отношению
к небу
к деревьям
мы не две половинки
но мы одно целое

■ ■ ■

затем чтоб было так же как в саду
свою работу сделал стеклодув
и фонари
они определённо
напоминают формою бутоны
и золотом наполнил их фонарщик
и потому и город в декабре
весь в золотых тюльпанах фонарей
фонарщик
стеклодув
никто из них
не думал так
но образ сам возник
и я увидел эти фонари
и подарил
тебе

■ ■ ■

в Писании нет
описания десятиструнной псалтыри
но говорится
что на ней можно славить Господа Бога
и так
начинается моя новая повесть
про её поиск

■ ■ ■

нам не дано знать
где проходят границы нашей любви
которой нас любят
и поэтому однажды мы их переступаем

■ ■ ■

1

поющих в Храме называют певчими
я подумал
что певчими
ещё называют птиц

2

хочется
чтоб длилась и длилась служба
чтоб песнопения слушать и слушать

песнопения в Храме
что это
форма существования Храма
или его сущность

даже если не разбираешь всех слов
это не страшно
важно
что хочется
чтоб длилась и длилась служба
чтоб песнопения слушать и слушать

3

Каждое из этих стихотворений возникло независимо одно от другого. Но неожиданно в памяти возник рассказ певчей деревенского Храма Екатерины Евдокимовны Чуешковой:

*Бог ё на свеці! О, Госпадзі! Я гавару праўду. На крыласу сядзім. Сядзяць во так пеўчыя, і мы з Нінай сядзім і пяём псалмы. Адна пеўчая гавора: «Ні так!» А мы спелі «Мацер Божая, дай мне услышаць, як ангелы Божжыя на небі паюць…» Ну, і сядзім з ёй. А ў углу на клырасы такоя пеніе! Такоя пеніе! Ні слоў! Нічога німа! Но такоя пеніе красівае! Яна і гавора: «Каця, чуіш?» Я гавару: «Чую». І гавару:*

*«Ніна, ета бацюшка паставіў у аўтары музыку. Вот яна ў аўтары іграя ета музыка». Бацюшка іспаведуя, а мы сядзім пяём. І, як мы сказалі, што бацюшка паставіў музыку — усё! Дак ён гавора: Трэба вам быць маўчаць». І вот прыходжу я ў цэркву. А ета на Івана Красціцеля. А яны пяюць. А мне ўгарэ — такоя пеніе! Такоя пеніе! Такоя пеніе! Я раз паслухала, як ангелы Божыя на небі пяюць.*

и я вспомнил
утверждение Рене Генона о том
что ангелы
являют собой высшее состояние птиц

■ ■ ■

1

первая бабочка этого лета
белого цвета

одежды белые надев для первой встречи
чтобы её заметить было легче
нас бабочка дождаться не смогла
чтоб встретить нас хотя бы возле дома
и встретила нас сразу у вагона
и навела
на мысль что это мама
так рада что дождаться не смогла
чтоб встретить нас хотя бы возле дома
и встретила нас сразу у вагона

2

затем что бабочка встречает
она твой выбор одобряет
и даже столько лет спустя
ты ей по-прежнему дитя
она тому безмерно рада
что ты нашла меня когда-то

■ ■ ■

каждый раз
когда смотришь на город ночной
видишь воочию

как кто-то не согласен с ночью
своим горящим окном

■ ■ ■

и если птицы оставляют землю
то значит что-то птицы не приемлют
сперва исчезли
алконост и сирин
и что-то вновь неладно в этом мире
и что-то вновь неладно на земле
пришла пора
синиц и снегирей

■ ■ ■

когда заболело одно из деревьев
утренняя роса на другом
стала напоминать слёзы

и тогда я подумал
что деревья
действительно
живут парами

■ ■ ■

подумалось
что знают птицы
где на земле любви границы

молчаньем прерывая пенье
нам птицы шлют предупрежденье
остановиться
оглянуться
туда где любят повернуться

■ ■ ■

всё то чем лето удивляло
всё то чем осень удивила
в саду том самом первом
было

все новые оттенки сада
за веру в райский сад
награда

и каждый наш восторг от чуда
восторг за весточку
оттуда

■ ■ ■

1

за бабочкой не угадать
какой цветок ей выбирать
она готова охватить
весь этот сад
как мир огромный
но на одном ей нужно скромно
себя цветке остановить

2

и скромность бабочке дана
чтобы не ведала она
что мы идём её кочевьем
между цветов
между деревьев
затем что в ней признав кумира
мы с нею ищем центр мира

3

и бабочка
прервав порханье
прервав паренье и полет
как будто бы ответ даёт
о том
где центр мирозданья

4

зачем идём за нею следом
поймём тогда
когда поймём
где центр мира для неё

нам центр
сада и букета

■ ■ ■

затем сей столб
что от него отходят
в две стороны дощатые пролёты
и птица сотканная из паутины
на них расположилась
симметрично по обе стороны
раскинув крылья
эта симметричность
художницу к восторгу призывает
и от себя на время отпускает
чтобы назад со мной ей возвратиться

■ ■ ■

1

а облака уходят
но нам оставляют небо
синее будто поле
синее поле
льняное

в небо глазами выйдешь
встречу с любимой вышьешь

2

*а облака уходят*
*но нам оставляют небо*
подумал я

*а тополя уходят*
*но нам оставляют ветер*
подумал Гарсиа Лорка

3

с Гарсиа Лоркой
станем однажды похожи
наверное это
музыка Божья

■ ■ ■

ъ
возникло ангелов круженье
они единой стали вязью
мы в этой вязи вязли вязли
упрёки все и все обиды
нам стали ангелы защитой
защитой стали близким нашим
и стало снова жить не страшно

а дальше просто представленье
и яблоневых лепестков
и птиц и бабочек круженье
и вязнут в их переплетеньях
упрёки все и обвиненья
мы в центре мира в центре сада
посередине листопада
за нас весь мир и храм и сад
они нас любят и хранят

## «СВЕЧА СВЕЧЕ ОГОНЬ ПЕРЕДАЁТ...»

*Из книги для Веры*

■ ■ ■

девочка нарисовала солнце
в жанре своего автопортрета
и лист бумаги
превратился в небо

■ ■ ■

и девочке моей дано
луны касаться любованьем
и делится она со мной
луны волшебным состояньем

я говорю
что именно дано
затем и девочка не понимает
зачем луна как нас не привлекает
других
и этой мыслью делится со мной

■ ■ ■

девятилетняя девочка
выбирает картину Макса Эрнеста
*одинокое дерево*
*и соединённые деревья*
и говорит о ней
непонятно но красиво

и я вспомнил
что когда-то точно так
сказали и о моих стихах

■ ■ ■

музыка
она определяет
насколько девочка меня опережает
доказывая музыкой своею
насколько Времени она роднее

■ ■ ■

есть у пчелы такое постоянство
что каждый сад
пчеле как будто царство

и на любой цветок она садится
любой цветок пчеле как будто трон
и потому она всегда царица

■ ■ ■

рисунки мелом недолговечны
а девочка рисует неповторимое
и не понимает моего восхищения
ими

■ ■ ■

девочка уже не хочет
чтобы я называл её солнцем или принцессой
ей это уже совсем не интересно
она думает
быть солнцем или принцессой
это как будто ходить в гриме
она хочет
просто носить своё имя
она ещё далека от мысли
что и солнце и принцесса
это то место
которое она занимает в моей жизни

■ ■ ■

девочка флейта
солнечный лучик
в ней пробуждает
самое лучшее

солнца посланник
открыл в ней талант
видеть
как август празднует сад

■ ■ ■

1

мы с девочкой моей приходим в храм
и с девочкой моей мы видим там

свеча свече огонь передаёт
и вместе с тем сама не погасает
а дальше вместе праздник продолжает
погаснуть ей не наступил черед

и я подумаю
что в этом нам пример

2

первую свечку в храме
зажигает допущенный к этому человек
и так продолжается из века в век

а дальше свеча зажигается от свечи
и это веками сложившийся ритуал
и я подумаю
что для нас это идеал
отношений
для поколений

■ ■ ■

*«Дедушка,* — говорит Вера, — *ведьма хочет украсть*
*наш голос».* —
*«Зачем она хочет это сделать?»* —
*«Если она украдёт наш голос, она украдёт наши стихи».*

и она ещё не знает о том
что я
в своих стихах исхожу из звука
и считаю
что если звук не врёт
стихотворение состоится
считаю я

■ ■ ■

если
у скрипки отобрать голос
скрипке
не будет о чем молчать

■ ■ ■

скрипке
всегда есть
сказать о чём
надо
ей просто подставить плечо

■ ■ ■

*— дедушка,*
*какой у неё голос! —*
сказала Вера

пела Мария Петровна Маевская
песня её совершенно не детская

песня ребёнку пока что не близкая
в доме
но будто бы в храме на клиросе

голосом девочку так чаровала
будто бы в храм приходить приглашала

■ ■ ■

*Антонине Хатенко*

в стихотворении Антонины Хатенко «Ростань»
я услышал музыку пастернаковского «Гамлета»

музыка как будто подтверждает
слов хороших много не бывает

разные Борис и Антонина
каждый о своём
но воедино
музыка связала их стихи

кто решится эту связь оспорить
должен будет музыку оспорить
только что он скажет вопреки



## Генадзь Лапацін

Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Закончыў філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Выдаў кнігі паэзіі «Без чисел и дат» (1997, 2003), «Лепить из снега» (2002), «Луны преобладанье» (2003), «Увидеть дерево» (2008), «Около облака» (2012). Сябра Саюза беларускіх пісьменікаў. Выдаў кнігі «“Ікона звалась свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны». (2012), «Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры» (2015).

**Алесь Бардоўскі**

# ДА ТОЙ КАВЯРНІ, ВОДАР ДЗЕ ГАРКАВЫ…

## Бабуліна імя

Ён паміраў пакутліва і доўга,
Нібы агонь у печы дагараў, —
Усё жыццё, як мог, ён славіў Бога, —
Напрыканцы ж без Бога паміраў.

З кута глядзеў маўклівы лік святога,
Лампадны сум, нічога акрамя…
Ў трызненні дзед не ўспамінаў пра Бога —
Ён паўтараў жаночае імя.

Я гэта чуў сваім дзіцячым слыхам,
У дзедаў скон не верачы адчайна,
Але было яго апошнім уздыхам
Імя жаночае нязвыклае Ліксана…

Я не забыў той дзень апошні дзедаў,
Хоць шмат вады па Бесядзі сплыло…
Сам дзедам стаў, але я жыў і ведаў,
Што то імя бабуліна было.

## Букеты ля дарогі

Як сумны знак перасцярогі,
Як выраз: «Ліха не заві»,
Ўсё болей кветак уздоўж дарогі
Чырвоных, колеру крыві.

У іх і лёсу незваротнасць,
Яны прыгожыя, хаця
У іх тужлівая гаротнасць
З нагоды крохкасці жыцця…

Зноў кроў у колер кветак льецца,
Так параўнальная з вайной.
І фронту лінія здаецца
Суцэльнасць лініі двайной.

А час бяжыць, імклівы гэткі,
Пазнаўшы бег яго даўно,

Я бачу ўздоўж дарогі кветкі.
І зноў саджуся за стырно…

## Вынік

Магчыма, аб тым не трэба,
Ды ўсё ж сумнавата трошкі,
Што ўжо даспявае дрэва,
З якога напіляць дошкі.

І непазбежны вынік —
Дзесьці ўжо крыж стаіць…
Можна спыніць гадзіннік,
Час немагчыма спыніць.

Няўмольная дзён лавіна
Ўсіх да яго нясе —
Так яно быць павінна
І будзем мы там усе.

Я не шкадую дрэва, —
Проста за ўсё хутчэй
Мне было зведаць трэба
Каву тваіх вачэй…

## Дзень матчынай мовы

Паседжанні, кветкі, прамовы,
Да продкаў нібыта любоў —
З нагоды дня матчынай мовы
Манкурты сабраліся зноў.

І енчаць, што мова знікае,
І льюць кракадзілавы слёзы,
Ды выйсця ніхто не шукае,
Адно толькі робяць прагнозы…

Навошта пустыя размовы,
Хто ўладзе правоў не дае?
Я супраць дня матчынай мовы,
Я толькі за вечнасць яе!

## Дождж пад Новы год

Што ж тут паробіш, што ж,
Дзе той зімы пагрозы?
Ды замест снегу — дождж,
Як замест смеху — слёзы…

Хутка ўжо Новы год,
Ды задажджыла зранку.
Здарыцца ноччу лёд —
Можна упасці з ганку,

Можна нагу зламаць, —
Не ўберажэ Хрыстос, —
Толькі ў жыцці, відаць,
Лепей нагу, чым лёс…

Сумны капрыз прыроды.
Ну ўжо калі ён скончыцца?
Дождж перад Новым годам!
А як жа снегу хочацца!

## Дождж

А ў Мінску дождж. І так бракуе сонейка!
Збыліся зноў прагнозы Гідрамета.
А ты пайшла гуляць без парасоніка,
Нягледзячы, што скончылася лета.

Парэшткі лета дождж змывае з дахаў,
Змывае з вокнаў памяці адбіткі,
Змывае з дрэў цяжар зляцелых птахаў.
А ты ідзеш, прамоклая да ніткі.

Да той кавярні, водар дзе гаркавы,
Дзе успаміны засталіся ўсё ж,
Дзе на стале стаяць два кубкі кавы
Ва ўтульнай зале з вокнамі на дождж…

■ ■ ■

Калі парэшткі лета паляць,
Калі асенняя пара,
Здаецца мне, блукае памяць
І не сыходзіць са двара…

І успрымаецца няпроста,
Што сірацее двор і дом,
І дымам цягнецца лістота
За журавамі, за цяплом,

Зіме насуперак і згубе.
Ды толькі ў новы дзень вясновы
Ні на бярозе, ні на дубе
Не вырастае ліст кляновы.

І птах вяртаецца нанова,
Як ажывае рунь на полі.
Ды ад сваёй птушынай мовы
Не адракаецца ніколі.

А мы ад мовы адракліся
Што непаўторная, адзіна,
І падаецца, што не лісце —
Гарыць у вогнішчы радзіма.

## Канёва справа

Дзед не цураўся розных спраў,
Быў моцны ўнутрана і знешне.
«Канёва справа» ён казаў,
Калі сказаць хацеў «канешне».

Пражыць — не песню праспяваць.
Ён на сабе адчуў, паверце.
Канёва справа — працаваць,
Каб і ад працы той памерці.

Я сёння з дзедам цалкам згодны,
І ў тым не вінен фарс-мажор.
Бо насамрэч казёл ніводны
Яшчэ ад працы не памёр.

## Крыжы

Уздоўж крыжоў, дзе не Хрыстос распяты,
Для шмат каго апошняя ў жыцці
Дарога ў Мінск вядзе праз Курапаты —
Ніяк дарогі той не абысці.

Не абмінуць і з памяці не сцерці,
І Боскай волі тут шукаць не трэба.
Паміж крыжоў блукае прывід смерці
І рукі-сосны цягнуцца да неба.

Тут птушкай Фенікс памяць ускрасае,
Ды не ляціць святая птушка Фенікс
Праз Курапаты ў Мінск, дзе у пашане
Крывавы Коба і жалезны Фелікс.

Дзе ўсё няма спакою на душы,
Дзе людзі мовы роднае не маюць.
Ахвяр унукі ставяць там крыжы,
А ўнукі катаў зноўку іх ламаюць.

Крыжы не прагнуць гвалту і расплаты,
Не заклікаюць вешаць і страляць…
Уся мая Радзіма — Курапаты,
Адно крыжы не ўсе яшчэ стаяць.

■ ■ ■

Малая мая радзіма
Вытокі надзей і мрой.
Тут маці мая хадзіла
Калісьці цяжарная мной.

Тут раніцы подых золкі,
І той жа суніцы смак,
І тыя ж на небе зоркі,
Ды нешта не так, не так…

Як прыклад таго яскравы,
Хоць лета ідзе ў зіму —
На Прыбяседдзі травы
Скасіць не было каму…

Няхай салаўі галосяць,
Яны не лагодзяць слых —
Бо дзетак ужо не носяць
Шчаслівым бацькам буслы…

Не гоняць кароў на ранак.
Праклён тут нібыта боскі:
На вокнах замест фіранак
Крыж-накрыж прыбіты дошкі.

А зорныя свечкі з неба
Аплакваюць кут радзінны.
І месяц — акраец хлеба
На шклянцы малой радзімы.

## Навучы мяне быць каханым

У гэтым свеце, такім жахлівым,
Дзе жыццё стала вельмі танным,
Навучы мяне быць шчаслівым,
Навучы мяне быць каханым,

Бачыць сонечны дзень праз хмары,
Адчуваць дотык твой гарачы.
Не трываць, калі б'юць па твары,
І даваць, калі трэба, здачы

І не здрадзіць, не адрачыся,
Не баяцца, што час бяжыць…
Век жыві, кажуць, век вучыся —
А калі ж тады, ўрэшце, жыць?

І няхай я не быў жаданым,
Ды няўжо ж не адбыцца цуду?
Навучы мяне быць каханым,
І тады я шчаслівым буду…

## Рысь

На ўездзе ў Гомель — бык здаровы,
Яшчэ здалёку бачны ён.
А мо не бык, а мо карова —
Савецкі вызначыў раён.

Ды гэта ж рысь! Скрозь часу прызму
Нібыта стаў вагонам куль —
Ляжыць як помнік камунізму,
Яшчэ савецкаму пакуль.

Якія Гомель мае рысы? —
І тлумачэння не прасі,
Бо калі тут такія рысі —
Якія ж тут тады ласі?

## Салдату Перамогі

Знікае ўсё за дальняй даляй,
Што ў заўтра светлае вядзе…
Ты ж рады кветкам і медалям,
Ты рады хлебу і вадзе.

Ты зброю ўзяў тады у рукі,
На кон жыццё сваё паклаў,
Але здалі краіну ўнукі,
Ты за якую ваяваў.

Няхай параненыя ногі
Нясцерпна ныюць часцяком.
А ў дзень Вялікай Перамогі
Прышле паштоўку ваенком —

І стане радасна, нібыта
Ты «баявыя» выпіў сто,
Бо ты «ніхто», што не забыты,
Ты незабытае «нішто».

Другія радуюцца шчасцю,
Зусім якое не пароўну.
Ты ж крочыш пад канвоем часу
Ў канцлагер вечнага палону.

## Сумны вынік

Той час няхай не вернецца,
Бо мае сумны вынік —
З мяне рабілі ленінца,
А атрымаўся цынік.

«У заўтра светлае ідзі», —
Партыйныя казалі.
Мяне вучылі «Не крадзі!»
А як жа самі кралі!

З хлуснёю праўду папалам
Падсоўвалі са здзекам.
А я не верыў халуям,
Партаргам і генсекам…

І адчуваю ўсё ж — бяда
За кожнаю гадзінай,

Што мне дзяржавы не шкада
Той, што была Радзімай.

## Шнары

Я крочу па жыцці,
І ўсё як мае быць —
Губляю, каб знайсці,
Знаходжу, каб згубіць…

Памылкі я раблю
І выпраўляю іх.
Чужыя — не люблю,
Вучуся на сваіх.

У вырай не лячу,
Як блізіцца зіма
У вырай не хачу,
Бо там цябе няма

І нават калі сплю —
Сабою застаюся…
І за цябе я п'ю,
І за цябе малюся

Ды падаецца мне,
Калі бракуе сілаў,
Што шнары на спіне —
Ад адарваных крылаў.



### Алесь Бардоўскі

Нарадзіўся 3 мая 1946 года ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Пасля заканчэння Бялынкавіцкай сярэдняй школы атрымаў спецыяльнасць інжынера-механіка ў Джамбульскім тэхналагічным інстытуце. Друкаваўся ў перыядычных выданнях Беларусі, Украіны, Расіі. Аўтар паэтычных зборнікаў «На крыжы тваіх рук» і «Выспы часу». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



# ПРОЗА

## Анатоль Бароўскі

### Ваўкалакі

*Урывак з рамана «Кат»*

3

Аказваецца, ён не заснуў, наадварот, да яго прыйшла ўзбуджанасць і нейкая неспатольная смага. Ён перастаў глядзець на навакольны свет іншымі вачыма і не разумеў, што з ім адбылося. Не разумеў, чаму ўсё выглядае інакш, перакулілася ўсё, перайначылася.

І не заўважыў, як пакінуў пакой, дзе жыў, апынуўся на начной вуліцы, якую не асвятлялі ліхтары, але ён яскрава бачыў усё наўкола. Заскуголілі сабакі, баязліва прыцiснуўшы хвасты, пашыліся ў свае буданы.

Ён жа спыніўся, агледзеўся, задраў галаву і голасна, па-ваўчынаму завыў. Акурат была поўня, тая пара, калі з ім рабілася незразумелае, калі яго пакідала свядомасць, калі ён не адчуваў сусвету. Ператвараўся ў іншую істоту, не разумеючы самога сябе. Не разумеў толькі першыя хвіліны, а потым і разумення не трэба было яму, — ведаў, дакладна ведаў, што ён ужо не чалавек, бо ў яго было ўжо чатыры нагі, увесь пакрыты шэрай поўсцю, вострыя клыкі шукалі, у што б учапіцца і загрызці…

Ён стаў ваўкалакам. Магутным і дужым, злым і галодным, цвёрда трымаючыся на нагах. Яму і цяпер трэба было імчаць туды, у лес, дзе ладзілі свае гульбішчы такія ж, як і ён, ваўкалакі. Але цяпер яму трэба было заявіць пра сябе, сказаць поўні, што ён гатовы далучыцца да зграі. І ён апантана завыў, зажмурыўшы вочы, раскрыўшы пашчу. І атрымліваў ад гэтага асалоду: з яго выцякала чалавечае і агіднае пачуццё, таму стараўся як найхутчэй пазбавіцца ад гэтага, перайсці ў новы стан, у якім адчуваў сябе вольна і немусова, калі не грызла сумленне і разгаралася смага і голад, калі страўнік патрабаваў крыві — ці то чалавечай, ці то звярынай…

Здаецца, яго голас далятаў да месца, бо і зоркі прыплюшчылі вочы хмарнымі павекамі, і Валацужны Шлях ператварыўся ў шырокую дарогу, запрашаючы яго паспрабаваць на ёй свой спрыт. Але ён марудзіў, ніяк не мог спыніцца, яго выццё разгаралася яшчэ больш і больш, наводзячы страх і жудасць на наваколле. Сабакі зусім замоўклі, баючыся вылазіць са сваіх сховішчаў… А ён выў і завываў, седзячы на зямлі, усяму свету абвяшчаў, што ён на волі, што гатоў рынуцца наперад, парваўшы ўсе мярэжы, грэбуючы чырвонымі сцяжкамі, якімі абкружылі яго з усіх бакоў нябачныя паляўнічыя… Але ён хітрэйшы за іх, лаўчэйшы, яго спрыту могуць пазайздросціць і звяры, і птушкі, бо ён можа сягаць вышэй дрэваў і кустоў і не закране ніводнага чырвонага ашмотка. Ён можа нырнуць у рэчку ці возера на любую глыбіню, такім чынам схавацца аж на паўгадзіны, і ніхто не здагадаецца, што ён жывы, толькі вычэквае, калі міне небяспека і руля паляўнічага адыдзе далёка ад гэтага месца. Ды ён і рулі, калі на тое, не баяўся, мог абысці стралка з іншага боку і збіць яго з ног разам са стрэльбаю…Было такое, і не раз, калі ён ікламі ўпіваўся ў лыткі паляўнічага, але не загрызаў чалавека, толькі пакідаў яго на месцы падзення, а дубальтоўка адлятала далёка ад стралка. А ён выў і выў, не сціскаючы шчэлепы, не расплюшчваючы вачэй, не апускаючы галавы долу. Наваколле маўчала, наваколле прымала як належнае, не здзіўляючыся і не адвяргаючы ваўчыны покліч, прымаючы яго як неабходнасць. Выццё ляцела ў космас, ляцела некуды да воблакаў, не раствараючыся там, у небе, а зліваючыся ў адзін суцэльны гул, быццам нябачны горан выдзьмуў з сябе крык не крык, покліч не покліч… Космас здрыгануўся, космас адгукнуўся сваім рыкам, не прымаючы ў свае прасторы мелодыю жудасці і жорсткасці… Таго не ведаў ваўкалака, што сусвет не пачуў яго, як і не пачуў болю яго душы, якая перанараджалася, ператваралася ў нешта недасяжнае і пачварнае; ён яшчэ не выйшаў з сябе, як і не ўвайшоў, не загінуў як мінулае, не нарадзіўся як будучае; і таму ніяк не мог утаймаваць свой боль, які сыходзіў знекуль з нутра яго, а мазгі пад чарапной каробкай гатовы былі трэснуць і ўзарвацца. Нешта захліпнулася ў горле, як хто ўкінуў у разяўленую пашчу костку ці камяк мёрзлай зямлі. Ваўкалак закашляўся, падабраў пад сябе ногі, і галава яго ўпала на зямлю… Але ён не адрываў позірку ад круглатварага месяца, быццам той даваў яму сілу і моц, падтрымліваў яго сваім зыркім святлом. У яго перастала біцца сэрца, і ён утапіў у сабе дыханне, адначасова збіраючыся канчаткова перарадзіцца — ператварыцца ў тую пачвару, якую толькі і магла нарадзіць поўня. Усё страшнае нараджэнне і пераўтварэнне здаралася ў вось такія моманты — пад таямнічымі промнямі загадкавай планеты, і тыя таямніцы ніхто не мог разгадаць, раскрыць, абгрунтаваць. Як і ваўкалак не мог самому сабе прызнацца і растлумачыць, чаму так здаралася, калі поўня брала ў палон зямлю. Падсвядома ўсё адбывалася, па-за розумам чалавечым і звярыным. Усе траплялі пад палон і волю вядзьмарскага ўздзеяння на ўсё

жывое. Тады і людзі, асобныя з іх, ператвараліся ў невядома што і невядома ў каго — маглі хадзіць па дроце, нацягнутым між слупамі, маглі хадзіць па дахах дамоў, узбірацца на самыя вялікія вяршыні збудаванняў і фермы мастоў і перапраў. А на заўтра, калі пыталіся ў іх, што яны лёталі ў паветры, — лічылі тых за вар'ятаў ці ідыётаў.

А ён ляжаў, паклаўшы ўжо галаву на лапы, і глядзеў неадрыўна на поўню. Чакаў. Сам не ведаў, чаго чакаў. Але ведаў, што дачакаецца таго моманту, калі вылужацца са сваёй скуры, скіне яе з сябе, хоць і балюча тое будзе адбывацца, але так адбудзецца па той праўдзе, якая належыць такому моманту. Як гадзюка скідвае з сябе старую скуру, набываючы новую і пругкую, так і ваўкалак пераапранецца ў новую апранаху. Толькі трэба дачакацца, калі празвініць той звон з нябёсаў, які даляціць з поўні, з нутра яе… Завыў са страху сабака за высокім плотам са сваёй будкі, але ён не глядзеў на месяц — ён яго баяўся, сам не ведаў, чаго баяўся. І сабачы голас абудзіў свядомасць ваўкалака, і ўздрыгнула ў яго сэрца, лёгкія распіралі нейкае іншае паветра, тугое і калючае, пругкае і горкае. І міжволі ўскочыў на чатыры нагі, адчуўшы, што яны памацнелі, набраліся сілы. З яго плеч спаўзла на зямлю калматая поўсць, і ён, пераступаючы з нагі на нагу, адроджаны, зрабіў першыя ўпэўненыя крокі. І не ўбачыў перад сабою ўжо поўні, яна згубілася за воблакамі і зоркамі, растварылася, зліўшыся з касмічнай прасторай. Адчуў усёй істотай, што яго нехта клікаў. Але ён яшчэ не ўсвядоміў, хто клікаў і куды, але перакананы быў, што клікалі. І ён чакаў гэтага моманту, той хвіліны, і — дачакаўся. У яго быццам выраслі крылы і ён стаў невядомай, а мо і вядомай, істотай, якая магла бегаць па зямлі, падскокваць не толькі вышэй дрэваў, але і вышэй аблокаў. Не ведаў, нават і не здагадваўся, хто яму даў такую магчымасць узняцца над зямлёю, хто навучыў упівацца ікламі ў звярынае, нават чалавечае цела. Адчуў, што звярыная кроў адрознівалася ад чалавечай. Звярыная — як наедак, якая спатольвае голад. І толькі. А чалавечая… Яна ўтрымлівала нейкую тайну, мела глыбокі сэнс і вялікую загадку, якую нельга было разгадаць, нават космасу. Хаця той жа космас і памагатыя стварылі таго ж чалавека з яго загадкаваю крывёю. З таямнічаю душою і чулым сэрцам.

Ён зноў завыў, але то ўжо было не выццё, то ўжо гучэў покліч, што ён нарадзіўся, нарадзіўся і быў гатовы да дзеяння, да якога далучылі нейкія вышэйшыя сілы. І неба здрыганулася ад таго покліча, ад таго рыку, пагрозлівага і пагражальнага рыку. Неба стаілася і прыслухалася ў чаканні нечага невядомага і пагрозлівага. Атросшы з сябе рэшткі старой поўсці, усімі чатырма лапамі адгрэбшыся ад яе, што прыліпла да лапаў, зрабіў колькі крокаў наперад. І ўжо болей не глядзеў на месяц. Ён нарадзіў яго, і цяпер няма патрэбы трымацца яго. Прыслухаўся. Недзе там, за дзясяткі кіламетраў, у пушчы, сярод балотнай выспы, дзе падпіралі неба стагадовыя дубы, сабралася ваўчыная зграя, такія ж, як і ён, ваўкалакі. Яны склікалі да сябе суродзічаў, выючы на поўню, іравучы

свае глоткі, запрашаючы суродзічаў на крывавы пір… Усіх аб'ядноўвала адно: прага гарачай крыві. І яны выводзілі сваю жудасную працяжную песню на ўвесь сусвет, заяўляючы пра сябе, абазначаючы сваю тэрыторыю, задраўшы заднюю нагу, пырскалі сваю мачу на кустоўі, на карнявішчы дубоў, на струхлелыя пні. Яны збіліся ў пагрозлівую зграю, але толькі яшчэ распаляліся ў сваім імкненні дзейнічаць, як бы рыхтаваліся, праводзячы свой папярэдні абрад, толькі настройваліся, даводзячы сябе да той кропкі, пасля якой пачнецца іх галоўнае дзейства… Не зразумець было толькі, хто ў іх за важака, каму яны павінны быць падпарадкаваны і без сумневу выконваць яго каманды. Але тут было іншае. Кожны з іх быў надзелены правам важака. Але толькі пры той умове, калі яны збяруцца ў гурт усе да аднаго, усе тыя, хто знаходзіўся ў іх кагорце і месяц, і два, і тры назад… Калі ж атрымоўвалася адно цэлае, адзіны арганізм, які меў агульнае імкненне і прагу нішчыць усё жывое, калі зграя камплектавалася ў поўным складзе, тады ж і набывала яна тую знішчальную сілу, якую ніхто не мог спыніць, перашкодзіць, нават знішчыць, — вось тады яна рабілася адным суцэльным арганізмам і мела правы Важака. І тады яны ўсе думалі аднолькава, загадвалі аднолькава, выконвалі іх бездакорна, не ўзгадняючы, не аглядваючыся, бо ваўчыная шыя не дазваляла аглядвацца, а толькі, разявіўшы пашчу, імчаць наперад — да сваёй ахвяры.

І ён, пачуўшы той голас, зазыўны голас, голас агульнага горна, адказаў сваім зацяжным завываннем — іду-уууу! Бя-гу-уууу! У-у-уууу!.. Радасна забілася сэрца, што не забыліся пра яго, што чакаюць, што разам будуць шалець і піраваць, знішчаць і трушчыць. Гэта іх агульны абавязак — піраваць і трушчыць. І будуць піць хмельнае чырвонае віно. І гэта будзе чыстая кроў. І ліцца яна будзе ракой. І дасць яна сілу на цэлы месяц, да тае пары, пакуль зноў не збярэцца зграя ў той жа табун. Ён сцяўся, сабраўся ў камяк, уціснуўся ў зямлю, набраў поўныя грудзі паветра і… І, упёршыся заднімі лапамі ў зямны шар, зрабіў скачок, які быў падобны на запаволены выбух гарматы, у нябесную прастору. Аж вецер ударыў у грудзі, стараючыся адштурхнуць яго назад, запярэчыць яму. Але ўжо не было той сілы, якая магла б спыніць яго, стрыножыць і апусціць на зямлю — не было такой сілы. Далей ён ужо ці то ляцеў, ці то скакаў, і з кожным разам тая адлегласць ад штуршка да штуршка павялічвалася, мо і да кіламетра даходзіла, а мо і больш… Далёка ззаду засталася сталіца, і не чуваць брэху спуджаных сабакаў, толькі зыркая поўня асвятляла шлях, па якім ён скакаў-ляцеў, хаця яму і не патрэбен быў той шлях, ён не кіраваўся ім, а напрамкі мчаў да той пушчы, дзе яго хаўруснікі наладзілі баль сатаны… У яго не было крылаў, але ж крылы і неслі яго наперад, і нейкая невядомая сіла штурхала і штурхала яго, уздымаючы ад зямлі, закідвала пад аблокі; а ў нейкі момант, ужо нават не намагаючыся рабіць нейкія рухі, тая сіла прыняла на сябе той клопат, а ён толькі назіраў, як пад ім мільгалі вялікія і невялікія вёсачкі,

гарадскія пасёлкі і мястэчкі, лясы і рэкі — неабдымны абшар дзяржавы. І чым бліжэй ён падлятаў да балюючых, хаця яшчэ і не бачачы іх, тым выразней чуў гукі і завыванні ваўкалакаў, здавалася, што нехта нават у бубен біў, і медныя бразготкі рассылалі па наваколлі бязладныя, але таямніча-пагрозлівыя гукі, быццам вясельны картэж галоўнага сатаны імчаў па бездаражы, а бомы ў такт розгаласу дадавалі свае ўнёскі; вяселле набывала шырыню, значнасць, заяўляючы пра сябе на бязмежных прасторах… Яшчэ некалькі штуршкоў — і ён ужо ўбачыў паперадзе, між магутных дубоў, вясельнікаў, якія сталі кругам, абступіліся вакол выбранай ахвяры. Не хапала толькі кастрышча на іх балі, але яго замянілі зыркія іскры вачэй сцярвятнікаў, і яны ўжо, злучыўшыся ў адно, успыхнулі, шуганулі полымем. Так што і касцёр у іх быў, адмысловы касцёр, які гарэў адным суцэльным факелам і асвятляў пушчу і тых, хто быў абкружаны імі. Ён здзейсніў апошні скачок і, пераскочыўшы Нёман, ужо сцішыў свой шал, павольна, на ўсе лапы ўпіраўся ў хрумсткую зямлю, узіраючыся наперад, скакаў, не адрываючыся надоўга ад яе…

Падбег да зграі, спыніўся. На яго не звярнулі ўвагі, быццам бы і не клікалі да сябе. Яны стаялі поруч адзін ля аднаго, амаль дакранаючыся поўсцю да бакоў суседа. Прыгледзеўшыся, заўважыў, што яны хістаюцца, хістаюцца сінхронна, быццам бы падпарадкоўваючыся нейкай адной мелодыі, якая лілася разам з месяцовым святлом і праменнем Тое нагадвала нейкі танец, рытуальны танец, пагрозлівы танец. І толькі цяпер ён заўважыў, што на пляцоўцы, на лапіку зямлі, які найбольш і высвечваўся промнямі поўні, стаяў сахаты. Ён узняў горда галаву да неба, чмыхаў праз ноздры, б'ючы капытамі зямлю. І ад яго адляталі вялізныя камякі зямлі, ныралі недзе ў густым карчоўі. Прыгледзеўшыся, убачыў, што за ім, ласём, стаілася лоша. Яна глядзела на гаспадара, чакаючы, якое ён прыме рашэнне, ці зробіць што, каб уратавацца. І ўгледзеў яшчэ, што на зямлі, паміж імі, ляжала малое — яшчэ мокрае, не абсохлае. Мусіць, толькі што нарадзілася. Маці нахіліла галаву і пачала аблізваць яго. Ёю кіраваў спрадвечны інстынкт аберагаць дзіцё, каб доўжыць свой род. Сахаты быў насцярожаны і ўвесь напяты, дрыжэў целам, гроб і гроб камякі змерзлай зямлі. Ён, мусіць адчуваў, што будзе праз колькі хвілінаў і што застанецца ад іх, калі акружыла такое кола іклaстых драпежнікаў. І ён, сахаты, пагрозліва затрубіў, горда ўзняўшы галаву з разгалістымі рагамі. І выццё ваўкалакаў, і развітальны з сусветам голас сахатага — усё злілося ў суцэльны гул і працяжны гром. У небе жыханулі маланкі, жоўтыя пакручастыя і крывыя крывавыя лініі дацягнуліся да паляны. Зашыпела зямля, жахнулася. Адразу ўсё сціхла. Перастала хістацца кола драпежнікаў. Яны перапынілі свой рытуальны танец, стаіліся, нечага чакалі. Наперадзе рассунуліся двое і ўжо можна было ўбіцца сярод іх. Зразумеў, што тое месца вызвалілася для яго. Ніхто не зірнуў у яго бок, ніхто не падаў знаку, што яны прынялі яго ў сваю зграю, — тое і так было зразумела. У той жа момант

адчуў, што далучыўся да іх агульнай сілы, па целе прабег электрычны зарад, прайшоўшы праз усіх, — і ён стаў адным цэлым з імі, займеў агульную злосць і прагу крыві, і ўнутры нараджаліся тыя ж каманды і поклічы, чым былі зараджаны ўсе астатнія… Бачыў паперадзе ласіную сям'ю, якая рыхтавалася сысці ў нябыт; ведалі маці і бацька, малое тое не ведала, бо не разумела: яно толькі-толькі нарадзілася, і не прыйшло яшчэ ўсведамлення, што навакольны свет прыняў дзіцянятка, але той жа свет і адправіць немаўлятка ў небыццё; а маці шурпатым языком злізвала з яго слізь і вадзяную абалонку, якім было спавіта ласянятка…

Сахаты зноў затрубіў, паслаў у космас крык аб дапамозе, прасіў, умольваў, каб хто ўратаваў іх сям'ю, хаця б уратаваў нашчадка, які б доўжыў яго род. Крык быў гучны і надрывісты, адразу дасягнуў вяршынь неба, ад чаго здрыгануліся зоркі, пачуўшы боль сахатага, прыжмурылі вочы, не жадаючы бачыць таго, што вось-вось павінна адбыцца на зямлі. Яны маглі б кінуцца на дапамогу, але ніяк не маглі зрушыць са свайго месца, да якога былі прыкуты мільярды гадоў. Таму ад бездапаможнасці сваёй перасталі вылучаць святло, згаслі. І ў тое ж імгненне зноў здрыганулася зямля, быццам хацела скінуць з сябе пачварнасць і несправядлівасць, жорсткасць і агіднасць, — але і ў яе не было такой сілы. Тады ж адбылося неверагоднае. Пераблыталіся зіма і лета, вясна і восень. То лісцё нараджалася на дрэвах, то тут жа ападала, то выстрэльвалі пупышкі і няўзнак зніклі… Ці то грамы грымелі, ці дзе войны адбываліся, што гул стаяў па ўсёй зямлі… Зграя ваўкалакаў прыгнула галовы да зямлі, зрыганула нейкі ванітны выкід, загула унутрана-грудным нудным і працяжным, праз нос, злым выйгам, як бы рыхтуючыся да галоўнага скачка і дзейства, утаропіўшыся ліхтарамі-вачыма ў сваю ахвяру, расцягвалі задавальненне ў сваёй падрыхтоўцы да нападу.

І — адначасова, у адзіным імкненні, яны рынуліся наперад, і гэтак жа адначасова іх вострыя іклы ўпіліся ў сваіх ахвяр… І пырснула кроў, узляцеўшы ў паветра, абліўшы пысу кожнага драпежніка гарачай вадкасцю; яны, прыпаўшы да гарачай крыніцы, пілі і пілі з яе, ніяк не могучы наталіць смагу, і чым больш смакталі і глыталі яе, тым больш адчувалі прыліў сілы і апантанасці, злосці і агрэсіі, ненажэрнасці і беспакаранасці. Кожнаму з ваўчыных груганоў, што кінуліся на ласіную сям'ю, дасталася порцыя крыві, хоць кропля, але дастаткова, — для іх і кроплі было дастаткова, каб зарадзіцца энергіяй безабаронных істот. Сахаты нават не паспеў падаць развітальны голас жонцы сваёй і сыну, усяму сусвету, — у шыю ўчапіўся ікламі самы дужы і цягавіты, што прыляцеў са сталіцы, ваўкалак, адразу вырваў горла і апярэдзіў фантан крыві, упусціў яго ў сваё горла і зажмурыў ад асалоды вочы. Не адпускаў, піў і піў гаючую для сябе вадкасць. Побач упілася і яшчэ адна пыса, і яшчэ адна, і цэлая гара ваўкалакаў насела на сахатага. Нехта наткнуўся на разгалыя рогі, абадраў бок, але не звяртаў на тое ўвагі, — смак крыві заглушаў боль, і таму ён імкнуўся ўшчаміцца ў зграю, узяць сваё, вырваць

свой кусман ласяціны… Ужо ўпала долу ласіха, не паспеўшы зірнуць на малое, імкнучыся абараніць яго ад зграі, і не чула, як яе на шматкі разарвалі іклы драпежнікаў. Ад дзіцяці не засталося нічога, нават мяккія косці ваўкалакі раструшчылі і тут жа праглынулі, адначасна адчуўшы солад крывавага напою; звяры вішчэлі ад задавальнення, топчучыся па крывавым месіве, ператварыўшыся самі ў чырвоных страшыдлаў; у іх гарэлі пагрозлівым агнём вочы, выпраменьвалі іскры маланак, водсветы векавых жарсцяў і вечнай смагі, вечнага голаду, які ніколі не маглі спатоліць.

На месцы трагедыі засталіся толькі рогі сахатага ды капыты, якія не ўдалося ім раструшчыць, і капыты ласіхі, астатняе ўсё праглынулі ваўкалакі. Праглынулі, а потым пачалі злізваць крывавую сукравіцу з зямлі, са снегу, што акрывяніўся ў час трагедыі. Яны рычэлі, не зважаючы адно на аднаго, гірчэлі, калі нехта адбіраў з-пад самага носа крывавую пляму, скалячы зубы, паказваючы вострыя, бы мячы, іклы… Поўня вынырнула з шэра-свінцовых аблокаў, акінула позіркам крывавае вяселле, жахнулася, уздрыгнула, не могучы схаваць вачэй, — яна анямела, скамянела, наклала на сябе крыж. А баль працягваўся, хаця ўжо і не з такім імпэтам, як напачатку, пакрысе аціхаў, але не змяншаўся ў сваёй жорсткасці і пагрозлівасці. І нехта адзін з іх падняў галаву да поўні, пачуўшы яе крык, адгукнуўся доўгім завываннем, падахвочваючы да выцця сваіх братоў па наталенні крыві. І ўжо суцэльны гул і выццё зноў паляцела да поўні, да зорак, якія ўсё яшчэ не расплюшчвалі вачэй. Адзіная на ўсіх каманда паляцела ад тысячаў ваўкалакаў — наперад, наперад, наперад!.. Туды, дзе ёсць жывыя істоты, туды, дзе ёсць кроў, дзе можна будзе наталіць сваю ненасытную ўтробу, жарсць, вар'яцтва. Усе адначасна падалі каманду і адначасна падпарадкаваліся ёй, бо яны і былі створаны для гэтага, сталіся іншымі стварэннямі для гэтага, зрабіўшыся тымі, хто аўтаматычна, без прынукі і раздумвання, трушчыў усё жывое і нежывое, што сустракалася на іх шляху. Адвыўшы на месяц, завяршыўшы песенны рытуал пераўтварэння і перараджэння, выкінуўшы са сваёй галавы памяць і розум, ваганні і разважанні, асэнсоўванне і аналіз паводзінаў, яны адначасова рынуліся насустрач промням поўні, пакінуўшы месца першага глытка крыві, каб працягваць свой шлях далей, да канчатковай мэты — ушчэнт спатоліць голад, абпіцца і аб'есціся, натанцавацца і набегацца. Ніхто і нішто не павінна было перашкодзіць іх руху, збіць з абранай дарогі, — яны былі непераможныя ў сваім руху, бо яны трушчылі і знішчалі ўсё ў імгненне вока, і ніхто не мог убачыць ці зафіксаваць тое дзейства. Гэта была пагрозлівая і аграмадная армада з ваўкалакаў, якія імчалі па зямлі, ляцелі над зямлёй, не бачачы нічога вакол сябе, а толькі тое, што адкрывалася наперадзе, што асвятляла поўня. Знячэўку ўсчаўся вецер, узнялася завіруха, перамяшаўшы ў паветры відарысы і пейзажы, схаваўшы поўню і зоркі, і ўжо новая мелодыя нарадзілася на зямлі — жудасным праклёнам крывавай зграі адгукну-

лася прырода, адчуўшы несправядлівасць і жах здзейсненага, падключыла да агульнай трагічнай сімфоніі і свае музычныя струманты, якія былі схаваны ў самых глыбокіх схронах; яны загулі, завылі, закрычалі і залямантавалі яшчэ грамчэй, чым горны ваўкалакаў, і калі гэта злілося ў адзін суцэльны вой, то стала жудасна зямлі і небу, чалавеку і хатняй жывёле, лясным насельнікам, якія баяліся ваўкоў. У той час папрачыналіся людзі, не могучы вытрымаць і чуць тое завыванне, што распірала комін, што ўплішчвалася ў сенцы, шылася пад дах, імкнучыся сарваць страху з хаты, ламала платы і загародкі, валіла дрэвы, закутыя маразамі. Маці тулілі да сябе дзяцей, каб не чулі яны таго выцця і папераджальнага воклічу, каб не прачнуліся і не перапалохаліся, бо і самім было страшна і жудасна. І на вушы ціснула тая жудасць, і на сэрца, чорнай вужакай запаўзала ў душу, палохаючы сваёй ненажэрнасцю… Калі шлях выпадаў у ваўкалакаў праз вёскі імчаць-ляцець, то ў хлявах знаходзілі людзі назаўтра рэшткі кароў і авечак, свіней і гусей, — усё padчыстую здрапежана, знішчана, скрываўлена. І хлявы цэлыя, ніякіх падкопаў, стрэхі цэлыя — ніяк дзірак, — а смерць прайшлася па хлявах… Ехаў запознены вазніца, збіўся з дарогі, — потым знайшлі яго вяскоўцы аб'едзеным ваўкамі, ад каня засталіся касцяныя рэшткі. Ніхто не ведаў, што адбылося, які смерч ці крывавая віхура пранесліся па наваколлі. Ніхто не бачыў, а толькі чуў і падазраваў, што нешта страшнае адбылося, а што — невядома.

Зграя ваўкоў ляцела праз Ваўкавыск, быццам хацела адзначыцца ў той мясціне, пакінуць свой след і паказаць, што нездарма носіць назву тая мясціна, што яны пастараліся, каб так назвалі яе; раструшчыла ўсё і знішчыла, далей імчалі ікластыя стварэнні, не сустракаючы на сваім шляху ні перашкодаў, ні забаронаў. Там, дзе прайшлі, — крывавыя пісягі і раўчакі, скалечаныя і аб'едзеныя людзі і хатняя жывёла, скуёўчаныя дахі і стрэхі, — усё на злом, усё на знішчэнне. Зграя не ведала ліку, зграя не ведала літасці, не ведала маруднасці — усё знішчала ў долі секунды. Прайшлі да Польшчы, паласаваліся крывёю людзей і жывёл у розных мястэчках, потым скіравалі на краіны Балтыі, а потым ужо на прасторы Смаленшчыны і Ноўгарада, перакінуліся на Казахстан і Кіргізію, Грузію і Арменію… Нішчылі і трушчылі, здабывалі людскую і жывёльную кроў і напіваліся ёю, і ім было ўсё мала і мала, і яны шукалі новых ахвяраў, новых мястэчкаў і гарадоў… Чорная і крывавая ноч пад поўняй, пад яе срэбнымі промнямі.

…Раніцай, калі хлопцы прачнуліся, убачылі, што, скруціўшыся баранкам, спаў на левым баку Цімафей. Уразіла, што пад ім была крывавая падушка і што ён цяжка дыхаў, нават рычэў. Падумалі, што з ім нешта здарылася, хацелі разбудзіць, каб аказаць якую дапамогу, але адзін з іх, прыставіўшы палец да губ, крутануў адмоўна галавой.

Вечарам, калі сустрэліся ў пакоі, калі і знаку не засталося на падушцы ад крыві, Цімафей паскардзіўся:

— Ціск падняўся ў мяне, кроў палілася з носа.

— Перахваляўся, мусіць, а мо і перапрацаваўся, — прамовіў адзін з іх.

— Так, — пагадзіўся Цімафей, — нічога бясследна не праходзіць. З дзяцінства ў мяне гэта.

І болей да таго эпізоду не вярталіся.



## Анатоль Бароўскі

Нарадзіўся 12 мая 1942 года ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі педінстытут. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». У 1979 годзе надрукаваў аповесць «Тросніца» ў часопісе «Маладосць». Аўтар кніг «Азірніся ў каханні», «Чорны бусел — белы цень», «Пякельны рай», «Заручуся з бліскавіцай», «Искушение», «Мы — Юницкие», «Юницкого небесные дороги», «Кузня», «К небесам — через тернии», «Струнный триумф Юницкого», «Паўстанец духу — Рыгор Клімовіч». У 2012 годзе выдаў Збор твораў у двух тамах. Раман «Воляй абраны» (2015) адзначаны прэміяй «Воін святла» імя Міхася Жызнеўскага ў студзені 2016 года.

## Мікола Бусел

## Дарунак

*Апавяданне*

На абшарах Вялікае Літвы лета набліжалася да свайго канца. Яшчэ ззяла сонца, буяла зеляніна траў і дрэў, але золкае ранішняе паветра і халодныя росы сведчылі пра немінучую змену ў прыродзе.

Апаўдня, калі сонца добра прагравала лугі, лясы ды рэдкія палі, чародкі буслоў — моладзь і старыя — пасля жыравання на багатых балотах узнімаліся ў неба і, следам за старым важаком, шукалі вышынныя плыні паветра. Знайшоўшы такую плынь, буслы ўтваралі кола і лунялі, лунялі ў цёплым паветры, шырока распрастаўшы нерухомыя крылы, і толькі зрэдку варушылі імі, каб паправіць свой палёт, не парушыць лад кола. Лёгкі вецер нёс іх усё далей і далей, увысь і на поўдзень. Чалавеку з зямлі птушкі рабіліся ўсё меншымі, маленькімі, маленечкімі, малюпасенькімі, ажно пакуль зусім не знікалі ў блакіце неба. У ахвоту налётаўшыся, птушкі вярталіся да ранейшага месца, каб назаўтра зноў паўтарыць невялікую вандроўку. Гэтак мінаў дзень за днём, чародкі збіраліся ў чароды, чароды раслі і буйнелі, і калі буслоў збіралася дастаткова багата, яны ўзнімаліся ў неба і з развітальнага круга з недасяжнай воку вышыні кіраваліся да сонца.

Час не праблема для птушак. Для іх ён непадзельны, як плынь ракі ці стыхія паветра. Інстынкт выраю няўмольна цягнуў іх на поўдзень, на сваіх шырокіх крылах яны неслі з сабою лета і пяшчоту цяпла.

На гэтым шляху здаралася рознае. Часам якая-небудзь птушка прыставала, заставалася ў знямозе на зямлі. Але ніхто асабліва не турбаваўся: за імі імкнуць іншыя чароды, з якой-небудзь прыляціць і той, хто прыстаў. Такое бывае…

Таму ніхто з буслоў не здзівіўся, калі недзе ці то на Нёмане, ці то на Трэмлі, ці то на Бярэзіне, а мо і на Прыпяці, дзе менавіта — гэтага не памятае ніхто, у іхнім цугу з’явіўся новы падарожнік. Калі і было ў ім нешта незвычайнае, то гэта невялікі клунак, які новы напарнік вельмі дбайна трымаў у дзюбе. Як птушцы аслаблай, яму спрабавалі саступіць месца ў самым канцы цуга, але ён упарта хацеў ляцець толькі ўсярэдзіне…

З раніцы птушкі, выгледзеўшы з вышыні кормнае месца, спускаліся на зямлю, каб падсілкавацца ды даць спачын крылам, а з полудня зноў працягвалі шлях, пералятаючы нацянькі затокі, абмінаючы высокія горы ды ўпарта трымаючыся пракладзенага старадаўнімі продкамі шляху да зямлі абяцанай.

На дзённых папасах новы бусел ніколі не адыходзіў ад клуначка. Каб даць і яму магчымасць падсілкавацца, старэйшы ў гурце пасылаў якую-

небудзь птушку павартаваць таямнічы скрутак. На ўсё роспыты, дзе ён узяў яго і куды нясе, бусел лаканічным клёкатам расказаў, што знайшоў яго каля моцна параненага суайчынніка-бусла, і той перад сконам папрасіў занесці клуначак на поўдзень. Тамака ён убачыць зіхоткую вячэрнюю зорку. Вось проста пад гэтаю зоркаю і трэба будзе пакласці клуначак. Усе згодна падмеліся па чарзе несці таямнічую эстафету. І дзіўная рэч: кожны, хто нёс той скрутак, не адчуваў аніякай стомы, быццам ношка была зусім бязважкаю.

Гэтак яны ляцелі ды ляцелі… Недзе над Паўднёвай Сірыяй з гор неспадзявана ўзнялася чарада сакалоў і рынулася на буслоў. Птушкі яшчэ не паспелі прыдумаць, што ім рабіць, як з-за невялічкай бязважнай хмурынкі вылецелі золатагаловыя царскія арлы і ўмомант пашкуматалі сакалоў. Буслы не паспелі нават парушыць свой цуг.

Ад гэтага моманту велічныя царскія арлы не пакідалі чарады і ляцелі своеасаблівым эскортам побач і зверху.

Чым бліжэй чарада набліжалася да Палесціны, тым болей было арлоў, і ніяк нельга было зразумець, скуль яны бяруцца і чаму іх так шмат.

На самым поўдні гор Фінікіі сокалы яшчэ раз паспрабавалі напасці на чараду буслоў. Гэтым разам іх было так шмат, што аж зарабацела ў паветры. Але арлы былі пільнымі. Яны склалі крылы і рынуліся ўніз усё шпарчэй і шпарчэй. З разбітымі галовамі падалі долу сокалы, пакідаючы ветру пёры былых крылаў…

Арлы ж дагналі буслоў з іхнім таямнічым скруткам і занялі сваё ранейшае месца…

* * *

…Скончыўшы будзённыя справы, Марыя сядзела на ганку сваёй хаціны. Надвячорак быў ціхі і цёплы, напоўнены чаканнем нечага незвычайнага і таямнічага, такі, які ён бывае ў Палесціне ў час Каляд. Марыя, абняўшы рукамі калені, нетаропка сама сабе думала. Яна думала пра падарожжа ў Назарэт і Віфлiем, пра таямнічае звеставанне і пра мужа Язэпа. Пра тое, што ёй расказала стрыечная сястра Лісавета. Ці мала якія думкі прыходзяць у галаў маладой жанчыне, якая толькі нядаўна стала жонкаю?

Марыя сядзела і чакала. Шоргат мноства крылаў над галавою змусіў яе зірнуць угару. Вялікая чарада буслоў паволі кружылася і апускалася ўсё ніжай і ніжай.

Вось яны апусціліся зусім нізка і, распасцёршы крылы, селі проста на зямлю. Марыя ніколі не бачыла столькі гэтых бел-чырвона-чорных птушак, ды яшчэ разам з золатагаловымі царскімі арламі. Птушкі, задраўшы галовы, паклекаталі, памахалі крыллем, потым падскочылі і зноў паляцелі. На момант, толькі на адно імгненне, ёй здалося, што яна ўбачыла анёла. Але, магчыма, ёй гэта толькі здалося. Проста бусел быў белы. Там, дзе яны апусціліся, нерухома ляжаў клуначак, з яго пачуў-

ся плач немаўляці. Марыя ўстала і падышла да пакунка, нахілілася і разгарнула яго. У бялюткіх полках ляжала чысценькае ружовенькае немаўля. Убачыўшы Марыю, немаўля працягнула да яе ручкі. Жанчына зразумела гэта як знак.

Марыя сядзела ля калыскі. Накормлены і перапавіты хлопчык спакойна спаў, накрыты зверху чыстаю цёплаю посцілачкаю. Ён адчуваў, што ён дома, што побач мама.

У двары пачуліся крокі і бразнулі жалезам прылады. Як заўсёды, яе Язэп — прыгожы, зграбны мужчына, таемная зайздрасць таварак — вярнуўся дамоў да надвячорка. Марыя ўстала, каб папярэдзіць мужа. Язэп зірнуў на яе і ўсё зразумеў.

— Бог паслаў нам сына, —ціха прамовіла яна.

— Я ведаю.

Марыя ўзяла збан, паліла мужу на рукі і падала ручнік. Язэп выцер рукі і твар, пераступіў парог і падышоў да калыскі. Ён глядзеў на немаўля, потым стаў на калені, нахіліўся і дакрануўся вуснамі да дзіцячай шчочкі. Марыя ўбачыла, як асвяціўся твар мужа.

— Не пабудзі, хай спіць — папрасіла яна.

Абое выйшлі на двор.

Звечарэла.

На небе над іхнімі галовамі ярка ззяла першая зорка.



## Мікола Бусел

Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Пружынішчы Рудабельскага раёна. Па адукацыі — настаўнік замежнай мовы. Працаваў у розных школах раёна. Марыў з дзяцінства, што стане народным пісьменнікам пасля таго, як набудзе друкавальную машынку. Перакладаў з іспанскай, грэцкай і італьянскіх моваў — як асобныя кніжкі, так і са зборнікаў, розныя артыкулы. Друкаваўся ў зборніку «Паветраны шар», у «Нашай ніве», друкаваў артыкулы ў розных газетах. Склаў невялікія слоўнікі — грэцка-беларускі, нямецка-беларускі, англійска-беларускі, з якімі можна азнаёміцца на сайце ТБМ.

Міхась Даніленка

# Дабрыня заўжды перамагае

*Абразкі*

## Памаранчавая небяспека

Калі адключылі правадное радыё, Кацярына Ігнатаўна па першым часе бедавала па ім. Раней перад тым, як гатаваць каву (яна амаль штодзённа варыла яе), абавязкова ўключала яго. Любіла слухаць песні, асабліва тыя, калі яны гучалі па заяўках слухачоў.

— Бабуля, а чаму ты сама не пашлеш заяўку на любімую песню? — аднойчы запытаўся ў яе ўнук Славік. — У цябе ж ёсць любімыя, ці не так?

Чаму? А і праўда. Не задумвалася над тым, што яна і сапраўды можа напісаць у радыёрэдакцыю і папрасіць, каб адшукалі для яе любімы твор, які яна памятае з даўніх гадоў. Унук як бы падштурхнуў яе да дзеянняў, і яна аднойчы наважылася тое зрабіць.

«Я — былая настаўніца, — пачала так пісаць ліст, — шмат гадоў адпрацавала ў школе. Вучыла дзятву любіць родны край, дапамагаць людзям… Нешта ў апошні час развялося шмат злыдняў, такіх, што пройдуць побач і пальцам не паварушаць, каб памагчы слабейшаму чалавеку, які, знясілеўшы, прысеў на лаўку…»

Кацярына Ігнатаўна падумала крыху і далей пачала пісаць. Слова за слова, і не заўважыла, як пачала пісаць падрабязна пра сябе. Апавядала, што калі маладзейшай была, то з ахвотаю слухала выступленні Азершчынскага народнага хору, якім кіравала заслужаны дзеяч мастацтваў Таццяна Карнееўна Лапаціна. Успомніла пра тое, як некалі, а дакладней, летам, калі яна, Кацярына Ігнатаўна, са старшакласнікамі запісвала народныя песні і паданні, ёй пашанцавала пабыць у тым казачным краі — у Азершчыне. То вялікая вёска паблізу Дняпра. І сустрэлася з кіраўніцай хору. І Таццяна Карнееўна расказвала вучням, што яна палюбіла народныя песні, як яе бацька ганяў плыты ва Украіну.

— Ад бацькі я і навучылася любіць песні. І вы, мае дзеткі, не цурайцеся ўсяго, што стварыў народ, — казала сівавалосая жанчына, — у нашых песнях — сіла народная.

Таму, заканчваючы свой ліст да працаўнікоў радыё, папрасіла: «Вы ўжо там пастарайцеся, дарагія, знайсці адну песню, якую спяваў Азершчынскі хор — а менавіта “Шчабятуху”».

— Будуць яны шукаць табе тваю «Шчабятуху», — амаль фыркнуў унук. — Мо яны яе і самі не чулі. Ім лягчэй Пугачыху паставіць ці Кіркорава, а для цябе…

— Пабачым, — прымірэнча прамовіла бабуля.

Аднойчы, як звычайна, Кацярына Ігнатаўна крутанула гузік прымача і пачула голас дыктаркі:

— Па просьбе нашай пастаяннай слухачкі перадаём жартоўную песню «Шчабятуха» ў выкананні Азершчынскага народнага хору.

Ёкнула сэрца ад радасці ў жанчыны, і яна адразу ж выгукнула:

— Славік! Дзе ты там? Ідзі хутчэй сюды!

У той час унук ладкаваў заплечнік з кнігамі — збіраўся ісці ў школу. Але адклаў зборы, прыйшоў да бабулі, якая сядзела ў мяккім крэсле і шчасліва ўсміхалася. Яна, мусіць, у гэты час была ў сваёй маладосці, твар яе асвятліўся, нібы яго кранулі промні сонца… Унук прытуліўся да яе галавой, радуючыся, што радыё задаволіла бабулеву просьбу…

— *А я лячу і шчабячу,* — прыемным голасам выводзіла спявачка, насалоджваючы душу былой настаўніцы.

З таго часу мінула шмат часу. Адключылі даўно тое дротава-праваднае радыё. Ніхто не ведае, чаму адключылі, чым яно замінала вясковаму люду. Але Славік купіў сваёй бабулі невялічкі прымач, які можна было ўключаць у разетку. Абрадаваў бабулю. Ды ўсё добра здавалася напачатку, але з цягам часу ў бабулі пагоршылася здароўе. Старая пачала горш бачыць, ды і слых пагоршыўся.

Сын, які жыў і працаваў у сталіцы, прывёз маці адмысловыя кроплі. Яна навучылася сама закапваць піпеткай вочы. Кроплі дапамаглі — стала выразней бачыць. Але праходзіў час, і зноў слабеў зрок. Раней за акном на галінкі ліпы садзіліся сініцы ці амялушкі, і яна чула іх шчэбет, а цяпер вочы падводзілі, не бачыла іх.

Бабуля засталася ў кватэры адна, унук яшчэ не прыйшоў са школы. Кроплі скончыліся, а ў запасе не было. І наважылася бабуля схадзіць у аптэку, якая знаходзілася недалёчка ад дома. Але не спяшалася, нечага марудзіла. Уключыла тэлевізар, хацела паслухаць, што скажуць пра надвор'е. Дыктарка акурат заканчвала зачытваць прагноз, але на заключэнне прамовіла:

— Папярэджваем: чакаецца памаранчавы ўзровень небяспекі. Будзьце ўважлівыя і па магчымасці не выходзьце з дому, асабліва гэта тычыцца людзей пажылога веку.

Яна не зразумела, пра што папярэджвала дыктарка. «“Памаранчавая небяспека…” Прыдумаюць жа, — падумала Кацярына Ігнатаўна з усмешкай. — Адкуль можа сыходзіць тая небяспека?..»

Паклаўшы ў кішэню рэцэпт на лекі, пакінула кватэру. У аптэцы тых кропель не было, аптэкарка прапанавала замяняльнікі. Яна пагадзілася. Выйшла на ганак, азірнулася. Падалося, што зноў вочы яе пачалі падводзіць: суцэльная шэрань вакол. Нечакана вецер шпурнуў ёй у твар прыгаршчы снегу, як быццам хто штурхануў у спіну. Жанчына здага-

дался адступіць назад і прытуліцца ў зацішку да сцяны. А завіруха не спынялася, яшчэ болей узлавалася і падкідвала ўгару снежныя воблакі.

«Пакуль не замяло дарогу, трэба ісці дадому, — падумала яна, — бо прыйдзе Славік, а мяне няма. Што падумае?»

Ступіла на адну прыступку, потым на другую. Ужо не зважаючы на снегакаламуць, пакрысе патэпала ў бок свайго жытла. А снег і сапраўды замёў сцежку, якой яна ішла да аптэкі. Ужо цяжка стала і перасоўваць ногі. Адчула, што стамілася, і побач не было лаўкі, каб прысесці і перадыхнуць.

«Вось што азначала тая “памаранчавая небяспека”», — запознена падумала Кацярына Ігнатаўна пра папярэджанне дыктаркі. Не знайшоўшы апірышча, прысела прама ў гурбу снегу. Як на тое, вуліца ўсцяж пуставала.

Колькі так сядзела, не ведае. Але пачула побач тупат ног і галасы людзей.

— Бабуля, вам блага?

— Вы не можаце падняцца?

Яна паглядзела на дзяцей, пажартавала:

— Якая я вам, дзеці, бабуля? Цётка я — Кацярына.

— Цётачка Кацярына, мы правядзём вас дадому — дзе вы жывяце?

Яна здагадалася: то былі старшакласнікі. З той школы, дзе вучыўся Славік.

Вучні падвялі Кацярыну да яе дзвярэй, развіталіся. Хацелі ісці да выхаду, але яна запыніла іх, пацікавілася:

— Скажыце, дзеткі, а ці не чулі вы такой песні — «Шчабятуха»?

Яны пераглянуліся, паціснулі плячыма:

— Не, не чулі.

— Будзе жаданне, знайдзіце і паслухайце. Песня пра тое, як людзям памагае дабрыня. І мне яна дапамагла, вашая дабрыня.

Калі ж дзеці пакінулі яе, падумала: «Людзей добрых больш, чымся кепскіх. І так будзе заўсёды… Дарэмна я ў лісце-заяўцы напісала пра кепскіх людзей».

І толькі пасля гэтага ўставіла ключ у адтулінку замка.

### Хадора

Гэтую хударлявую жанчыну ў бялюткай хусцінцы пачалі ўсё часцей прыкмячаць жыхары, што жылі непадалёк ад маласямейкі.

Амаль штораніцы з кошыкам яна падымалася на ўзгорак, на якім высілася школа, якая цяпер называлася гімназіяй. Далей, мінаючы яе, жанчына крочыла напрасткі да бліжняга рынку — Быхаўскага. Чаму яго так назвалі, ніхто не ведаў, бо да самога Быхава было больш за дзвесце кіламетраў.

Ля рынку на сонцы паблісквала залатымі макаўкамі цэркаўка. Хто яе бачыў у той момант, мусіць, думалі: «У храм спяшаецца кабета — памаліцца хоча…»

Але людзі памыляліся. Хадора (так звалі жанчыну, але насамрэч яна была Фядорай Варывончык) хадзіла ў царкву, але не так часта. Абавязкова клала якую тысячу рублёў тым, хто жабраваў на цвінтары. Найбольш тут сядзелі калекі ці інваліды, астатнія баяліся ўчастковага. Ён часта правяраў тых, хто гандляваў на ўскрайку рынка.

Жанчыну пасяліла ў маласямейцы дачка Ірына. А перабралася да дачкі Фядора тады, калі памёр муж. А разам з ім вымірала і вёсачка, у якой засталося каля дваццаці падворкаў. А потым і трое жыхароў засталося. Хаця калі шчыра, то і ў бліжэйшым гарадку яно асабліва не віравала.

— Чаго табе, мама, мадзець-пакутаваць адной? — угаворвала яе Ірына. — Пераязджай да мяне. Утрох памесцімся. Там і да рынку рукой падаць. А мне ж будзе весялей з маёй Танькай.

Упарцілася, не хацела ехаць на «даччын мёд», але на трэцюю вясну пагадзілася.

— То і праўда. І за Танькай прыгледжу, пакуль ты дзяжурыць у бальніцы будзеш.

І стала жанчына жыць у маласямейцы. Быццам бы ў горадзе жыла, а звычак сваіх вясковых не цуралася, ніяк не магла прывыкнуць да новага месца і людзей. Аднойчы, як ішла на той рынак, здзівілася, убачыўшы людзей на пустым полі. Там варушыліся кабеты і мужчыны, былі і дзеці, ўсе з рыдлёўкамі. Прыгледзелася і зразумела: ішла пасадка дрэў. І кволенькія дрэўцы ўбачыла — стаялі воддалеч, звязаныя ў адно шнурком.

«Асенняя пасадка, — здагадалася Хадора, — восенню найлепш прымаюцца…Так некалі рабінкі я садзіла ля сваёй хаты…»

Здзівілася хіба з таго, што за адно дрэўца трымаліся… тры чалавекі. Хадора ля сваёй хаты садзіла вяргіні і мальвы — цэлы кветнік разбівала. Любіла вельмі тыя кветкі.

— Бог вам у помач! — падышоўшы да людзей, прамовіла Хадора.

Але ніхто, на дзіва, не падняў галаў, не зірнуў на дзівачку ў шэрай хустцы. Яна моўчкі пакінула іх, пайшла сваёй сцежкай, не азірнуўшыся на панурых людзей.

Стаяла засушлівае лета. Калі ж праз тыдні два Хадора зноў тупала нацянькі ад храма Іверскай Божай Маці, то ўбачыла, як на тым пустэльным полі кабета-дворнічыха выцягвала з зямлі засохлыя пруцікі дрэўцаў. Вырывала і складвала ў адну кучу. Хадора спынілася, уражаная відовішчам. Дворнічыха сама падышла да Хадоры.

— Чаму ж не палівалі дрэўцы?

— Ішла б ты, цётка, сваёй дарогай, — буркнула незадаволена кабета. — І без цябе на душы моташна… Улады загадалі тут нейкі парк раз-

біць у гонар нейкага расейскага ваякі, і на гэтым усё спынілася. А нам ён нашто, той іх ваяка?

Хадора пахітала згодна галавой, пакінула поле.

Спяшалася да рынку. У хатульку яна несла наедак для бяздомных коцікаў, якія чакалі яе. Падумалася: «Добра, што міліцыянту было не да тых катоў…»

Дзень убіраўся ў сілу.

### Птушкам усё бачна

У апошні год дачка вывозіла яго на балкон.

Каляску на лёгкіх гумавых колах сын прывёз Антону Іванавічу з Нямеччыны. Паслалі сына туды ў камандзіроўку, ну сын і падумаў пра бацьку, які пакутаваў без такога «транспарту». Зайшоў у дабрачынную арганізацыю, паказаў бацькавы паперы.

Сядзіць ветэран на балконе, аглядае наваколле. З дванаццатага паверха яму адкрываецца цудоўная панарама горада. Унізе гудуць легкавікі, фыркаюць дымам, ад'язджаюць і прыязджаюць. Да яго балкона далятае той смярдзючы пах, і ён туліцца да сцяны, каб хоць неяк меней нюхаць тое атручанае паветра…

— Можа, цябе назад, тата, адвезці ў залу, — заглядвае да яго дачка, быццам адчуўшы яго стан і настрой, — шмат машын сёння на пляцоўцы.

— Не, дачка, не трэба. І я, дачка, падумаў пра тое ж: чаму столькі транспарту скапілася сёння ля нашага пад'езда?

— Ведаю, чаму. Першага верасня, навучальны год пачынаецца. Вось і прывозяць бацькі сваіх дзяцей у гімназію.

— Зразумеў. Перацярплю неяк…

Непадалёк ад іх «каробкі», на пагорку, месціўся трохпавярховы будынак школы. Не, ужо не школа… Раней яна, як і ўсе ў горадзе, была школай. Па нечыім загадзе нечакана ператварылася ў гімназію. А потым з'явіліся яшчэ і ліцэі. Былі інстытуты (сын заканчваў адзін з іх), а цяпер з'явіліся ўніверсітэты. Быццам ад гэтага выпускнікі набывалі больш ведаў. Не разумеў таго Антон Іванавіч, не разумеў…

— Вось я, Нінка, і думаю: ці болей за гэты час стала сярод нас разумнейшых людзей?

— Ну, бацька, пачалося… — дачка незадаволена нахмурыла бровы. — Табе ўсё не даспадобы… Час такі настаў. Наперад рухаемся.

— А не назад? — удакладніў ветэран.

— Не ведаю… Але мне трэба, бацька, на дзяжурства ў бальніцу. Вытрымаеш тут адзін, пакуль я вярнуся?

— А мне што — харчы ёсць, у лядоўні ўсё, што трэба. Едзь сабе спакойна, не турбуйся.

Дачка пачала пераапранацца. Потым нешта клала ў сваю валізу, прыхапіла з сабой парасон — на вуліцы пачынала псавацца надвор'е, а потым пачуў, як шчоўкнула засаўка замка. І ў хаце стала зноў ціха.

Колькі ён думак перадумаў, знаходзячыся на тым балконе! Колькі відовішчаў перагледзеў, знаходзячыся на вышыні птушынага палёту! Птушкі не залятаюць вышэй за дванаццаты паверх, унізе махалі крыламі. Колькі гадоў дабіваўся, каб яму выдзелілі тую каляску. Яму хацелася на вуліцу, падыхаць паветрам, перакінуцца словам з людзьмі, з ветэранамі вайны, распытаць, дзе хто ваяваў…

Тыя ж немцы, з якімі ён ваяваў, і падбіў не адзін фашысцкі танк, і надзялілі яго той інваліднай каляскай. У якасці гуманітарнай дапамогі. Абрадаваўся былы танкіст, марыў ужо, як яго дачка ліфтам спусціць на першы паверх, як выкаціць па дарожцы на лужок…

Але аказалася, што будаўнікі не прадугледзелі тое, што ў доме могуць быць калекі ці інваліды: па прыступках Ніна не магла скаціць каляску… Паспрабавала, але не здолела. Села на прыступку і заплакала… Змірыўся з часам, усцешвала хіба, што балкон быў, з якога ўсё відаць. Відаць будучае, відаць мінулае… І ўжо як найвялікшае шчасце ўспамінаў той час, калі за тры кіламетры хадзіў у школу. Зрэбную сумачку на плячо — і ў дарогу! Зусім жа малым яшчэ быў. Бацькі не баяліся пускаць яго аднаго, каб ён перабег грэблю. А ён мог спыніцца і доўга слухаць спеў птушак. Як яны тады хораша спявалі!

Яго ніхто не падвозіў да школы, як гэтых вісусаў. Дзеці неяк ляніва і неахвотна вывальваліся з «вольваў» і «мерседэсаў» і пляліся, як пад прымусам, у сваю гімназію. Кім яны вырастуць, калі скончаць вучобу? І хто з іх стане сапраўдным чалавекам? І ці не заслоніць іх розум прага здабываць даляры? Яму з вышыні птушынага палёту тое бачылася яскрава і дакладна — вышыня ніколі не падманвала. Падумаў толькі: «Мае думкі і прагнозы — нішто. Усё размяркуе Бог — усё Яму падуладна…»

… Антон Іванавіч памёр ціха, як і жыў.

Нялёгка давялося яго спускаць з верхняга паверха. І ніхто з тых парасткаў-гімназістаў, перад якімі ён выступаў напярэдадні Дня Перамогі, не пацікавіўся, каго гэта выносяць на коўдры з іх пад'езда.

Яго, сядзячага, так і выносілі, быццам ён прыкіпеў да танкісцкага сядзення і працягваў ваяваць з ворагам.

Як кажуць, амінь яму! І — вечная памяць!



## Міхась Даніленка

Нарадзіўся 28 кастрычніка 1922 года ў вёсцы Ястрабка Лоеўскага раёна. У 1941 годзе скончыў Рэчыцкую педагагічную вучэльню і быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях на Паўднёва-Заходнім фронце. У траўні 1942 года непадалёку ад станцыі Мікалаеўка (Украіна) быў кантужаны і трапіў у палон. У сакавіку 1944 года уцёк з лагера ваеннапалонных. У жніўні 1945 года служыў у Савецкай Арміі. Затым працаваў настаўнікам Казярожскай сямігадовай школы Лоеўскага раёна. Скончыў завочна Гомельскі настаўніцкі інстытут (1952). У 1952–1982 гадах — супрацоўнік газеты «Гомельская праўда». Сябра СП СССР з 1950 года. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Першае апавяданне надрукаваў у 1940 годзе. Аўтар зборнікаў аповесцяў і апавяданняў «Мая песня» (1952), «Майская навальніца» (1959), «Наваселле» (апавяданні і нарысы, 1964), «Наш дом» (1971), «Запаветны акіян» (1972), «Маці Мар’я» (1976), «Журлівіца» (1980), «Родная зямля» (1982). Выдаў кнігі прозы для дзяцей «Вернасць слову» (1956), «Зачараваны гарлачык» (1961), «На вуліцы Сонечнай» (1963), «Ключы бабулі Зімы» (1986). З 1983 года жыве ў вёсцы Багатая Града Лоеўскага раёна і ў Гомелі.

## Юльяна Пятрэнка

# Эбенавае сэрца

Аднойчы мы з Сашкай улезлі ў чужы дом. І пакуль я важдаўся з замком сакрэтніка, яна прымярала ўжо на сябе сукенкі і капелюшы гаспадыні. Тады я паабяцаў, думкава паабяцаў, што ўсё гэта ў яе абавязкова будзе: і шафа з футрам і аксамітнымі сукенкамі, і скрыня з панчохамі і батыставай бялізнай, і нават куфэрачак з пацеркамі, завушніцамі і пярсцёнкамі, якіх у тутэйшай гаспадыні не выявілася — мабыць, напышлівая гусыня забрала ўсе каштоўнасці з сабой. Сашка доўга круціла незвычайную скрыначку ў руках — драўляную і чорную, нібы выробленую з вугалю ці агату, якую так і не адважылася ўзяць.

Знойдзеныя ў кватэры грошы прагулялі адразу: спярша паабедалі ў рэстарацыі «Савой», дзе афіцэры і знатныя спадары ганялі на більярдзе шары і вадзілі ў асаблівыя нумары асаблівых дзяўчат; потым забеглі ў адзіную на ўвесь горад фотастудыю, дзе зрабілі сумесную картку, затым я вярнуў Гуцулу картачны доўг і набыў для Сашкі каробку халвы ў Турэцкай кандытарскай ды блакітны шалік на базарнай плошчы. А можа, ружовы. Ці ліловы… Не памятаю… Даўно тое было.

Цяпер я зноў іду да яе. Без кветак, цукерак і шалікаў. Затое з сэрцам, якое так прыемна халодзіць руку і грэе душу, лежачы ў кішэні паліто.

Паліто кашміравае, атласны гальштук, начышчаныя да бляску новыя чаравікі і модная, на прабор, стрыжка.

А ў Гомелі пануе вясна: шаўковым абрусам раскінулася бяскрайняе неба, бесклапотна гуляюць у ім белымі напарсткамі залётныя аблокі; на лаўках жмурацца ад яркага сонца лянівыя каты, каля якіх смела скачуць па лужынах шумныя вераб'і; абганяючы адно адное, цягнуцца да святла першыя зялёныя галінкі. Соладка пахне вільготнай зямлёй і леташнім прэлым лісцем. А ў кішэні тахкае ў такт крокам гладкае прахалоднае сэрца.

Вада ў рацэ зусім паднялася… Ажно да каменнай альтанкі, у якой мы штовечар сядзелі з Сашкай і назіралі, як снуюць па Сажы лодкі і параходы. Хутка па набярэжнай зашпацыруюць разам з бацькамі прыбраныя дзяўчаты на выданні, праводзячы гарэзлівымі позіркамі афіцэраў і сынкоў заможных купцоў, а над вадою разнясецца празрысты смех шумнай моладзі, што бітком набіваецца ў новыя, пахучыя смалой лодкі…

Ад Сажа я напрамкі пакрочыў да Іллінскага спуску праз Кагальны роў — засяроджанне гарадской галечы, адкуль я і сам, чаго хаваць, быў родам. Напаўразваленыя хацінкі ляпіліся тут упрытык, адна да адной. Крывыя сцены і гнілыя платы, вузкія вулачкі-лабірынты, што пятлялі па дне яраў і лагчын, з канавамі для сцёкавых вод і бруду. Нічога не

змянілася тут за апошні час — я добра памятаў «Гомельскую Малдаванку» — цёмныя смуродныя завулкі з жабракамі і дрэнна апранутымі жанчынамі, якія прадаюць сябе за келіх моцнага напою, ды падпольныя шынкі, поўныя нецвярозых галаварэзаў, што гуляюць у карты ды косці.



А за пагоркам Фельдмаршальскай, дзе Гамяюк зліваўся з Сажом, хавалася за высокімі варотамі халодная і крывадушная раскоша — з крамамі, банкамі, багатымі сядзібамі і княжацкім палацам, з квітнеючымі ў аранжарэях ружамі, выпешчанымі конямі і задаволенымі жыццём сабакамі. Там, за кронамі раскідзістых ліп, лілося ракой французскае шыпучае віно і кідаліся на вецер грошы, словы і абяцанні…

Калі з цёмнай аркі вынырнуў вуглаваты цень, я мімаволі ўздрыгнуў, адпусціў сэрца і схапіўся за браўнінг — цяпер я не бязродны басяк, даўно нашу ў кішэні рэвальвер замест нажа-выкідухі.

— Якія людзі! Кара-а-ась! Ці ты гэта? — ступіў насустрач даўгалыгі няголены хлопец у зашмальцаванай скуранцы і пакамечаным кепі, у якім я пазнаў старога сябра Цыруля (мянушку ён атрымаў пасля таго, як у бойцы на Замкавай яму парэзалі вуха, я ж быў Карасём толькі за тое, што мянушка была сугучнай з маім імем). Цыруль шырока раскінуў рукі і палез абдымацца:

— Карасік, браток! Колькі часу цябе не бачыў?! Надоўга да нас? — затрос ён маю руку. — Вох, бач ты, фраер які! Вялікім, кажуць, чалавекам у Кіеве стаў!

— Вялікім не вялікім — на хлеб з маслам хапае…

— Хадзем, раскажаш, — Цыруль схапіў мяне пад руку, ад яго сыходзіў вінны смурод, — тамака на Кавальскай новую карчму адчынілі…



— Іншым разам, — выкруціўся я. — Як нашы? Грынь, Кастыль, Лысы?

— Ашалееш, як даведаешся! — Цыруль сцішыў голас. — Паціху выбіраемся з нашага рова на паверхню, калі не лічыць Кастыля, што сканаў узімку ад тыфу. Фрыца помніш? На днях узарваў на замкавым мосце пралётку сабакі-прыстава. Ды ў нас тут стачкі з мітынгамі, што будзь здароў! Чысцей, чым у тваім Петраградзе! Баявая рабочая дружына! Ага! І канспіратыўная кватэра маецца.

Меліціту з Кіева дастанеш? Для бомбаў… Эсэры ды мясцовыя анархісты добра плацяць — гайда да Фрыца, дамовімся! Я ў долі!

— Усё потым, Цыруль, пазней. А Сашка, Сашка што?

— Бяляўская? Лепш не пытайся, братку. Яна больш не з намі.

— Што з ёй? — схапіў я Цыруля за шматкі. — Жывая?

Ён піхнуў мяне ў грудзі і сплюнуў скрозь зубы:

— Ды лепш бы здохла. Шмара твая Сашка. Падсцілка белагвардейская.

Я зноў усунуў у кішэню руку, каб намацаць браўнінг, але ў далонь скокнула прахалоднае сэрца. Цыруль стаяў і сушыў зубы, нахабна паглядаючы мне ў вочы. Я маладушна прайшоў паўз яго, адпіхнуўшы плячом.

Белыя, чырвоныя… Вашывыя Ёркі і сраныя Ланкастэры… Самі няхай разбіраюцца. Пляваць мне на іх з Румянцаўскай вежы… І Сашка няхай падалей трымаецца ад меліцітавых бомбаў і гэтых дзяржымордаў, якія толькі ўчора рэзалі адзін аднаму кішэні і глоткі, а сёння б'юць сябе кулаком у грудзі і мецяць у рабочыя дэпутаты…. Так і скажу ёй. Загадаю… Хаця, па праўдзе сказаць, Сашка ніколі мяне і не слухалася — узрослая, як і я, без бацькоў на дне Кагальнага рова, яна прыходзіла і сыходзіла, як котка — калі ёй уздумаецца. Грэлася каля «буржуйкі», ласавалася печанай бульбай, жартавала, лашчылася, паклаўшы сонную бялявую галаву на калені, і часам выпускала кіпцюры — білася, як сапраўдны хлапчук. Тады нам было па пятнаццаць…

Я збочыў на Ветраную вуліцу і паскорыў крок. Праходзячы паўз сядзібу Фруміна, гаспадара чыгуналіцейнага завода, па старой звычцы шыбнуў у вароты камень — мы заўсёды гэтак рабілі, калі вырас вялізны паркан і біць вокны стала немагчыма. Там жа, у кветніку пад варотамі, наскуб першых жоўтых прымул. Крывая Сашчына хацінка, што засталася ёй у спадчыну ад глухой бабці-алкагалічкі, аказалася забітай. Мне стала вусцішна. Не атрымаў жа ні аднаго адказу на свае лісты… У суседнім двары забрахаў сабака, высірнула з расчыненага акна кучаравая жаночая галава:

— Та шо вы все тута шляетеся та шляетеся? Или мёдом намазано? Таки идите кушать креплах отсюда! И забор, и крышу — всё мне на дрова обещано!




— Цётка Рахель! — узрадаваўся я, пабачыўшы знаёмы твар. — Гэта я, Адась!

— А шоб ты долго жил! — прыжмурыла блізарукія вочы кабета. — Адась-Карась! Шоб мне лопнуть, финансист наш недоученный!

— Не фінансіст, а коміваяжор.

— Таки да, из грязи да в князи! Жди, голубчик, сейчас выйду…

— Ды не, не трэба. Я да Сашкі! Дзе яна?

— От же ж, хатихат хара! — пляснула ў далоні жанчына. — Давненько никто не видел! Поговаривали, что увёз её военный во-о-от с такими усищами! Ну сущий красавец! Увёз и убил, с моста замкового сбросил. Да врут всё, типши навозные, потому как Оська рябой своими собственными глазами, шоб они повылазили, када на мою яблоню зарится, бачил белявку в «Савое», разодетую, мол, разукрашенную, как та лялька. Та не, таки как шлюндра. От так и сказал, шоб не сойти мне с этого места!

Кінуўшы ў бруд прымулы, я пабег па вузкіх, засланых драўлянымі масткамі вулачках наверх. Чамусьці ўспомнілася рэстарацыя, хмельныя афіцэры і «асаблівыя нумары». Булачная, Турэцкая кандытарская, гімназія, банк — я бег на злом галавы, мінаючы разнамасныя будынкі і палохаючы прахожых. У кішэні трывожна трымцела сэрца.

— Дзе Саша? — уляцеўшы віхрам у рэстарацыю, я ледзь не схапіў за шматкі падавальшчыка, які праз доўгі чорны фартух нагадваў грака.

— Что вам угодно? Какой Саша? — змераў мяне халодным позіркам смуглявы хлопец.

— Саша Бяляўская!

— Госпожа Александра Даниловна сегодня не заходили-с. Возможно, к ужину явятся.

З душы камень зваліўся — значыць, жывая-здаровая! Ні ў рове, ні ў палацы, ні ў рацэ з вусатым ваенным. Усё будзе добра. Павінна быць.

— Дзе яе знайсці?

Падавальшчык агледзеў маё кашміравае паліто, беласнежную кашулю і атласны гальштук, начышчаныя да бляску чаравікі, модную, на прабор, стрыжку і застаўся задаволеным. Накарабаў на паперцы адрас і перадаў мне з просьбай пацікавіцца, ці дастаўляць сёння зефіру і халвы.

Блакітны домік з белымі калонамі размясціўся акурат за аптэкай, хаваючыся ад старонніх вачэй у зарасніках бэзу, на якім пачалі ўжоналівацца сакавітыя пупышкі. У маладой даме, якая вызірнула з прыадчыненага акенца, я не адразу пазнаў Сашку. Тонкую талію сціскалі ў абдымках тугія складкі аксаміту, далей, да самай шыі, прасціралася белая блуза з радком дробных гузікаў і шырокімі рукавамі. Вочы знаёмай незнаёмай дамы ўсё гэтак жа блішчэлі агатавымі пацеркамі, толькі нашмат мякчэй — зусім не як у зацкаванага звярка, як некалі; толькі попельна-русыя валасы ледзь закрывалі вушы…

— Навошта ты абрэзала косы? — як дурань, адразу запытаўся я.

— А? — Дама зірнула ўніз, і на шчоках адразу з'явіліся ямачкі. — Адасік…

— Так, ён самы. Саш, я хваляваўся… Ты атрымлівала мае лісты?

— Адасік… Я так рада бачыць цябе, — яна апусціла мяккую руку і растрапала маю модную, на прабор, прычоску. — І не пазнала б…

— Ды і цябе, па праўдзе сказаць, пазнаць цяжка. Стала сапраўднай царыцай… Слухай, Сашка, злазь! — працягнуў я рукі па старой звычцы, каб дастаць сяброўку з чужога акна. — Раскажаш, як у людзі выбілася… Прагуляемся.

— Навошта?

— Ну як… Дзяцінства ўспомнім.

— Няма чаго ўспамінаць, Адась. Жахі Кагальнага рова больш не сняцца мне.

— Ты… Ты замужам? — зглытнуў я.

Сашка азірнулася па баках і схавала светлую пасму валасоў за вуха:

— Ведаеш Шановіча? Адзін з самых заможных людзей горада…

— Канешне, ведаю. Саш… Ён падманвае цябе. У яго і жонка, і дзеці. Ды і стары занадта — у бацькі табе падыдзе.

— Які ты дурненькі, Адасік…

— Саш… Ну, Саш? Давай выходзь, кінь дурное. Ну іх усіх! Махнём у Кіеў, зажывём як людзі! У мяне і праца сапраўдная, і кватэру здымаю — да Дняпра тры крокі! Драўнінай займаюся, мэбляй там… І вось, вось што! — я паклаў руку ў кішэню. — Помніш, цябе здзівіла чорная драўляная шкатулка?

— Не помню, Адась.

— Ну як жа, у тым доме, што за ювелірнай крамай, ты яшчэ мерала смешныя капелюшы з пёркамі.

— Не помню, — суха адказала яна.

— Як не помніш? Потым мы ў «Савоі» былі, потым сфатаграфаваліся разам, а пазней нашыя тварыкі я ўставіў у медальён! Паглядзі, сам выразаў! — я вывудзіў з кішэні кашміравага паліто сэрца на атласнай стужцы — чорнае, як вугаль.

Сашкавы вочы зрабіліся такімі ж халоднымі і матавымі.

— Ведаеш, што за дрэва? — працягваў лапатаць я. — Эбенавае! Уяві, з Афрыкі прывезлі, дзе жывуць такія ж чорны людзі! Цэніцца амаль як золата! Я табе столькі ўсяго пра драўніну раскажу: і пра сібірскую лістоўніцу, і пра бразільскі арэх, і пра ціс, і пра кедр! Ты пойдзеш са мной?

— Я не помню. Нічога не помню: ні капелюшоў, ні шкатулкі, ні фотакарткі, ні кагалаўскіх басякоў накшталт цябе, — Сашка з трэскам зачыніла акно, скалыхнулася за халодным шклом сапраўднае залатое сэрцайка на яе тонкай шыі.

У кашміравым паліто, атласным гальштуку і новых блішчастых чаравіках я клыпаў паўз аптэку, рэстарацыю, банк, гімназію, булачную і Турэцкую кандытарскую да набярэжнай Сажа, як мага далей абыходзячы палацы і раскошныя вуліцы з ілюмінацыяй, паркамі і скверамі, якія забралі ў мяне Сашку і навучылі шчодра, разам з манетамі, кідаць у фантаны абяцанні, словы і пачуцці.

Вечарэла. Азяблая вясна, што марудзілася на стрэхах і ў брудным счарнелым снезе пад платамі, больш не хвалявала мяне. Гарлалі варо-

ны, ціснуліся да плятнёў худыя аблезлыя каты. Пад нагамі чвякала гразюка, з зямлі ўзнімаўся даўкі гнілаваты пах. Над галавой цяжкім катлом навісала неба, а ў кішэні бразгала мёртвае халоднае сэрца. Сэрца, якое нарадзілася на засланым драўлянымі масткамі дне Кагальнага рова, за спарахнелым драўляным плотам, у крывенькай драўлянай хацінцы, — больш не заквітнее і не дасць парасткаў.

На набярэжнай пакрысе збіраліся людзі, чакаючы апошні параход на Кіеў. Я ступіў на дашчаны памост і зірнуў у чорную ваду, якая закручвалася ўнізе пеннымі вірамі. Дастаў з кішэні браўнінг і ўглядзеўся ўдалячынь, дзе над ракой уздымаўся туман. Цікава, а маё цела даплыве да Кіева? Ці не дасягне нават Дняпра, зачапіўшыся за стары корч?

Не, я не хачу, каб з чорных, як вугаль, вачэй ліліся слёзы ад успамінаў пра існаванне Кагальнага рова і яго жыхароў — калі за сняданкам у «Савоі» попельна-русая дама з блакітнага доміка зазірне ў ранішнюю газету.

Рэвальвер вярнуўся ў кішэню, а чорнае халоднае сэрца паляцела ўніз, павольна апускаючыся на самае дно, глыбей, чым дно Кагальнага рова. А я і не верыў, што эбенавая драўніна цяжэйшая за ваду…

## Матыль

> — Стаўры, Гаўры, гам! — гэта заклік беларусаў на Дзяды да сваіх продкаў. Лічылася, што гэтыя словы адчыняюць, змяняюць прастору, дапамагаюць продкам пранікнуць у наш свет.

Тонкім, амаль празрыстым крыльцам было нялёгка супрацьстаяць ветру, што так і намагаўся кінуць то ў адзін, то ў другі бок. Палёт матылька здаваўся першым — крывым і нязграбным.

Арыентавацца ў густой цемры было цяжка, збівалі з панталыку вострыя пахі зямлі, прэлага лісця і гаркаватай сасновай кары. Недзе наверсе ззялі халодныя зоркі, але выбрацца з-пад калматых пераплеценых галін і ўзняцца над гаем было няпроста.

Дзе?.. У якім баку знаходзіцца гэтае месца, такое роднае і блізкае некалі?.. Наўкола адно глухая восеньская цемра, якая цягнецца касцістымі рукамі з усіх бакоў, нібы жадаючы раздушыць, змяць белыя пяшчотныя крыльцы. Наперадзе заззяла выратавальнае святло, і крылы самі панеслі на яго, абмінаючы вяршыні елак і не баючыся заблукаць. Ужо не заўважалася нічога навокал: ні тужлівая ноч, ні колкі шалёны вецер. Толькі б даляцець, не збіцца са шляху, не згубіць зрокава прываблівы трапяткі агеньчык… А вось і знаёмы хутар: стары дашчаны плот, хатка са спічастым дахам і цагляным комінам… Нічога не змянілася тут з мінулай восені.

Матыль кіраваў на надворак паўз старую яблыню, студню, ганак з высокімі разьбянымі парэнчамі на дрыготкае і таямнічае святло свечкі, якую трымаў малады гаспадар.

Такі знаёмы, да кожнай рысачкі, ён стаяў у накінутым на плечы кажусе на парозе адчыненых дзвярэй, з хаты патыхала цяплом і ванілінам, і выразна шаптаў:

— Стаўры, Гаўры, гам! Міска з канунам гатовая, чарка на лаве мядовая — ідзі, мой дзедзе, па светлым следзе…



**Юльяна Пятрэнка**

Нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка (Мінск), па адукацыі сурдапедагог. Працавала ў школе для дзетак з парушэннямі слыху, у садку, у цэнтральнай бібліятэцы Гомеля. Зараз працуе ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, займаецца сакратарскімі паслугамі і перакладамі. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Нёман», «Дзеяслоў».



# ПЕРАКЛАДЫ

**Іосіф Бродскі**

## Спеў без музыкі

*F. W.*

Калі ты ўспомніш пра мяне
ў чужым краі — хоць гэта слоўка
ёсць толькі выдумкай, а не
прадбачанне, пра што для вока,

што абаронена, аднак
слязою толькі: тыя даты
ты з прорвы віру аніяк
не выцягнеш — дык вось калі ты

за далеччу зямель і за
марамі, нібы эпілогам
(хаця даводжу, што сляза,
за выключэннем ад былога,

усё змяншае) пра мяне
успомніш ўсё ж у тое Лета
ды з Богам уздыхнеш — ты не
ўздыхай! — калі агледзіш гэта

бязмежжа мораў ды палёў,
разлеглых паміж намі, ты не
заўважыш, што натоўп нулёў
сама ўзначаліла. І ці не

твой гонар, ці асліплы я
таму прычынаю, што рана
пра гэта гаварыць, ды як
мне сёння дзіўна, нечакана,

што ўвесь ў пазыках дазвання,
цябе так кепска засланяў я
ад горшых бед, цяпер, аднак,
нас гэты клопат абмінае.

Наступнасць толькі форма цьмы,
з начным спакоем параўнальна.
У будучым, якое мы
спрабуем уявіць старанна,

аднак сказаць хаця б адно
у стане зараз я напэўна:
што паасобку ў тым кіно
з табой там быць, я чую, пэўна

яно ужо настала — рык
пургі, і што ператварае
у процьму словаў гэты крык —
то знак, яно ўжо нас вітае —

ў той будучыні маем штось,
што здольна нас суцешыць, можа
ў маіх прароцтвах тое ёсць,
што уявіць нам дапаможа,

бы ў казках Шахразады, з тым
адрозненнем, што гэта болей
пасмертны, а не просты, чым
яе страх смерці, ці дазволіш

цяпер жа мовай дарагіх
асін цябе суцешыць; і прывідам
на снезе цені хай ад іх
натоўпам, бы трыумф Эўкліда,

пяе аб дваццаці васьмі
магчымасцях — і кропляй-слёзкай
узброіш зрэнку, і вазьмі
пяро і ліст паперы тонкай

і перпендыкуляр стаўма
ўзвядзі, як воблакам падпору
між нашымі з табой дзвюма —
так, кропкамі: бо мы там скора

паменшымся, і, знае Бог,
зусім нябачнымі мы станем,

аддзячым Богу — ён жа змог
зрабіць нас кропкамі; расстанне —

яно працягам той прамой
і прагне так сустрэчы пара
каханкаў — твой пагляд і мой —
к вяршыні перпендыкуляра

падымецца, ды не знайсці
прытулку, акрамя вышыняў;
ды ў скронях боль не адпусціў;
ці не трыкутніка вяршыня?

Мо разглядзець малюнак той,
які, магчыма, іншым часам
пацець бы змусіў нас з табой,
і вар’яцець, і лезці разам,

прачнуўшыся, пад кран з вадой
каб розум злосць не спапяліла;
калі ж ад горшай долі той
нас захавала, засланіла —

ад рэўнасці, прыкмет, камет,
ад чараў, псотаў, заклінанняў —
тады, відаць, што на прадмет
ягоных копій малявання.

Разгледзім жа. Ўсяму свой лад,
пакалькі цесната, аслепласць
абдымкаў — хіба не заклад
нябачнасці ў расстанні — значыць,

хаваліся ў сабе мы ад
прасторы, і былі мяжою
лапаткі нашыя. Назад
яна вяртае нам з табою

адступнасці; пяро схапі
ды чыстую паперу — сімвал
прасторы — уяві, складзі
прапорцыю — бо хопіць сілы

усю прастору уявіць:
наш свет абмежаваны ўладай
Стваральніка: хай не закрыць
табу паднебным, дык пажадай

паднебнай — уяві, аднак,
прапорцыю, што проста легла
між намі — да ўсяго ліста
і карту падкладзі для лепшай

нагоды, раздзялі чарцёж
на градусы, ўмясці надзейна
яе даўготы — ўбачыш, што
жыццё й каханне непадзельны.

Няхай той рысы даўжыня
вядома нам, а нам вядома,
то — выгляд пары і яна
пазбаўлена не толькі дома,

а нават месца для сустрэч,
і калі гэта меркаванне
беспамылкова — насамрэч
хай перпендыкуляр паўстане,

узведзены, то сума тых
пранізлівых паглядаў, і на
падставе дзіўнай моцы іх
убачыцца яго вяршыня

у межах стратасферы — ды
паглядаў двух недастаткова
для большага, пагляд тады
узняцца да вяршынь гатовы.

Так промень тых пражэктароў,
варожы вэрхал аглядзеўшы,
у цемры ночы цэль знайшоў,
вышэй аблокаў узляцеўшы;

іх мэта — не мішэнь салдат:
яна для іх бы дапамога
люстэркам тым, куды глядзяць
калі адзін ды на другога

баяцца глянуць; толькі мне —
я катэт, што нябачны, нéмы,
бяруся даказаць табе
банальнейшую тэарэму

зваротную, праз боль вачэй
даказаных не раз у жаху —

дыктуе лёс знайсці хутчэй
куток, дзе можам быць без страху.

Дык вось яно, што ёсць у нас.
Надоўга. Назаўжды. Балазе
няхай няўлоўнае, аднак
ў матэрыі. Ці даляглядзе.

Вось месца той сустрэчы. Грот
паднебны. Ў воблаках альтанка.
Прытулак файны. Быццам род
кутка; найлепшая схаванка.

Таму, што нас за ўсё хутчэй
ніхто там не заспее. Гэта
уласнасць нашых жа вачэй,
бо не знайсці бліжэй прадмета.

Гадамі, бо няма дзе да —
да смерці нам спаткацца болей,
мы да абжытага гнязда,
туды нясём па роўнай долі

скарб думак, адзіноты, хлам
нявымаўленых словаў — тое,
што назапашанае там,
у нашым месцейку, якое,

пазначанае, будзе мець
амаль рэальнае аблічча,
амаль што зоркай зіхацець,
і ззянню ў хмары не згубіцца,

не знікнуць ім — бо сам Эўклід
пры суме двух кутоў і змроку
нам трэці хоча падарыць,
а значыць, мы да шлюбу ў кроку.

Нам тое дадзена з табою.
Да скону. Назаўжды. Надоўга.
Адтуль хоць бачныя абое —
не бачым мы адно аднога.

Так будзе уначы і ўдзень,
хоць Захад дый Усход далёка,
відаць, нарэшце мы пачнем
ад гэтага залежаць вока

відушчага. І як бы дзень
ні кідаў цемру ды за краты,
ўлучы відушчы той прамень
ў свой новы гараскоп, пакуль што

празорлівае вока слоў
не стала разумець. Расстанне
ёсць сума нашых трох кутоў,
а нашая пакута стане

той формай прыцягнення іх
адно да аднаго; намнога
яна мацней ад форм другіх,
дакладней, што мацней зямнога.

Схаластыка, ты скажаш. Так,
яна, і ў хованкі з бядою
без сораму прыкмет, аднак
гульня. Ды й зорка над вадою —

што ёсць яна, як не (дазволь
ужыць высокі стыль, каторы,
відаць, не ўхваліш ты) мазоль,
святлом нацёрты у прасторы?

Схаластыка. Амаль. Ці не.
Магчыма. Дык пабач ў адказе
ты згоду. А скажы, што не
схаластыка у гэтым часе?

Бог ведае. Калі засну,
я бачу за акном сканчэнне
зімы; і не відаць вясну:
ноч хоча аддзяліць значэнне

для тых наступстваў. У мазгу
ўсё нейкія квадраты, даты,
далонь ля скроні, не магу
згадаць — твая, мая… Калі ты

аднойчы ўспомніш пра мяне,
згадай прыцененую хмарай,
вісіць яна уверсе, не
не тут, а недзе над Сахарай,

у скопішчы другіх планет
мігціць так слаба, і няясна

ты зорачку, якой і не —
няма. Ды гэта й ёсць мастацтва

кахання, не, жыцця — у тым
ўявіць, чаго няма, ды жартам
у месцы разглядзець пустым
ці скарбы, ці пачвараў — кшталту

сірэн, або крылатых львоў,
бажкоў неверагодных столькі,
ці лёс прарочачых арлоў.
Падумай жа, прасцей наколькі

стварэння гэтакіх вось спраў,
сплятання іхняй абалонкі
і іншых клопатных выпраў —
ўпляценне у прастору кропкі!

У цемру палец накіруй. У штосьць.
Туды, куды ты глянеш пільна.
Не ў гэтым сэнс жыцця, што ёсць,
А ў веры — што там быць павінна.

У цемру палец накіруй,
І там, замест высокай ноты
павінна б зорка быць; даруй,
калі яе няма, турботы,

зацёртых параўнанняў шоўк
даруй: бы певень, што спазніўся,
прыніжаны расстаннем мозг
міжволі ўзвысіцца рашыўся.

*1970*

*Пераклаў з расейскай В. Болбас*

## Паводле Адама Міцкевіча

### Прыяцелям маскалям

Вашы вочы, аблiччы нiбыта чужыя,
Ды па праву ў маiх успамiнах жывыя.
Пра забойствы, пра турмы, выгнаннi
Сяброў маiх думаю часта.
Дзе шляхетны Рылееў?
Яго абдымаў я, як брата.
Па прысуду цара ён на вiсельнi!
Шыя вяроўкаю сцятая!

І рука, што калiсьцi Бястужаў падаў мне,
Рука вешчуна i жаўнера,
Воляй царскаю побач з далонню паляка
Ў ямах, да тачкi прыкута ганебна.
Вас, сяброў маiх, я ўсё часцей ўспамiнаю.
І людзей, хто мардуе прарокаў сваiх, праклiнаю!

А другiх мо кранула яшчэ больш жахлiвая кара:
Пра пасаду, пра ордэн ганебны хто марыў,
Хто душу, хто свабоду прадаўшы за ласку тырана,
Каго цешаць пакуты сяброў,
І маю хто Айчыну крывавiць,
Ганарыцца праклёнам маiм, бы заслугай,
І мiласць тыранаву славiць.

Калi раптам здалёку у край ваш
Ад вольных народаў
Даляцяць над краiнай iльдоў
Тыя песнi жалобы, свабоды
І абвесцяць вам волю,
Нiбыта вясну журавы,
Вось тады я гукну вам з аковаў,
І голас пазнаеце вы.
Бо маўчком, i паўзком,
Нiбы вуж, я падманваў тырана
Але вам адкрываў таямнiцу,
Ў пачуццях схаваную.

Я для вас быў заўсёды, як голуб, адкрыты.
А цяпер вось на свет вылiваю мой келiх атруты!
Хай жа вас апячэ горыч яд гэтых словаў.
Гэта горыч слязы i крывi

Айчыны маёй шматпакутнай.
Хай жарэ, апякае не вас,
Але вашы аковы.
Скаргу нехта з вас выкажа? Ведайце:
Мне яго скарга
Будзе гаўканнем псіны, што цярпліва
Нашыйнік трывае,
Ды гатовы куснуць за руку,
Хто нашыйнік той зняць пажадае.

*Жнівень–верасень 2018 г.*

*Пераклаў з польскай В. Болбас*



## Вадзім Болбас

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Казакова Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выдаў кнігі «Забытыя прывіды мрояў» (2004), «К. І. Галчыньскі. Сёмае неба. Выбраныя творы» (20 твораў перакладаў і сумесна з А. Хадановічам; 2006), «Галасы з-за небакраю. Анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя» (пераклад 4 твораў; 2008), «Ягамосць: вершы-прысвячэнні А. Сысу», «Туга і спакой: пераклады Іосіфа Бродскага» (2015), «Футбол з шайбай» (2015). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Светлагорску.



# ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

**Мікола Ермакоў**

## Церабаўша

За два гады да сканання агромністага Савецкага Саюза, што адбылося дзякуючы збегу абставінаў без сусветнай калатнечы з выкарыстаннем найноўшага ўзбраення, рэдакцыя «Сельской газеты», у якой я працаваў уласным карэспандэнтам па Гомельскай вобласці, выдала мне сямейную пуцёўку на ВДНГ СССР. З жонкай і дачкой-першакласніцай Аленай, прызнаюся шчыра, я з задавальненнем і нават з захапленнем ехаў у белакаменную, афармляў дакументы на пражыванне ў гасцёўні выстаўкі, у якой, быццам па наканаванні, насупраць нашага часовага прыстанішча пад нумарам 22 месцілася кафэ.

За сямейным столікам на траіх мы заказвалі сняданкі і вячэры (увесь светлавы дзень вывучалі сталіцу) у асноўным з прадуктаў гомельскай вытворчасці, а на зваротным шляху везлі ў свой абласны цэнтр важкі карабок каўбас і сасісак вырабу Гомельскага мясакамбіната, якіх днём і пры вечаровым асвятленні гадамі не бачылі на прылаўках сваіх гарадскіх крамаў. Дзіва, праўда? Савецкае дзіва. Па існаваўшым у той час парадку адлічэння прадуктаў у саюзны фонд харчовых вырабаў, перш за ўсё малочных і мясных, яны дастаўляліся ў Маскву і іншыя вялікія расейскія гарады. Гамялянам толькі заставалася назіраць за чэргамі аўтамабіляў з адкормленымі бычкамі, выбракаванымі каровамі; аўтамабілі суткамі чакалі адкрыцця варотаў мясного і тлушчавага камбінатаў у Нова-Беліцы.

Тады, помню, па дарозе з Масквы ў купэ цягніка мне міжволі чамусьці нагадалася незразумелая сувязь паміж гістарычнай назвай маёй вёскі і Варфаламееўскай ноччу 1572 года ў Парыжы. Сам не ведаю, чаму такое прыйшло ў галаву. Пасля вяртання ў Гомель вырашыў пакапацца ў гістарычных даведніках, і з большага зразумеў, што да чаго. Аказваецца, што адлегласць паміж нашымі краінамі здавён не з'яўлялася асноўнай перашкодай для знаёмства і захавання ў людской памяці падзеяў, якія ўскаланалі планетарны сусвет.

Паміж Парыжам і першапачатковай назвай маёй вёскі велізарная адлегласць не ў сэнсе прасторы. Тут усё складаней і на першы погляд зусім невытлумачальна. З артыкула ў Беларускай Савецкай энцыклапедыі даведваюся, што, апроч усяго іншага, у свеце існавалі і завуалявана працягваюць існаваць «рэлігійныя войны». А войны па сваіх сусветных чынніках не ведаюць межаў. Дзе той Парыж, а дзе мая Варфаламееўка?! І раптам такое нечуванае парадненне! Хацелі б мы таго, ці свядома супрацоўляліся б, але па сусвеце ўсё роўна разляталіся адгалоскі «варфаламееўскіх начэй», хоць і без радыё, тэлебачання і сённяшняга інтэрнэту…

Нездарма казалі і кажуць, што на чалавека са стрэльбай і звер бяжыць.

Задумаўшы пакласці на паперу гэтыя згадкі, у «Гомельскай праўдзе» я натрапіў на аповед пра прэс-канферэнцыю журналістаў з Масквы і ў тым жа нумары газеты пазнаёміўся з допісам жыхаркі Добруша Галіны Вадзянікавай. Яна напісала: «Чаму так атрымліваецца, што на долю цярплівага і сумленнага народа выпадаюць найцяжэйшыя выпрабаванні, параўнальныя, а ў чымсьці, можа, нават страшнейшыя, чым у апошнюю сусветную вайну?.. Магчыма, якраз цярпенне і вынослівасць дапамагаюць чалавеку і ўсяму яго супольніцтву вытрымліваць, выжываць, перамагаць любую нягоду?… На Радаўніцу я абавязкова бяру накірунак на Кругоўку, Вылеўскі пагорак з цудоўным краявідам. А ў горле даўкі камяк і медзяны прысмак. Праведваю хаты былых матуліных сяброў і суседзяў, і сэрца сціскаецца ад болю. Далей, ужо ў старажытных Дзям’янках, углядаюся ў сцены вялізнага, на вякі ўзведзенага палаца, і зноў мяне ахоплівае шкадаванне, што так занядбана сядзіба…»

Галіна прайшлася сцежкамі майго дзяцінства, юнацтва, і я вырашыў неадкладна паўтарыць яе падарожжа па веткаўска-добрушскім краі, дзе ўсё дыхае блізкім і родным. Звязаўся з земляком і аднакласнікам Андрэем Дубадзелавым, угаварыў яго наведаць прыволле Бяседы. Хацелася параўнаць сённяшні мой край з тым паўзабытым учарашнім часам Бацькаўшчыны. З ёй мы развіталіся, як я ўжо адзначаў, праз пяць з хвосцікам гадоў пасля страшэннага выбуху ў Чарнобылі. Як сустрэне ён нас, здзічэлы і пакрыўджаны чалавечымі эксперыментамі і бяздумнасцю людзей? Як і Галіна Вадзянікава, мы падтрымалі традыцыю на Радаўніцу наведваць свае мясціны, зразумела, у першую чаргу вясковы могільнік, які на адным і тым жа месцы прымае нябожчыкаў у дваццаты ці, можа, нават у пяцідзясяты раз. Такая гісторыя маёй вёскі, якая, мушу паўтарыцца, у водгуку падзеяў у Парыжы пагадзілася чамусьці прыняць назву *Варфаламееўка.*

Цяперашнюю назву яна набыла па настойванні мясцовых уладаў. А вось суседні з ёю пасёлак, за паўтара кіламетра ад бацькоўскай хаты, пасля кастрычніцкага перавароту змяніў не асобныя літары, а перахрысціўся ў зусім іншую назву — па прозвішчы аднаго з новых пасяленцаў-пралетарыяў, вандроўніка-валацугі Пётуха, стаўшы *Пятухоўкай.*

Нічога нечаканага ў тым няма, акрамя таго, што нават пасля адсялення паселішча з-за радыяцыйнай забруджанасці ва ўчэпістай людской памяці ён застаўся пад першапачатковым гістарычным назовам — *Церабаўша.*

Згаданы Галінай палац у Дзям'янках належаў Мікалаю Мікалаевічу Герарду. Па паходжанні латышскі дваранін, ён дасягнуў жыццёвых вышыняў у гады царавання Мікалая I і, атрымаўшы тытул генерал-губернатара, дайшоў да пасады намесніка расейскага цара ў Фінляндыі. Пасля заканчэння службовай кар'еры Герард пераехаў у Дзям'янкі, у свой палац-маёнтак. Яго зямельныя ўладанні займалі значную частку тэрыторыі цяперашніх Веткаўскага і Добрушскага раёнаў, у тым ліку Варфаламееўку з Церабаўшою.

З колішнім церабаўшанцам, аднакласнікам і суседам маёй вясковай сям'і Андрэем Дубадзелавым мы на аўтобусе «Гомель — Свяцілавічы» даехалі да нашага агульнага скрыжавання дарог, якое пазначана трубой торфабрыкетнага ўчастка завода «Бальшавік». План у нас быў такі: наведаем могілкі, урочышча Выдзьмы, здалёк панаглядаем за прыбяседскімі вёскамі і, вядома ж, пацікавімся паводзінамі рагатых ласёў, якія звычайна ў гэтую пару года прыходзяць падсілкавацца на тарфяное балота. Не абмінём і прыбяседскі луг, дзе статак скубе падсохлую траву і парасткі лісцёвага кустоўя ля пясчанай выспы… Яе ў далёкай мінуўшчыне стварыла наша бяседная Бяседзь, і тое здарылася пасля таго, як змяніўся кірунак цячэння Сожа і Дняпра, якія нясуць свае воды ў Чорнае мора…

*Бяседа* ў разуменні маіх землякоў — размова ці гутарка, і адначасова збор родных і аднадумцаў у вызначаным месцы на пасядзелкі «на прызбе». Паэт Максім Багдановіч напісаў і пакінуў беларусам у спадчыну наўздзіў кранальныя словы:

Ды красна бяседа не ўзорамі,
А ласкавымі прыгаворамі,
Не адвабнымі абрусамі,
А ласкавымі прымусамі.

Уздоўж нашай ракі з мілагучнаю назваю Бяседзь з невядомай даўніны за дзвесце крокаў ад бацькоўскай хаты ўсіх здзіўляў і радаваў стары яблыневы сад. Даўно засохлі пазнейшыя калгасныя пладовыя насаджэнні, а герардаўскі, які на маёй памяці з чатырох бакоў ахоўвалі ліпы, вербы, хвоі і ляшчыннік, трымаўся мужна і на зайздрасць землякоў жыў амаль да канчатковага знікнення Варфаламееўкі з карты краю.

Уздоўж ракі Бяседзі сяліліся людзі, якія любілі збірацца на бяседы яшчэ тады, калі не мелі ўяўлення пра хаты. Гаманілі, будавалі нейкія планы, з «ласкавым прымусам» запрашалі адзін аднаго пакаштаваць прыгатаваныя на вогнішчы рыбу ці мяса дзічыны.

Калі б было інакш, дык, здаецца, нашы далёкія продкі ніколі не даўмеліся б у месцы вытоку ракі на тэрыторыі цяперашняй Смаленскай

вобласці сваё сціплае пастаяннае пасяленне назваць Бяседкай, паблізу райцэнтра Хоцімск Магілёўскай вобласці заснаваць Бяседавічы. А ў месцы зліцця ракі з Сожам на Веткаўшчыне даць свайму супольнаму згуртаванню назву Бяседзь. А чаго варта тое, што тэрыторыя літаральна вакол усіх населеных пунктаў уздоўж Бяседы пазначана стаянкамі чалавека розных часоў і эпох! Пералічу па парадку, калі пачынаць лік іх ад месца зліцця нашай чысцюткай і спакойнай ракі з Сожам — Бяседзь пабралася з Сожам. Паблізу населенага пункта, які носіць аднолькавую з ракой назву, вядомыя адразу тры пасяленні неаліту — на правым беразе нашай агульнай любіміцы, ва ўрочышчы Шубін і на ўсходняй ускраіне асноўнай вуліцы вёскі. У суседнім Галодным (*савецкая назва — Новая Іванаўка*) месціцца гарадзішча мілаградскай культуры. Хізы з урочышчам Дзеднае адметныя курганным могільнікам з дзесяці насыпаў. Новыя Грамыкі і Старыя Грамыкі на супрацьлеглых берагах Бяседы слаўныя пасяленнямі позняга неаліту, каменнага і бронзавага вякоў, селішчам Кіеўскай Русі. Наша Варфаламееўка на тым месцы, куды мы спецыяльна накіраваліся ў дарогу, была пазначана археалагічным знакам позняга неаліту. Сціплы знак перад адсяленнем вёскі і закладваннем доследнага ўчастка па вывучэнні ўздзеяння радыяцыі на лясную расліннасць каля вясковага могільніка навукоўцы ўзялі на захоўванне ў Інстытут лесу Акадэміі навук Беларусі ў Гомелі. У цэнтры Свяцілавічаў, там, дзе размяшчаюцца ўсе асноўныя грамадскія пабудовы, выяўлена гарадзішча зарубеніцкай культуры ранняга жалезнага веку.

І так да самага вытоку ракі на Смаленшчыне.

Даліна Бяседы — своеасаблівы запаснік твораў прыкладнога мастацтва, вуснай народнай творчасці, традыцыяў і захапленняў безлічы пакаленняў, узоры якіх знайшлі працяг і захаванне ў адзіным у сваім родзе на Беларусі і, напэўна, у Расійскай Федэрацыі, у стараверскім Веткаўскім музеі народнай творчасці імя Фёдара Шклярава.

З таго часу, як помню сябе, жыхары згаданых і іншых населеных пунктаў, што прытуліліся да абодвух берагоў ракі, вырашалі свае клопаты не за святочнымі застоллямі ў хатах, а часцей за вышыванымі абрусамі, разасланымі на квітнеючым краскамі беразе ракі. На кожнае Вадохрышча, за выключэннем хіба гадоў ваяўнічага савецкага атэізму, мужчыны піламі выразалі на рацэ лёд у выглядзе чатырохканцовага крыжа, святар асвячаў вызваленую з палону водную прастору, а сяляне рознакаліберным посудам чэрпалі бяседскую ваду і неслі дамоў на лекі і загаворы. Асвечаная вада пад падлогай са смалістых дошак, якая ніколі не ведала фарбаў, стаяла да наступнага Вадохрышча, супакойвала гаспадароў сваёй прысутнасцю і адначасова радавала ўзорамі і карункамі распілаванага сучча і прожылак сасны на падлозе. Унікальнае прыроднае мастацтва!

Улетку нядзельнымі вечарамі моладзь Вараб'ёўкі на прырэчным лузе наладжвала традыцыйныя скокі пад гармонікі і балалайкі. Да яе

далучаліся хлопцы і дзяўчаты з Хізоў, Галоднага, Варфаламееўкі, Гарыстаў. На берагах ракі шапталіся і цалаваліся закаханыя, нараджаліся сямейныя пары, якія не ведалі разводаў. Крый Божа, каб у час гульняў хто-небудзь укінуў у раку друз ці якое смецце. Таму праз тоўшчу вады ў сонечны дзень з лодкі і берагоў лёгка праглядваліся залацістыя пясчынкі. Пясок для селяніна быў неацэнным багаццем. Ён замяняў гравій у час падрыхтоўкі бетонных сумесяў, выкарыстоўваўся на падсыпку сцяжынак да ўваходу ў двары і каля лавак, на якіх ладзілі надвячоркавыя пасядзелкі жанчыны і гаспадары.

Рака на свае берагі час ад часу вымывала хлысты мораных дубоў, з якіх мясцовыя ўмельцы майстравалі розныя рэчы гаспадарчага ўжытку. Яшчэ — вычэсвалі ўзорчатыя слупы для брамаў. А ў сезон вяселляў, пасля «выкупу» нявест у жаніхоў, заязджалі праз тыя брамы маладыя ў новы сямейны двор на абавязкова расквечаных вазах і любоўна ўпрыгожаных конях.

Ды што там невялікая па насельніцтву Вараб’ёўка!

Юнацтва ранейшага райцэнтра Свяцілавічы пры наяўнасці Дома культуры на высокім беразе ракі наладжвала вечарыны. З берагу ў месячную ноч за лугам праглядвалася азярцо Свяцкае з вадою, якая была халоднай нават у летнюю спёку. Тое азярцо, нагадвае паданне, быццам бы праглынула царкву. Паданне застаецца паданнем, а Бяседа і Свяцкае з людской ласкі не дазвалялі і не цярпелі гвалту над сабою. Моладзь Свяцілавічаў заўважыла аднойчы, што іхні крухмальны завод пачаў скідваць адходы вытворчасці ў раку, — і забіла трывогу.

«Наша Бяседа лічыцца найчысцейшай ракой Еўропы, — з такімі словамі пайшлі хлопцы і дзяўчаты ў райкам партыі і запатрабавалі спынення забруджвання вады. — Нам усім трэба прызнаць, што адзінае на ўвесь райцэнтр прадпрыемства апаганьвае святасць нашага краю».

Гэты крык душы з’явіўся своечасовым яшчэ і па той прычыне, што на берагах Свяцкага неўзабаве былі выяўлены запасы мінеральнай вады і планавалася ўзвядзенне карпусоў участковай бальніцы, а ў перспектыве — санаторыя для працаўнікоў аграпрамысловага комплексу Гомельшчыны. Такія аб’екты праз пэўны прамежак часу з’явіліся з заасфальтаванымі сцежкамі-дарожкамі і ажурнымі лаўкамі.

А вось яшчэ…

Па цячэнні ракі ў трэці пасляваенны год распаўсюдзіўся расповед пра трагедыю на водным абшары Бяседы. Мужчына, якому пашанцавала вярнуцца з віхураў крывавых змаганняў жывым і цэлым, паехаў на раку глушыць рыбу. Кінуў ён у раку выбухоўку і, смяротна паранены, episode вываліўся з лодкі. «Усявышні пакараў»,— шапталіся людзі. Прысуд гучаў мо і не па-хрысціянску жорстка, але пасля трагічнага выпадку ў нашых мясцінах перасталі квапіцца на лёгкую рыбную здабычу. Часова спынілі набегі на раку нават варагі на маторных лодках з Гомеля.

Пра дарогу да чыстай вады ўведалі масквічы і ленінградцы. Ва ўрочышча Шубін, паблізу якога цяпер месцяцца карпусы Веткаўскай райбальніцы, яны прыязджалі на ўсё лета. Крыху вышэй па цячэнні ракі на тыдзень-другі на духмяным лузе ўладкоўвалі палаткі мае маладзейшыя землякі. «Не трэба і на Чорнае мора ехаць, — казаў Сцёпка Сорыкаў, які перакваліфікаваўся ў гамяляніна, ды не здолеў перайначыцца ў месціча. — Свая мясціна вылечыць ад любых хвароб».

У вёсцы Жалезнікі на беразе Бяседы жылі муж і жонка, бухгалтар торфапрадпрыемства райпрамкамбіната пад вёскай Стаўбун і настаўніца Сяяцілавіцкай школы, якія нарадзілі і ўзгадавалі да паўналецця шасцёра дзяцей. Трое іх сыноў пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў Гомелі і Мінску апынуліся ў Маскве, завялі ў белакаменнай прыватную справу і зажылі без матэрыяльных нястачаў. Здарылася так, што па часе іх фінансавай забяспечанасці вёска Жалезнікі з-за наступстваў катастрофы праз пяць гадоў пасля выбуху ў Чарнобылі трапіла пад высяленне. Браты не змаглі змірыцца з горкім лёсам роднага краю і за кароткі тэрмін на ўласныя сродкі аднавілі царкву, якую закрылі камуністы і некалькі дзесяцігоддзяў выкарыстоўвалі для захоўвання збожжа, тэхнікі, мінеральных угнаенняў. Браты ў тэмпе ўзвялі шыкоўны дом для святара, і на бераг іх ракі зноўку пацягнуліся людзі. Яны ўспомнілі, як на пачатку апошняй вайны над царквою з'явілася Маці Божая, перахрышчваючы паветра над ёю. Так гэта ці прыдумка, але на самай справе выйшла так, што ў першыя месяцы баявых дзеянняў у царкве кватаравалі немцы, пасля вызвалення Веткаўшчыны ад захопнікаў у ёй размяшчаўся шпіталь чырвонаармейцаў. Як ні дзіўна, але ні адна бомба паблізу храма не ўпала.

Жалезніцкае гарадзішча вядома з незапамінальных часоў. Археолагам з Гомеля і з Мінска ўдалося ўстанавіць, што з'явілася яно ў эпоху ранняга жалезнага веку, гэта значыць, каля трох тысяч гадоў таму. Помнік з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю Рэспублікі Беларусь, але пакуль толькі паўметровай вышыні пагорак надае пляцоўцы незвычайную загадкавасць, што звычайна характэрна для месцаў з тысячагадовымі біяграфіямі.

У XIX стагоддзі ў Жалезніках была ўзведзена мураваная царква з малельняй, школай на 45 дзяцей. Род заняткаў многіх людзей адпавядаў назве вёскі. У прыбярэжных канавах-затоках вымывалася жалезістая руда, якую адначасова апрацоўвалі тры кузні. У дадатак да іх у вёсцы дзейнічала крупадрабілка. Па пісьмовых крыніцах, вёска вядома з XVI стагоддзя як баярскае пасяленне Чачэрскага староства ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства. Напярэдадні кастрычніцкіх падзеяў у Расіі ў вёсцы дзейнічалі пачатковая школа, два цагельныя заводы, чатыры ветракі, майстэрня па рамонту прасцейшай тагачаснай тэхнікі.

*(Працяг будзе.)*



## Мікола Ермакоў

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Барталамееўка Веткаўскага раёна. Закончыў БДУ імя Леніна. Працаваў у райгазеце «Перамога Кастрычніка», уласным карэспандэнтам рэспубліканскіх газет «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Белорусская нива» па Гомельскай вобласці. Выдаў кнігі публіцыстычных нарысаў «Канец старога Прытулля», «Пяць мінут рызыкі», «Розум кліча да жыцця», «Узоры радасці». Аўтар калектыўных тэматычна скіраваных зборнікаў «Гвардзейцы хлебнай нівы», «Майстры-героі ферм», «Энтузіясты ў пошуку», «Зямля і людзі», «На зямлі Златавуста». Жыве ў Гомелі.

**В а л е р ы  С а н ь к о**

## Гнеў генерала Тараканава

*Урыўкі з дакументальнага рамана*
*«Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе»*

27 і 28 красавіка 1986 года з Кіеўскай ваеннай акругі прыбылі ў Чарнобыль першыя ваенныя часці. Праз два дні раён меркаванага радыеактыўнага заражэння быў раздзелены на тры сектары / зоны, кожнай кіравалі генералы. У ліпені афіцэры Грамадзянскай абароны СССР на чале з генералам Мікалаем Дзмітрыевічам Тараканавым узнавілі замеры. Вызначалі ўзроўні радыяцыі ў лясах і на палетках, вёсках і гарадках Украіны, Беларусі, Расіі. Выслухоўвалі дарадчыкаў, правяральнікаў, пагаджаліся, не пагаджаліся.

— Працы было так шмат, што калі сустрэўся з беларусам палкоўнікам Валерыем Фамічом Камаром, саслужыўцам па ад'юнктуры Акадэміі імя Куйбышава, нават пагаварыць толкам не сумелі, — праз гады ўзгадваў мне генерал Тараканаў.

Другі раз на Чарнобыльшчыне сустрэцца прыяцелі не змаглі. Толькі ў шостай клініцы Масквы, дзе лячыліся беларускія пажарнікі і Тараканаў, наведаў яго Валера Камар. Сябры змаглі ўдосталь паўспамінаць лепшыя гады вучобы, сяброўства, гаварылі пра небяспеку Чарнобыля.

Самалёты і верталёты пад кіраўніцтвам доктара тэхнічных навук Анатоля Міхайлавіча Матушэнкі фіксавалі сляды радыеактыўнага заражэння мясцовасці і атмасферы. Спецыяльна абсталяваныя рэнтгенаметрамі і фільтравальнымі ўстаноўкамі паветраныя лабараторыі на вышынях да пяцісот метраў, дзе ўтрымліваліся пераважна радыеактыўныя прадукты, адбіралі пробы аэразоляў.

Вылецела ў час катастрофы амаль трыста відаў рэчываў і радыенуклідаў. Спад канцэнтрацыі выкідаў адбыўся ў канцы мая, праз 30–35 сутак пасля выбуху, у 20-кіламетровай зоне — яшчэ пазней, праз 40–45 сутак.

— Ужо ўлетку мы мелі карты радыяцыйнай абстаноўкі па тэрыторыях краіны, дзе забруджанасць перавышала 5 кюры/км$^2$. Дадзеныя рэгулярна перадаваліся ў цэнтр. Завеса сакрэтнасці была страшэнная, нічога да насельніцтва не даходзіла, — уздыхае генерал Тараканаў.

Кіраўнік восеньскай канчатковай аперацыі па выдаленні высокарадыеактыўных элементаў з дахаў трэцяга і чацвёртага блокаў, пляцовак галоўнай вентыляцыйнай трубы не можа зразумець, чаму вясною і летам 1986 года дэзактывацыю асобных дамоў і прысядзібных гаспадарак праводзілі па пяць-сем разоў. Эфект ад любой невялікі, гама-фон не зніжаўся з-за перыядычных выкідаў рэактара, пераносаў яе ветрам — тым не меней дэзактывацыя ўзнаўлялася. Чым хто ў Маскве думаў? Чаму Кіеў і Мінск маўчалі?

Вярхоўны Савет СССР у красавіку 1990 года прызнаў, што буйнамаштабная дэзактывацыя населеных пунктаў была абсалютна неэфектыўнай, кіраўнікі хімвойск Мінабароны — ідэолагі бескарыснай дэзактывацыі — выявілі поўную ўласную і прафесійную некампетэнтнасць. За вялікія страты краіне ніхто з ваенных хімікаў, генералітэту практычна не быў пакараны.

Кастрычнік 1986 года. Жухлая лістота даўно абляцела з дрэваў. Някошаныя травы шалясцяць. Ласкавы вятрыска засмучае салдат і афіцэраў. Ім дастаецца ад радыяцыі на дахах і пляцоўках. Кандыдат медыцынскіх навук падпалкоўнік Аляксандр Салееў і група медыкаў просяць генерала Тараканава разабрацца. Чаму пры падліках атрыманай дзённай дозы не ўлічваюць унутранае абпраменьванне, не дадаюць да агульнага. Інструкцыя Міністэрства аховы здароўя СССР супярэчыць іхнім дакладным чарнобыльскім разлікам.

— У вас усё правільна. Няма пытання, — закончыў вывучаць паперы Тараканаў.

— Калі мы вас пераканалі, таварыш генерал, прашу зацвердзіць спіс першых афіцэраў, атрымаўшых гранічна дазвольныя нормы.

Тараканаў зацвердзіў спіс Салеева:

— Няхай у фінчастцы выплачваюць грашовую кампенсацыю.

Праз гадзіну начальнік фінчасткі палкоўнік Фёдараў спіс парваў. Ніякіх пяці акладаў за дозавасць выплачваць ён не будзе, дзяржаўную капейку нельга раскідваць, вам за працу і так плацяць па тры-пяць акладаў. Назаўтра ў час абеду ў сталоўцы ваенгандлю Мікалай Тараканаў пажаліўся генералу арміі Валянціну Варэннікаву на самаўпраўства фінансіста. Не разбіраўся, ні з кім не параіўся, парваў ведамасць і рапарт. Быццам вучоныя не ведалі, што мералі, падлічвалі, пісалі. Не з неба лічбы, кожная факт. Разбор быў кароткі. В. І. Варэннікаў загадаў уключыць радыяцыйныя дозы афіцэраў, выплаціць належнае. Палкоўніка Фёдарава знялі з пасады.

Уся служба генерала Тараканава, праца на розных крытычных стыках грамадзянскай абароны не раз пацвярджала найдакладнае ўсеагульнае вызначэнне тагачасных дзесяцігоддзяў — застойны перыяд. На ўсіх савецкіх інстанцыях, участках. Згаджайся, выконвай, цярпі, не заўважай, не высоўвайся. Любое пытанне, нязгода — і гультайная зайздросная шэрасць цябе ж папракае. Не такі, не наш, хоча быць лепшым, не савецкі.

Маскоўскі генерал-лейтэнант Смірноў, прафесар медыцыны, на дзвюх сходках ужо вучыў чарнобыльскіх дазіметрыстаў, як лепей карыстацца дазіметрамі, перамерваць дозы. У іх інстытуце распрацавалі, укараняюць новае. На аснове чаго? Яны прышлюць зацверджаныя рэкамендацыі.

— Да сёння шлюць, — іранізаваў Тараканаў.

ЧАЭСная катастрофа агаліла ганебную самазаспакоенасць і паўсюдную савецкую бесклапотнасць, жыццё па прынцыпу «сёння сыдзе, а

заўтра будзе відно. Калі што — паправім. Мы не разлічылі. Тэхніка ўсё разраўняе». Былое кіраўніцтва ЧАЭС з-за інерцыйнага чакання падказкі не магло прыняць разумныя рашэнні пры планаванні эксперыменту з прыпыненнем руху ротараў, самастойна ацаніць радыяцыйную абстаноўку, яе наступствы, тым болей у першыя аварыйныя хвіліны і гадзіны.

Не толькі салдат, але і тэхніку мусілі выкарыстоўваць вахтавым метадам. Кожная салдацкая змена на дахах працавала лічаныя секунды, хвіліны. Сачылі за гэтым афіцэры, генерал Тараканаў. Боязь абпраменьвання выбівала з раўнавагі механікаў-вадзіцеляў, нават калі на дазіметры з'яўляліся ўсяго два бэры (рэнтгены). Па інстанцыях ішлі тэлеграмы, запыты; кіраваныя самазвалы і аўтапагрузчыкі так і не прыйшлі. Нічога лепшага за сапёрную рыдлёўку ў век тэхнічнага прагрэсу савецкая навука і тэхніка не вынайшлі. Выкарыстоўвалі чалавечы рэсурс.

**Аб'ектыўка.**

**Не так даўно М. Д. Тараканаў і яго памочнікі А. Брадзенка, Г. Громаў, М. Самойлаў стварылі радыёкіраваны пракладчык БАТ-М для дзеяння ва ўмовах ядзернага паражэння. Атрымалі своечасова аўтарскае пасведчанне. Вынаходнікі пісалі шмат пісьмаў, падавалі рапарты, нават дапамагаў маршал Васіль Чуйкоў — выніку ніякага. Атамнай аварыі ў СССР быць не можа, на лішнія вынаходствы няма сродкаў. А цяпер бы тыя пракладчыкі вельмі спатрэбіліся.**

Яшчэ раней у Беларусі вынайшлі, сканструявалі, адобрылі на выпрабаваннях радыёкіраваны трактар «Беларусь». Прайшоў выпрабаванні паспяхова. Укараняць, тым болей выпускаць не дазволілі. Навошта, у СССР такі трактар непатрэбны, лішнія выдаткі. А зараз прыдаўся б, збярог сотні маладых жыццяў, зэканоміў вялікія грошы.

Паступова ў ліквідатараў ЧАЭС з'явяцца машыны з універсальным бульдозерным і кранавым абсталяваннем, асобныя будуць абабітыя свінцовымі лістамі. Прыбудуць спіральныя каткі, бульдозеры-робаты, няхай лічаныя. Паступова, праз год, два. А пакуль самай незаменнай тэхнікай была рыдлёўка. Пакуль асноўным прыборам у дазіметрыстаў кшталту Рамана Кавалёва быў прыбор ДП-5, які з канструктыўных асаблівасцяў заніжаў паказчыкі дозы амаль у тры разы.

Ліквідоўвалі наступствы аварыі сорак міністэрстваў і ведамстваў. Поруч з арміяй былі прадстаўнікі навукі. Сярод іх генерал Тараканаў выдзяляў акадэмікаў Валерыя Лягасава, генерал-лейтэнанта Анатоля Кунцэвіча, прафесараў Ігара Эрліха, Васіля Несцярэнку.

Самыя небяспечныя і адказныя работы па дэзактывацыі патрэбна было выканаць на даху трэцяга рэактара. Кускі графітавай кладкі з чацвёртага рэактара, цырконіевыя трубкі, цеплавыдзяляльныя зборкі выпраменьвалі вялікую радыеактыўнасць, вятры і дажджы яе далёка разносілі. Сапраўдную робататэхніку чакалі да 17 верасня. Вось з'явіцца, у тэхнічны век яна ёсць, прыбудзе, абяцалі.

Не з'явілася. Верталёты некалькі робатаў даставілі. Асаблівыя надзеі былі на два заходнегерманскія краны «Дэмаг» і тры фінскія гідраўлічныя маніпулятары «Фарыстэрн-770». Замежная тэхніка не спрацавала. Як дасюль і савецкая, выраблена ў Маскве, Ленінградзе, Белаярску — гідраманіторы, хутка прывезеныя робаты, каткі.

Саркафаг (гэтае вобразнае слова стала для ўсіх звычным) нельга было пачынаць узводзіць, бо на дахах і трубных пляцоўках чацвёртага і трэцяга рэактараў ляжалі тоны высокарадыеактыўных рэчываў. Іх, як з дахаў астатніх рэактараў, патрэбна было сабраць, далёка вывезці або выкінуць у вогненную зяпу разбуранага рэактара. Генерала Тараканава другі раз выклікалі на ЧАЭС. Чацвёрты пункт урадавага рашэння: ускласці адказнасць за навукова-практычнае кіраўніцтва ўсёй аперацыяй на генерал-маёра М. Д. Тараканава.

17 верасня 1986 года на верталёце група эксперыментатараў прыбыла на рэактар. Камусьці трэба ісці на дах. На грудзі, спіну, галаву Аляксандра Салеева падагналі свінцовыя лісты. Надзелі прасвінцаваныя спецыяльныя бахілы, рукавіцы, фартух. Абарона моцная, ідзі. Павесілі дзевяць датчыкаў, дазіметраў. Падпалкоўнік медыцынскай службы Салееў, кандыдат медыцынскіх навук, малады таленавіцік, разумеў, ён ідзе першым у пекла, тым не меней ішоў, выконваў абавязак перад Айчынай. Так нядаўна ішла рота капітана Збароўскага да сцен чацвёртага рэактара, калі пракладвалі шлангі, адводзілі ваду. Так геройнічалі ліквідатары лейтэнанта Гудава пры загрузцы верталётаў, вынасе радыяцыйнага смецця з рэактарных пакояў, падвальных сутарэнняў, так нявечыліся беларускія і ўкраінскія дазіметрысты, ліквідатары на «лёгкіх і бяскрыўдных працах» у зоне і прызонні.

— Не дакладвай, Аляксеевіч, бачу, гатовы. — Генерал Тараканаў і афіцэры Няўмовенка, Каураў, Кузняцоў яшчэ раз звяраюць маршрут-заданне Салеева: праз пралом у сцяне прайсці на пляцоўку чацвёртага рэактара, агледзець яе і рэактар, скінуць у развал пяць-шэсць рыдлёвак графіту, па сігналу вярнуцца назад.

Аляксандр Салееў справіўся з заданнем за хвіліну дванаццаць секунд. Атрымаў дозу апраменьвання дзесяць рэнтгенаў. Абсталявалі спецыяльны камандны пункт на сёмым паверсе трэцяга рэактара: тэлеманіторы, кароткахвалевая радыёстанцыя, схемы асноўных і запасных маршрутаў, тэлевізійныя камеры з пультам кіравання па трох восях. У асобным пункце не толькі правяралі гатоўнасць воінаў да выхаду ў зону, улічвалі выкананую працу, але і здымалі паказчыкі бэразатратаў — у рэнтгенах.

— Наперад! — вывадны афіцэр персанальна адказваў за дакладнасць выхаду на дах салдат і афіцэраў, устаноўленую Тараканавым адпаведна дазіметрычнаму кантролю, запускаў секундамер. У руках вываднога афіцэра жыццё ліквідатараў, ён своечасова даваў каманду на заканчэнне працы, звычайна на секунд колькі раней уключаў электрасірэну.

Выкінуў воін запланаваныя пяць-шэсць рыдлёвак радыяцыйнага смецця ці не, захапіўся і хоча бегчы яшчэ па жахлівы груз — для маршрутнага афіцэра неістотна. Адразу выводзіў усю каманду назад. За адной камандай адпраўлялася на дах/пляцоўку другая, трэцяя. Канвеер барацьбы жыцця са смерцю.

Генерал Тараканаў з адвечнай сялянскай мудрасцю прапаноўваў найпросты спосаб дэзактывацыі рэактараў. Спецкантэйнеры (вялікая ступень аслаблення радыяцыі) верталётамі ўзняць на дах рэактара, запоўніць радыеактыўным смеццем, кантэйнеры засвінцаваць, адправіць цягнікамі і параходамі ў наяўны магільнік на Новую Зямлю. Ідэя не прайшла. Дорага. Краіна бедная, не пацягне расходы. Сто семдзесят тон металёвых адходаў салдацікі Тараканава не загрузілі ў кантэйнеры, скінулі ў расплаўленае горла рэактара. Пры кожным скідванні ўздымалі радыяцыйныя віхуры. Нявывазам радыяцыйнай заразы зэканомілі вялікія грошы, савецкія і еўрапейскія, і змастачылі страшэнны дадатковы магільнік у цэнтры Еўропы.

Меркаваны прыезд генсека Гарбачова парушыў адладжаны рытм хавання адходаў. Ліхаманкавая падрыхтоўка да сустрэчы кіраўніка дзяржавы. Ён павінны быў наведаць адзін першы рэактар, з найменшай радыеактыўнасцю — вакол усяго 40 рэнтгенаў, унутры пяць. У дождж вывозілі грунт, асфальтавалі дарогі, нацягвалі вакол зоны дрот, у тым ліку вакол зоны адсялення. Сталі мяняць усім пропускі. Цэлыя палкі курсіравалі туды і назад, страцілі некалькі патрэбных на ачыстку дахаў спрыяльных дзён. Дадаткова прызваныя тысячы рэзервістаў-ліквідатараў атрымалі лішнія дозы. Краіна ўбухала ў марафет велізарныя грошы. А Гарбачоў не прыехаў. Спалохаўся.

Праца на дахах кіпела. Не праца — гора. Салдаты, гэта былі добраахвотнікі, самыя дужыя і спрытныя, выконвалі патрыятычны абавязак перад радзімай, як нядаўна падпалкоўнік Салееў, фактычна не ведалі пра небяспеку, якой падвяргаліся, — салдаты ўручную рыхтавалі сродкі індывідуальнай абароны. Вырэзвалі свінцовыя латы, рабілі свінцовыя каскі на галаву, вусцілкі ў боты, выпрошвалі ў каго маглі рэспіратары «Астра-2», прасвінцаваныя рукавіцы, пальчаткі. Вага такога рыштунку — 20–25 кг. Да свінцовай абароны дадавалі рэнтгенаўскія фартухі, шчыткі з аргшкла.

— Мне, генералу і чалавеку, які страціў у чарнобыльскіх аперацыях здароўе, сорамна за прымітыўнасць тагдышняй савецкай абароны людзей, — не раз пасля пісаў генерал Мікалай Тараканаў.

Узгадваў, што збольшага абараняць свінцом, жалезам і гумаю людзей фактычна сталі праз тры-пяць месяцаў пасля выбуху. Таму ж падпалкоўніку Салееву, здольнаму вучонаму, самаробная абарона не дапамагла. Праз два гады ён атрымаў інваліднасць, звольнілі, праз чатыры гады памёр. Тараканаў не паўтараў фатальных памылак герояў-пажарнікаў. Каб тыя надзелі спецвопратку і сродкі абароны, вялі ўлік

часу і рэнтгенаў, мяняліся своечасова, многія так хутка не памерлі б. Выказваў думкі і меркаванні пра бяздарнасць і непарадкі ў ЧАЭСнай калатушы непасрэдных начальнікаў. Гэта стала асноўнай прычынай непрысваення яму звання Героя.

Асабліва злавала цывільных ліквідатараў, генералаў і афіцэраў абыякавасць Міністэрства аховы здароўя СССР. З красавіка 1986 года да лістапада 1986 года міністэрства не выдала ніякіх рэкамендацый ліквідатарам на ЧАЭС, медыкі не праводзілі абследаванняў іх псіхафізічнага стану. Нават агульны кантроль салдат і афіцэраў быў прымітыўны. Членам атрада спецдозразведкі за чатыры месяцы працы ва ўмовах вялікіх дозавых нагрузак аналіз крыві зрабілі адзін раз.

У краіне патрэбен закон пра грамадзянскую абарону, не раз думаў Тараканаў, неабходна перагледзець усе функцыі яе сістэмы, а то нават родная армія распрадае тэхніку з малатка, з грамадзянскай абароны патрабуе аплату. Аднойчы для праверкі працы па ліквідацыі наступстваў ЧАЭС з Масквы прыляцела вялікая камісія, у ёй восем генералаў, палкоўнікі — з Генштаба, Галоўпура, тылу, хімвойск. Быў знаёмы генерал-лейтэнант, медык, прафесар Смірноў. Размаўлялі правяральнікі ў многіх кабінетах — з начальнікамі, афіцэрамі, салдатамі. Некаторыя на абсвінцаваным верталёце аглядвалі трэці і чацвёрты рэактары, 141-мятровую вентыляцыйную трубу. Верталётчыкі часам завісалі над рэактарамі, вопытныя члены генеральнай камісіі падганялі ляцець хутчэй. Баяліся дозы.

— Ні сёння, ні ўчора ніводзін з іх не згадзіўся падняцца на дах рэактара, паглядзець, толькі паглядзець, як салдаты выграбаюць радыеактыўнае смецце. Асобныя нашы каманды працавалі на дахах адну-дзве хвіліны. Штодня. Прыезджыя і адзін разок, на секунду, не падняліся. Затое калі пасля раздавалі «зоркі» — многія іх атрымалі, — з горыччу напіша пасля генерал Тараканаў у інтэрв'ю «Аргументам и фактам» у 1998 годзе. Яно называлася «Горбачёв струсил, а Чазов повёл себя подло» (№ 9).

З чацвёртага рэактара апошні выкід радыенуклідаў зафіксаваны 24 жніўня 1986 года ў 22 гадзіны. Болей за паўмільёна ваенных ліквідатараў — напалеонаўская армія — прайшлі праз Чарнобыль. Умекі і няўмекі з генералітэту хімічнай абароны СССР даказвалі неабходнасць інтэнсіўнай дэзактывацыі вёсак, палеткаў, дарог. Там можна будзе жыць, працаваць, хаця і тады, і пасля беларускія навукоўцы, тыя ж Васіль Несцярэнка, Яўген Канапля, Яўген Пятраеў, Іван Нікітчанка, сцвярджалі: дэзактывацыя хат і двароў — ахінея. Так і атрымалася.

— Міністр Чазаў моцна нашкодзіў ваенным і цывільным ліквідатарам. Адразу пасля аварыі выдаў варварскае распараджэнне. Медыкам забаранялася звязваць хваробы ліквідатараў з наступствамі аварыі на ЧАЭС. Многія людзі засталіся інвалідамі, рана памерлі. Іх няправільна лячылі, — уздыхае Тараканаў. Нават яму, які атрымаў сто пяцьдзясят рэнтгенаў, тройчы лячыўся ў шпіталях, маскоўскія дактары не хацелі звязваць хваробы з Чарнобылем. Кіеўскія медыкі пасобілі.

**Аб'ектыўка.**

**У маі 1989 года былі афіцыйна знятыя абмежаванні на публікацыю чарнобыльскіх матэрыялаў. Не выпадкова Украінская экалагічная асацыяцыя аб'явіла персонамі нон-грата для Кіева прафесараў Ільіна і Ізраэля, якія 29 красавіка 1986 выдалі заключэнне: у Кіеве і Мінску няма павышанай радыяцыі, першамайскія дэманстрацыі мэтазгодна не адмяняць; якія 7 мая 1986 года падпісалі дакумент: у горадзе ўсё нармальна, вываз дзяцей з Кіева (і Мінска) немэтазгодны. Вельмі позна, з 1 студзеня 1990 года, Мінаховы здароўя СССР вызначыў канчатковы крытэрый максімальнай пажыццёвай радыяцыйнай дозы — 35 бэр. Адразу ўзнікла мноства праблем з перасяленнем, забеспячэннем людзей чыстымі прадуктамі. Позна, 25 красавіка 1990 года, праз чатыры гады пасля аварыі, па прапанове новага начальніка Грамадзянскай абароны СССР генерала арміі У. Г. Говарава (рыхтавала група на чале з М. Д. Тараканавым) Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову «Пра адзіную праграму па ліквідацыі наступстваў аварыі Чарнобыльскай АЭС і сітуацыях, звязаных з гэтай аварыяй», зацвердзіў прадстаўленую СМ СССР дзяржаўную саюзна-рэспубліканскую праграму неадкладных мер па ліквідацыі наступстваў аварыі на 1990–1992 гады.**

Генерал-маёр Мікалай Дзмітрыевіч Тараканаў не ведаў, не мог нават падумаць пра такое: 121 дакладную ў Кіеў і Маскву з 1980 года (!) пра недахопы і хібы пры будаўніцтве ЧАЭС падалі супрацоўнікі КДБ і «зялёныя». Рэагавання ніякага, — будавалі, як і праектавалі, канструявалі. На згубу людзям і ўсяму жывому. Для пераадолення наступстваў ядзернай катастрофы краіна СССР не была падрыхтавана, бо лічыла, што калі тэхніка савецкая, то яна самая найлепшая, бездакорная, бо «дабраславёная» КПСС. Недахопы праектаў, канструкцыяў, будаўніцтва, чарнобыльскія нестыкоўкі пры выпрабаванні турбіннага абсталявання так ці інакш непазбежна павінны былі перарасці ў катастрофу. Тое і здарылася.



**Валеры Санько**

Нарадзіўся 29 жніўня 1939 года ў вёсцы Вялікая Сліва Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Пісьменнік, журналіст, краязнавец, доктар народнай медыцыны. Закончыў Вяліка-Сліўскую СШ Слуцкага раёна, з адзнакаю Баранавіцкае медвучылішча (1958), факультэт журналістыкі БДУ (1961–1967), Мінскую ВПШ (1976–1978). Працаваў фельчарам у Пінскім раёне, Мінску. Супрацоўнічаў у рэспубліканскіх газетах, выдавецтвах. Аўтар і сааўтар 21 кнігі. Шмат разоў быў на Гомельшчыне, наведваў чарнобыльскую зону.



# З ГІСТОРЫІ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

**Алег Макушнікаў**

## Ветка — галінка ад дрэва гісторыі даўняй...

*Погляд археолага на старадаўнія старонкі быцця*

Частка першая
**Зямля не маўчыць**

1

Калі вы прыязджаеце ці прыходзіце ў Ветку, то адразу і не зразумееце, куды трапілі. Не адкрыецца вам адразу душа веткаўчаніна, схаваная яна, так бы мовіць, за сямю пячаткамі. Бо і называлі іх у розныя стагоддзі па-рознаму.

Вы пераходзіце мост, які злучае абодва берагі змялелага Сожа, тамсям вытыркаюцца з вады астравочкі ды перакаты, а недзе ж схаваліся за асакой і хальчанскія віры; угледзішся пільна, убачыш — леваруч стромкія медзяныя сосны з небам гавораць, праваруч — абрысы вялікага паселішча, а пойдзеш прама — у Ветку трапляеш. І міжволі ўспамінаецца Максім — «няма таго, што раньш было...» Так, усё тут даўно не так, як некалі. Учора. Гэта калі па мерках гісторыі — «учора». Ужо і не пазнаць, як і не ўявіць тое зручнае для жыцця і прыцягальнае для вока і душы паселішча, якое ўцекачы — расіяне-старaверы — назвалі Веткай. Можа, хутчэй за ўсё, і не назвалі, а спыталі ў абарыгенаў-беларусаў, якую назву мае адасоблены «востраў-абруб» сярод палеткаў і паляўнічых раздолляў магнатаў Халецкіх.

Мы не ведаем, можа, беларусы назвалі сваё паселішча Галінай, бо выглядала яно як бы адгалінаваннем ад Сожа, але прышлыя людзі пераклалі на свой капыл — і для іх стала яно *«Веткой»*, — так і пайшло з той пары. А мо яно, нараджэнне паселішча, і зусім неяк інакш выглядала, дазнацца нельга.

Уцякае ад нас зямное і хуткацечнае, ператвараецца ў нешта іншае, да болю знаёмае, але яно не наскае, нейкае чужое. Уцякае ад нас амаль ўсё, і ўцякае назаўсёды. І недзе на донцы душы, са слабым спадзяваннем на цуд, трапечацца, б'ецца думка: «Так, уцякае, не вернеш, але ж нешта павінна і застацца!..» Калі рукапісы не гараць, то гісторыя не павінна знікнуць, — а як жа інакш! І не толькі такія, а шмат іншых думак і спадзяванняў прыходзяць да нас, калі мы пераступаем Вялікае Княства Веткаўшчына. Так, гэта ж не простае паселішча, гэта ж цэлая краіна!

«Ха! — усклікне веткаўчанін (сённяшні і той далёкі жыхар), — Масква ганарыцца сваёй Чырвонай Плошчай. Ну і няхай. Перазвонам адноўленых храмаў ганарыцца. А нашыя, веткаўскія, вы чулі перазвоны? Іх і ў той жа Маскве павінны пачуць, бо яны да Бога далятаюць. Ды што званы на храмах, вы зазірніце ў наш Музей народнай творчасці. Гэта не музей нават, гэта Храм, гэта Хата Бога! Бо ў ім, у Музеі, вы пачуеце не толькі гімн звону, не толькі малітвы да Вышняга, а яшчэ — гімн прыгажосці прашчураў. І мелодыю таго гімна, словы малітвы, дойлідства Веткі здолелі стварыць невялікая грамада таленавітых і геніяльных творцаў саміх веткаўцаў-веткаўчанаў».

Ветка мае славутую і даўнюю гісторыю. З чаго пачаць адлік той гісторыі? Мусіць, з таго часу, калі пра паселішча стала што-кольвек вядома. Пачалася яна, безумоўна, не ў XVII стагоддзі, а ў канцы яго, калі на Гомельшчыну хлынулі людзі з усходу — расійскія «дрэўлеправаслаўныя» веруючыя, якія не прызнавалі той рэлігійны ўклад, які там існаваў. Такі быў час. Мясцовыя людзі прынялі іх, прызналі, далі ім месца жыхарства. Ветка — не толькі мястэчка старадаўняе, гарадок не адносіцца да вялікіх ці буйных. Але гэта — «мікрарэгіён» (так сцвярджаюць вучоныя) і нават цэлы «свет» (такая думка была ў продкаў абшчыны — грамады). Без іх і гісторыя гомельская, і гісторыя беларуская, ды нават і расійская, мусіць, страцілі б шмат і шмат. Адарвіце ад квітнеючай яблыні ці вішні галінку жывую, якая пладаносіць, — і захварэе тое дрэва, а ў ствале яго ўтворыцца дупло з гніллю.

З заплечнікам, а то адзін ці з сябрамі, прыйшлося мне абысці, пратэпаць нагамі ўсю Веткаўшчыну. А берагі Сожа і Бяседзі — дык і не адзін раз, а дзясяткі. Так, мы жылі рамантыкай археалагічнай разведкі, расшуквалі месцы стаянак старажытных жыхароў, паселішчаў, рэштках умацаваных паселішчаў, магілаў памерлых ці забітых у змаганнях супраць ворага нашых прашчураў, шукалі парэшткі гарадзішчаў, раскопвалі курганы. Мы чулі тады звон дзідаў і мячоў, тупаценне капытаў коней, песні нашых продкаў. Мы правяралі на месцы сведчанні навуковых справаздач і публікацый, рабілі ўдакладненні і змяненні ў археалагічныя мапы, праводзілі здымкі мясцовасці, фатаграфавалі, закладвалі пошукавыя шурфы, збіралі рэшткі-аскалёпкі старадаўняй

непазнанай культуры прама на паверхні, вызначалі ўзрост і прыналежнасць помнікаў…

Нельга пералічыць падрабязна, чым мы займаліся насамрэч, бо гэта тамы і тамы нашай дзейнасці. Мы стараліся працаваць аддана і прафесійна, праводзячы ў лясах, палях і на балотах дні і тыдні, кармілі ўдосталь камароў і аваднёў. Колькі крывасмокі адабралі ў нас крыві, цяжка падлічыць. Стома акрываўленых ног, дзённая спякота, начны холад і іншыя нязручнасці адыходзілі на задні план і не ўспрымаліся востра, бо ні з чым не параўнаць момант адчування сусвету, калі перад намі адкрывалі свае таямніцы новыя і новыя помнікі мінулага, пра якія раней ніхто і нічога не ведаў. Падумаць толькі — мы першыя дакраналіся да гісторыі!

А калі перад намі адкрываліся цікавыя знаходкі, то мы былі на сёмым небе. А калі іх назбірвалася больш за сотню, то ў нас галовы кружыліся ад такога поспеху, і мы тады былі самыя шчаслівыя людзі на зямлі. Так, мы былі сапраўды шчаслівыя. Археалагічныя працы вяліся амаль штогод — з 1980 да сярэдзіны 1990-х гадоў на падставе спецыяльных дазволаў (адкрытых лістоў) Інстытута гісторыі Акадэміі навук. І прыемна, што ў нашай экспедыцыі было шмат папярэднікаў і сучаснікаў, імёны якіх гісторыя не забывае. Не мае права забываць.

Адно з самых жывапісных месцаў Веткаўшчыны — наваколлі Свяцілавічаў. Тут, на лукавіне цудоўнай Бяседзі, на самым краёчку вёсачкі Чамярня высіцца сапраўдная гара, якую месцічы называюць Каменнай. І, мусіць, тое не выпадкова — у шматметровым рове з боку ракі можна ўбачыць нямала буйных валуноў, якія некалі прынеслі сюды леднікі. Настаўнік Свяцілавіцкай школы П. М. Чайкоўскі ў 1929 годзе праводзіў чарговую краязнаўчую экскурсію. Яго яшчэ з дзяцінства прыцягвала мясцовая Каменная Гара. Заварожвала не толькі сваёй таямнічай прыгажосцю, але і тым, што расказвалі пра яе людзі, і іх аповеды былі цэлымі паданнямі і незвычайнымі былінамі. Тады ён з вучнямі знаходзіўся на беразе ракі, ля падножжа пясчанага схілу — рова. На іх вачах з пясчанай выспы скаціліся пад ногі камякі гліны і некалькі камянёў. Вочы настаўніка ўпіліся ў незвычайна прадмет, які падкаціўся да яго ног. Ён узяў яго ў рукі, пачаў пільна прыглядацца. Яго з цікаўнасцю абступілі вучні:

— Што гэта, Пётр Мікалаевіч?

Ён адказаў не адразу. Баяўся памыліцца. Беражліва абцёр анучкай незвычайны асколак.

— Дзеці, вы сталі сведкамі незвычайнай знаходкі. Так магла зрабіць не прырода, да гэтага вырабу прыклаў руку чалавек. Думаю, што гэта шкрабло.

— Зброя?

— Ёю людзі абшкрабалі скуры забітых жывёлін альбо апрацоўвалі дрэва. І гэта магло адносіцца да каменнага веку. Але гэтая рэч магла служыць і зброяй.

Каб пераканацца ў сваіх здагадках, настаўнік паведаміў пра знаходку акадэмічным вучоным у Мінск. Заключэнне было адназначным: у распараджэнне археалогіі трапіла крэмневае скрабло (прылада для апрацоўкі скур жывёлы і апрацоўкі дрэва). Але самае дзіўнае, што гэты прадмет мог быць выраблены старадаўнім чалавекам — палеаантропам, які па знешнім вобліку і здольнасцях вельмі адрозніваўся ад сучаснага.

2

Першыя знаходкі парэшткаў такіх людзей былі зроблены яшчэ ў XIX стагоддзі ў Заходняй Еўропе. Па месцах адкрыццяў яны атрымалі назву мусцьерскіх ці неандэртальскіх. Вядомы беларускі даследчык каменнага веку Канстанцін Міхайлавіч Палікарповіч (1889–1963) быў вельмі ўзрушаны знаходкай вясковага педагога. Скрабло выканана ў традыцыях апрацоўкі каменю, што належыць еўрапейскай культуры мусцье (як, напрыклад, у Францыі, Швейцарыі і Нямеччыне). Але ўсе спробы вучоных адкрыць на Каменнай Гары старажытную стаянку не мелі поспеху.

Па сучасных уяўленнях мусцьерская эпоха на землях Беларусі павінна датавацца прыблізна ад 100 да 35 тысяч год таму назад. Стаянкі і касцяныя парэшткі неандэртальцаў вядомы па ўсім Старым Свеце, у тым ліку і на большай частцы Усходняй Еўропы. У той перыяд у сувязі з пацяпленнем ледднікі паступова адступалі, клімат садзейнічаў прасоўванню атрадаў першабытных паляўнічых далёка на поўнач. У раёне Віцебска вучоныя знайшлі парэшткі слана. Так, так, не мамата, а самага сапраўднага паўднёвага слана! Але ў Беларусі да сёння не знойдзена ніводнага мусцьерскага паселішча, а месцазнаходжанняў разрозненых крамянёвых прадметаў (падобных свяцілавіцкаму) можна пералічыць па пальцах адной рукі. Што ж таму прычынай?

У эпоху позняга палеаліту, якая пачынаецца прыкладна 35 тысяч год таму назад, леднікі зноў спаўзаюць з гор, займаючы вялізную тэрыторыю Паўночнай Еўразіі. Перыядычна лядовы панцыр пакрываў усю тэрыторыю Беларусі, часова пакідаючы для насельнікаў толькі паўночна-ўсходнія раёны, якія па клімаце былі падобныя на ўмовы Таймырскага паўвострава ў палярнай і прыпалярнай зоне. Перасоўванне леднікоў і перыяды іх раставання прыводзілі да змянення першаснага рэльефу: шматметровыя глыбы ільду практычна прасавалі, здзіралі ранейшую зямную паверхню, а вялікія патокі расталай вады напорыста пракладвалі сабе шлях, ствараючы новыя ручаі і рэкі. Лёд, снег, магутныя плыні вады і холад выганялі чалавека з раней абжытых месцаў,

знішчалі ўнікальныя каштоўнасці для вучоных нашчадкаў вывучэння месцаў іх пасялення — стаянак.

У познім палеаліце невялікія групы паляўнічых на маманта, насарога, першабытнага аленя і іншых буйных жывёлінаў блукалі па прыледніковым тундра-стэпе ў пошуках прамысловых тэрыторый. Пасяленні яны асноўвалі на высокіх берагах рэк, парэзаных ірвамі. Гэтыя людзі знешне ўжо не адрозніваліся ад людзей сучасных. Яны валодалі складанымі прыёмамі апрацоўкі каменю, костак і дрэва, умелі будаваць жыллё, мелі свае рэлігійныя ўяўленні. Дзве стаянкі позняга палеаліту вучоныя адкрылі ў 1920-х гадах і даследавалі ля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна і каля Бердыжа пад Чачэрскам. Нядаўна і нашай экспедыцыі ўдалося знайсці апрацаваную рукой чалавека костку шорсткага насарога прама ў гістарычным цэнтры Гомеля, каля помніка вядомаму Румянцаву. Калі гэтае адкрыццё пацвердзіцца іншымі знаходкамі, значыць, старадаўняя стаянка была і на месцы нашага абласнога цэнтра.

На Веткаўшчыне такіх «артэфактаў» пакуль няма. Але, так бы мовіць, археолагі не стаяць на месцы. 1920-я гады… К. М. Палікарповіч па сваёй ініцыятыве і з дазволу Інбелкульта (Інстытута беларускай культуры — папярэдніка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) праводзіць суцэльнае археалагічнае даследаванне берагоў Сожа. Вучоны-археолаг уважліва аглядвае тэрыторыі Чачэрска, Веткі і Гомеля. Малады спецыяліст робіць адкрыцці, якія і па сённяшні застаюцца багаццем навукі. Разведка 1926 года змагла нанесці на мапу многія дзясяткі помнікаў мінулага. Канстанцін Міхайлавіч аднёс іх да неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў. І, да яго гонару, амаль не памыліўся ў сваіх навуковых вызначэннях. Трэба прыняць да ўвагі і той факт, што час быў дужа неспрыяльны для такой працы: яшчэ крывянілі раны грамадзянскай вайны, пачыналася калектывізацыя…

Палікарповіч быў чалавек цяжкага лёсу. Ён нарадзіўся ў сям'і святара, атрымаў духоўную адукацыю, але ад служэння ў царкве адмовіўся. Юнаком адправіўся на фронт Першай сусветнай вайны. А потым — вялікая пошукавая археалагічная праца ў Беларусі. Потым — на Браншчыне і нават у далёкім Казахстане. Адкрыцці вучонага ведаў увесь навуковы свет Еўропы. Яго сціпласць, нават сарамлівасць былі незвычайнымі. Зрабіўшы столькі, колькі хапіла б на дзясятак найлепшых спецыялістаў, ён не імкнуўся напісаць кандыдацкую дысертацыю. Кажуць, што па патрабаванні і настойванні сяброў Канстанціну Міхайлавічу навуковая ступень была прысвоена без фармальнага рукапісу, за велізарныя поспехі ў навуцы. Такая, можна сказаць, незвычайная падзея адбылася ў 1941 годзе.

3

У Палікарповіча было шмат вучняў і паслядоўнікаў. Адна з іх — Алена Генадзьеўна Калечыц. Амаль два дзесяцігоддзі правяла яна ў час археалагічных экспедыцыяў на Веткаўшчыне. Палюбіла гэты край, назаўсёды прывязалася да яго — і духоўна, і фізічна. Вы падумаеце, што гэта жанчына магутнага складу, фізічна моцная. Але памыліцеся. Наадварот, убачыўшы яе, здзівіцеся: невысокага росту, кажучы ўсходняй мовай — «хрупкая», сціплая ў сваіх паводзінах. І тады ўжо да вас прыйдзе здзіўленне — адкуль тады ў яе бярэцца столькі сілы і нястомнасці, каб прайсці пеша, так бы мовіць, удоўж і ўпоперак гэты край? Як і мужчыны, працавала без перадыху, ніколі не прызнавалася, што і яе адольвала стома. Ёй тады, у 1970-я гады, дапамагалі гомельскія студэнты-гісторыкі, а сёння — вучоныя і выкладчыкі Васіль Сычоў, Мікалай Бычкоў, Віктар Пічукоў, Уладзімір Літвінаў. Экспедыцыя Алены Генадзьеўны даследавала наваколіцы Прысна, Аднаполля, Шарсціна. Некалькі год вядзіся раскопкі каля Глыбаўкі і Новых Грамыкаў. Так, тых самых Грамыкаў, адкуль родам вядомы кіраўнік краіны савецкага перыяду Андрэй Андрэевіч Грамыка. Дарэчы, такі факт, які адбыўся шмат гадоў таму. Адна бабулька сталага веку, вядомая на ўсё наваколле, ахвотна ўключылася ў нашую размову. Мы ёй расказвалі, чым мы займаемся і для чаго гэта ўсё патрэбна. Яна шмат пра што распытвала ў нас, мы ахвотна адказвалі на пытанні.

— А хочаце, я раскажу вам сваю «тайну», пра якую ніколі і нікому не расказвала? — пацікавілася яна, гледзячы на нас затоеным позіркам, нават голас прыцішыўшы.

Хто ж адмовіцца ад такога «падарунка»? Мы з радасцю згадзіліся выслухаць яе «сакрэт».

— Ну дык слухайце, — уздыхнула яна, як быццам шкадавала, што развітаецца са сваёй «тайнай. — Пры саветах таго гаварыць няможна было, была, як яе, цэнзура. Андрэйка, калі быў малы, кароў пасвіў людскіх. І заўсёды абавязкова з кніжкай хадзіў, чытаць вельмі любіў. Найбольш пастушок прыганяў статак да Аўрамавага бугра. Там дужа сакаўная трава была, заўсёды каровы былі сытыя ды і малако смачнае давалі. Пра той бугор людзі шмат чаго цікавага расказвалі. Быццам над ім, бугром, нейкі таямнічы агонь свеціцца. Быццам адтуль нейкія галасы да людзей даносяцца, крыкі чуваць, звон жалеза… Але вось жа здарылася… Ці то вельмі цікавая кніжка трапілася хлопчыку, ды не мог адарвацца ад яе, ці ад стомы прылёг адпачыць, невядома… Калі ачомаўся, то не ўбачыў перад сабою статка. Гавяда разбрылася па лузе, разышлася ў розныя бакі. І аднаму сабраць іх у гурт было немагчыма. Нехта ўбачыў з вяскоўцаў, падняў усіх на ногі, і да вечара ледзьве сабралі той статак. Добра, што ваўкоў галодных у акрузе не было, не мінаваць бы бяды, але абышлося ўсё, дзякуй Богу!

Бабуля Ганна вельмі любіла свайго ўнука Андрэйку, таму і казала: «Шмат кніжак чытаў ён, не мог жыць без іх. Дык ці мог ён, з дзяцінства вучоны, селянінам стаць, у зямлі корпацца, — ён стаў вунь якім вялікім начальнікам, што ўвесь свет пра яго ведае…»

Прызнацца, нас зацікавіла не гісторыя з Грамыкам, а мясцінка — Аўрамаў бугор. Гэты пясчаны ўзвышак, мусіць, нарадзіла сама прырода. Знаходзіцца ён пры вусці непрыкметнай рачулкі Увіч, якая потым ўпадае ў Бяседзь. Казалі, што ў нейкія даўнія час мясцовы жыхар Аўрам распрацаваў тую зямлю і пасеяў па ўзараным збажыну. Не спадзяваўся на вялікі ўраджай, абы атрымаць што-небудзь, каб і на наступны год трошкі засеяць. Пясок — ён і ёсць пясок, а калі яшчэ і дажджу не будзе, то ўсё пагарыць ад спякоты. Не ведаў земляроб Аўрам, што пад плугам яго, акрамя пяску жоўценькага, ляжыць. Ды і не ўглядаўся. Ён глядзеў у неба, а не ў зямлю, маліў Бога, каб дапамог яму ў яго клопаце. Бог, мусіць, пачуў яго малітву, убачыў у селяніне нашчадка біблейскага Аўраама і шчодра паліў зямлю на яго полі. І дала збажына добры ўраджай. І на наступны год дапамог. Ужо мала было таго поля, Аўрам пашырыў яго. І з тае пары ўсе людзі пачалі казаць: «То бугор, на якім працуе Аўрам. Значыць, Аўрамаў бугор».

Сёння пра знаходкі Алены Калечыц сведчаць не толькі шматлікія навуковыя манаграфіі, але кнігі, падручнікі, фільмы. Дзякуючы ёй у Новых Грамыках была глыбока даследавана стаянка людзей сярэднекаменнага веку — эпохі мезаліту (9–5 тысячаў год да нашай эры). А якая была цікавасць у мясцовых школьнікаў — не перадаць! Яны аказаліся самымі адданымі і зацікаўленымі памочнікамі археолагаў. Гатовыя былі працаваць дзень і ноч. Акрамя цікавасці ім перападала за працу нейкая і капейчына, што было і дзіўна, і прыемна для іх. Навука ў іх сем'і прыносіла сваю ўдзячнасць за працу і дапамогу. І ім, дзецям, перадалося тое трымценне сэрца і чаканне, калі «пяшчотнае» і «далікатнае» дакрананне рыдлёўкі ці шуфля да амаль некранутага нікім пяску выклікала характэрнае шчоўканне. Гэта быў як бы сігнал даўняга часу, покліч, рэха. Ён азначаў, што адбылася сустрэча з крэмніевым перыядам — з пяску вытыркалася, блішчэла, зіхацела знаходка крэмніевага аскалёпка, узрост якога… Узрост, які мы і ўявіць не можам, хіба толькі здагадвацца. Здаецца, што і сэрцы біліся сінхронна ў археолагаў і іх памочнікаў — мясцовых школьнікаў. І калі траплялася знаходка, то радасць для ўсіх была вялікая.

Багатай аказалася тая Града Аўраама на гістарычныя знаходкі! Акрамя звычайных для помнікаў мезаліту аскалёпкаў, адшчэпаў, сустракаліся і каменныя нажы, скрабкі, наканечнікі стрэлаў… Усё гэта, аб'яднанае ў адно цэлае, — наша гісторыка-археалагічнае багацце. А яно сведчыць — у мезаліце на Веткаўскіх абсягах жылі паляўнічыя, рыбаловы, збіральнікі і стваральнікі культуры таго часу. Акрамя працы чалавека, каб выжыць у тым свеце, яшчэ ствралася і духоўнае багацце, без якога

не мог выжыць пасяленец. Час ляціць, імкліва ляціць наперад. Тое, што мы бачым і ствараем сёння, у далёкім будучым будзе мінулым. І тады ўжо будучыя даследчыкі будуць дакопвацца да фактаў нашага жыцця.

*(Працяг будзе.)*



**Алег Макушнікаў**

Нарадзіўся ў 1960 годзе. Скончыў ГДУ імя Францішка Скарыны, доктар гістарычных навук. Аўтар 280 навуковых прац. Вядомы вучоны ў галіне археалогіі і сярэднявечча гісторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі.

**Уладзімір Лякін**

## Самасьера

*Урывак з кнігі «Літвіны ў гвардыі Напалеона»*
*(Мінск, 2017; пер. з расейскай А. М. Анісім)*

*Кніга знаёміць чытачоў з малавядомай старонкай айчыннай гісторыі, службай нашых продкаў у 1807–1815 гадах у гвардыі Напалеона. Яны апынуліся там з адной высакароднай мэтай: вярнуць незалежнасць Айчыне — Вялікаму Княству Літоўскаму. Іх бліскучая перамога пад Самасьерай ды ў іншых бітвах цалкам апраўдваюць словы французскага імператара: «Вы вартыя маёй Старой гвардыі! Вы — самая адважная кавалерыя!»*

22 ліпеня 1808 года здарылася нечуваная ў напалеонаўскай арміі справа — пад Байленам на поўдні Іспаніі іспанцы акружылі і вымусілі капітуляваць корпус генерала П. Дзюпона. Еўропа была здзіўлена: аказваецца, гэтую непераможную армію могуць адолець нават кепска навучаныя і слаба дысцыплінаваныя войскі і апалчэнцы? А ў самой Іспаніі адбыўся небывалы выбух патрыятызму, усюды імкліва фармаваліся новыя рэгулярныя вайсковыя часткі, міліцыя і партызанскія атрады (на сцягах пазначалася «Пераможцы пераможцаў»). У дадатак да ўсяго ў канцы жніўня ў Партугаліі капітуляваў (хоць і на больш ганаровых умовах, якія прадугледжвалі вяртанне дамоў) корпус А. Жуно. Французы вымушаныя былі пакінуць Мадрыд, зняць аблогу Сарагосы і адступіць амаль да самай мяжы.

Напалеон зразумеў, што без яго асабістай прысутнасці ў Іспаніі ўжо не абысціся. Стрымлівала толькі неабходнасць правесці прызначаныя раней перамовы ў Эрфурце з рускім царом. Адразу ж пасля іх заканчэння 14 кастрычніка імператар, ненадоўга завітаўшы ў Парыж, паспяшаўся ў армію. Ранкам 3 лістапада ён прыбыў у памежны горад Байёну, дзе далучыў да свайго канвою 3-і і 4-ы эскадроны гвардзейскіх шэвалежэраў. 4 лістапада вечарам быў ужо ў іспанскім мястэчку Талоса, дзе і сустрэў свайго старэйшага брата. Няўдалага караля без падданых належала вярнуць назад у Мадрыд, пакуль туды не падышлі англічане.

5 лістапада, прыбыўшы ў Віторыю, Напалеон узяў на сябе камандаванне арміяй. 11-га ён быў ужо ў Бургосе, дзе за некалькі дзён сабраў амаль усю сваю гвардыю, у тым ліку полк шэвалежэраў колькасцю ў 715 шабляў. Палова палка (2-і і 4-ы эскадроны) пад камандаваннем маёра П. Датанкура разам з шасцю ротамі вальтыжораў была адпраўлена 24 лістапада ў дапамогу французскаму корпусу, які дзейнічаў у даліне ракі Эбра. Другая палова палка з хворым у той момант В. Красінскім засталася пры галоўнай кватэры. На маршы П. Датанкур атрымаў па-

ведамленне, што вораг разбіты, і цяпер яго атраду трэба было рушыць бакавой дарогай на мадрыдскі тракт да Самасьеры.

Чутка пра прыбыццё імператара натхніла войскі, якія страцілі баявы дух, а маршалы і генералы раптоўна зноў набылі свае здольнасці палкаводцаў. 10 лістапада пры Бургосе маршал Н. Ж. Сульт разбіў іспанскую армію Эстэрмадуры, а крыху пазней маршал К. Віктор нанёс паразу ворагу пад Эспінозай. 23 лістапада пад Тудэлай злучаныя карпусы маршалаў Ж. Мансея і Ж. Ланна разграмілі шматлікую армію Арагона, якой камандаваў пераможца пры Байлене генерал Ф. Кастаньёс. Ліквідаваўшы такім чынам пагрозу на флангах, Напалеон, маючы пад рукой гвардыю і 1-ы корпус маршала К. Віктора, пачаў паход на Мадрыд.

Было вядома, што іспанскае кіраўніцтва («Цэнтральная хунта») спехам падцягвае да сталіцы войскі і рыхтуе яе да абароны. Аднаму з самых здольных іспанскіх генералаў Б. Сан Хуану было даручана заняць горны праход Самасьера ў 90 км на поўнач ад Мадрыда, узяўшы моцны атрад. Гэта натуральная прыродная перашкода была для наступальнай арміі сапраўдным «моцным арэшкам». Візуальна пазіцыя ўяўляла сабой вузкую і даволі працяглую (5 км) даліну, якая перасякала ў мерыдыянальным напрамку горную граду Гуадарама. Яна пачыналася на поўначы каля хутара Вента дэ Жуаніла (карчма і з пяток дамоў), які размясціўся на вышыні 1150 метраў над узроўнем мора, паступова павышалася да максімальнай вышыні 1440 метраў, пасля чаго пачынаўся спуск.

Тут праходзіў ажыўлены і даволі шырокі (каля 6 метраў, што дазваляла размінуцца дзвюм карэтам) камунікацыйны тракт, які злучаў сталіцы Францыі і Іспаніі, утрымліваўся ў адносным парадку, быў высыпаны шчэбенем і гравіем. З усходу над перавалам навісала вялізная скалістая гара Пенья Цэбалера, з захаду — такая ж вялікая Сера Баранкаль (абедзве вышынёй амаль 2,2 км). У паўночнай частцы даліны кружляў паўнаводны ручай Пена-дэль-Хора, які ўпадаў ў рэчку Даратон, прыток ракі Дуэра. Спачатку дарога ішла ўздоўж правага берага ручая, пасля па каменным мосце пераходзіла на левы і выгіналася да самай высокай кропкі перавалу. Там з даўніх часоў стаяла каменная капліца Эрміта дэ ла Соледад і яшчэ некалькі пабудоў, у якіх ад вялікіх зімовых завірух хаваліся падарожныя. Адсюль дарога спускалася да вёскі Самасьера.

18 лістапада 1808 года іспанскі генерал Б. Сан Хуан заняў перавал сваімі войскамі (рэгулярныя вайсковыя часткі Эстрэмадурскай арміі і фармаванні апалчэнцаў, усяго 12 тыс. чал., 16 гармат). У яго было дастаткова часу, каб узмацніць інжынернымі работамі гэту і так амаль непрыступную пазіцыю. Частку сваіх сіл (3 тысячы штыкоў) ён адразу ж выправіў за перавал да мястэчка Сепульведа на паўночным захадзе. Камандзір атрада палкоўнік Ж. Сардэн атрымаў задачу стварыць пагрозу французам з фланга, скаваць боем іх авангард і выйграць час да пады-

ходу падмацавання. (Іспанцы разлічвалі нават на прыбыццё саюзнікаў-англічан.)

Войскі спехам рыхтаваліся да бою. Размешчаныя на сядле перавалу пабудовы былі прыстасаваны да абароны, а дарога перад каменным мастком на Пена-дэль-Хора перакапаная ровам. Іспанскі генерал вырашыў заблакаваць праход артылерыяй. У абсталяваным каля капліцы шанцы паставілі 6-гарматную батарэю. Акрамя гэтага галоўнага вузла абароны, на выгінах дарогі ў паўночнай частцы перавалу былі ўсталяваныя яшчэ тры артылерыйскія батарэі, меншыя па памерах.

Першая з іх, прыкрытая парапетам і ровам, размяшчалася адразу за каменным мостам цераз ручай і магла абстрэльваць ворага да самага ўваходу ў даліну. Тут знаходзіліся (паводле іспанскіх інфармацыйных крыніц) 6 гармат. Уласна кажучы, на дарозе маглі размясціцца ў адзін шэраг толькі 2–3, а астатнія размясцілі на ўзвышэнні па ўзбочынах. Шэвалежэр В. Плачкоўскі, які бачыў гэту ўжо маўклівую батарэю, прыгадваў, што «адны гарматы былі пастаўлены на лафеты, а іншыя без лафетаў вышэй і нібы на прыступках».

Другая батарэя знаходзілася прыблізна праз восемсот метраў далей па тракце, на яго выгіне, трэцяя, таксама на выгіне, прыблізна праз шэсцьсот метраў ад другой. На іх было па дзве гарматы, прыкрытыя плецёнымі карзінамі, запоўненымі зямлёй. Ад трэцяй батарэі да галоўнай чацвёртай, што размяшчалася на самым высокім месцы перавалу, было метраў семсот. Пры гарматах былі дзве сотні артылерыстаў, а ў іх прыкрыцці — два батальёны пяхоты, якія занялі агнявыя пазіцыі ўздоўж тракту ў невялікіх акопах і за абломкамі скал.

Цясніна не дазваляла размясціць тут значную колькасць войскаў, і палавіну сваёй дывізіі (6 батальёнаў армейскай пяхоты і два батальёны міліцыі з Таледы і Альказара, усяго больш за шэсць тысяч штыкоў) камандуючы паставіў у якасці рэзерву за вёскай Самасьера і далей. Перад уваходам у цясніну стаў авангард у семсот шабляў (два эскадроны мадрыдскіх добраахвотнікаў і конная міліцыя).

Вышэй за гарматнае прыкрыццё на менш стромкіх схілах уздоўж дарогі ў паўночнай частцы перавалу размясціліся яшчэ два батальёны пешай мадрыдскай міліцыі агульнай колькасцю амаль у тысячу чалавек. Нарэшце, блізу тысячы ваяроў (два батальёны севільскіх добраахвотнікаў) займалі ўмацаванні на сядле перавалу. Сан Хуан не сумняваўся ў непрыступнасці сваёй пазіцыі і спакойна чакаў з'яўлення непрыяцеля.

20 лістапада дывізія лёгкай кавалерыі Ш. Ласаля, авангард Напалеона, падышла да Самасьеры. Маючы загад правесці выведку варожых пазіцый і сіл на перавале, генерал спачатку апытаў мясцовых жыхароў. Ад іх даведаліся, што іспанцаў там нібыта 25 тысяч, а цясніна запоўнена гарматамі. Для праверкі чутак наперад рушыў узмоцнены раз'езд, які на падыходзе да даліны быў атакаваны і адкінуты іспанскай кавалерыяй. Не маючы пяхоты і артылерыі, А. Ш. Ласаль спыніў свой рух.

На некалькі дзён тут усталявалася зацішша, а да французаў перабегла некалькі салдат з іспанскай брыгады Ж. Сардэна, былых каралеўскіх гвардзейцаў родам з Францыі. Яны паведамілі інфармацыю пра сваю брыгаду, а таксама пра дыслакацыю і прыблізную колькасць асноўных сіл іспанцаў на перавале.



Самасьера

Між тым Напалеон рушыў з войскамі 25 лістапада з Бургоса дарогай на Мадрыд, не маючы дакладнага ўяўлення, калі ён зможа туды ўвайсці. На світанку наступнага дня яго галоўная кватэра стала ў мястэчку Аранда-дэль-Дуэра, апошнім перад перавалам. У падмацаванне да А. Ш. Ласаля была пасланая брыгада гвардзейскіх фузілёраў пад камандаваннем дывізійнага генерала Ж. Савары.

Ранкам 29 лістапада Напалеон выслаў з Аранды кур'ераў да маршалаў Ж. Б. Бесьера і К. Віктора, генералаў А. Ш. Ласаля і Ж. Савары з загадам тэрмінова выказаць свае прапановы па прызначанай на заўтрашні дзень атацы іспанскіх пазіцый на Самасьеры. Сам жа ён накідаў наступны парадак дзеяння: а 7 раніцы 30 лістапада авангард атакуе пяхотай і кавалерыяй умацаваную ў мястэчку Сепульведа іспанскую брыгаду Ж. Сардэна, а калі пагроза з фланга будзе ліквідаваная, дзве пяхотныя дывізіі з корпуса К. Віктора павядуць атаку непасрэдна на перавал.

А палове на адзінаццатую раніцы імператар у суправаджэнні шасці тысяч ваяроў выехаў з Аранда-дэль-Дуэра, пераправіўся праз раку Дуэра, і апоўдні яго галоўная кватэра заняла вёску Босегільяс, што размясцілася далей на поўдзень. Адтуль у суправаджэнні гвардзейскага коннага эскорту (у яго ўваходзіў і дзяжурны эскадрон шэвалежэраў) ён накіраваўся ў бок занятай ворагам вёскі Тэрэза-дэль-Абаё, зусім недалёка ад перавалу. Конныя егеры выбілі з паселішча атрад варожай пяхоты, пасля чаго Напалеон агледзеў з яго ўскраіны іспанскія пазіцыі

і вярнуўся ў галоўную кватэру. Прызначаныя на штурм Самасьеры пяхотныя дывізіі не мелі гармат, і артылерыйскаму генералу Г. Сен-Ларану было даслана распараджэнне Імператара падвезці да 4 гадзін раніцы з рэзерву дванаццаць 8-фунтовых гармат. (З-за недахопу коней даставілі толькі палову.)

Каля 3-й гадзіны ночы паступіла паведамленне, што іспанцы без бою пакінулі Сепульведу і адышлі на захад у бок Сеговіі. Гэта спрашчала і праясняла сітуацыю, атаку на перавал можна было пачынаць ужо на досвітку наяўнымі сіламі, не чакаючы падыходу падмацаванняў, што былі на маршы. Маршалу К. Віктору быў дасланы загад атакаваць ворага на перавале ў 5 раніцы, збіць яго і яшчэ ў гэты ж дзень дайсці да мястэчка Бутрага, што па дарозе на Мадрыд.

Між тым атрад П. Датанкура дайшоў пасля паўдня 29 лістапада да невялікага паселішча Рыёза, на поўнач ад перавалу, дзе ў перастрэлцы з іспанскай вартай загінуў адзін з шэвалежэраў. Узялі палонных, ад якіх даведаліся пра пазіцыі і сілы непрыяцеля, што займаў Самасьеру. Рушылі далей, і вечарам атрад выйшаў на мадрыдскі тракт крыху на поўдзень ад вёскі Тэрэза-дэль-Абаё.

За дзве мілі на поўнач у вёсцы Басэгільяс знаходзілася галоўная кватэра Напалеона. Маёр абвясціў прывал, акружыў бівак узмоцненай вартай і выслаў некалькі патрулёў для выведкі. Адзін з іх знайшоў незатушанае вогнішча і каля яго акрываўлены абломак шаблі французскага ўзору. Было зразумела, што тут нядаўна адбылася нейкая сутычка і вораг зусім блізка. Даведаўшыся пра гэта, ад'ютант імператара брыгадны генерал Ш. Лебрэн, які знаходзіўся пры ротах шэвалежэраў, вырашыў зрабіць больш глыбокую выведку ў паўднёвым напрамку. Гэта даручылі правесці 1-му эскадрону Т. Лубеньскага, узмацніўшы 3-м і 4-м узводамі 7-й роты на чале з падпаручнікамі А. Негалеўскім і Б. Зялёнкай.

Генерал і маёр таксама вырашылі асабіста прыняць удзел у выведцы. У густым змроку атрад выехаў з паселішча, і неўзабаве на ўзвышэннях Гуадарамы былі заўважаны шматлікія агні варожага лагера. Ш. Лебрэн склаў кароткі рапарт для імператара і адаслаў яго ў галоўную кватэру з узводам Б. Зялёнкі. Напалеон прачытаў данясенне, задаў падпаручніку некалькі пытанняў і тут жа адправіў яго назад разам з шэфам гвардзейскага інжынернага батальёна Ж. Льеда. Апошняму было даручана зарыентавацца на месцы, вызначыць, якога роду ўмацаванні зрабіў вораг ля ўваходу ў даліну, і ацаніць шансы, ці можна іх узяць у час франтальнай атакі.

Афіцэр прыбыў на аванпосты каля гадзіны ночы 30 лістапада, асцярожна потайкам рушыў аж да ручая ў самой цясніне, заўважыў тут земляное ўмацаванне (люнет) і некалькі равоў упоперак шашы. Вяртаючыся пад покрывам ночы назад, ён нечакана сутыкнуўся з іспанскім раз'ездам, які таксама вяртаўся з выведкі. Толькі добрае веданне іс-

панскай мовы і прысутнасць духу дапамаглі інжынеру пазбегнуць смерці або палону.

Імператар, які амаль не спаў у гэтую ноч, выслухаў даклад Ж. Льеда, тут жа ў суправаджэнні маршала К. Віктора і ўзводу конных егераў накіраваўся з галоўнай кватэры ў Тэрэза-дэль-Абаё, а адтуль — наўпрост да непрыяцельскіх пазіцый. Густая цемра не дазваляла бачыць далей як на некалькі метраў, і з гэтай прычыны маршал і некалькі конных егераў, што ехалі наперадзе, ледзьве не патрапілі ў палон да іспанцаў. Абышлося, праўда, без страляніны і пагоні. Вярнуўшыся на бівак гвардзейскіх шэвалежэраў ля вёскі, імператар затрымаўся тут да світання, грэючыся са сваімі спадарожнікамі ля вогнішча. (Як сцвярджае легенда, да іх вогнішча падышоў стараслужачы кавалерыст, паляк ці літвін. Надта не звяртаючы ўвагі на прысутных, ён моўчкі выграб сабе вугольчык, каб прыкурыць трубку. Генерал Ж. Лебрэн, які даўно адвык ад такіх парадкаў, заўважыў, што някепска было б ветліва падзякаваць Яго Вялікасці. Гвардзеец, які адыходзіў ад вогнішча, паказаў рукой на перавал і прабурчаў: «Там падзякуем».)


Літвін-шэвалежэр

Калі пачало днець, імператар, які асцерагаўся таго, што іспанцы пад покрывам цемры маглі змяніць свае пазіцыі, аддаў распараджэнне ўзяць «языка». Брыгадны генерал П. Манбрэн перадаў яго загад камандзіру дзяжурнага 3-га эскадрона шэвалежэраў Я. Казятульскаму (шэф 2-га эскадрона часова замяняў адсутнага шэфа 3-га эскадрона І. Стакоўскага). Той паставіў задачу камандзіру 3-га ўзвода 7-й роты падпаручніку А. Негалеўскаму і даў яму яшчэ некалькі вопытных ваяроў з іншых узводаў (у тым ліку літвінаў П. Вайцэхоўскага, І. Румейку, А. Стэфановіча).

Імгла яшчэ поўнасцю не рассеялася, і пад яе прыкрыццём шэвалежэры асцярожна, каб не нарвацца на засаду, пачалі падымацца ў горы. Мінулі два маленькія бязлюдныя хутары, ля трэцяга яны сутыкнуліся з варожай пяхотай. У кароткай перастрэлцы быў забіты конь пад шэвалежэрам П. Вішнеўскім, іспанцы на яго наваліліся ўсім натоўпам і скруцілі. Але і гвардзейцам удалося захапіць аднаго палоннага, пасля чаго з-за няроўнасці сіл падпаручнік даў каманду на адыход. Заданне было выканана, але ў сувязі з тым, што П. Вішнеўскага ўзялі ў палон, на пахвальбу разлічваць не даводзілася.

Каля сямі гадзін раніцы да Тэрэза-дэль-Абаё падышлі калоны пяхотнага палка з дывізіі генерала Ф. Руфена, падвезлі і некалькі лёгкіх гармат. Імператар зноў выехаў да авангарда і доўга разглядаў у падзорную трубу люнет, ледзь заўважны ў тумане. Пасланыя раней выведнікі яшчэ не вярнуліся, і ўверх па даліне быў пасланы паўэскадрон гвардзейскіх



Перад атакай на Самасьеру

конных егераў. Яго ўзначаліў маёр Ф. Сегюр, які атрымаў задачу высветліць, як далёка знаходзяцца іспанцы.

Тыя, зразумела, таксама ўважліва назіралі за перамяшчэннем непрыяцеля, і неўзабаве конныя егеры трапілі пад артылерыйскі абстрэл. Ядры ім шкоды не ўчынілі, а вось агнём з ружжаў варожая пяхота, што засела за камянямі, параніла маёра і некалькі егераў. Забраўшы іх, паўэскадрон паскакаў назад. Ля Тэрэза-дэль-Абаё кананіры ўжо усталявалі артылерыйскую батарэю (па шырыні дарогі можна было паставіць толькі дзве гарматы ў рад) і неадкладна разгарнулі тут жа палявы лазарэт для першых параненых. Французскія гарматы адкрылі агонь па ворагу, той адказваў. Іспанскія гарматы былі большага калібру, іх ядры даляталі да вёскі і нават за яе. Толькі імператарскі хірург А. Юван перавязаў параненага Ф. Сегюра, як той быў зноў паранены асколкам гранаты. Ядры падалі і непадалёк ад Напалеона, быў забіты адзін з коннікаў яго канвою.

«Нам было загадана, — успамінаў шэвалежэр 7-й роты літвін Я. Хлапіцкі, — пашыхтавацца на правым баку дарогі, насупраць варожай батарэі, а імператар са сваёй світай размясціўся на левым баку. Варожая батарэя пачала з імпэтам страляць у розных напрамках: направа, налева, прама, бліжэй і далей».

Напалеон злез з каня, аддаваў загады, а калі непадалёк упала гарматнае ядро, то паглядзеў на яго, панюхаў табакі і сказаў: «Іспанцы страляць умеюць, і, калі б ім не замінала імгла, тое месца, на якім стаім, было б вельмі небяспечным». Заўважыўшы, што лёгкія французскія гарматы амаль не наносяць ворагу шкоды, імператар загадаў перасунуць батарэю наперад. Замінаў роў, выкапаны ўпоперак дарогі, але гвардзейскія сапёры хутка збілі драўляны насціл, гарматы па адной перацягнулі па ім, і неўзабаве яны зноў адкрылі агонь.

Да васьмі гадзін раніцы за вёскай у доўгіх калонах стаялі ўжо тры пяхотныя палкі, і яшчэ некалькі былі на маршы. Мяркуючы, што гэтых сіл дастаткова, Напалеон а палове на дзявятую раніцы загадаў пачаць агульную атаку. Наперад, прама на люнет і перавал, рушылі вальтыжоры 96-га лінейнага палка. На іх шчасце, амаль усе варожыя ядры ішлі з пералётам і разрываліся дзесьці ў тыле. Калі ж адкрыла агонь схаваная за абломкамі скал і камянямі іспанская пяхота, страты атакуючых імгненна выраслі. Першая атака захлынулася, і генерал Ф. Руфен аддаў загад адступіць на зыходныя пазіцыі.

Падцягнуўшы рэзервы, французы распачалі камбінаваны ўдар: направа ад дарогі рушыў 9-ы полк лёгкай пяхоты, налева — 24-ы лінейны, у цэнтры зноў наступаў 96-ы лінейны. Цяпер за вальтыжорскімі

ротамі ішлі і фузілёрскія. З-за складанага рэльефу мясцовасці, камянёў і скальных абломкаў, што закрывалі вузкую даліну, наступ развіваўся павольна і прыблізна праз гадзіну канчаткова спыніўся.

Імператар нерваваўся, маршал К. Віктор, які быў побач, яго супакойваў: маўляў, узяць такую моцную пазіцыю — справа няпростая, да таго ж вораг мог цалкам зрабіць аднекуль збоку контратаку вялікімі сіламі. Было ўжо дзесяць з чвэрцю раніцы, калі з выведкі вярнуўся ўзвод А. Негалеўскага. Ён здаў палоннага шэфу эскадрона і паведаміў пра П. Вішнеўскага. Камандзір задумаўся. Калі б выведка вярнулася без стратаў або з забітым ці параненым, ясная справа, ён тут жа падвёў бы палоннага іспанца да імператара разам з шэвалежэрам І. Панінскім, які ўзяў яго ў палон, і падпаручнікам.

А што рабіць цяпер, калі іспанцы ўжо дапытваюць няшчаснага спосабамі, якія развяжуць любы язык? Крыху павагаўшыся, ён здаў палоннага генералу П. Манбрэну і выклаў яму ўсе абставіны вылазкі. Напалеон, у якога і без таго зранку быў дрэнны настрой, даведаўшыся пра палон П. Вішнеўскага, зусім раз’юшыўся. Яму прывалаклі нейкага непісьменнага мужыка-апалчэнца, а там, на перавале, іспанскі генерал дапытвае зараз гвардзейца імператарскага эскорту! І, хутчэй за ўсё, Сан Хуан ужо ведае, што ў французаў супраць яго магутнай артылерыі ёсць толькі некалькі лёгкіх гармат! Тузануўшы каня, імператар паехаў уздоўж 3-га эскадрона гвардзейскіх шэвалежэраў, што пашыхтаваўся справа ад дарогі, засыпаючы іх моцнай ваярскай лаянкай — маўляў, уначы яны падпалілі адзін з дамоў у Тэрэза-дэль-Абаё, чым насцярожылі і папярэдзілі непрыяцеля. Выглядае на тое, што гэты выбух гневу, выкліканы палонам гвардзейца, разам з няўдачай першых атак і стаўся прычынай прынятага ім безразважнага рашэння паслаць у горы, на гарматы — кавалерыю!

Вярнуўшыся да сваёй світы, Напалеон злез з каня і, паклікаўшы П. Манбрэна, распарадзіўся перадаць камандзіру дзяжурнага эскадрона шэвалежэраў яго загад неадкладна атакаваць іспанскую батарэю. Маршал К. Віктор і генералы, пачуўшы гэта, на імгненне аслупянелі, а затым адзін перад адным пачалі пераконваць імператара, што пяхота хай сабе і не адразу, але справіцца з задачай, а вось некалькі залпаў іспанскай карцечы ва ўпор ператворыць эскадрон, выцягнуты стужкай па нешырокай дарозе, у кашу з конскіх і людскіх цел. Але, аддаўшы загад, імператар не хацеў чуць ніякіх аргументаў.

— Што значыць немагчыма? — павысіў ён голас і стукнуў кулаком па луцэ сядла. — Я не ведаю гэтага слова!

П. Манбрэн, падскакаўшы да Я. Казятульскага, перадаў яму распараджэнне імператара для неадкладнага выканання. Той скамандаваў, і эскадрон перамясціўся з узбочыны на тракт, пашыхтаваўшыся на ім у калону па чатыры. Наперадзе была 3-я рота капітана Я. Дзеваноўскага, за ёй — 7-я рота капітана П. Красінскага.

У эскадроне не хапала некалькіх дзясяткаў шэвалежэраў (адкамандзіраваных і хворых), і, па сутнасці, гэта была толькі ўзмоцненая рота, крыху больш за дзве сотні шабляў. З гэтай прычыны замест васьмі ўзводаў асабісты склад перашыхтавалі ў чатыры, якія ўзначалілі (пачынаючы з галавы калоны) паручнік С. Кржыжаноўскі, падпаручнікі Г. Равіцкі, І. Рудоўскі і Б. Зялёнка.

Шэф эскадрона выехаў наперад, камандзіры рот занялі месца ў сярэдзіне калоны, у канцы — паручнік В. Шаптыцкі. Для большыні шэвалежэраў гэта быў першы бой, і ведаючы, што на іх глядзіць сам імператар, яны былі гатовыя штурмаваць неба. Словы Напалеона, звернутыя да шэрагаў кавалерыстаў, якія ішлі міма яго, — «Палякі, вазьміце тыя гарматы!» — дадавалі ім упэўненасці і сіл.

(Паводле іншай версіі, ён сказаў камандзіру эскадрона, які праязджаў паўз яго: «Вось ваша магчымасць атрымаць шпоры, месье. Ачысціце мне дарогу, і хутчэй!») Я. Казетульскі скамандаваў: «Рыссю марш!», а гарніст пратрубіў сігнал атакі. Пачуўся бразгат адначасова дастаных з ножнаў шабляў і цокат падковаў. Эскадрон, набіраючы хаду, панёсся — насустрач сваёй легендзе! Да іспанскай батарэі было з кіламетр. Варожы агонь прайшоўся па шэрагах, калі кавалерысты пераадолелі большую частку гэтай адлегласці.

«Дарога была вузкая, — успамінаў Я. Хлапіцкі, — нельга было разгарнуць узводы, і мы вымушаныя былі скакаць вузкай калонай па чатыры ў рад галопам да батарэі, якая накрыла нас смяротным агнём; град карцечы і гарматныя ядры паклалі там палову эскадрона».

Камандзір, які імчаў наперадзе, зваліўся разам з забітым канём, загінуў паручнік С. Кржыжаноўскі, які скакаў следам. Шыхт збіўся, целы скінутых на зямлю людзей і коней утварылі на дарозе затор. Але шляху назад не было, і афіцэры хутка навялі парадак у шарэнгах. Да батарэі заставалася метраў трыста, трэба было выйграць час, не трапіць пад другі залп. З цяжкасцю вызваліўшы нагу са стрэмя і ледзьве падняўшыся з зямлі, моцна кантужаны шэф эскадрона з апошніх сіл гучна скамандаваў, ужо не па статуце: «Браты, наперад — да гарматаў! Няхай жыве імператар!»

Эскадрон рушыў з месца ў галоп. Набраўшы ход, шэвалежэры па трое-чацвёра ў рад, не збаўляючы тэмпу, праскочылі масток праз ручай і ўбачылі прама перад сабой іспанскіх артылерыстаў, якія ліхаманкава зараджалі гарматы карцеччу. Адначасова на іх сыпаўся рой сотняў куль, выпушчаных іспанскай пяхотай з горных схілаў абапал дарогі.

Быў забіты падпаручнік І. Рудоўскі, некалькі чалавек было паранена. У сярэдзіне калоны на ўсёй хуткасці рухнулі на дарогу некалькі коней, калечачы вершнікаў, утварыўся новы затор. Паручнік В. Шаптыцкі, падпаручнік Б. Зялёнка і дзясяткі два шэвалежэраў 7-й роты, спатыкнуўшыся аб яго, саскочылі з коней і, ведучы іх за аброць, паспрабавалі схавацца ад абстрэлу за камянямі на ўзбочыне. Без сумневу, яны мер-

кавалі, што атака не ўдалася. Між тым большая частка эскадрона працягвала свой шалёны алюр уверх па схіле. Да гармат заставалася каля паўсотні метраў, калі яны далі другі залп. Смяртэльная карцеч зрабіла крывавыя барозны ў калоне, але не спыніла яе.

Капітан Я. Дзеваноўскі на хаду пераскочыў на кані іспанскую барыкаду, за ім астатнія. За паўхвіліны артылерысты, якія адбіваліся цесакамі і баннікамі, а таксама пяхота з прыкрыцця былі пасечаны, палонных не бралі. Камандзір роты, не губляючы часу, скамандаваў атаку на наступную батарэю. Ён, ды і ўсе ацалелыя выдатна разумелі, што праз некалькі хвілін там усвядомяць, што адбылося, і адкрыюць агонь. Усе ўзводы аказаліся перамешаныя, але часу на шыхтаванне не было. Узгарачаныя боем, раззлаваныя смерцю паплечнікаў, не думаючы пра ўласную смерць, коннікі рванулі ўверх па схіле.

У гэты момант падаспела невялікае падмацаванне — узвод А. Негалеўскага, які вярнуўся з выведкі і да пачатку атакі не паспеў заняць сваё месца ў шыхце. Дарога, што вяла да другой батарэі, яшчэ больш звузілася, у адзін рад па ёй маглі скакаць толькі 2–3 кавалерысты, а стромкасць пад'ёму павялічвалася. Прыпаўшы да конскіх каркаў, шэвалежэры бачылі, як мітусіцца абслуга ля гармат, наводзячы іх ствалы на коннікаў, што з'явіліся раптоўна, як быццам ніадкуль.

Але вось пачуўся залп, які забіў яшчэ некалькі адважнікаў, што скакалі наперадзе. Цяпер ужо ніхто не чакаў каманды і не раўняў шыхты. Прайшла хвіліна, і паўтарылася папярэдняя сцэна, кананіраў пасеклі прама на гарматах. Сюды падаспелі і шэвалежэры з хваста калоны, якія адсталі ад шыхта, а затым іх зноў сабралі і пасадзілі на коней В. Шаптыцкі і Б. Зялёнка. Рэшткі перамяшаных узводаў рушылі далей, да наступнага павароту дарогі. Яны імчаліся не так хутка, як раней, коні стаміліся, шмат хто быў паранены. Праз хвіліну гвардзейцы ўбачылі перад сабою чарговую варожую батарэю. У іспанскіх артылерыстаў было дастаткова часу, каб добра прыцэліцца. Гэты залп быў самым згубным, пасля яго адважная 3-я рота, якая была ў галаве калоны, практычна перастала існаваць як баявая адзінка. За імгненне перад тым падпаручнік Г. Равіцкі крыкнуў А. Негалеўскаму, які скакаў поруч:

— Андрэй, прытрымай майго каня, я не магу з ім справіцца!

І амаль адразу ж твар і мундзір афіцэра, які павярнуўся да яго, былі заплямлены крывёю паплечніка: карцеччу зняло галаву Г. Равіцкага. Быў цяжка паранены і зваліўся з каня Я. Дзеваноўскі. Некалькі дзясяткаў ацалелых узначаліў капітан П. Красінскі, і яны, уварваўшыся на батарэю, не былі літасцівымі да артылерыстаў, што спрабавалі супраціўляцца.

Да самай высокай кропкі перавалу, дзе знаходзілася апошняя батарэя, заставалася крыху больш за паўкіламетра. Шэвалежэрскія коні моцна стаміліся, на дарозе было не больш як сорак чалавек, у асноўным з 7-й роты. Капітан П. Красінскі перашыхтаваў гэту жменьку адважні-

каў па чатыры, наперад выехаў падпаручнік Б. Зялёнка, і ўсе яны ў адзіным рыўку накіраваліся да апошняга павароту і апошняй перашкоды. Для іх былі спрыяльнымі тыя абставіны, што разгубленыя іспанцы не чакалі такога імклівага развіцця падзей і крыху спазніліся зарадзіць і навесці гарматы.

Залп, хоць і не вельмі прыцэльны, выбіў з шыхта чарговыя ахвяры. Зваліўся разам з канём паранены П. Красінскі, і камандаванне перайшло да апошніх уцалелых афіцэраў А. Негалеўскага і Б. Зялёнкі. Нешматлікія, але страшныя ў сваёй раз'юшанасці коннікі як смерч праімчалі паміж гармат і вакол капліцы, секлі абслугу, разагналі пяхотнае прыкрыццё. Храплі загнаныя коні. Цяжка дыхалі вершнікі, апусціўшы акрываўленыя шаблі і азіраючыся ў пошуках паплечнікаў.

Гэты момант праз шмат гадоў прыгадваў А. Негалеўскі: «Убачыўшы пры сабе некалькі шэвалежэраў, а за сабой вахмістра Сакалоўскага на кульгавым кані, спытаўся ў яго: «Дзе нашы?» Сакалоўскі адказаў: «Загінулі!» …Пяхота іспанская з бакоў палівала нас агнём, і пры гэтай чацвёртай батарэі было яшчэ некалькі дзясяткаў іспанскіх кананіраў. Крычу: «Сакалоўскі, атакуем іх!» — атакавалі з гэтай жменькай людзей. Іспанцы пабеглі, а бедны Сакалоўскі павялічыў сваёй смерцю колькасць ваяроў, што загінулі ў тым баі».

Ад пачатку легендарнай атакі яшчэ не прайшло і дзесяці хвілін. Шэвалежэраў засталося так мала, што іспанская пяхота, якая была ў паніцы і збіралася ўцякаць, пачала зноў збірацца ў гурт з выразным намерам контратакаваць. Паранены конь, падаючы, моцна прыціснуў А. Негалеўскага, і таму заставалася толькі моўчкі глядзець, як да яго падбягаюць варожыя салдаты з штыкамі наперавес. Атрымаўшы дзесяць(!) колатых ранаў і ўдар шабляй па галаве, заліты крывёю афіцэр быў прыняты ворагамі за забітага, хоць заставаўся пры памяці. Гаснучым позіркам ён адзначыў, як іспанцы адвязалі ад сядла і знеслі яго валізу, як дабілі на зямлі параненых шэвалежэраў і ўжо накіраваліся да гармат, каб зноў падрыхтаваць батарэю да бою. Няўжо іх подзвіг і смерць былі дарэмнымі?

Не! Імператар, які ўважліва назіраў за боем, пасля таго як узялі першую батарэю, імгненна зразумеў, што лёс падарыў небывалы шанц, і рушыў наўздагон атакуючым усю кавалерыю эскорту, што была пры ім на той момант. Узвод конных егераў і два ўзводы шэвалежэраў з 1-га эскадрона (каля дзвюх сотняў шабляў) павялі шэф эскадрона Т. Лубеньскі і паручнік С. Раствароўскі.

Яны абрынуліся другой магутнай хваляй на сядло перавалу. Перабіўшы і раскідаўшы іспанцаў, што пачалі зноў набліжацца да батарэі, кавалерысты паімчалі ўжо на схіл, да выхаду з цясніны. Не прайшло і чвэрці гадзіны, як на перавал ускараскалася і французская пяхота. А. Негалеўскага, які сцякаў крывёю, выцягнулі з-пад забітага каня і перанеслі да іспанскай гарматы, дзе яго наспех перавязалі. (Яго магутны арганізм

адужае страшныя раны, герой пражыве яшчэ 48 гадоў.) Неўзабаве сюды прыбыў камандуючы гвардзейскай кавалерыяй маршал Ж. Б. Бесьер.

2-і і 4-ы эскадроны палка В. Красінскага, якія былі з ім (сам палкоўнік хварэў і знаходзіўся пры галоўнай кватэры), неадкладна адправілі пад камандаваннем П. Датанкура наўздагон іспанцам, што ў паніцы разбягаліся. Маршалу даклалі, што тут знаходзіцца паранены пры першым штурме польскі афіцэр. Ён пад'ехаў да ляжачага на лафеце А. Негалеўскага, схіліўся над ім і прамовіў:

— Малады чалавек, імператар бачыў выдатную атаку шэвалежэраў і высока ацаніў вашу мужнасць.

Паручнік, трацячы апошнія сілы, ціха адказаў:

— Мансіньёр, я паміраю на ўзятай гармаце, скажыце пра гэта імператару…

*(У некаторых крыніцах паведамляецца, што да параненага адважніка пад'ехаў сам Напалеон і, схіліўшыся, пачапіў на яго мундзір уласны ордэн Ганаровага Легіёна.)*

Я. Казятульскі прыгадваў, як, застаўшыся без каня, паволі, абапіраючыся на шаблю, цягнуўся ўніз па схіле. Імператар, які ехаў насустрач, спытаўся, ці не паранены ён.

— Не, сір, а ваш загад — выканалі.

Тое, што кавалерыя захапіла чатыры размешчаныя адно за адным на вузкай горнай дарозе ўмацаванні з гарматамі, стала для войскаў Б. Сан-Хуана сігналам да ўцёкаў. Конныя і пешыя ратаваліся па тракце, многія — у гарах. Да паўдня французы дабраліся да Бутрага, дадаўшы да 16 гарматаў яшчэ больш як тры тысячы палонных. Іспанскі генерал быў забіты сваімі ж салдатамі-ўцекачамі, якіх беспаспяхова спрабаваў спыніць. Яго дывізія проста знікла. З 216 афіцэраў, падафіцэраў і шэвалежэраў 3-га эскадрона, што першымі пайшлі ў атаку, 14 чалавек былі забітыя (дзевяць з 3-й роты і пяцёра з 7-й), яшчэ 43 цяжка параненыя, астатнія амаль усе — ці параненыя, ці кантужаныя. Загінулі або атрымалі раны рознай цяжкасці ўсе як адзін афіцэры 3-га эскадрона.

1-ы і 2-гі эскадроны страцілі ўжо ў паўднёвай частцы даліны і за ёй 6 чалавек забітымі, 20 параненымі і кантужанымі. Такім чынам, адкрытая дарога на Мадрыд дорага абышлася палку, але ў цэлым страты наступаючай арміі былі нязначнымі. Сваім гераізмам і самаахвярнасцю шэвалежэры ўратавалі сотні жыццяў сваіх паплечнікаў.

Сярод загінуўшых былі нараджэнец Віленшчыны шэвалежэр 3-й роты 19-гадовы І. Румейка, нараджэнец Гарадзеншчыны брыгадзір 3-й роты 18-гадовы Я. Стахоўскі, нараджэнец Беласточчыны брыгадзір 3-й роты В. Сянкевіч (яму павінна было хутка споўніцца 17 гадоў). Іншыя літвіны і беларусы з гэтага эскадрона былі наскрозь параненыя шрапнеллю, куляй, штыком або кантужаныя.

Гэта былі: старшы вахмістр І. Бабіцкі, вахмістры І. Горскі і В. Тэдвен, брыгадзіры І. Кестовіч і М. Тарасевіч, шэвалежэры С. Барадзін,

Г. Варанкевіч, М. Дваржэўскі, Я. Зарзунскі, І. Земковіч, А. Красоўскі, Ф. Кулеша, І. Ляшчынскі, М. Маліноўскі, браты-спарышы А. Марскі і Я. Марскі, В. Манюшка, Т. Нарвіка, А. Ардыніч, В. Падгурскі, П. Рампецкі, А. Сельскі, Я. Серакоўскі, Л. Станкевіч, М. Станкевіч, І. Статкевіч, І. Стэмпкоўскі, А. Стэвановіч, М. Суднік, В. Трацяк, І. Тымінскі, Л. Улідовіч, Я. Хлапіцкі, М. Хрункевіч, К. Ягентовіч.

Загінулых гвардзейскіх шэвалежэраў у гэты ж дзень пахавалі з ваярскім ушанаваннем на невялікіх могілках пры капліцы Эрміта дэ ла Саледад на вяршыні перавалу. Параненых (акрамя тых, хто мог і пажадаў застацца ў шыхце) спачатку даставілі ў паходны лазарэт, а пасля ўваходу ў Мадрыд — у шпіталь. Некаторыя з іх, у тым ліку ініцыятыўны і адважны капітан Я. Дзеваноўскі, неўзабаве памерлі. На наступны дзень, 1 снежня Напалеон загадаў палку В. Красінскага пашыхтавацца для агляду. Ён праехаў уздоўж шыхта, углядаючыся ў твары маладых герояў, спыніўся ў цэнтры, зняў капялюш і, крыху памаўчаўшы, гучна прамовіў:

— Шэвалежэры! Вы сапраўды вартыя маёй Старой гвардыі! Я прызнаю, што вы — самая адважная кавалерыя!

«Гэты аванс, — успамінаў Я. Хлапіцкі, — быў сведчаннем удзячнасці Напалеона тым, хто не шкадаваў для яго сваёй крыві і жыцця, быў для нас вельмі ганаровым, бо мы ў параўнанні з іншымі часткамі французскай гвардыі былі навічкамі».

Бюлетэнь па арміі № 13 з апісаннем гэтай легендарнай атакі шырока разышоўся па Францыі, пра герояў Самасьеры даведаліся ў Еўропе, Амерыцы, ва ўсім цывілізаваным свеце. Дарога да Мадрыда была вольная, і праз два дні напалеонаўскія войскі падышлі да яго паўночнай ускраіны.

5 снежня, пасля падпісання капітуляцыі сталіцы, яе жыхары без вялікай радасці сустракалі свайго нядаўна выгнанага новага караля і французскага імператара. На іх жаль, другі Байлен не адбыўся.



**Уладзімір Лякін**

Нарадзіўся ў 1951 годзе ў Хойніках. Аўтар кніг «Свет православия на калинковичской земле» (напісаная ў суаўтарстве з протаіерэем а. Георгіем Камінскім), «Фамилии калиновского края», «Мы с берегов Каленовки», «Калинковичи на перекрёстке дорог и эпох», Мозырь в 1812 году» і інш. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Калінкавічах.

**Валянціна Лебедзева**

## Шлях да незалежнасці: Гомельшчына ў падзеях і асобах нацыянальнага руху 1917–1920 гадоў

*Да 100-годдзя БНР*

Бурлівы глабальны пералом пачатку ХХ стагоддзя Гомель сустрэў на эканамічным і палітычным пад'ёме, што было вынікам папярэдняга пяцідзесяцігоддзя «вялікіх рэформаў» у Расійскай імперыі. Калі ў 1870–1880-я гады праз Гомельскі павет прайшлі дзве важныя чыгункі — Лібава-Роменская і Палеская, чыгуначныя лакаматывы «пацягнулі» ў рэгіён не толькі тавары і пасажыраў, але і імклівую урбанізацыю. З усіх беларускіх гарадоў менавіта Гомель адчуў найбольш моцны ўплыў мадэрнізацыйных зменаў.

Пасля адмены прыгоннага права з 1863 па 1913 год насельніцтва горада павялічылася з 12,6 да 100,5 тыс., гэта азначала — амаль у восем разоў. Па колькасці жыхароў Гомель амаль удвая абагнаў губернскі Магілёў (у 1913 г. — 54,2 тыс.)[1] і выйшаў на трэцяе месца сярод гарадоў Беларусі пасля Мінска і Віцебска. Не мяняючы свайго павятовага адміністрацыйнага статусу, па прамыслова-транспартным патэнцыяле, фінансавай і бізнесовай актыўнасці Гомель паспяхова канкурыраваў са сваёй губернскай сталіцай Магілёвам. Падобныя працэсы адбываліся таксама ў Рэчыцы — тагачасным павятовым цэнтры Мінскай губерні, які па адлегласці і транспартна-эканамічных сувязях больш да Гомеля[2].

Заўважым, што урбанізацыйныя дэмаграфічныя працэсы мелі этнанацыянальную асаблівасць, звязаную са знаходжаннем рэгіёна ў межах рысы яўрэйскай аселасці. Рост гарадскога насельніцтва забяспечваўся тут не за кошт міграцый з беларускай вясковай акругі, а шляхам канцэнтрацыі яўрэйскага элемента. Транспартна-камерцыйныя магчымасці Усходняга Палесся прыцягвалі гандляроў, рамеснікаў і прадпрымальнікаў з іншых губерняў, найперш Магілёўскай і Чарнігаўскай, а таксама з Масквы і іншых буйных расійскіх цэнтраў.

Пасля акцыі 1891–1895 гадоў па высяленні яўрэяў са сталіц імперыі значная іх частка асела менавіта ў Гомелі, карыстаючы яго прамую чыгуначную сувязь з Масквой і Піцерам. Адпаведна матэрыялам усерасійскага перапісу 1897 года, асобы іўдзейскага веравызнання складалі ў Го-

---

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. 23. Могилевская губерния. СПб., 1903. С. 94–95.

[2] Речица. Дорогой столетий в будущее / под общ. ред. В. С. Панченко [и др.]. Речица: Редакция газеты «Днепровец», 2013. С. 85.

мелі 55%[1]. Прыкладна такі ж паказчык мела Рэчыца з насельніцтвам ў 13 тысячаў чалавек [2].

Як і было традыцыйна для тагачаснага Паўночна-Заходняга краю, гарады вельмі слаба прэзентавалі этна-беларускі пачатак. Афіцыйныя структуры ўлады, адукацыі, царкоўнага жыцця, мастацкай культуры і камунікацый заставаліся рускамоўнымі і трансліравалі імперскую агульнасць. Асобную і трывалую нішу ў паўсядзённым, рэлігійным і гаспадарчым жыцці займала яўрэйская культура, а ідыш зазвычай можна было чуць не толькі ў раёне Кагальнага рова, але на ўсіх вуліцах і кірмашах. Касцельныя грамады ў Гомелі і Рэчыцы выкарыстоўвалі польскую мову.

Рэгіён быў значным асяродкам сіянісцкай, бундаўскай і эсэраўскай актыўнасці. З 1904 года тут дзейнічаў адзін са старэйшых у імперыі Палескі камітэт Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Ва ўсіх лева-рэвалюцыйных арганізацыях дамініравалі яўрэйскія элементы.

Абставіны Першай сусветнай вайны спрыялі актывізацыі на Гомельшчыне палітычных, эканамічных і нацыянальных працэсаў. З восені 1915 года Гомель і Рэчыца ўвайшлі ў тылавую зону Заходняга фронту. Гэта значна змяніла сітуацыю і ў гарадах, і на вёсцы. Праз Гомель і іншыя населеныя пункты па лініі чыгункі прайшлі патокі бежанцаў, частка з якіх асела на месцы. Сярод уцекачоў вылучаліся прадстаўнікі каталіцкіх і яўрэйскіх грамад з Віленшчыны. У Гомелі з’явіўся Яўрэйскі бежанскі камітэт[3]. Гомель і ваколіцы сталі месцам разгортвання вывезеных з Польшчы і заходнебеларускіх губерняў прадпрыемстваў і ўстаноў разам з іх персаналам — прыкладам, Варшаўскага арсенала і завода Варшаўскай акругі [4], Упраўлення Заходніх чыгунак, і іншых.

Колькасць насельніцтва істотна вырасла таксама за кошт вайскоўцаў. Так, у Гомелі былі разгорнуты шматлікія вайсковыя часткі, а таксама найбуйнейшы ў тыле Заходняга фронту этапна-размеркавальны пункт (каля 9 тысячаў вайскоўцаў), арганізаваліся з дзясятак ваенных шпіталяў, гаспадарчая база Заходняга фронту. Менавіта вайскоўцы ў значнай ступені вызначалі палітычную сітуацыю ў горадзе ў моманты рэвалюцыйных зрухаў: франтавікі складалі ўплывовую групу ў Гомельскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, створаным 4 сакавіка 1917 года, атрымалі доступ у Гарадскую думу, дзе 65 месцаў з 101 належалі сацыялістам агульнарасійскіх плыняў[5].

---

1 Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г.

2 Шыбека З. Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзяў). Мінск, 1997. С. 220.

3 Memoirsof Samuel Esterowicz [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http//isurvived.org/Frameset_Rescuers/-Plagge_Karl-German_ Maj.html. Дата доступу: 20.07.2017.

4 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (НГАБ). Ф. 2912. Воп. 1. Спр. 28. Арк. 24.

5 Памяць: гіст.-дакум. хроніка Гомеля: у 2 кн. Кн. 1. Мінск: БелТА, 1998. С. 249.

Важныя ваенна-палітычныя і сацыяльна-дэмаграфічныя зрухі ваеннага часу, як вядома, паставілі пытанне аб распадзе еўрапейскіх манархічных імперый і перспектывах самавызначэння іх народаў. Эпіцэнтрам беларускай ідэі на ўсход ад расійска-германскага фронту становіцца Мінск, дзе ўжо ў пачатку сакавіка 1917 года ствараецца Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) на чале з ***Раманам Скірмунтам***. Жыццяздольнасць ідэі ў значнай ступені залежала ад падтрымкі яе перыферыяй, у тым ліку такімі эканамічна развітымі рэгіёнамі, як Гомельшчына.

Зазначым, што першыя імпульсы да асэнсавання этнічнай і палітычнай самаідэнтыфікацыі насельніцтва Гомеля і рэгіёна стварылі менавіта працэсы, выкліканыя Першай сусветнай вайной, у прыватнасці прымусовае бежанства. У беларускай (як і ўкраінскай) гістарыяграфіі масавае бежанства найчасцей ацэньваецца як фактар паслаблення сацыяльнай базы змагання за нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне. Аднак адносна ўсходніх абшараў Беларусі бежанства якраз і стала стымулам для інспірацыі беларускай ідэі, сведчаннем чаго з'яўляецца дзейнасць Гомельскага саюза беларускай дэмакратыі.

Атрымалася так, што, акрамя прадпрыемстваў, на тэрыторыі Гомельшчыны апынуліся некаторыя эвакуяваныя з заходніх губерняў навучальныя і асветніцкія ўстановы, а разам з імі — выкладчыкі, журналісты і іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі, частка якіх яскрава атаясамлівала сябе з краёвымі інтарэсамі. Паплечнікі гэтых дзеячаў знайшліся таксама сярод службоўцаў Палескіх чыгунак. У выніку 23 красавіка 1917 года ў памяшканні Упраўлення гэтых чыгунак сабралася немалая па мерках Гомеля грамада — каля 200 чалавек, якія заявілі пра сваю беларускую прыналежнасць і імкненне абараніць нацыянальныя інтарэсы[1].

Нягледзячы на дэклараванае самавызначэнне, прысутныя сталі ў апазіцыю праграме мінскага БНК і выклалі альтэрнатыўныя прапановы. Створаны на сходзе Часовы беларускі дэмакратычны камітэт 18 чэрвеня рэарганізаваўся ў Саюз беларускай дэмакратыі. На чале суполкі апынулася даволі вядомая асоба, адзін з лідараў наступальнага заходнерусізма, рэдактар віленскіх газет кансерватыўна-ахоўніцкага кірунку «Северо-Западная жизнь», паслядоўнік ***Павал Каранкевіч.***

Ад пачатку Саюз беларускай дэмакратыі абвясціў аб сваім намеры «ўсяляк супрацьдзейнічаць імкненню некаторых беларусаў да аўтаноміі» і да выкарыстання беларускай мовы ў школьніцтве. Прапанова прадстаўніка БНК ***К. Станкевіча***, які прыехаў для перамоў, «стаяць за аўтаномію Беларусі» на сходзе СБД была катэгарычна адхілена, а ме-

[1] Гл. падрабязней: Качаткоў У. І. Гомельскі «Союз белорусской демократии» — апошні (?) эпігон «западно-русизма» // Гомельшчына — старонкі мінулага: зборнік матэрыялаў навукова-практычнай канферэнцыі (15–16 лютага 1996 г.). Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1996. С. 93–96.

рапрыемствы БНК па правядзенні «дзён свабоднай Беларусі» 24–25 чэрвеня кіраўніцтва П. Каранкевіч і яго паплечнікі заклікалі байкатаваць[1] .

Сваімі актыўнымі дзеяннямі гомельцы прадэманстравалі імкненне перахапіць ініцыятывы Мінска. Акрамя БНК, яны наладзілі трывалыя кантакты з Магілёўскім беларускім камітэтам, акадэмікам Я. Карскім, які падтрымаў праграму «гамяльчан» па пытанні мовы: магчымасць выкарыстоўваць яе толькі ў пачатковым школьніцтве . «Саюз» падрыхтаваў для распаўсюджвання сярод грамадскасці гісторыка-этнаграфічны нарыс пра беларусаў, вытрыманы ў ідэях прымірэння з ідэямі «агульнарускай еднасці»[2].

У той жа час дзейнасць «гомельскіх беларусаў» дэманструе характэрныя для заходнерускага лагера ваганні і патэнцыяльную магчымасць стаць рэсурсам беларускага руху. Пра гэта сведчыць праграма Саюза беларускай дэмакратыі, якая прадугледжвала шырокае самакіраванне Беларусі на дэмакратычных пачатках у складзе Расіі, тэрытарыяльную цэласнасць краю «з горадам Вільняй як галоўным культурным цэнтрам», а таксама, хоць і абмежаванае, але прызнанне беларускай мовы [3].

Невядома, якім кірункам пайшла б эвалюцыя ўсёй арганізацыі, бо яе сляды губляюцца з часам нямецкай акупацыяй Гомельшчыны ў сакавіку 1918 года. Можна меркаваць, што сябры Саюза скарысталі ўмовы акупацыі, каб вярнуцца ў родныя мясціны, як гэта зрабілі многія бежанцы. Ва ўсялякім выпадку лёс заснавальніка арганізацыі, Паўла Каранкевіча, у міжваенны перыяд зноў быў звязаны з Вільняй, дзе па сведчанні беларускага даследчыка А. Бучы, ён далучыўся да беларускага руху.



Цяжка вызначыць уплыў Саюзу беларускай дэмакратыі на агульнаграмадскую сітуацыю ў Гомелі, аднак нельга выключаць, што менавіта ім была зроблена першая «прышчэпка» беларускіх настрояў сярод яго насельніцтва. Дадатковы імпульс даў прыезд на Гомельшчыну ўлетку 1917 года дэлегацыі ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады на чале з ураджэнкай Гомеля ***Палутай Бадуновай***.

Палымяная прамоўца і патрыётка беларускай ідэі, П. Бадунова правяла некалькі сустрэч з актывістамі, найперш настаўнікамі, у Гомелі, Новабеліцы і Буда-Кашалёве, а таксама выступі-

---

[1] Качаткоў У. І. Гомельскі «Союз белорусской демократии» — апошні (?) эпігон «заходнорусизма».
[2] Тамсама. С. 93–96.
[3] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6. Кн. 1. С. 248.

ла на гарадскіх мітынгах, дзе прысутнічала шмат навакольных сялянаў і вайскоўцаў[1].

У час агульнарасійскай выбарчай кампаніі ва Усерасійскі Устаноўчы сход у лістападзе 1917 года Саюз беларускай дэмакратыі падтрымаў прапанаваны Магілёўскім беларускім камітэтам агульнагубернскі «беларускі спіс» (№ 8) з 15 асобаў. Сярод тых, хто патрапіў у спіс, былі не толькі прадстаўнікі Магілёва ***Міхаіл Кахановіч*** і ***Дзмітрый Даўгяла***, але таксама лідары агульнабеларускага руху ***Аляксандр Цвікевіч*** і ***Фёдар Турук***. Яны знаходзіліся тым часам у Маскве, але, пэўна, былі дастаткова вядомы і гомельскай грамадскасці.

Разам з імі кандыдатамі былі вылучаны чатыры гомельцы: ***Павел Каранкевіч, Дзмітрый Гулевіч, Канстанцін Вароўскі і Васіль Міхалёнак.*** Адметна, што ўсе яны прадстаўлялі Упраўленне Палескіх чыгунак[2]. Спіс здолеў здабыць у Гомелі 337 галасоў. Хаця ён заняў апошняе месца з усіх нацыянальных (яўрэйскага аб'яднанага і польскага), але абышоў блок землеўласнікаў больш чым на 150 галасоў[3]. Заўважым, што гэтая колькасць прыхільнікаў «беларусаў» была другой пасля Мінска.

Такім чынам, працэс асэнсавання праблемы беларускага самавызначэння паступова прыцягваў увагу грамадска-палітычных сілаў Гомельшчыны. Пра гэта сведчыць удзел гомельскіх дэлегацый у снежаньскім 1917 годзе Усебеларускім з'ездзе. Аўтарытэтных дзеячаў накіравала на форум Гомельская гарадская дума. Узначаліў яе вядомы гарадскі дэмакрат і сацыяліст ***Іосіф Бабарыкін.*** Сваіх дэлегатаў накіраваў гарадскі камітэт чыгуначнікаў, арганізацыі эсэраў і сацыял-дэмакратаў (меншавікоў).

Рэчыцкая гарадская дума за подпісам гарадскога галавы ***Пятра Патона*** дэлегавала свайго галоснага ***А. К. Яноўскага,*** які зразумеў сур'ёзнасць пастаўленых з'ездам пытанняў і звярнуўся ў гарадское самакіраванне з просьбай абмеркаваць «лёс Беларускага


М. В. Д.
РѢЧИЦКАЯ
ОДСКАЯ УПРАВА
Минской губерніи.
бря 30 дня 1917 г.
№ 3136
г. Рѣчица.

На № 683.
18 ноября
1917 г.

№ 421

Въ Исполнительный Комитетъ
Великой Бѣлорусской Рады.

Предъявитель сего, Гласный Рѣчицкой Городской Думы, Альфонсъ Карловичъ ЯНОВСКІй, журнальнымъ постановленіемъ Думы, состоявшимся 29 сего ноября, делегированъ въ качествѣ представителя Думы, для участія 5-го декабря сего 1917 г. во всеобщемъ Бѣлорусскомъ Съѣздѣ въ гор. Минскѣ.

Городской Голова

Членъ Управы

Секретарь

---

[1] Лебедзева В. Пуцявінамі змагання і пакутаў: Палута Бадунова. Мінск: Тэхналогія, 2004. С. 12.

[2] Голос народа. 1917. 20 октября.

[3] Голос народа. 1917. 12 ноября.

краю», перш чым ускладаць такую адказнасць на аднаго прадстаўніка Рэчыцы[1].

Адметна, што пасля разгону бальшавіцкай уладай Усебеларускага з'езда і наступлення рэпрэсіўных захадаў у Мінску Гомельскі саюз беларускай дэмакратыі цалкам падтрымаў ініцыятыву Магілёўскага камітэта пра скліканне 5 студзеня 1918 года ў Магілёве новага сходу для стварэння часовага органа кіравання краем — Беларускага народнага савета і арганізацыі выбараў у пастаянны орган краёвай улады — Беларускую краёвую думу[2].

Пытанне этнічнага самавызначэння насельніцтва Гомельшчыны абвастрылася пасля акупацыі яе кайзераўскімі войскамі ў сакавіку 1918 года, калі адпаведна дамове Украінскай Цэнтральнай рады з прадстаўнікамі германскага блоку беларуская частка Палесся была перададзена ў склад Украінскай Народнай Рэспублікі. *У выніку гэтых міжнародных абставінаў Гомельшчына была афіцыйна аддзелена ад барацьбы за Беларускую Народную Рэспубліку, аднак не страціла сувязі з гэтым працэсам.*

Грамадскія настроі ў рэгіёне падзяліліся. Пры тым, што большасць насельніцтва традыцыйна звязвала сябе з «агульнарасійскай культурай і будучыняй», праявіліся яскравыя беларусацэнтрычныя арыентацыі. Так, прадстаўнікі Мазырскага, Рэчыцкага і Гомельскага паветаў наведалі Народны Сакратарыят БНР з пытаннем аб і перспектывах беларуска-ўкраінскіх перамоў і просьбай аказаць падтрымку ў адкрыцці беларускіх школ[3].

У час працы ў Кіеве Дэлегацыі Народнага Сакратарыята БНР па перамовах з Украінай на яе адрас паступілі некалькі пратэстаў супраць адрыву часткі беларускіх тэрыторый. У прыватнасці, Саюз земскіх уласнікаў Пінскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Гомельскага паветаў перадаў праз свайго прадстаўніка ***Фёдара Мухартава*** міністру спраў закардонных Украінскай Дзяржавы ліст, у якім сцвярджалася, што насельніцтва азначаных паветаў яскрава звязана з цэнтрам Беларусі Мінскам і не ўяўляе свайго дзяржаўнага існавання ў межах Украіны. Дакумент патрабаваў адклікання з далучаных паветаў украінскіх камісараў і замены іх на камісараў Рады БНР[4].

Пасля разгляду гэтых пратэстаў Радай БНР у далучаныя паветы быў прызначаны камісар БНР. Ім стаў служачы Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі, а з лета 1917 года — старшыня гомельскай суполкі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, ***Язэп Няцецкі.***

---

[1] НГАБ. Ф. 1237. Воп. 1. Спр. 249. Арк. 248 — 249 адв.
[2] Агееў А., Пушкін І. Фарміраванне і дзейнасць Магілёўскага Беларускага Камітэта (1917–1918). Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2017. С. 39.
[3] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 62. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 116.
[4] Цэнтральны дзяржаўны архіў вышэйшых органаў кіравання Украіны (ЦДАВО Украины). Ф. 3766. Воп. 1. Спр. 139. Арк 1, 1 адв.

Няцецкі Язэп Сцяпанавіч быў ураджэнцам Шчучына і патрапіў у Гомель з персаналам Заходніх чыгунак. Тут ён выказаў сябе выбітным актывістам рэвалюцыйнага руху, узначаліў галоўны выканкам Палескіх чыгунак, а летам 1917 года стаў старшынёй гомельскай суполкі БСГ.

Паўнамоцтвы камісара былі зацверджаны спецыяльным пасведчаннем, распаўсюджваліся на ўсе далучаныя да Украіны беларускія абшары: «Народны Сакратарыят, згодна з пастановай сваёй за 4 чэрвеня г. р., мае гонар паведаміць Вам, што Вы назначаны Наменснікам Народнага Сакратарыята БНР на ўсю Гомельшчыну і Палессе (паветы Менскай губерні: Пінскі, Мазырскі, Рэчыцкі; Магілёўскай губерні: Гомельскі; Чарнігаўскай: Навазыбкаўскі, Ноўгарад-Северскі, Суражскі, Мглінскі і Арлоўскай губерні: Бранскі). Дзеля гэтага Вы павінны ўвайсці ў адносіны як з найвышэйшай акупацыйнай Уладай, так і з Гарадамі, і Земствамі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, каб там на месцах арганізаваць беларускую ўладу, на каторую бы маглі апірацца ўсе тамашнія жыхары — беларусы і грамадзяне Беларусі, а ў першы чарод — уцекачы, каторыя варочаюцца на сваю бацькаўшчыну. Са сваёй стараны Народны Сакратарыят прыме ўсе неабходныя меры, каб праца Ваша на такім атветным становішчы прынесла рэальныя скуткі для дабра Беларусі»[1]. Захаваліся таксама звесткі аб заснаванні ў Гомелі пад кіраўніцтвам Я. Няцецкага беларускай бежанскай камісіі.

На жаль, сведчанняў аб дзейнасці камісара і бежанскай камісіі ў Гомелі амаль не захавалася, і можна меркаваць, што гэтыя інстытуцыі не наладзілі сапраўднай працы з-за адсутнасці найперш фінансаў. Акрамя гэтага, Я. Няцецкі за арганізацыю забастоўкі чыгуначнікаў Гомеля ў жніўні 1918 года быў арыштаваны нямецкай камендатурай і высланы за дэмаркацыйную лінію, а новы камісар так і не атрымаў прызначэння.

Пры тым, што беларускі рух не стаў шырокай грамадскай з'явай на Усходнім Палессі, менавіта Гомельшчына дала нацыянальнай справе шэраг знакавых асоб і прадэманстравала тым самым патэнцыял фарміравання нацыянальнай інтэлектуальнай і палітычнай эліты.

У кагорту тых, хто самаахвярна змагаўся за правы беларускага народа, яркімі літарамі ўпісана імя ***Палуты (Пелагеі) Бадуновай***.

Пелагея Бадунова нарадзілася і сфарміравалася як асоба ў Гомелі, дзе каля 10 год выкладала ў навакольных вясковых школах, што, напэўна, і стала галоўным чыннікам яе беларускай самаідэнтыфікацыі. Напярэдадні Першай сусветнай вайны яна накіравалася ў Петраград на знакамітыя Вышэйшыя гісторыка-літаратурныя курсы. Тут пачалося яе імклівае ўваходжанне ў палітыку: яе абіраюць дэпутатам усерасійскага рэвалюцыйнага урадавага органа — Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Прымаючы ўдзел у справе пераўтварэння велізарнай краіны, яна ўсвядоміла, што часткай гэтых перамен з'яўляец-

[1] НАРБ. Ф. 62. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 162.

ца самавызначэнне народаў, у тым ліку і беларускага. У Петраградзе П. Бадунова далучаецца да беларускага руху, становіцца адным з ініцыятараў адраджэння Беларускай сацыялістычнай грамады і ўваходзіць у яе ЦК, вядзе актыўную рэвалюцыйна-прапагандысцкую работу сярод салдат-франтавікоў і бежанцаў, настаўнікаў.

П. Бадунова ўваходзіла ў склад Цэнтральнай і Вялікай Беларускай Рады, беларускіх франтавых камітэтаў. Была яна адным з арганізатараў Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года, рыхтавала даклад аб бежанскай справе і стратах Беларусі ў вайне, аб вымогах іх міжнароднай кампенсацыі.

П. Бадунова стала адзінай жанчынай, якая ўвайшла ў Народны Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі ў якасці міністра апекі, займалася арганізацыяй школ і дзіцячых прытулкаў. Разам з паплечнікамі па левым крыле БСГ стварыла і ўзначаліла партыю беларускіх эсэраў (БПСР), якой кіравала да самароспуску партыі ў 1924 годзе. У сваёй праграме і тактыцы партыя ішла насустрач беларускаму сялянству і мела шырокую яго падтрымку[1].

БПСР першай заўважыла экспансіяніцкія планы Польшчы адносна заходняй часткі Беларусі і маштабы рэпрэсій супраць беларускіх дзеячаў. У гэтых умовах савецкая Расія падалася больш блізкім ідэалагічным і ваенным саюзнікам, таму ў снежні 1919 года ў Смаленску П. Бадуновай быў падпісаны дагавор з ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі аб сумесных з Заходнім фронтам Чырвонай арміі дзеяннях супраць польскай акупацыі Беларусі. Застаючыся на падпольскай тэрыторыі, Бадунова наладжвала партызанскі супраціў, была арыштавана акупацыйнымі ўладамі. У сакавіку 1920 года па дамоўленасці са старшынёй урада БССР А. Чарвяковым накіравалася ў Маскву, дзе вяла перамовы ў ЦК РКП (б) і з наркамам нацыянальнасцяў І. Сталіным па пытанні стварэння беларускай рэспублікі.

Беларускія эсэры і асабіста П. Бадунова падтрымалі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, аднак катэгарычна апратэставалі падпісанне Рыжскага міру, які аддаў Польшчы Заходнюю Беларусь. Для ізаляцыі БПСР былі праведзены татальныя арышты яе дзеячаў у Мінску, а П. Бадунова заключана ў маскоўскую Навінскую турму. За тры месяцы зняволення яна правяла некалькі галадовак. На абарону П. Бадуновай выступіў Міжнародны Чырвоны Крыж, грамадскасць і дзяржаўна-партыйнае кіраўніцтва Беларусі. А. Чарвякоў пісаў у Маскву, што «Бадунова мае шмат заслуг перад рабочымі і сялянамі Беларусі»[2].

---

[1] Гл.: Лебедзева В. Пуцявінамі змагання і пакутаў: Палута Бадунова.

[2] Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (БДАЛіМ). Ф. 15. Воп. 1. Спр. 24. Арк. 93, 93 адв.

У 1923 годзе П. Бадунова накіравалася ў эміграцыю. Праз Польшчу выехала ў Прагу, вучылася ў Карлавым універсітэце, арганізоўвала беларускія сілы ў эміграцыі. Аднак падарванае здароўе і напружанне сіл прывялі да цяжкага нервовага захворвання. П. Бадунова вяртаецца ў Беларусь на апеку сястры Марыі і брата Аляксандра. Да 1930 года жыла ў Мінску. Пасля вяртання ў 1926 годзе Гомельскай губерні ў склад БССР наведала Гомель, склала запіску для Інбелкульта аб неабходнасці адкрыцця ў горадзе вышэйшай навучальнай установы і выкарыстання для гэтых мэтаў унікальнай бібліятэкі палаца Румянцавых–Паскевічаў[1].

У 1930 годзе вярнулася ў Гомель. Тут была арыштавана ў 1937 годзе і два з паловай месяцы знаходзілася ў мясцовай турме НКУС. У выніку першага і апошняга допыту 22 лістапада асуджана да 10 гадоў ГУЛАГа. Але ў лагер яна не трапіла, а была адпраўлена ў мінскую турму, дзе ў 1938 годзе была асуджана паўторна сумесна з групай беларускіх партыйна-савецкіх дзеячаў, на гэты раз — да расстрэлу.

Адной са значных і даволі супярэчлівых фігур беларускага руху з'яўляецца ***Яўсей Канчар***.




«Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» характарызуе яго як палітычнага дзеяча, гісторыка, публіцыста, вучонага ў галіне эканамічнай геаграфіі[2].

Нарадзіўся Я. Канчар у 1882 годзе ў вёсцы Сяўкі Дзеражыцкай воласці тагачаснага Рэчыцкага павета. Вучыўся ў Мар'інагорскай аграрнай вучэльні, дзе яго больш прывабілі не аграрныя навукі, а ідэі народніцтва і вопыт кааператыўнага руху. У 1902 годзе ён пешшу накіраваўся пад Адэсу для вывучэння гаспадарак чэшскіх і нямецкіх каланістаў. Тут за агітацыйную дзейнасць Яўсей быў арыштаваны і высланы ў Тыфліс. Калі ў 1910 годзе Я. Канчар пакідае Каўказ, ён кіруецца на Вышэйшыя сельскагаспадарчыя курсы ў Пецярбург.

Бурныя рэвалюцыйныя падзеі не маглі не закрануць дзейную і няўрымслівую асобу. Палітычня сімпатыі, здаецца, павінны былі прывесці Я. Канчара да эсэраў. Аднак у Пецярбургу ён знаёміцца з беларускім асяродкам і пачынае актыўна ўзаемадзейнічаць з нацыянальнымі арганізацыямі. У сакавіку 1917 года ён увайшоў ў Беларускі Нацыянальны Камітэт, але праз месяц пакідае яго з-за нязгоды з пазіцыяй па пытан-

---

[1] Цэнтральны навуковы архіў НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. Арк. 12, 12 адв., 13.
[2] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск: БелЭн, 1997. С. 95.

нях мовы і культуры. Трэба думаць, што тут ім кіравалі альбо традыцыі «заходнерусізм», альбо, наадварот, ідэі «рэвалюцыйнага інтэрнацыяналізму», для якіх яскравыя чыннікі нацыянальнай самаідэнтыфікацыі — мова і культура — здаваліся аднолькава неістотнымі. Магчыма, не знайшоў Я. Канчар і ідэйнага паразумення са старшынёй БНК Раманам Скірмунтам. Рэвалюцыйна-народніцкі досвед хіліў Я. Канчара да збліжэння з левым, прабальшавіцкім крылом беларускага руху.

Амбіцыі і актыўнасці Я. Канчара хапіла на тое, каб паспрабаваць пераняць ініцыятыву «нацыяналістаў». У лістападзе 1917 года ён становіцца адным з ініцыятараў стварэння і старшынёй Беларускага Абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў. У БАК увайшло каля 70 дэлегатаў ад беларускіх губерняў і франтавікоў. Планы арганізацыі былі досыць маштабнымі: неадкладна была распрацавана дэкларацыя аб беларускай аўтаноміі ў складзе РСФСР і заяўлены патрабаванні аб прысутнасці беларускай дэлегацыі на мірных перамовах у Брэсце.

Са свайго боку, БАК актыўна далучыўся да падрыхтоўкі Усебеларускага з’езда, падтрымаўшы ініцыятыву Вялікай Беларускай Рады. Менавіта БАК, дзякуючы выдатным арганізатарскім здольнасцям Я. Канчара, змог пераканаць вышэйшае бальшавіцкае кіраўніцтва ў неабходнасці з’езда і забяспечыць яго фінансаванне за кошт СНК РСФСР. Свае мэты камітэт выклаў наступным чынам: «Дзяржаўны лад Беларусі павінен насіць рэспубліканскі характар і заставацца ў федэрацыі з Расійскай рэспублікай»; уладным органам Беларускай рэспублікі будзе Усебеларускі Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, які, аб’яднаўшыся з Аблвыканкамзахам, утворыць Часовы Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саветаў Беларусі[1].

Я. Канчар вёў вострую палеміку з дзеячамі Вялікай Беларускай Рады, але аднолькава з ёю ацаніў разгон з’езда Аблвыканкамзахам. «Кіруючае ядро» БАК прыйшло да высновы, што дзеянні начальніка Мінскага гарнізона М. Крывашэіна парушаюць дамоўленасць з СНК РСР. Было вырашана, што Я. Канчар разам са старшынёй эсэраўскай фракцыі БАК магілёўцам Васілём Селіванавым павінны неадкладна адправіцца ў Петраград для інфармавання асабіста Уладзіміра Леніна і Іосіфа Сталіна аб тым, што адбылося, і з хадайніцтвам аб вызваленні арыштаванага прэзідыума з’езда[2].

Пасля ўмацавання савецкай улады і савецкай мадэлі дзяржаўнасці Я. Канчар не расчараваўся ў беларускай справе. З лютага 1918 года ён працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце (Белнацкаме) пры Народным Камісарыяце РСФСР па справах нацыянальнасцей. Пасля

---

[1] Віталь Скалабан. Яўсей Канчар — палітык, гісторык, мемуарыст // Беларуская думка. 2010. № 1. С. 94.
[2] Тамсама. С. 78.

адкрыцця Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта кароткі перыяд 1922–1923 гадоў Канчар чытаў лекцыі для яго студэнтаў. Пакінуць тагачасны Ленінград ён так і не наважыўся, хаця сувязі з Беларуссю не перарываў. За час выкладання ў Мінску напісаў падручнік па эканамічнай геаграфіі Беларусі, які, праўда, так і не быў надрукаваны. Ён жа з'яўляецца аўтарам шэрагу прац па аграрных пытаннях і сельскагаспадарчай кааперацыі, гісторыі земстваў і грамадскіх рухаў Беларусі. У 1920-я гады спрабаваў заснаваць у Ленінградзе Беларускае вольнае эканамічнае таварыства, падтрымліваў Асацыяцыю беларускіх студэнтаў ленінградскіх ВНУ і Беларускае студэнцкае зямляцтва.

Да апошніх сваіх гадоў Я. Канчар наведваў родныя Сяўкі. Да канца жыцця, нават у самыя застойна-інтэрнацыяналісцкія часы, ён заставаўся беларускім патрыётам і дзяржаўнікам. У асабістым архіве дзеяча захоўваюцца копіі паштовак, якія на вялікія савецкія святы ён дасылаў кіраўнікам БССР, вітаючы іх як прадстаўнікоў беларускай дзяржавы. Родныя Яўсея Сцяпанавіча згадваюць, што ён з задавальненнем адзначаў дасягненні Савецкай Беларусі і ўзровень жыцця беларусаў у параўнанні з некаторымі рэспублікамі і раёнамі СССР, а аднойчы заўважыў: «Ну, а калі б сталі самастойнымі, як Фінляндыя, дык жылі б яшчэ лепей»[1].

Земляком Я. Канчара і актывістам беларускага руху на пэўным яго этапе стаў ***Васіль Муха*** (1989–1965).




Ён нарадзіўся ў вёсцы Андрэеўка Рэчыцкага павета, таксама ў сялянскай сям'і. Скончыў народнае вучылішча ў суседняй Маладушы і быў заклікаены на вайсковую службу. Здольнага беларускага хлапца адправілі ў прэстыжную кранштацкую школу радыётэлеграфістаў, а затым — на Балтыйскі флот, дзе да пачатку рэвалюцыйных падзей 1917-га ён правёў аж сем год.

Пасля лютаўскіх палітычных ўзрушэнняў В. Муха патрапіў у сябры Абласнога камітэта арміі, флоту і рабочых Фінляндыі. Але радзіма не была забытай. Калі да балтыйцаў дайшлі чуткі пра абуджэнне былых ускраінаў Расійскай імперыі і стварэнне на франтах нацыянальных груповак, В. Муха заснаваў у чэрвені 1917 года Арганізацыю маракоў-беларусаў Балтыйскага флоту. Ён наладжвае кантакты з беларускімі дзеячамі ў Петраградзе, у тым ліку сваёй зямлячкай П. Бадуновай. Магчыма, пад яе ўплывам уступае ў Беларускую

---

[1] Валентина Лебедева. Василий Селиванов: Политический портрет // Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей. Зборнік памяці Віталя Скалабана. Мінск: Лімарыус, 2013. С. 269–287.

сацыялістычную грамаду, едзе на яе трэці з'езд у Мінск, дзе абіраецца ў ЦК партыі. Актыўна далучаецца да арганізацыі з'езда франтавікоў-беларусаў Заходняга фронту, становіцца яго сустаршынёй, уваходзіць у склад Вялікай Беларускай Рады.

Неўзабаве адбываецца цікавы паварот яго палітычнай біяграфіі — у лістападзе 1917 года ён аказваецца амаль адзіным беларусам у складзе Аблвыканкамзаха, дзе дастае пасаду камісара апекі Заходняй вобласці і фронту. Ён паўнавартасны ўдзельнік Усебеларускага з'езда, а пасля яго разгону ў знак пратэсту пакідае Аблвыканкамзах.

Але вір падзей не пакідаў выбару. З восені 1918 года В. Муха апынуўся ў Чырвонай арміі, ваяваў на польска-савецкім фронце. Уступленне ў РКП(б) забяспечыла далейшую паспяховую кар'еру. З 1920 і аж да 1954 года заставаўся на савецкіх пасадах, у тым ліку загадваў Сакратарыятам ЦВК БССР. Адзін з нямногіх, каму пашчасціла выжыць у сталінскіх рэпрэсіях, хаця ў 1938 годзе і быў арыштаваны «за шпіёнска-дыверсійную дзейнасць».

У фондах Рэчыцкага краязнаўчага музея захоўваюцца пакінутыя В. Мухай успаміны.



Яшчэ адной велічнай персонай, якая імкнулася аддаць наваствoранай беларускай дзяржаве — БНР свой інтэлект, досвед вучонага, высокі прафесіяналізм і талент арганізатара, быў ***Мітрафан Доўнар-Запольскі*** (1867–1934).

Біяграфія М. Доўнар-Запольскага рэпрэзентуе лёс старажытнай шляхты, якая ва ўмовах Расійскай імперыі паспяхова інтэгравалася ў агульнарасійскую эліту. Ураджэнец горада Рэчыцы, Доўнар-Запольскі атрымаў адукацыю ў Кіеўскім універсітэце св. Уладзіміра. Ужо ў студэнцкія гады ён прыклаў нямала намаганняў для кансалідацыі беларусазнаўчых сілаў і станаўлення навуковага беларусазнаўства. Пасля атрымання ступені доктара рускай гісторыі доўгі час узначальваў адпаведную кафедру ўніверсітэта, стварыў уласную навукова-гістарычную школу, стаў прызнаным аўтарытэтам у расійскім і міжнародным славяназнаўстве.

Да пачатку XX стагоддзя М. Доўнар-Запольскі здабыў сабе трывалае месца ў вышэйшым істэблішменце краіны: стваральнік і дырэктар Кіеўскага камерцыйнага інстытута, адзін з заснавальнікаў і першы старшыня праўлення Паўночна-Заходняга аддзялення Расійскай экспартнай палаты, сябра кіраўніцтва некалькіх кіеўскіх банкаў. Заслугі вучонага былі прызнаны на дзяржаўным узроўні — ён знаходзіўся сярод запрошаных на ганаровыя імператарскія прыёмы 1915, 1916 і 1917 гадоў, у

1916 годзе «за выдатную службу» ўзнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра.

Аднак у 1917 годзе — трагічна-пераломным як для кар’еры, так і для асабістага жыцця — М. Доўнар-Запольскі свядома абірае шлях барацьбы за беларускае дзяржаўна-нацыянальнае самавызначэнне. Самым актыўным чынам ён уключаецца ў арганізацыю беларускіх сілаў у Кіеве. Ва ўніверсітэце св. Уладзіміра наладжваюцца беларускія грамадска-культурныя сходы, ствараюцца курсы беларусазнаўства. У канцы сакавіка 1918 года ўзнікае «Беларуская арганізацыя на Украіне», якую М. Доўнар-Запольскі ўзначаліў непасрэдна.

У красавіку 1918 года яго ўключаюць у дэлегацыю Народнага Сакратарыята БНР па перамовах з Украінай — спачатку як кансультанта, затым і як паўнапраўнага прадстаўніка. У першым дыпламатычным кантакце нованароджанай дзяржавы Доўнар-Запольскі ўзяў на сябе абгрунтаванне дзяржаўных межаў, геапалітычнага становішча і знешнепалітычных арыенціраў Беларусі, яе эканамічных перспектыў. Перамовы прадэманстравалі здольнасці вучонага як дыпламата і палітыка[1].

М. Доўнар-Запольскі бярэ на сябе распрацоўку дзяржаўніцкай праблематыкі, фармулюе пытанні гістарычнага сэнсу: аб адметнасці гістарычнага шляху беларускага этнасу і аб’ектыўнай абгрунтаванасці дзяржаўнага самавызначэння. Ён рэальна ацэньваў аб’ектыўны чыннік: шанс беларусаў на самастойнасць абумоўлены больш знешнімі абставінамі, але гэта найважнейшы імпульс самаабуджэння народа і перадумова ператварэння Беларусі ў паўнацэнны суб’ект міжнародных адносін.

Твор «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» быў перакладзены на нямецкую, англійскую і французскую мовы і скарыстаны для міжнароднай прэзентацыі беларускай дзяржаўна-палітычнай праграмы. Гэты, па сутнасці, зварот да сусветнай грамадскасці меў прагматычна-прапагандысцкае прызначэнне і не быў пазбаўлены міфалагемнасці і схематызму[2]. Але яго адрасатам былі не толькі міжнародна-палітычныя колы, але і масы суайчыннікаў М. Доўнар-Запольскага, свядомасць якіх ён імкнуўся ўзрушыць. Яго прафесіяналізм і палітычны досвед не дазвалялі яму зблытаць крытэрыі гістарычных ацэнак. Але палітык свядома перамагаў навукоўца.

---

[1] Гл.: Лебедзева В. М. Удзел М. В. Доўнар-Запольскага ў беларуска-ўкраінскіх перамовах 1918 г. // Даследчык гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі: зб. навук. арт. і дак. Гомель; Рэчыца, 2000. С. 96–106.

[2] Линднер Р. Научная жизнь между двух эпох: Бел. историк Митрофан В. Довнар-Запольский (1867–1934) // Даследчык гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі: зб. навук. арт. і дак. Гомель; Рэчыца, 2000. С. 40–49; Рудовіч С. Асновы дзяржаўнасці Беларусі М. Доўнар-Запольскага і гістарычная публіцыстыка Я. Лёсіка: спроба параўнання // Пятыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Гомель: ГДУ ім. Ф. Скарыны, 2005. С. 84–98.

Доўнар-Запольскі робіць рацыянальнае дапушчэнне, якое не страціла актуальнасці і сёння: стварэнне дзяржавы можа апярэдзіць нацыятворчыя працэсы, а завяршальны этап фарміравання і структуравання беларускай нацыі стане вынікам дзяржаўна-палітычнай волі. У дадатак да палітычнай праграмы вучоны прапаноўвае мадэль выхаду з гандлёва-эканамічнай анархіі і будаўніцтва нацыянальнай эканомікі, выкарыстоўваючы ўласны вопыт эканаміста — вучонага і практыка.

М. Доўнар-Запольскі бярэцца таксама за перспектыўныя пытанні, здольныя забяспечыць інтэлектуальны суверэнітэт Беларусі: у красавіку 1918 года ён узначаліў камісію ў справе адкрыцця беларускага ўніверсітэта[1]. У справе арганізацыі вышэйшай школы вучоны, бадай, не меў канкурэнтаў: за спінай было стварэнне Кіеўскага камерцыйнага і Кіеўскага архіўнага інстытутаў, праект Таўрычаскага ўніверсітэта. Досвед дазваляў не толькі абгрунтаваць структуру і эканамічную мадэль беларускага ўніверсітэта, але і зрабіць практычныя крокі па ўвасабленні плана ў жыццё. Народнаму Сакратарыяту БНР было запрапанавана запрасіць у Мінск акадэміка Яўхіма Карскага і даручыць яму арганізацыю ўніверсітэта, таксама быў пададзены спіс 36 прафесараў розных універсітэтаў, якія пагадзіліся працаваць у Беларусі [2].

Напаўзабытым у гісторыі беларускай справы XX стагоддзя застаецца імя ***Васіля Селіванава*** — дзеяча партыі расійскіх эсэраў, які ў адказны момант беларускага самавызначэння — пры падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда — адыграў надзвычай важную ролю.

В. Селіванаў не быў ураджэнцам Гомельшчыны, ён нарадзіўся ў 1889 годзе ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні, аднак важныя перыяды яго дзейнасці былі звязаны якраз з Гомелем. Паходзіў ён з сялянскай нябеднай сям'і, якая здолела даць сыну гімназічную адукацыю. Аднак не давучыўшыся да канца, юнак адпраўляецца туды, дзе многія суайчыннікі шукалі лепшай долі — у Кіеў. Тут ён пачынае пралетарскую біяграфію працай на буйным цукровым заводзе, назірае падзеі 1905 года, пад уплывам якіх уступае ў мясцовую арганізацыю партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Першы ўдзел у палітычнай акцыі — арганізацыя ў 1907 годзе забастоўкі на заводзе — заканчваецца арыштам і высылкай з Кіева.

Пасля вызвалення В. Селіванаў пэўны час працуе ў Польшчы і Нямеччыне, затым вяртаецца ў Кіеў. У 1915 годзе ён быў мабілізаваны на Заходні фронт, у 1916 годзе ўдзельнічаў у буйнейшай аперацыі рускай арміі пад Баранавічамі, якая скончылася няўдачай і канчаткова здзма-

---

[1] Ляхоўскі У. Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі і справа арганізацыі беларускай нацыянальнай адукацыі // Трэція міжнародныя Доўнараўскія читанні. Рэчыца, 14–15 верасня 2001 г. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. С. 81–92.

[2] Глагоўская Л. Канцэпцыя Беларускага ўніверсітэта паводле Мітрафана Доўнар-Запольскага // Трэція міжнародныя Доўнараўскія читанні. Рэчыца, 14–15 верасня 2001 г. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. С. 78–81.

ралізавала і рэвалюцыянізавала салдатаў. З лютага 1917 года В. Селіванаў — сябра франтавога салдацкага камітэта і з гэтага моманту не пакідае палітычнай дзейнасці. Неўзабаве ён трапляе ў кіруючыя структуры партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, далучаецца да яе левага крыла.

У дні Першага Усерасійскага з'езда сялянскіх дэпутатаў адбываецца сустрэча, якая вызначыла пэўны паварот у свядомасці і дзейнасці палітыка, — знаёмства са старшынёй Беларускага абласнога камітэта на з'ездзе Яўсеям Канчарам. В. Селіванаў самым актыўным чынам уключаецца ў працу БАК па «арганізацыі палітычнага ўладкавання Беларусі». Калі камітэт дамогся стварэння пры Наркамаце нацыянальнасцяў РСР беларускага аддзела, у яго увайшлі толькі два чалавекі: блізкія да М. Фрунзе ***Філіп Караткевіч*** і ***Васіль Селіванаў.***

Менавіта апошні стаў бліжэйшым паплечнікам Я. Канчара ў справах удзелу БАК у падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда, узначаліў на ім эсэраўскую секцыю. Поўнасцю падзяляў В. Селіванаў абурэнне разгонам з'езда і разам з Канчаром накіраваўся ў Маскву, каб паспрабаваць распавесці праўду пра падзеі ў Мінску. Удзел у БАК і Усебеларускім з'ездзе, магчыма, былі для В. Селіванава момантам найбольшага раскрыцця яго здольнасцей палітыка. Я. Канчар, распавядаючы ў Наркамнацы РСР пра патэнцыял БАК, вызначыў В. Селіванава як «замечательного самородка»[1].

Надалей, відавочна, у светапоглядзе палітыка класава-сацыялістычныя каштоўнасці ўзялі верх над нацыянальнымі. Ён заставаўся на леваэсэраўскіх пазіцыях, крытыкаваў міжнародную і аграрную палітыку бальшавікоў, за што неаднаразова арыштоўваўся імі, але ўрэшце сам перайшоў у камуністычную партыю.

Бальшавікам спатрэбіўся патэнцыял гэтага чалавека. За сваю кар'еру яму неаднойчы давялося пабыць на адказных пасадах у крытычныя моманты савецкай улады. Ён быў абраны старшынёй Магілёўскага губвыканкама напачатку 1918 года, але пакінуў пасаду ў знак пратэсту супраць Брэсцкага міру і ўвядзення камітэтаў беднаты на вёсцы. З прыходам нямецкай акупацыі В. Селіванаў не эвакуіраваўся, як астатнія кіраўнікі губерні, а застаўся на падпольнай рабоце, з кастрычніка 1918 года ўзначаліў Гомельскі рэўкам, рыхтаваў вяртанне савецкай улады, якая адразу даручыла яму самую цяжкую пасаду — старшыні прадкама. З пачаткам савецка-польскай вайны В. Селіванаў сфарміраваў і ўзначаліў Першы Гомельскі камуністычны пралетарскі батальён, пабываў з ім на фронце і нават у польскім палоне, пасля нейкі час займаў пасаду старшыні Гомельскага губвыканкама. У 1930-я гады апынуўся ў Маскве. У лютым 1941 года быў арыштаваны, асуджаны «за антысавецкую агітацыю і тэрарыстычныя намеры» на 8 год папраўча-працоўных

---

[1] Скалабан В. Яўсей Канчар — палітык, гісторык, мемуарыст. С. 96. (Адзін з дакументаў Усебеларускага з'езда.)

лагераў̆. Адтуль ён ужо не вярнуў̆ся. Месца высылкі, як і месца, а таксама дата смерці гэтага здольнага дзеяча з пакручастым лёсам застаюцца, на жаль, невядомымі.

Такім чынам, Гомельшчына апынулася на перыферыі беларускай справы 1917–1918 гадоў̆. Рэсурсы рэгіёна ў̆ 1918 годзе спрабавала выкарыстаць Украіна, а з 1919 і па 1924–1926 гады — Расійская Федэрацыя. Але, але… Тым не менш працэсы абуджэння беларускай ідэнтычнасці на абшары Усходняга Палесся, а таксама ў̆нёсак Гомельшчыны ў̆ фарміраванне беларускай інтэлектуальнай і палітычнай эліты яскрава сведчылі пра яе інтэграванасць у нацыянальнатворчы працэс.



**Валянціна Лебедзева**

Нарадзілася ў̆ Гомелі. У 1980 годзе закончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ў̆ніверсітэта, аспірантуру пры БДУ. Працавала на кафедрах гісторыі Беларусі, беларускай культуры ГДУ. Аў̆тар каля 200 навуковых прац, арганізатар Міжнародных навуковых Доў̆нараў̆скіх чытанняў̆. Даследуе праблемы беларускага нацыянальнага руху, падзеі 1917–1919 гадоў̆ на Гомельшчыне, жыццё і дзейнасць М. В. Доў̆нар-Запольскага.



# СПАДЧЫНА

**Рыгор Клімовіч**

## Канец Гарлага[1]

Дзень і ноч групы Нікалішына і Нагулы пастаянна сачылі за ўсім тым, што адбывалася на другім баку забаронкі, і пры кожным заўважаным імі падазроным руху ў ахоўным дывізіёне адразу падавалі гудок, — і тады мы ўскоквалі з нараў і выбягалі з баракаў, каб сустрэць як патрэбна любую іх правакацыю. І хаця кожны раз трывога аказвалася падманнай, аднак жаданага спакою ў лагеры так і не наступіла. Мы пастаянна жылі ў напружанні і чаканні якой-небудзь нам небяспекі. І з кожным гудком тое напружанне ўсё больш нарастала, і нашыя нервы былі на апошняй мяжы цярпення.

Заставаліся спакойнымі хіба адны баптысты. Яны верылі ў той судны дзень, які павінен прыйсці неўзабаве, і, сабраўшыся каля складскога балка, дзень і ноч стаялі на каленях і маліліся, узносячы свае малітвы да Бога, прасілі ў Яго, каб, калі тое магчыма, Ён адвёў ад нас занесеную над намі караючую руку. Але так сталася, што ні Бог баптыстаў, ні мы самі тую руку не адвялі. Яна ўсё ж дацягнулася да нас — і першымі ахвярамі сталі лагернікі 5-га аддзялення. Мусіць жа, члены камісіі не забыліся пра тое, як яны ганебна ўцякалі з гэтага аддзялення. І калі ўжо рашылі прадоўжыць прымяненне да нас крайніх мераў, то пачалі менавіта з іх.

Першага ліпеня, адразу пасля таго, як раздалі ўсім абедзенную баланду, усе яны ў суправаджэнні афіцэраў Нарыльскага УМДБ з'явіліся каля babotaў 5-га аддзялення, і адразу ж Кузняцоў запатрабаваў прыбраць чорны з чырвонай палоскай сцяг. Яшчэ — пашыхтавацца і ўсім выйсці з зоны.

Наглядчыкі выканалі патрабаванне — расчынілі вароты. Начальнік рэжыму і камандзір канвою прайшлі наперад. Салдаты ўтварылі жывы калідор. А каб у вязняў не з'явіліся ілюзіі, Кузняцоў звярнуўся да іх з заклікам «праявіць цвярозы розум» і тут жа, назваўшы страйк

---

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 3–5.

варожай вылазкай, папярэдзіў іх, што калі яны цяпер не падпарадкуюцца патрабаванню камісіі, то канвою будзе аддадзены загад прымяніць супраць іх зброю.

— Скажу я вам адкрыта так: савецкая ўлада сваіх ворагаў шкадаваць не будзе.

Але лагернікі аднесліся да яго слоў абыякава. Бо лічылі, што цяпер, пасля смерці Сталіна, ужо не той час, каб камісія адважылася пайсці на такія крайнія меры, ды яшчэ ў іх прысутнасці. Таму як стаялі цеснай сцяной уздоўж ад варотаў, так і працягвалі стаяць. Словы папярэджвання яны прапусцілі міма вушэй.

— Яшчэ раз звяртаюся да вашага розуму! — ужо ўзвысіў голас генерал Вавілаў. — Вашыя заправілы штурхаюць вас супраць савецкай улады. Вы сталі на небяспечны шлях. Вынікі для вас будуць цяжкімі і непрадказальнымі.

— Не слухайце авантурыстаў і правакатараў! — то падаў ужо голас генерал Сіроткін. — Ламайце іх супраціў і выходзьце з лагера!

Але ніхто з вязняў не выканаў каманды. Прайшло і дзесяць хвілінаў, і дваццаць, паўгадзіны, — а яны стаялі як укапаныя. Ні пагрозы, ні заклікі не дзейнічалі.

І тады Кузняцоў загадаў вывесці іх прымусова. А калі і надалей будуць супраціўляцца, прымяніць зброю і страляць без папярэджання. Салдаты перашыхтаваліся і ўвайшлі ў зону. Утварылі новы строй і вязні. Яны, узяўшыся за рукі, перагарадзілі ім шлях, — стаялі і маўчалі ў чаканні. Усё яшчэ спадзяваліся, што іх «берут на испуг».

У некалькіх кроках ад іх салдаты спыніліся. Нехта нават крыкнуў ім задзірыста: «Ну што ж вы, сынкі? Ідзіце, выконвайце загад! Вам…» Далейшыя словы вязня перапыніла аўтаматная чарга… За ёй другая… трэцяя…

Забітыя, як снапы, паваліліся на зямлю; тыя, каго параніла, жудасна закрычалі і застагналі, а тыя, хто ацалеў, каго не кранулі кулі, ад нечаканасці здранцвелі, не ведаючы, што рабіць. Для лагернікаў 5-га аддзялення тыя чэргі прагучалі як пярун з яснага неба. Нічога не разумеючы, не ўсвядоміўшы яшчэ, што адбылося, яны ўперыліся вачыма ў забойцаў, а тады, калі збольшага ачнуліся ад патрасення, адчулі не неймаверны страх, як і належыць у такім выпадку, а пякельную нянавісць да катаў. І таму не кінуліся наўцёкі ад небяспекі куды-небудзь далей, а паўсталі замест забітых — і зноўку на шляху аўтаматчыкаў аказалася суцэльная сцяна вязняў, якія, як і да гэтага, моўчкі стаялі, узяўшыся за рукі. Было бачна і зразумела, што яны не маюць намеру здавацца.

Над зонай завісла цішыня, трывожная і трагічная цішыня 1953 года… Такая ж цішыня ўсталявалася і ва ўсіх лагерах Нарыльска. Устрывожаныя і напалоханыя стрэламі зэкі выскачылі з баракаў і, губляючыся ў здагадках, што б тое азначала, глядзелі ў той бок, адкуль данесліся да іх стрэлы. І раптам — зноў аўтаматныя чэргі. Цяпер ужо густыя, няспын-

ныя, быццам перад савецкімі байцамі стаяла шматтысячная арда фашыстаў, якіх неабходна было знішчыць і якія ўзброеныя да зубоў. Але ўсе ведалі, што адбывалася, які «бой» вялі камсамольцы і камуністы…

Адначасова з тымі стрэламі загудзеў магутны гудок ТЭЦ, а за ім, з перапынкамі, узвылі гудкі ва ўсіх кампрэсарных і кацельнях, якія знаходзіліся ў жылых зонах лагераў, — пачалі крычаць людзі.

Падалося, што паўсталі ўсе, адзін да аднаго, людзі. Год назад такое было немагчыма, кожны думаў, як зберагчы сваё асабістае жыццё, а цяпер… Такога яднання зэкаў ніхто не чакаў — ні мы, ні нават лагернае начальства. Цяпер той раздробленасці не было, усе зліліся ў адзін магутны кулак супраціву і смеласці. Бо кожны разумеў: усе мы ты тут чакаем адзінага лёсу, што тое, што церпяць таварышы з 5-га аддзялення, перакінецца на кожнага з нас. І таму ўсе крычалі ва ўсе глоткі, спрабуючы хоць крыкам спыніць катаў.

Шмат хто, не вытрымаўшы, у каго праз край вылілася нянавісць да забойцаў, хапалі з зямлі камянюкі і што траплялася пад рукі, шпурлялі ўсё ў канваіраў, якія ланцугом стаялі па той бок. Больш цярплівыя даймалі канваіраў словамі, заклікаючы іх не выконваць злачынныя загады іх камандзіраў, папярэджваючы і напамінаючы, што яны прадстануць перад народным судом. А нехта імкнуўся падпаліць лагер. Кожны стараўся яксьці спагнаць зло і дапамагчы сваім таварышам.

Але, на вялікі жаль, магчымасці нашыя былі абмежаваныя. Ведаючы пра тое, каты не суніміліся. Ні гудкі, ні крыкі, ні праклёны на іх не дзейнічалі. Яны праяўлялі характар стойкі, бальшавіцка-камсамольскі: ніякага спуску ворагам савецкай улады. Мы крычма крычалі, а яны працягвалі тварыць сваё чорнае зло — стрэлы не змаўкалі. Яны, здавалася нам, яшчэ больш узмацніліся. А далей да аўтаматных чэргаў дадаліся басавітыя кулямётныя, — і ў агульным крыку выдзяляўся пранізлівы жаночы крык.

А потым адначасна сціхлі і гудкі, і жаночае галашэнне і завыванне. Мы прыслухаліся. Каты стралялі ў безабаронных жанчын. Іх лагер — 6-е аддзяленне Гарлага — знаходзіўся за трыста крокаў ад 5-га аддзялення — па другі бок цагельнага завода. І тут людзі закрычалі яшчэ мацней, і яшчэ больш трывожна падавалі голас гудкі…

Ад крыкаў людзей і гудкоў ва ўсіх, нават самых стойкіх, мурашкі папаўзлі па скуры, нервовыя спазмы сціскалі горла і дранцвеў язык, — людзі амаль вар'яцелі, яны маглі ў бяспамяцтве ісці на тыя аўтаматна-кулямётныя рулі… Здавалася, што ўвесь свет звар'яцеў, што ўсё перакулілася з ног на галаву…

Але члены берыеўскай камісіі, мусіць, не адносіліся да людзей. Хіба што да нелюдзяў. Іх не кранала ні нашыя крыкі, ні гудкі. Яны стралялі, стралялі і п'янелі ад паху крыві, якая расцякалася па зямлі, рагаталі і смяяліся, — мо і сапраўды ім перад гэтым выдалі па шклянцы-дзве гарэ-

лкі, каб не задумваліся над сваімі ўчынкамі. Насамрэч, так і было, бо да паху крыві падмешваўся яшчэ і сівушна-гарэлачны пах.

Здаецца, маглі б ужо напіцца, наталіць сваю смагу гарачай крывёй, але не — яны яшчэ больш шалелі і не здымалі пальцаў са спускавых кручкоў. Спыніліся толькі тады, калі пазрывалі з дрэўкаў сцягі, што лунялі над 5-м і 6-м аддзяленнямі, а вязняў, усіх да аднаго, паставілі на калені… Жах, жах, жах… Мы слалі праклёны тым уладарам у Крамлі, якія праводзілі з'езды і ўслаўлялі перамогі ў будаўніцтве камунізму, якія прыраўнялі свой люд да быдла, тым эмдэбістам, якія ўсю краіну, увесь Савецкі Саюз ператварылі ў суцэльны канцлагер…

Сотні забітых, яшчэ больш параненых. У стацыянары і ітээраўскім бараку, куды зносілі цяжкапараненых, былі калюжыны крыві. Па ёй, ідучы, слізгалі і падалі, — аднак тое камісія не заўважала ці не хацела заўважаць.

Тыя, хто атрымаў «буйную перамогу», важна і горда крочылі ўздоўж шыхта вязняў, якія стаялі на каленях, а Кузняцоў, углядваючыся ў іх твары з пераможнай усмешкай, здзекуючыся з іх, пырскаў слінай:

— Ну што, ваякі, супакоіліся? Гэта вам навука надалей. З вамі мы цацкацца не будзем! Запомніце тое!

І на наступны дзень, дакладней, другога ліпеня 1953 года, яны з'явіліся той жа зграяй у 4-е аддзяленне. Мэта тая ж — і нам выкласці тую навуку, у якой яны былі мастакі. У іх, на дзіва, быў добры настрой, яны не ведалі пакутаў сумлення, прывіды ўчарашніх ахвяраў іх не даймалі, у скрынях складоў захоўваліся тоны гарэлкі… Яны былі зроблены з каменя, і былі цвёрдакаменнымі, як сказаў некалі пра іх вялікі правадыр. Мы ж для іх былі ворагамі і злачынцамі, і адносіны да нас былі адназначнымі: «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць». І яны нас не шкадавалі, наадварот, знаходзілі ў сваіх злачынных дзеяннях апраўданне, якое гучэла ў тэзісе галоўнага ката: «Чым мы бліжэй да сацыялізму, тым больш жорсткім і каварным робіцца вораг». І тое пра нас, а пра каго ж яшчэ?

Кузняцоў, адчуваючы беспакаранасць, шалеў усё больш і больш.

— Валынка перарасла ў контррэвалюцыйны мяцеж! — хрыпеў ён ужо з дынамікаў па ўсім лагеры. — Мяцежнікі са свайго асяроддзя нават абралі суды і пракуратуру, органы кіравання, — тым самым супрацьпаставілі сябе законнай уладзе. Больш мы цярпець такі варожы выпад не намераны. І таму, калі вы не здасцёся і не падпарадкуецеся нашым патрабаванням, — будзем страляць па вашых радах, як стралялі перад гэтым. Вы пра тое ведаеце, і мы не жартуем.

А далей на нашых вачах падзеі развіваліся так. Пасля непрацяглай паўзы ў рэпрадуктары пачуўся ўжо голас начальніка лагернага аддзялення старшага лейтэнанта Уласава. Ён паведаміў, што Краснаярскае УІТЛіК прыняло пастанову этапаваць з нашага аддзялення 1350 чалавек у другі лагер на пускавую будоўлю, і таму ў сувязі з гэтым ён загадвае,

каб тыя вязні, прозвішчы якіх будуць названыя, неадкладна сабраліся з рэчамі і пашыхтаваліся каля варотаў для адпраўкі на этап. І тут жа пачаў выкрыкваць прозвішчы. А калі ўсе зэкі былі пералічаны, у форме ультыматуму дадаў:

— На зборы і пастраенне вам даецца паўгадзіны. Канвой ужо чакае.

І адразу ў нас на душы зашкраблі сваімі кіпцюрамі коткі. Нам стала зразумела: яны забіраюць тых нашых таварышаў і сяброў, якіх выдзелілі з вялікай масы як найбольш актыўных завадатараў. Мы ўсведамлялі: іх забіралі не на пускавую будоўлю і зусім не на этап. А пагэтаму, хаця мы ўсе ведалі пра тое, і ведалі яшчэ, чаго нам чакаць у тым выпадку, калі адмовімся выконваць іх патрабаванне, — усе былі згодны з тым, што лепей цяпер аддаць свае жыцці ўсім разам, чым потым, зайздросцячы мёртвым, цярпець беззаконне і здзек, — паасобку.

І, прытрымліваючыся агульнай маўклівай узаемазгоды, ніводзін вязень з рэчамі да варотаў не выйшаў. Час, адведзены нам для збораў, скончыўся. У рэпрадуктары зноў пачуўся трэск, затым — хрыплы, быццам чалавек прастудзіўся, голас нашага «любімага» генерала Вавілава.

— Вашая непакорнасць вартая жалю. Вельмі шкада, што вы не разумееце цану свайго ўчынку, не хочаце разумець, што вырак суда і мера пакарання, усё тое, чым незадаволены і што вас абурае, могуць быць парагледжаны, адменены ці зацверджаны толькі самім судом, яго вышэйшай інстанцыяй. А туды вы можаце звярнуцца ў любы час ва ўстаноўленым парадку. Вас ніхто гэтага права не пазбаўляў. Але вашыя заправілы — нейкая купка злосных прахадзімцаў — завяла вас куды не трэба. Яны ўвялі вам у вушы, што, выкарыстоўваючы гэтае сваё законнае права, вы нічога не даб’яцеся. Гэта — хлусня! Няпраўда! Вас гэтым падманам і падбілі на бунт.

І тут генерала, так бы мовіць, панесла. Ён павысіў голас да крыку, сарваў голас, пракашляўся, зноў працягваў:

—Не верце гэтым прахадзімцам! Яны штурхаюць вас на новае злачынства супраць улады і камуністычнай партыі. Яны — вашыя ворагі!

Пачуўся злосны крык і Кузняцова:

— Не бойцеся гэтых лагерных бандытаў і правакатараў — Грыцака, Недаросткава, Клятчанку, Кірычэнку, Петрашчука, Клімовіча, Русінава! Яны — подлыя баязліўцы! Ламайце іх супраціў і выходзьце ў распалажэнне канвою. Усім, хто выйдзе, гарантуецца бяспека і перагляд асабістай справы.

Потым зноў Кузняцоў паўтарыў тыя ж словы — не слухаць правакатараў, а выходзіць да канвою. Загадаў чырвонапагоннікам сілай вывесці нас з зоны. Але як толькі яны мінулі вароты, мы ўсе стаіліся за цаглянымі сценамі двухпавярховага дома, які знаходзіўся каля вахты. Мы сустрэлі іх градам камянюк. Ад нечаканасці многія з іх, унурыўшы галовы ў плечы, пасунуліся назад. Аднак валагодскія камсамольцы адразу апамяталіся і аўтаматнымі чэргамі астудзілі наш пыл. Пяць чала-

век, і ў іх ліку ўзбек Ашна і мой зямляк Валодзя Забэйда, паваліліся на зямлю. Астатнія ж кінуліся да дамоў з вокнамі, схаваліся за імі, але ніхто не выйшаў з лагера. І валагодскія хлопцы далі чэргі па вокнах. Яшчэ тры чалавекі, сярод іх матрос Касьянаў, упалі, заліўшыся крывёю.

І ў той жа час у Нарыльску зноў узвылі гудкі. Праз колькі хвілінаў з дзвярэй вахтавага балка выйшаў член камісіі Міхайлаў і тут жа, крыкнуўшы на салдат, загадаў ім пакінуць зону. Пакуль што небяспека мінула нас.

Міхайлаў, нахмурыўшыся, правёў позіркам аўтаматчыкаў, узняў на нас вочы. Убачыўшы мяне, пазнаўшы, папрасіў падысці бліжэй. Я падышоў і смела паглядзеў яму ў вочы. Ён не адвёў позірк, спытаў:

— Чаму людзі трымаюць у руках цагліны і ламы?

— Гэта нашыя сродкі самаабароны, — адказаў я, не адводзячы позірку. — Людзей забіваюць, і яны вымушаны неяк абараняцца. Зброі ў нас няма, а магла і быць… Чаго вы лезеце да нас? Што вам ад нас патрэбна?

— Выходзьце на працу, і ніхто да вас лезці не будзе.

— Мы працавалі, а вы з нас здзекаваліся, білі, абражалі нашую годнасць.

— Добрых людзей мы не білі, — перапыніў мяне Міхайлаў.

— Не будзем спрачацца, грамадзянін палкоўнік. Не да вас цяпер. Лепш успомні словы Хрыста, які прамовіў, ідучы на вячэру з апосталамі: «Тое, што робіш, Іуда, — рабі хутчэй».

Аднак незразумела па якіх прычынах камісія не спяшалася. Яна ўжо і без таго нарабіла такога бурану, а ў МДБ тое не любілі, там прывыклі рабіць усё тайна, ціха і так, каб канцы ў ваду. І, помнячы тое правіла, камісія, мусіць, рашыла схіліць нейкую частку вязняў да выхаду з зоны і зноў прынялася за нашую апрацоўку. Цяпер ужо толькі двое называлася, а не сем, як раней, хто павінен выйсці за вароты.

— Смела выступайце супраць гэтых бязродных бандытаў Грыцака і Недаросткава! — чуваць заклікі.

— Не слухайцеся гэтых правакатараў Грыцака і Недаросткава!..

І так цэлую гадзіну, а потым і тры, і чатыры. То яны ліслівa заліваліся салаўямі, то зноў пагражалі, зноў пераходзілі на лагодны тон. Членаў камісіі ўжо змянілі кіраўнікі камбіната Звераў і Палтава, — а гэтых — нашыя, некалі збеглыя з зоны прыдуркі — начальнік калоны Піліпенка і старшы нарадчык Мірашнічэнка. Рэпрадуктар, здаецца, перагрэўся, бо пачаў хрыпець усё больш і больш. І ўвесь гэты час мы пачуваліся закладнікамі, як бы знаходзіліся пад дамоклавым мячом, кожную хвіліну чакаючы, што нітачка, на якой вісіць той меч, абарвецца і здарыцца непапраўнае.

У кожнага з нас нервы на мяжы. І чым больш тая апрацоўка працягвалася, тым больш нарастала напружанне. Кожная гадзіна — гэта пакутнае выпрабаванне нашай волі і цярпення, нашай мужнасці і веры. Сцвярджаць, што мы былі стойкія да канца, дык і няпраўда, — нехта

не вытрымліваў, пачынаў панікаваць, істэрычна выкрыкваць праклёны, нехта падаў на зямлю, губляючы прытомнасць… Так, людзі хацелі жыць, усе мы хацелі жыць, але ніводзін не стаў шукаць выратавання ў распалажэнні канвою. Ніхто! Яны не рэагавалі на заклікі, можа, ужо іх і не чулі, бо вушы такога доўга не маглі чуць, — і не адгукваліся, не рэагавалі на «апрацоўку». І тое ўрэшце даканала камісію.

Познім вечарам камісія ў поўным складзе прыйшла ў лагер. Кузняцоў, паклікаўшы да сябе Грыцака і Недаросткава, запатрабаваў, каб яны знялі сцяг і сабралі ўсіх тых, хто знаходзіўся ў аддзяленні, нават і тых, хто хварэў у стацыянары. Усім было загадана выйсці з зоны. І ўжо грамчэй, каб пачула як мага больш людзей, сказаў:

— Апошні для вас загад, болей не будзе. Вам даецца дваццаць хвілінаў на зборы. Пасля гэтага крыўдуйце самі на сябе. Канвою дадзены загад страляць без папярэджвання.

То ўжо была развязка. Лагерны камітэт неадкладна сабраў у клубе аўтарытэтных лагернікаў і кіраўнікоў нацыянальных груповак Слова бралі Грыцак, Клятчанка, пасля іх студэнт з Варонежа Лёня Быкоўскі. На сцэну падняўся ксёндз Гладысевіч. Ён звярнуўся да прысутных, голас у яго ціхі і пераканаўчы:

— Дзеці мае! Ні людзі, ні вы самі не маеце права вызначаць месца сваёй Галгофы. На тое ёсць воля Божая, і грэх вялікі самім сабе насуперак волі гэтай прыняць рашэнне аб добраахвотным прыняцці смерці. Я заклікаю вас, дзеці мае, не браць на душу гэты грэх. Якім бы ні быў цяжкім ваш крыж — вы ўсё ж павінны цяпер выйсці з лагера і данесці яго да сваёй Галгофы. Іначай вы здзейсніце самагубства, і тады ніводзін святар не стане правіць па вас трызну. Ды злітуецца над вамі Госпад!

Усе пагадзіліся з ксяндзом. З клуба амаль усе выйшлі, толькі засталіся я, Слава Нагула, Грыцак і Недаросткаў. Падышлі да нас.

— Мы з Валодзем не пойдзем, — прамовіў Грыцак. — Хай бачаць, што мы не баязліўцы.

— Вас жа, хлопцы, будуць біць, біць да смерці.

— Ведаем. За нас не турбуйцеся.

Яны збіраліся прыняць пакутніцкую смерць, і ў мяне перахапіла дыханне. Я абняў іх па чазе, прытуліў да сябе, і тут жа, каб не расплакацца, падаўся да выхаду.

Нас выводзілі не агульнай калонай, як тое было раней, а сотнямі. Усіх нас выводзілі ў невядомасць, і кожны перад тварам невядомасці імкнуўся быць побач са сваімі землякамі. Так што кожная сотня складалася з адной нацыянальнасці. Кожную такую сотню адразу па выхадзе з зоны прымаў асобны канвой і адводзіў за кіламетры паўтара-два ад лагера ў тундру. І кожны раз гучэла каманда канваіраў:

— На калені! Усім стаць на калені!

Я ўваходзіў, зразумела, у склад сотні беларусаў. Калі нас вялі да прызначанага для нашай сотні месца ў тундры, там ужо, у беспарадку рас-

кіданыя па шырокай прасторы, стаялі на каленях два дзясяткі сотняў. Да ўсіх далучылі і нас.

У мяне склалася такое ўражанне, што на тундры ахоўнікі ўтварылі жывую карту рэспублік Савецкага Саюза — беларусы і расіяне, украінцы і эстонцы, літоўцы і латышы, казахі і малдаване, грузіны і дагестанцы… І калі б усе, хто стаяў на каленях, паднялі рукі гарызантальна зямлі, то ўтварыліся б тысячы жывых крыжоў… Якая супярэчнасць — мапа на паперы магутнага СССР у тундры — у мініяцюры. І дзве краіны былі ворагамі адна адной — СССР супраць СССР. У галаве не ўкладвалася. Адна краіна камуністычная, а другая зэкаўская… На чыім баку праўда? Дзве праўды быць не можа. І тое ўжо, мусіць, сама гісторыя расставіць усе кропкі над «і».

Усчаўся дождж. З Карскага мора дзьмуў халодны, да касцей пранізваючы вецер. Мокрыя бушлаты прыліплі да нашых целаў, і мы ўжо, здаецца, не адчувалі холаду, бо самі сталі кавалкамі лёду. Спрабавалі махаць рукамі, але тое не дапамагала, а ўстаць ды прайсці колькі крокаў, каб размяцца і як сагрэцца, не дазваляў канвой.

Мы ледзянелі і дрыжэлі ад холаду дзень, ноч і раніцу. Недзе а дзявятай гадзіне, калі мы амаль паміралі, не могучы болей трываць, з'явіліся афіцэры адміністрацыі. Пачаўся нейкі рух. Выконваючы загады гэтых афіцэраў, канвой падымаў то адну, то другую сотню і тут жа вёў яе ў абыход доўгага невысокага горнага хрыбта, за якім пачыналася вытаптаная намі некалі дарога з лагера ў ачапленне Гарбуда. Мы, адчуўшы нейкія перамены і рухі, трохі ажывіліся, пачалі пераглядвацца, задаючы адзін аднаму хвалюючыя пытанні.

З'явілася нейкая надзея, што ў хуткім часе гэтае выпрабаванне холадам нарэшце скончыцца. Мы праводзілі маўкліва сотні, якія ўставалі з каленяў і крочылі далей, а мы яшчэ заставаліся на месцы, з хвіліны на хвіліну чакаючы свайго часу. Той час прыйшоў — падняліся і мы. Калі дайшлі да дарогі, нас зноў спынілі і прымусілі зноў укленчыць.

І вось тут перад намі адкрылася новае кола пекла. Уздоўж дарогі стаялі сталы; за імі сядзелі незнаёмыя нам афіцэры МДБ, а справа за крокаў дваццаць за іх спінамі знаходзіліся тыя самыя стукачы і падонкі, якія калісьці пасля прыбыцця карагандзінскага этапу збеглі з лагера.

Мы па адным падыходзілі да сталоў, выкрыквалі свае дадзеныя, і афіцэры, зверыўшы пачутае з фармулярам, адных адпраўлялі прама — па дарозе ў лагер, другім загадвалі ісці ўправа. І ў той жа момант на іх, бы злыя аўчаркі, накідваліся гэтыя падонкі і білі са злом і жорсткасцю. На маіх вачах яны збівалі беднага Толіка Гусева. Пад іх ударамі цельца Толіка курчылася на зямлі, то сціскалася ў клубок, то выцягвалася — і было ўжо не зразумець: жывы ён ці здзекаваліся яны ўжо з нябожчыка.

А тых з нас, каго яны лічылі завадатарамі, тут жа арыштоўвалі, і прыстаўлены да кожнага канваір адводзіў налева і, трымаючы на прыцэле,

ставіў на калені спінай да дарогі. Там, злева, ужо стаялі Рыгор Сальнікаў, Ігар Петрашчук, Іван Клятчанка, Валодзя Русінаў, Міша Куржак, Вася Корбут. Іх адабралі для следства, з іх намерваліся зрабіць казлоў адпушчэння і іх крывёй пакрыць усе зладзействы, якія чынілі тут лагерныя начальнікі разам з берыеўскай камісіяй. Гэта былі абраныя на кару смяротнікі. Усе нашыя людзі спачувалі ім і, праходзячы каля іх, міжволі паварочвалі галовы ў іх бок, як бы развітваючыся з імі.

З усіх я, мусіць, быў адзіным выключэннем — я баяўся трапіць не налева, а направа. Там, праваруч, сярод крыважэрных падонкаў, былі і такія, хто мог бы прад'явіць мне свае рахункі, — і таму я, калі б мяне накіравалі да іх, жывым бы не вырваўся з іх рук. Трапіць налева для мяне было раўназначна паратунку. І я марыў пра тое, маліў Бога, каб яно так і адбылося. Калі падышоў да стала, пачуў ад капітана:

— Прозвішча?

Назваўся згодна фармуляру. Ён пільна ўгледзеўся ў мяне і, убачыўшы перад сабой невысокага росту хлапчанё, сярдзіта нахмурыўся. Мусіць жа, мой знешні выгляд не адпавядаў таму ўяўленню, якое ён меў пра мяне.

— Хто цябе прыслаў?

— Сам прыйшоў. Мне болей няма куды ісці.

— І ты спадзяваўся выслізнуць ад нас?

— Не спадзяваўся, а спадзяюся.

— Ну, глядзі, табе відней… — усміхнуўся ён, а канваіру загадаў: — Гэтага — налева!

Канваір, ускінуўшы аўтамат, правёў мяне метраў сорак па тундры і пасадзіў паміж Сальнікавым і Петрушчуком.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пасля допыту я не мог дайсці да камеры. Мяне, узяўшы пад пахі, дацягнулі да яе дзвярэй і ўпіхнулі ў праём. Нехта даў мне вады, і я зрабіў колькі глыткоў. Праз нейкі час да нас далучылі Ленікаса і Жыленку. Яны былі дастаўлены дадатковым этапам і былі збітыя так, што не маглі ні ляжаць, ні гаварыць. А потым у суседнюю камеру прынеслі і кінулі на халодную цэментную падлогу Недаросткава і Грыцака. Недаросткаў пастаянна прасіў піць — у яго пальцы рукі і ног былі спрэс чорныя. Нічым мы ім не маглі дапамагчы, а дактароў тым больш не пускалі да іх. Спадзяваліся: нехта не вытрымае і папросіць літасці, стане ім памагатым. Не здарылася таго. Кожную раніцу Шыраеў рабіў абход і цікавіўся, ці ёсць у каго прэтэнзіі. Іх не было. І кожны раз ён, здзіўлены нашым маўчаннем, пакідаў нас ні з чым. І тады ў МДБ, адчуўшы нашую рашучасць, урэшце зразумелі: нікога з нас яны не зломяць.

Восьмага чэрвеня следчыя органы прыступілі да фабрыкацыі крымінальнай справы аб антысавецкім закалоце ў Гарлагу. У той жа дзень у кабінетах следчага ізалятара ўчынілі допыт над Міхаілам Марушкам, Германам Сцепанюком, Паўлам Фільневым, а на наступны дзень у тыя

кабінеты прывялі і мяне, Івана Клятчанку, Валодзю Русінава. Вёў допыт маёр Макараў.

— Як пачуваешся? — пацікавіўся ён, калі я сеў на табурэт.

— Трэба б горш, ды ўжо немагчыма.

— Чаго ж так сумна? — і тут кіўнуў галавой у бок рэпрадуктара над дзвярыма, па якім перадавалі мажорную музыку «Широка страна моя родная». — Чуеш, як весела, а ты…

Ён гартаў паперы маёй справы, кідаў раз-пораз позірк на мяне, зноў учытваўся ў старонкі.

— Такое пытанне да цябе. Ты ўтрымліваўся ў 4-м аддзяленні Гарлага. Скажы, што адбывалася ў вас там у маі–чэрвені 53-га года?

Падумаў: калі адкажу «паўстанне» — гэта расстрэл. «Забастоўка» — таксама расстрэл.

—Ды не, — адказваю спакойна. — Беспарадкаў не было. Быў выключны парадак. Сто грамаў хлеба нам выдавалі, і мы строга дзялілі яго на траіх. І не было ні сварак, ні бойкі.

— Дык што ж тады там было?

— Проста мы патрабавалі камісію ЦК.

— І не выходзілі на працу?

— Як гэта не выходзілі? Я асабіста і амаль усе ў лагеры кожны дзень выходзілі на развод. Толькі нас чамусьці не выводзілі.

— Ты што, здзекуешся?

— Гавару праўду. Так было.

— Як было, мы паглядзім, — перакрывіўся тварам Макараў. — Тое не цяжка праверыць.

Ён зноў паглыбіўся ў паперы. Музыка сціхла ці абарвалася, і ў кабінеце стала непрывычна ціха. Маёр падняўся з крэсла, падышоў да дзвярэй, пакратаў дрот, праверыў, ці не адышла вілка ад разеткі. І як толькі падышоў да стала і намерыўся сесці ў крэсла, як з дынаміка выбухнула гарматай:

— Внимание! Передаём постановление пленума ЦК КПСС о раскольнической, антипартийной деятельности агента мирового империализма Лаврентии Берии!

Макараў неяк сутаргавата страпянуўся, быццам хто кальнуў яго шылам пад бок ці ўдарыла яго токам, тут жа падскочыў да рэпрадуктара і выключыў яго. А ў мяне перад вачыма паплыў нейкі блакітна-жоўты туман, зашчымела сэрца, і я ўсклікнуў у душы: «Чаму? Чаму тое не здарылася восем дзён назад?!»

Я падняўся з табурэткі і ўперыўся позіркам у Макарава, за спінай у якога на сцяне вісеў пад столлю партрэт Лаўрэнція Паўлавіча.

— Дык вось, аказваецца, грамадзянін маёр, якому ты ідалу служыў! Ты злачынцу служыў, а нас у турмах гнаіў.

Маёр увачавідкі неяк асунуўся, быццам з яго знялі адзенне і ён застаўся голы. Мяне зноў змясцілі ў бокс.

Пастанова пленума агаломшыла ўсіх, і УМДБ было ўжо не да допытаў. Здарылася тое, чаго ніхто не чакаў, але пра што мы марылі Яны разгубіліся, быццам хто выбіў у іх вясло і яны не ведалі, як і куды плысці далей. І дзіва дзіўнае: ваўкі, якія яшчэ ўчора клацалі вострымі ікламі, у адно імгненне ператварыліся ў нашых дабрадзеяў.

Калі нас з сябрамі вярнулі, там ужо дактары аказвалі меддапамогу пазбіваным і параненым, а ў камеры далі цяпло, блізкім сябрам дазволілі «свіданкі». Карцарны рэжым утрымання быў заменены агульным, а людзі ў камерах набылі бадзёрасць і загаварылі гучней, нікога не баючыся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

28 ліпеня да нас у камеру пасля ранішняй праверкі завітаў Шыраеў і аб'явіў нам, што мы, акрамя Дзікарова і Заанегіна, пойдзем на этап. Але мы, навучаныя вопытам, не паверылі яму. Але… 72 чалавекі вывелі з турмы, пашыхтавалі, праверылі ўсё згодна з фармулярам і праз нейкі час даставілі на нейкі невялічкі раз'езд, а там пагрузілі ў маленькі двухвосны вагон. Потым некуды прыехалі. Пачуліся воклічы: «Брасточкі! Гэта нашы! Нашых прывезлі!..»

Мы, 72 вязні, спусціліся ў трум баржы, і паўтары тысячы нашых таварышаў — былых лагернікаў 4-га і 5-га аддзяленняў, сустрэлі нас узнёсла і радасна, адорвалі нас і добрым словам, і чорнымі сухарамі з «заначак». Яны ўсе радаваліся сустрэчы з намі і той вялікай падзеі, што ўсе разам ішлі на этап — першы этап, пачынаючы з 1932 года, вялікі этап з Нарыльска на мацярык! Да гэтага ўсе этапы ішлі толькі ў адным кірунку — з мацерыка ў Нарыльск. Зваротнай дарогі не было. Каго прывозілі сюды, заставаліся на ўсё жыццё.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

То пазней ужо, значна пазней, калі вырваўся на волю, пазбегшы крывавых кіпцюроў катаў і забойцаў, калі паспрабаваў уліцца ў вялікую сям'ю савецкіх людзей, калі адчуў, што я аніяк «не ўпісваюся» ў гэтае вольнае жыццё, — мае мазгі пачалі думаць зусім інакш, не так, як пра тое марыў там, за кратамі. У маёй душы не знік, не прапаў дух змагара, а тут, на волі, бачачы, як улады здзекуюцца з свайго люду, а ён маўчыць, нічога не прадпрымае для супраціву, — я жахнуўся. Я не пазнаваў людзей. Мы там, у канцэнтрацыйным савецка-сталінскім лагеры, ядналіся, выпрабоўвалі адно аднаго — як жанчыны, так і мужчыны, — патрабавалі ад уладаў чалавечых адносінаў да нас, змагаліся за свае правы, а тут… Быццам бы і вольныя, а знаходзіліся за духоўнымі кратамі. Ды яшчэ і не задумваліся над сваім прыгнечаным становішчам, насілі на даманстрацыях партрэты кіраўнікоў сістэмы ды крычалі ім здравіцы…

Я адчуў сябе не тое што чужым сярод усіх, а нейкім адарваным ад жыцця чалавекам. І чамусьці я ім не зайздросціў. І яны, мусіць, не зайздросцілі мне. Мы як бы знаходзіліся на двух полюсах, у двух вымярэн-

нях. Я бачыў усё наскрозь, балюча бачыў, занепакоена, а ўсе вакол былі абыякавыя і інертныя. Я быў у нечым вышэй за іх. Бачыў глыбей, чым яны. Хацелася крыкнуць у прастору: «Людзі, прачніцеся! Вам не даецца тое, што належыць, што вы заслужылі за доўгія гады працы, вас абкрадаюць духоўна і эканамічна!..»

Тое мне напамінала Гарлаг. У нас былі наглядчыкі — і тут яны былі, у выглядзе чыноўнікаў. У нас не хапала харчоў і адзення — тое ж самае і тут, кіравалі ўсім блаты і «валасатая рука». Ды шмат чаго яшчэ мне кінулася ў вочы. Я за час адсідкі скончыў мо пяць універсітэтаў і акадэмій, вывучыўшы эканоміку і філасофію, палітэканомію і старадаўнюю літаратуру — усходнюю і заходнюю, гісторыі станаўлення дзяржаваў і кантынентаў, канстытуцыі ўсіх дзяржаў, праштудзіраваў Біблію — Стары і Новы запавет, забароненую літаратуру, — ды шмат чаго іншага, чаго не вывучаюць ні ў адным ВНУ Савецкага Саюза! Хто можа пахваліцца такім багаццем набытых ведаў? Я мог чытаць лекцыі па тых прадметах у любой навучальнай установе як кандыдат ці доктар навук, але ў мяне не было дыплома, — зэкам і вязням іх не выдавалі.

Я выпаў з абоймы савецкай сістэмы, яна не дапускала мяне да сябе як чужароднае цела, якое магло сапсаваць чысціню таго ладу, яго моц і сілу. Магутны Саюз, пабудаваны на крыві многіх народаў, якіх сілай і прымусам уцягвалі ў тое балота, здавалася, стаяў непахісным помнікам, і нішто яго магло зрушыць з месца. І атрымалася так, што турэмныя ўніверсітэты, слуханне лекцый вязняў-прафесараў, сустрэчы з Нетэ і Featured Рознерам ды іншымі слыннымі людзьмі, — выкавалі з мяне зусім іншага, не савецкага, чалавека, больш таго — антысаветчыка. І я ўдзячны не толькі турэмнай навуцы, але і тым, хто здзекаваўся з нас, зневажаў і прыніжаў нас і — забіваў. Мы, вязні, насуперак іх жаданням, нараджаліся нанова, у нас усялялася зусім іншае сэрца, а з ім і мазгі, якія думалі інакш, думалі вольна і ўзнёсла, як можа думаць і лётаць вольная птаха ў нябёсах.

Вось яно — адкрылася, высвятлілася: «любіце ворагаў вашых». Гэта азначала любіць выпрабаванні свае, лічыць іх іспытамі перад судом Божым, не праклінаць і не ганіць мінулае — з ворагамі, што чынілі смерці, Вышні разбярэцца і пакарае, але затое ў нас душы засталіся чыстыя. Нас спакушалі пайкамі і міскамі баланды, абяцаючы жыццё, калі мы паддамося і будзем супрацоўнічаць з пасланнікамі д’ябла, — мы не пайшлі на тое, не спакусіліся. І недзе з цягам часу нараджаліся радкі:

Мы за кратамі — і таму вольныя,
мы на свабодзе — і таму за кратамі…
Мы не схілім галовы перад катамі, —
Нашыя мары не крамольныя…

Там, за кратамі, нараджаліся новыя людзі новых рэспублік, якія нідзе пакуль што на мапах не абазначаны, — рэспублік патрыётаў і нацы-

яналістаў, якія складаюць касту людзей справядлівых і высакародных, якія адданы сваёй радзіме і свайму народу… Такога нідзе ў свеце не было, а мы іх стваралі. І кожны прадстаўнік свайго народа рабіўся аўтаматычна кіраўніком той наваствoранай краіны, дзе валадарылі Бог і Справядлівасць, дзе не было бедных і багатых, дзе ўсе былі падпарадкаваны адной ідэі — быць роўнымі сярод усіх і адметнымі ў сваёй нацыянальнасці. Гэта не ўтопія, не фантазіі, тое было насамрэч.

Дзякуй табе, савецкі канцлагер! Ты зрабіў з нас, сам таго не ведаючы і не падазраючы, сапраўдных людзей! І цяпер ніякая ідэалогія і маральныя кодэксы камуністаў не крануць нашыя душы, мы ўжо іншыя, і дай Бог, каб нашыя дзеці і ўнукі трымалі ў руках наш сцяг, сцяг паўстання супраць несправядлівасці і веры ў будучыню! Светлую і справядлівую будучыню!



**Рыгор Клімовіч**

Нарадзіўся ў 1924 годзе ў ваколіцы Нова-Цярэшкавічы Гомельскага раёна. Публіцыст, паэт, мемуарыст. Перад пачаткам вайны паступіў у Гомельскі індустрыльяна-педагагічны тэхнікум. У канцы 1942 года перайшоў лінію фронту, паўгода дабіраўся да Саратава, дзе размясціўся яго тэхнікум. У 1943 годзе накіраваўся ў Маскву, дзе яго і схапілі ў свае кіпцюры сталінскія нкусаўцы. Чатыры гады знаходзіўся ў Свярдлоўскай калоніі. Знаходзячыся ў зняволенні, напісаў дзясяткі антысталінскіх вершаў. Яны і з’явіліся падставай для таго, каб адправіць яго пад Нарыльск — у Гарлаг — лагер строгага рэжыму. У 1950 быў паўторна асуджаны, атрымаў дзесяць гадоў лагераў. З 1950 па 1953 год утрымліваўся ў Нарыльскай турме. Зноў вяртаецца ў Гарлаг. Узначальвае паўстанне палітвязняў, якое распачалося 25 траўня 1953 года. Працягвалася сорак дзён. Да 1956 года ўтрымліваўся ў турмах Уладзіміра, Іркуцка і Азёрлага. Зноў асуджваюць за антысавецкую дзейнасць, але па амністыі ў 1956 годзе вызваляецца з лагераў. З 1957 да канца 80-х, і нават калі выйшаў на пенсію, знаходзіўся пад наглядам КДБ. Памёр 1 ліпеня 2000 года.



# УСПАМІНЫ

**Анатоль Кашэвіч**

## Яе Вялікасць Памяць

1

Зіма на пачатку таго, сорак чацвёртага, года была зусім непадобная на папярэднія. З нашых вясковых зямлянак ужо былі бачныя і чутныя капяжы; снег асунуўся, паменшаў; праглядваліся ўжо на палях чорныя прагаліны; насунулася на нашыя Крушнікі цёмная хмара. А неўзабаве пайшоў ціхмяны дождж — і адразу ж, бы па нябесным загадзе, павярнуўся з усходу вецер. Ён як быццам прыпыніў пасоўванне той цёмнай хмары з захаду.

Мы не маглі тады яшчэ зразумець, што тое азначала, як і не ведалі, што ў гэтыя студзеньскія дні да нашай вёскі рухаліся нашыя войскі. Стаяла ноч, і мы — дзеці і дарослыя — не маглі ніяк зразумець, чаму на ўсё Палессе разлягаецца незразумелы гул, гудзенне нейкіх магутных машын. Уся вёска, як аказалася, была пранізана пражэктарамі, чуліся нейкія выкрыкі, каманды, размовы людзей. Ніхто, зразумела, з зямлянак не выходзіў, хаця ўжо ніхто і не спаў, нечага чакалі. На цямочку, ранічкай, я не вытрымаў і, накінуўшы на плечы паношаную дзіравую світку, усунуўшы ногі ў лапцікі, кумельгам выбягаю на вуліцу. Агледзеў мясцовасць, адзначыў, што нічога вёсцы і людзям не пагражала. Убачыў, што па нашай вуліцы рухаліся конныя абозы, гружаныя скрынкамі. Паўз мяне праехаў адзін воз, другі. На мяне ніхто не звяртаў увагі. Сам не заўважыў, як мяне быццам магнітам прыцягнула наступная павозка з вялізнаю скрыняю. Ішоў следам, а потым рукой учапіўся за дошкі воза.

У мяне пачала кружыцца галава, і таму я яшчэ мацней трымаўся за воз. І тады зразумеў, чаму не магу адарвацца ад яго. Ад скрыні патыхала амаль забытым салодкім пахам хлеба. Ішоў, каўтаў сліну і хістаўся, губляючы сілу ў нагах. На перадку сядзеў вусаты, сярэдніх гадоў вайсковец. Ён азірнуўся і ўбачыў мяне. Я не спужаўся позірку, наадварот, уперыўся ў яго вачыма і маўчаў. Нечага чакаў. Ледзьве

перабіраў нагамі, баяўся, што ўпаду. Ён, мусіць, усё зразумеў і таргануў лейцы, каб збочыць з дарогі. Злез з воза, падышоў да мяне. Паглядзеў на шасцігадовага схуднелага ад голаду хлапчука, уздыхнуў:

— Праклятая вайна…

Прачыніў вечка скрыні і дастаў адтуль бохан хлеба. Сур'ёзна і з нейкім па-бацькоўску шкадаваннем і жаласцю прамовіў:

— Бяры, хлопчык, пачастуй сваіх.

Я не верыў сваім вачам. Не ведаў, што і сказаць, здзервянеў язык, у горле перасохла, і не маглі вырвацца словы падзякі. У маіх руках — сапраўдны бохан хлеба! Ад яго сыходзіў незвычайны пах, водар, які меў сілу, даваў жыццё, спадзяванне на лепшае. Замест падзякі вайскоўцу я заплакаў. Ён, мусіць, зразумеў мой стан, не вытрымаў, прытуліў да сябе.

— Як цябе завуць, хлопчык?

— Толік…

— Не плач, Толік, усё страшнае засталося ззаду. Трымайся, наперадзе будзе лепшае жыццё!..

Я ішоў да сваёй зямлянкі і ўвесь час нюхаў той боскі водар, які сыходзіў ад бохана хлеба. За спінай чуў размовы і вясёлы смех, а я думаў пра тое, як здзівіцца маці, калі ёй дам у рукі падарунак вайскоўца. Напачатку маці не паверыла, што я трымаю ў руках хлеб. Панюхала і глыбока ўцягнула ў сябе яго пах. Потым адняла ад твару, перахрысціла яго, быццам жывую істоту, заўсміхалася радасна. На яе твары я рэдка бачыў такую ўсмешку, і таму мне было прыемна, што маці акрыяла душой, стала іншай, прыгажэйшай. З той жа светлай усмешкай яна паклала хлеб на самаробны столік. Доўга глядзела на яго, як быццам усё не верыла, што перад ёю бохан хлеба. Моўчкі ўзяла нож і аддзяліла палову. Абгарнула ручніком і схавала пад стол. А другую палову акуратна падзяліла на роўныя частачкі:

— То нам, сынок, на кожны дзень. Дзякуй Богу, што паслаў нам хлеб наш надзённы, няхай і надалей Божанька не пакідае нас без сваёй помачы…

Я спакваля нюхаў і лізаў свой кавалачак, адшчыкваў па крышынцы і адпраўляў у рот. Здаецца, ніколі не еў такога смакоцця.

І тады ж мне ўспомнілася, як нас, дзяцей, частавалі хлебам чужынцы.

Ім тады, заваёўнікам, было весела. Яны кідалі, быццам сабакам, кавалкі хлеба прама ў пясок, каб мы падбіралі яго. І мы, галодныя і знясіленыя, сапраўды кідаліся на той хлеб, як галодныя цюцькі. Кідаліся, адпіхваючы адзін аднаго, каб першым ухапіць той акрайчык… А яны, бачачы тое, рагаталі, зноў кідалі на дарогу святы хлеб і чакалі, калі мы зноў кінемся гамузам падымаць з зямлі хлеб. Мала ім гэтага, дык яны яшчэ і страляніну распачалі. Кінуць хлеб і тут жа аўтаматную чаргу наладзяць — непадалёк ад таго месца, дзе падалі кавалкі хлеба, — і ад тых куляў уздымалася пылота. Але мы ўжо не баяліся тых стрэлаў — голад перамагаў страх. Той хлеб меў пах пораху і зямлі, мы запомнілі тое…

Але мы прыносілі тыя выкачаныя ў пяску акрайчыкі хлеба, дадому, ўсё ж быў нейкі наедак…

Але той эпізод меў працяг. Нечаканы ды неспадзеўны працяг. Чуючы тыя стрэлы, з хаты ў двор выйшаў нямецкі афіцэр. Убачыў, што вытвараюць салдаты, падскочыў да таго аўтаматчыка і з усяго размаху ўляпіў аплявуху. Ён не ўтрымаўся на нагах, упаў у пясок. Вытарашчанымі вачыма глядзеў на свайго камандзіра. Іх, жаўнераў, было трое. Яны перасталі смяяцца, спахмурнелі, з нейкай бояззю паглядалі на афіцэра. Ён пачаў крычаць на іх, гаварыў нешта абразлівае, бо яны, увабраўшы галовы ў плечы, маўчалі. Аўтаматчык борздзенька падняўся з зямлі, зняў з грудзей зброю. Афіцэр яшчэ нейкі час сварыўся на нашых крыўдзіцеляў, а потым гучна вымавіў:

— Вэг!…

Іх як ветрам здзьмула. Афіцэр стомлена сеў на лавачку, што была прымацавана да плота. Паглядзеў на нас, слаба ўсміхнуўся. Мы стаялі воддалеч ад яго і не ведалі, што рабіць, здзіўленыя тым, чаму так павёў сябе нямецкі афіцэр. Добразычліва гледзячы на нас, рукой паказаў, каб мы падышлі да яго. Ён дастаў з кішэні кіцеля кашалёк, разгарнуў яго. Дастаў з яго фатаграфію, паказаў нам і патлумачыў:

— Дызэ майнэ фамілія… Гэта мая сям’я. Майнэ тохтэр і зон — Эльза і Пітэр.

На фота ўся сям’я. Сам афіцэр, але ў цывільным адзенні, яго жонка і дзеці. Схаваўшы фота назад, ён загаварыў на ламанай расейскай мове:

— Не думайце, што ўсе немцы такія злосныя, як гэтыя маладыя дурні. Яны яшчэ самі дзеці, якія паверылі Гітлеру. І да чаго прывёў нас Гітлер? Уцякаем з вашай краіны, нарабіўшы столькі гора і вашаму, і нашаму народу…

Мы маўчалі, не ведалі, што сказаць гэтаму добраму афіцэру. Праз нейкі момант ён, седзячы на лаўцы, паклікаў аднаго са сваіх жаўнераў. Той адразу з’явіўся і стаў перад афіцэрам. Выслухаўшы яго незадаволеныя словы, пакінуў нас. А потым ён вярнуўся з кардоннай каробкай і паставіў яе перад намі, прамовіў:

— Энтшульдзіген, біттэ, кіндэр!

Афіцэр махнуў яму рукой, а нам сказаў:

— Ён просіць у вас прабачэння… І ў знак сваёй віны ён дорыць вам свае пачастункі.

Мы не асмельваліся і браць той карабок, але на нас ветліва глядзеў нямецкі афіцэр, падахвочваючы ўзяць яго. Асмеліўся ўзяць той кораб я. Падняў з зямлі важкаваты груз, здагадаўся кіўнуць галавой нашаму дабрадзею ў знак падзякі. І мы ўсе разам пайшлі ў хмызняк, каб па-брацку раздзяліць змесціва. Што там было, спытаеце вы? І галеты, і шакалад у бліскучай абгортцы, і цукеркі, і шмат чаго яшчэ, чаго мы на свае вочы ніколі не бачылі. Пасля таго нас ніхто больш не крыўдзіў, наадварот,

калі прыходзілі да іх, то з пустымі рукамі не вярталіся. Так бы мовіць, не ведаеш, дзе знойдзеш, а дзе згубіш.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Армія спынілася за вёскаю. Помніцца, што было шмат кавалерыстаў, якія скакалі на конях, насіліся па вёсцы, як быццам за некім ганяліся. Машыны цягнулі за сабой гарматы. У вёсцы, мусіць, ніколі не было столькі людзей, такога тлуму і гармідару. Жаўнеры пачалі рабіць зямлянкі, выкопваць яміны, каб загнаць туды гарматы. І нас туды па першым часе не пускалі.

Вясна сорак чацвёртага… Спачатку было нейкае зацішша, а потым пачала праяўляцца ў людзей нейкая актыўнасць. Пакрысе пачало прыходзіць цяпло, часцей выглядвала з-за аблокаў сонца. Пад вечар пачала насоўвацца на вёску цёмна-свінцовая хмара, нізка завісла над зямлёй. Пракаціўся за Крушнікамі, за Каменем і Зімовай Будай буркатлівы гром. Ён як быццам спрабаваў сваю моц, не асмельваўся на поўную магутнасць сцябаць неба сваімі зыркімі пугамі. А потым грымоты ўзмацніліся, часцей пачалі жахаць маланкі. Неспадзеўкі пачаўся вясновы дождж. А з ім і пачало прыбываць цяпло. За ноч прабіліся травы, на нашых вачах пачалі ўбірацца ў сілу. Зямля пачала аздабляцца ў зялёны колер — тоненькія, бы тыя іголкі, кволыя травінкі пачалі шыцьвышываць зямны каляровы кілім…

Што запомнілася мне тады пра той час? У кожнай хаце, у кожнай сям'і, якая выжыла пасля апошняй цяжкай ваеннай зімы, нічога не засталося, каб пакласці што на зуб. Так бы мовіць, хоць шаром пакаці… Хоць і дрыжэлі над кожнай бульбінкай ці жменькай якіх крупаў, але ж жанчыны, маючы дзяцей, лічылі так: не прыйдзеш слабейшаму на дапамогу, не падзелішся апошнім, хоць на дне дзежачкі не пашкрабеш — грэх найвялікшы возьмеш на душу. Ведалі, што ніхто ў тыя хвіліны не дапаможа, спадзяванне толькі на саміх сябе.

І тады жанкі прыходзілі адна да адной і раіліся, як выбавіцца з той бяды — галаднечы. Мы ж, малалеткі, дзеці вайны, былі падобныя на здані, на прывіды. Мы хісталіся ад ветру, скура ды косці, і не маглі нідзе знайсці наедак. Бурчэла ў жываце, хісталася перад вачыма наваколле, і вочы цьмяна бачылі што перад сабою. Голад, голад, голад… Адкаціўся фронт на захад, а пра нас забыліся, што мы ёсць на белым свеце, што няма сілаў больш трываць. Вораг уцёк, а з вызваленай тэрыторыі ніхто не з'яўляўся.

Хоць і нельга было, але мы, хлапчукі, сабраўшыся ў невялічкія групкі, ішлі да артылерыстаў. Хтосьці строга глядзеў на нас, а хтосьці і прыхільна, але кожны раз нас нечым частавалі. Давалі хлеб, нешта намазвалі на яго, і калі мы елі яго, то чхалі і з вачэй цяклі слёзы. Да сённяшняга дня не ведаю, што тое было. Гарчыца? Ці што іншае? Але мы душыліся тым наедкам, ды і не забываліся, што ў кожнага ёсць маці і сястрычкі ці брацікі малодшыя. І таму рэшту клалі ў свае палатняныя торбачкі.

Нам было па шэсць-сем гадоў, а яны, артылерысты, размаўлялі з намі як з дарослымі. Ды мы і былі бадай што дарослымі. Мы ведалі, што такое жыццё і як выжываць у гэтым жыцці. Мы прайшлі праз жорны вайны і голаду, штодзённа адчуваючы страх і невядомасць, не ведаючы, выжывем мы ці не, — таму разумелі тых бязвусых хлопцаў, якія былі старэйшыя за нас на які дзясятак гадоў. Але мы іх, пазнаёміўшыся бліжэй, называлі ці то дзядзька Фёдар, дзядзька Сцяпан, ці дзядзька Іван. І старэйшы між іх — дзядзька Антон. Мажны, шыракаплечы, задумлівы. Яны ж, даведаўшыся, што мы бязбацькавічы, што бацькі загінулі на фронце, неяк апускалі нізка галовы, уздыхалі, спачувалі нам. І дзяліліся апошнім…

Іншы раз мы заглядвалі і ў зямлянку, якая стаяла воддалеч ад асноўных пазіцый. Ля ўваходу ў яе на тканіне быў намаляваны чырвоны крыж. Мы не заходзілі туды, бо бачылі, што там усе хадзілі ў шэрабелых халатах. Сядзелі воддалеч, зрэдку кідаючы позіркі ў той бок. Перагаворваліся між сабой, спрачаліся, якія гарматы больш магутныя і снарад ад якіх можа даляцець да Гітлера, каб забіць яго. Пачуўшы нашую гаману, выходзіла за парог цётка Алена. Той цётцы было, як я разумею сёння, гадоў дваццаць — дваццаць пяць, а мы для яе былі малымі дзецьмі. Яна ўсміхалася, выйшаўшы да нас, і ў яе неяк светла і радасна свяціліся вочы, трымала ў руках сумку.

— Які сёння ў вас настрой, хлапечая каманда? — весела пыталася яна ў нас. — Што ў вас новага? Ці не баляць жываты?

Мы наперабой расказваем дзяўчыне, як мы жывём, стараемся расказваць весела і бесклапотна, хаваючы ў душы нашыя болькі і хваробы, баючыся лезці ў яе душу са сваімі скаргамі.

— Усё добра, цётачка Алена! — адказваем амаль хорам.

— Тады сёння для вас я падрыхтавала нештачка.

І пачала раздаваць кожнаму белыя кругленькія пігулкі. Яны былі салодкімі, прыемнымі на смак. А потым, дадаючы і яшчэ, казала:

— А гэта ўжо жоўценькія. Аддайце тым, хто хварэе на тыфус…

А іншым разам выходзіла да нас не Алена, а яшчэ маладзейшая дзяўчына. Мы называлі яе проста Марусяю. Яна была вясёлая і дасціпная. Любіла жартаваць. Сядзела побач з Валікам Юніцкім, спытала ў яго:

— У вас, напэўна, курэй шмат, праўда?

Ён не зразумеў пытання, глядзеў на санітарку.

— У нас курэй няма.

— Ёсць, — засмяялася Маруся, — і ўсе яны ў тваіх вушах начуюць… Ты даўно мыў свае вушы?

— Не памятаю, — разгубіўся сябрук, — а што?

— Таму я вам усім раздаю па кавалку простага мыла, каб усе як след сёння памыліся дома і вымылі вушы. Іначай і не прыходзьце да мяне.

А ў нас жа таго мыла ні ў кога і не было. І калі мы прынеслі тыя кавалачкі дадому ды перадалі загад-просьбу санітаркі Марусі, то мацяркі ўсе да адной наладзілі нам лазню.

2

У тую красавіцкую раніцу, як звычайна, пачапілі мы на свае худзенькія плечы даматканыя торбачкі і пакіравалі да артылерыстаў. Але перад тым, як завітаць да іх, рашылі нашым дакторкам падараваць вясновыя букецікі кветак. А якія кветкі раслі ў нашым лесе? Так, пралескі… Для цёткі Алены і Марусі мы назбіралі іх каля Любінскага моста, перавязалі букецікі лазінкай. Нацянькі рушылі да салдацкіх зямлянак. Нас ніхто не сустрэў. І тое нас не здзівіла — не першы раз такое. Мы цярпліва чакалі, стоячы перад уваходам, трымалі ў руках кветкі. З суседняй зямлянкі выйшаў знаёмы вайсковец, накіраваўся ў наш бок. Стаў каля нас, спытаў:

— Да Марусі і Алены?

— Ага, да іх, дзядзька Антон.

Ён цяжка ўздыхнуў, паклаў мне на плячо сваю важкую даланю, прамовіў:

— Няма іх, хлопчыкі, няма. Загінулі яны сягоння ноччу, пайшоўшы на баявое заданне. І Фёдар, і Сцяпан, і Аленка з Марусяю… Яны цяпер ляжаць каля брацкай магілы.

Здаецца, у яго ўздрыгнуў голас, рукі дакрануліся да вачэй. Мы разгубіліся, не ведалі, што рабіць. Бачылі, як ён, узяўшы рыдлёўку, пакіраваў у бок могілак. Мы, не згаворваючыся, міжволі пайшлі следам. Ён спыніўся, чакаючы нас. Калі падышлі, папрасіў вартавых:

— Пакажыце хлопчыкам, дзе яны ляжаць… Яны пасябравалі з нябожчыкамі.

У кожнага з нас трымцела сэрца, калі мы падыходзілі да забітых у начным баі. А калі ўбачылі, як яны ляжалі на плашч-накідках на зямлі, вочы заліліся слязьмі. Мы не маглі ў тое паверыць, учора ж толькі размаўлялі, Маруся прасіла нас усіх вымыць вушы, а тут… Яны ж не памерлі, праўда, яны прылеглі адпачыць пасля цяжкіх салдацкіх дарог, ці не так? На пасінелым твары Марусі адбілася слабая ўсмешка, быццам яна хацелася папытацца ў нас, ці выканалі мы яе просьбу. Мы паклалі свае букецікі пралесак побач з галовамі Алены і Марусі. Паклалі і каля артылерыстаў — Фёдара і Сцяпана…Хаваць загінулых чамусьці не спяшаліся — чакалі, калі з боку Прыпяці прыедзе машына.

І неўзабаве неба абклалі грувасткія воблакі. Яны насоўваліся з захаду, адкуль і прыйшла да нас тая пачварная вайны. Сярод дня, здавалася, наступіла ноч. Зыркія маланкі пачалі жахаць па ўсім небе. Грымоты ўзмацняліся… Паліў дождж, абрынуўся на зямлю. І раз за разам над Крушнікамі пачаў біць пярун. А нам падумалася, што гэта гучэў салют у гонар нашых старэйшых сяброў. То яны пайшлі ў бой змагання з фашыстамі. Яны абаранялі краіну ад ворага, тым часам абараняючы і кожнага з нас…

Мы стаялі на каленях, гледзячы ў чорнае неба, не баючыся ўжо ні маланак, ні перуноў, — мы перажывалі сваё асабістае гора: не паспеўшы

як след пасябраваць, тут жа страцілі сваіх сяброў. З-за таго, што ўсчаўся шквалісты вецер з дажджом, паспяшаліся байцы паміж грузавікамі і бярозкамі нацягнуць вялікі брызент. І ўсе пахаваліся пад яго. Я ж не мог зрушыцца з месца, мяне як хто прывязаў да зямлі. Я плакаў, і халодныя кроплі дажджу вымывалі з вачэй слёзы. І нехта падхапіў мяне на рукі, занёс пад той брызент. Я ляжаў на халоднай зямлі і ці то шаптаў малітву, ці то каяўся, што спазніліся мы з букетамі кветак да сваіх старэйшых сяброў… Не чуў, як аціх вецер, як адвязалі ад бярозак канцы брызенту. Мяне калаціла, як у ліхаманцы. Нехта з санітараў паднёс да маіх губ алюмініевы кубак з нейкай вадкасцю і папрасіў выпіць. А як адышлі хмары, як зноў выбліснула сонца, вярнулася да мяне свядомасць. Хаця адчуваў, як не адпускаў мяне боль у грудзях. Да брацкіх могілак, убачыў, ішлі жанчыны з Крушнікаў і суседніх вёсак — Спрымачова, Каменя, Турбінкі… Да мяне падышла маці, абняла, прытуліла да сябе:

— То Маруська і Алена ляжаць?

— Так, яны…

Хавалі вайскоўцаў па некалькі чалавек ў вялікай яміне. Але той жа дзядзька Антон чамусьці не згадзіўся пахаваць Фёдара са Сцяпанам ды Алену з Марусяй у агульнай магіле. То ён нам потым растлумачыў:

— Будзеце прыходзіць да іх з пралескамі і будзеце помніць пра іх.

Іх пахавалі на ўскрайку могілак, каля маладых дзвюх бярозак. Жанчыны-крушнічанкі плакалі па іх, як па сваіх родных, бо яны і сапраўды аднесліся да крушнічанаў, як да сваіх родных, праз дзяцей перадаючы ім хоць які наедак…

3

Я штогод наведваюся ў тыя мясціны, у жалобныя хвіліны майго дзяцінства. Сустрэў мяне на тых могілках вялікі помнік — бетонная стэла. Яна, адзіная хіба, і напаміналы мне пра той горычны час… Вакол стэлы — пустэча. Зарасло ўсё быльнягом. Некалі мы даглядалі тыя могілкі, клалі кветкі на магілкі нашым сябрам-вызваліцелям. Адышлі ў нябыт жанчыны, што прыходзілі сюды, ды і мне пераваліла ўжо на дзявяты дзясятак — не маю сілы ўжо дабрацца сюды, на жаль… Тыя дзве бярозкі сталі бярозамі, і іх век заканчваецца. Паклаў я свае пралескі на тым месцы, дзе павінны ляжаць Маруся і Алена, Фёдар і Сцяпан. Памаліўся Богу, прачытаў малітву за супакаенне іх душаў. Ды нешта не адпускала мяне ад гэтай мясціны, не ведаю што. То я праз шмат гадоў, калі захацеў больш падрабязна даведацца пра той ліхі час, звярнуўся да дакументаў.

«Са справаздачы Беларускага штаба партызанскага руху аб узаемадзеянні партызанаў з часцямі Чырвонай Арміі ў Мазырскай аперацыі:

07.01.44 у раёне вёскі Новая Рудня — зыходнае становішча занялі 2-і і 7-ы кавалерыйскія корпусы. Тав. Р. С. Аўдзейчука (начальнік штаба

партызанскага злучэння Паўднёва-Прыпяцкай зоны Палескай вобласці) і А. Л. Жыльскага (камандзіра Мазырскай партызанскай брыгады імя А. Неўскага) выклікалі ў штаб 61-й арміі для ўдакладнення абставінаў у тыле ворага.

У 18.00 8.01.44 2-і і 7-ы кав. корпусы з праваднікамі-партызанамі выступілі па маршруце: Новая Рудня, Ст. Высокае, Дуброўка, Сініцкае Поле, Буйнавічы, Астражанка (зыходны пункт) і да вечара на наступны дзень войскі, не заўважаныя праціўнікам, дасягнулі зыходнага пункту — Астражанка, Казіміраўка, Раманаўка, Крушнікі…

…Часці 2-га і 7-га кав. карпусоў разам з партызанамі разграмілі тылы ворага і, развіваючы наступленне з тылу абароны ворага, да 14 студзеня разграмілі Мазырскую групоўку праціўніка, поўнасцю вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў Ельскі, Лельчыцкі і Мазырскі раёны.

Генерал-лейтэнант тав. Бялоў аб'явіў падзяку партызанам за актыўны ўдзел у баях і за дапамогу часцям Чырвонай Арміі ў разгроме групоўкі ворага і вызваленні раёнаў Палескай вобласці БССР ад захопнікаў».

І яшчэ.

Крушнічанка Паліна Аляксандраўна Юніцкая ў час вайны была санітаркай. Гэта яна знайшла на полі бою параненую і беспрытомную сувязістку Марыю Круціхіну. А бой праходзіў недалёка ад нас — пад хутарам Малая Лешня. І праз шмат гадоў былая сувязістка, гвардыі радавая, кавалер ордэна Айчыннай вайны І ступені Марыя Круціхіна, з Уралу, прыехала ў нашыя Крушнікі, дзе сустрэлася са сваёй сяброўкай, якая ўратавала ёй жыццё…

За вызваленне нашых мясцінаў удзельнічала шмат злучэнняў і часцей 61-й арміі, 16-й паветранай арміі Беларускага фронту. Стралковыя і артылерыйскія дывізіі, самаходна-артылерыйскі і мінамётны полк, шмат іншых, якія за правядзенне мазырскай аперацыі атрымалі ганаровае званне «Мазырскіх»… Мы пра тое тады нічога не ведалі.

Праходзіла паўз могілкі жанчына з кошыкам у руках. На дне кошыка некалькі зялёнак. Спыніў яе, пацікавіўся:

— Скажыце, шаноўная, а дзе падзеліся могілкі воінаў, якіх пахавалі ў сорак чацвёртым годзе? На маіх вачах чатырох пахавалі.

Яна прыгледзелася да мяне, быццам вывучала ці старалася ўспомніць, хто я і адкуль, скрушна адказала:

— Гэх, чалавеча… Няма могілак. Іх знішчылі. Проста зруйнавалі бульдозерам. Цяпер, як бачыш, дарагі крушнічанін, тут сцежка пракладзена, людзі ходзяць, каровы…

Змоўкла, зноў на мяне паглядзела.

— То я бачу, што мы з табой адных гадоў. І я прыходзіла з дзецьмі сюды, кветкі ўскладалі да магілак. Толькі стэла і засталася. А вунь далей паглядзі, у бок Асаўца, дык там, дзе былі агульныя ці брацкія могілкі,

яшчэ раней зруйнавалі і там цяпер густа парос сасоннік… Во яно як, чалавеча…

Успомніў той час, як мы хадзілі пасля вайны ў Асавецкую школу. Праходзілі паўз могілкі. І абавязкова спыняліся, чыталі прозвішчы на драўляных дошчачках. Жанчына, пакінуўшы мяне аднаго, пакрочыла далей па сваіх сцяжынках. Я ж ніяк не мог адысці ад стэлы. Прыплюшчыўшы вочы, пачуў вясёлыя галасы:

— Толік, жыццё працягваецца, не сумуй па нас. А што бязладдзе вакол, то не звяртай увагі. Ты памятаеш пра нас, і таго дастаткова. Дзякуй табе, хлопча…

Да былых могілак падкрадваўся сівы туман. Ён ахутваў карані бяроз і соснаў, падымаўся вышэй і вышэй. Адна стэла і вытыркалася з таго белага тумановага воблака, яна служыла нейкай антэнай ці перыскопам, праз якую яны ўглядаліся ў гэты свет. Яны нас бачылі, а мы іх — не.

Счакаўшы колькі хвілінаў, падаўся ў бок Крушнікаў. Азірнуўся: туман схаваў бярозы, нават падняўся вышэй за стэлу. Сувязь часоў перапынілася. Але ж Яе Вялікасць Памяць кожны раз вяртае і кідае мяне туды, у маё ваеннае дзяцінства. І я зноў чую тыя словы, якія сказаў нам, хлапчукам, нямецкі афіцэр: «Не думайце, што ўсе немцы такія злосныя, як гэтыя маладыя дурні». І тое, што прамовіў вайсковец, падараваўшы бохан хлеба, ратуючы мяне ад голаду: «Трымайся, наперадзе будзе лепшае жыццё!..»

Ці так яно адбылося насамрэч?!

*2018, Крушнікі–Камень–Асавец*



**Анатоль Кашэвіч**

Нарадзіўся 28 чэрвеня 1937 года ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна. Скончыў мясцовую сямігодку, затым Асавецкую сярэднюю школу. Адразу ж быў прызваны на службу ваенна-марскога флоту ў горад Севастопаль, дзе праслужыў на караблях чатыры гады. Скончыў Мазырскі, а потым Мінскі педагагічны інстытут. Больш за сорак гадоў працаваў настаўнікам, палову з іх — дырэктарам школы. Выдатнік асветы СССР і БССР. Сёння на пенсіі, жыве ў вёсцы Чырвонабярэжжа Лельчыцкага раёна. Друкаваўся ў раённым і рэспубліканскім друку, выдаў кнігі — дакументальныя аповесці «На куранях» (2013) і «Новенькая» (2015). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



# МОВАЗНАЎСТВА

Таццяна Карніеўская

## Дынаміка папулярных антрапонімаў у гомельскім іменаслове другой паловы XX стагоддзя

У артыкуле разглядаюцца асноўныя параметры існавання найбольш папулярных антрапонімаў горада Гомеля другой паловы XX стагоддзя. Адзначаная група ўжывальнасці ўласных імён разглядаецца як у статычным, так і ў дынамічным аспекце. Колькасныя падлікі зроблены самім аўтарам на аснове апрацоўкі суцэльнай выбаркі афіцыйна зарэгістраваных імёнаў.

Імя з'яўляецца неад'емнай часткай нашай асобы, уключае яе ў грамадства, разам з прозвішчам становіцца моўным знакам для вылучэння аднаго чалавека з ліку іншых. Імя замяняе фізічную асобу ў дакументах, іншых пісьмовых і віртуальных крыніцах, прадстаўляе чалавека ў нематэрыяльнай сферы культуры. Таму ў сучасным мовазнаўстве значнае месца займаюць даследаванні сучасных тапонімаў і антрапонімаў, праводзіцца іх каталагізацыя, рознабаковае высвятленне прычын узнікнення і асаблівасцей функцыянавання [2; 3; 4]. Тым больш, што «ў наш час, калі анамастыка вылучылася ў самастойную навуку, узрасла неабходнасць больш трывалага вывучэння асобных яе галінаў і раздзелаў» [1. с. 4]. Асноўная ўвага пры такіх пошуках надаецца рэгіянальным даследаванням.

Задача артыкула — *прасачыць асноўныя этапы развіцця найбольш ужывальных групаў онімаў (уласныя імёны) гомельскага іменаслову другой паловы XX стагоддзя. Пры гэтым асаблівая ўвага нададзена разгляду сучаснага антрапанімікону Гомеля.*

### Адметнасці гомельскага іменаслову 50-х гадоў

Дадзеныя гэтага перыяду атрыманы ў выніку выбарнага статыстычнага метаду. Прадстаўлены дадзеныя аналізу іменаслову 1951, 1952, 1956 гадоў. У той перыяд было ўжыта 97 мужчынскіх і 124 жа-

ночыя імёны. Колькасць носьбітаў складае адпаведна 4304 і 4044 асобы. Сярэдні каэфіцыент аднайменнасці роўны 44 у мужчынскім іменаслове і 33 у жаночым. На аснове атрыманых дадзеных вылічаўся сярэдні каэфіцыент аднайменнасці, атрыманы дзяленнем колькасці зарэгістраваных носьбітаў на колькасць імён. Значэнні вышэй гэтага каэфіцыента лічацца папулярнымі імёнамі і разглядаюцца больш падрабязна.

Самымі папулярнымі імёнамі гэтага перыяду з'яўляюцца наступныя (у дужках указана колькасць носьбітаў): *Аляксандр* (683), *Уладзімір* (558), *Віктар* (312), *Сяргей* (236), *Мікалай* (228), *Валерый* (217), *Міхаіл* (199), *Анатолій* (177), *Леанід* (155), *Генадзій* (117); *Людміла* (490), *Валянціна* (332), *Таццяна* (311), *Галіна* (243), *Тамара* (238), *Наталля* (215), *Святлана* (200), *Алена* (163), *Ларыса* (145), *Ала* (134). Дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі было ахоплена 2912 носьбітаў мужчынскіх і 2471 жаночых імёнаў.

Таксама высокай ступенню ўжывальнасці вылучаюцца наступныя антрапонімы: *Юрый*, *Ігар*, *Яўгеній*, *Пётр*, *Алег*, *Віталій*, *Васілій*, *Барыс*, *Валянцін*, *Рыгор*; *Любоў*, *Ірына*, *Надзея*, *Ніна*, *Вольга*, *Ганна*, *Марыя*, *Зінаіда*, *Раіса*, *Вера*, *Наталія*, *Лідзія*, *Жанна*, *Лілія*.

Такім чынам, асноўнымі рысамі гомельскага іменаслову перыяду 1951–1960 гадоў з'яўляюцца:

1. Даволі вялікая разнастайнасць онімаў актыўнага іменаслову, асабліва жаночай яго часткі.

2. Наяўнасць шматлікіх онімаў старажытнаяўрэйскага і новаяўрэйскага паходжання і іх варыянтаў як выразнік значнай колькасці прадстаўнікоў яўрэйскай дыяспары.

### Асноўныя рысы гомельскага іменаслову 60-х гадоў

У гэтым дзесяцігоддзі ў актыўным іменаслове было ўжыта 65 мужчынскіх і 84 жаночых імёнаў. Колькасць носьбітаў наступная: 2527 асоб мужчынскага полу і 2359 асоб жаночага. Дзясяткі самых папулярных імёнаў выглядаюць наступным чынам: *Сяргей* (375), *Аляксандр* (353), *Уладзімір* (205), *Ігар* (185), *Андрэй* (140), *Алег* (121), *Юрый* (119), *Віктар* (93), *Вячаслаў* (86), *Генадзій* (86); *Алена* (343), *Ірына* (247), *Наталля* (244), *Святлана* (237), *Таццяна* (221), *Людміла* (101), *Галіна* (97), *Вольга* (95), *Ала* (95), *Ларыса* (73). Дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі ахоплена 1763 асобы мужчынскага і 1783 асобы жаночага полу. Даволі значнай ступенню ўжывальнасці вызначаліся таксама імёны *Дзмітрый*, *Валерый*, *Мікалай*, *Віталій*, *Міхаіл*, *Аляксей*, *Вадзім*, *Леанід*, *Эдуард*, *Васілій*; *Аксана*, *Іна*, *Жанна*, *Марына*, *Валянціна*, *Анжэла*, *Вікторыя*, *Ганна*, *Анжаліка*, *Надзея*.

На працягу дзесяцігоддзя ўзрастае папулярнасць імён *Алег*, *Андрэй*, *Вадзім*, *Віктар*, *Віталій*, *Дзмітрый*, *Канстанцін*, *Сяргей*, *Уладзімір*, *Юрый*. Значнага падзення не выявіла ні адно імя. Адначасова змяншаецца выкарыстанне оніма *Лідзія*. Сярод жаночых онімаў павялічваюць сваю папулярнасць імёны *Аксана*, *Ала*, *Алена*, *Анжэла*, *Ганна*, *Людміла*, *Наталля*.

Такім чынам, улічваючы вышэй пералічаныя факты, можна сказаць, што выразнымі адметнасцямі гомельскага іменаслову з'яўляюцца:

1. Змяншэнне колькасці імёнаў у актыўным іменаслове. Адна з прычын такой сітуацыі — зніжэнне колькасці тыпова яўрэйскіх імёнаў і, як след, з'яўленне новых прапарцыянальных адносінаў у этымалагічнай класіфікацыі онімаў. Такія адносіны, дзе большасць імён належыць да старажытнагрэчаскіх і лацінскіх вытокаў, а значна меншая — да старажытнаяўрэйскіх і славянскіх, — захаваюцца на працягу доўгага часу.

2. Паскарэнне працэсу ўніфікацыі афіцыйных формаў онімаў, якое прывяло да значнага змяншэння колькасці скарочаных і памяншальных формаў імёнаў, а таксама зніжэння колькасці граматычных памылак у афіцыйных запісах пры рэгістрацыі.

### Асноўныя тэндэнцыі развіцця гомельскага іменаслову 70-х гадоў

Было ўжыта 95 мужчынскіх і 125 жаночых імён. Калі ўлічыць, што за дзесяцігоддзе былі зарэгістраваны 10 424 носьбіты мужчынскіх і 9846 носьбітаў жаночых імён, то каэфіцыент аднайменнасці ў мужчынскім іменаслове становіцца роўным 110, у жаночым — 78. Дзясяткі самых папулярных антрапонімаў наступныя: *Аляксандр* (1531), *Сяргей* (1391), *Андрэй* (862), *Дзмітрый* (738), *Уладзімір* (522), *Віталій* (443), *Юрый* (427), *Ігар* (413), *Аляксей* (380), *Вячаслаў* (358); *Наталля* (1443), *Алена* (1379), *Таццяна* (989), *Ірына* (857), *Святлана* (831), *Вольга* (673), *Аксана* (401), *Людміла* (308), *Марына* (265), *Галіна* (221). Такім чынам, дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі было ахоплена 7065 асобаў мужчынскага і 7367 жаночага полу.

Крыху менш папулярнымі ў мужчынскім іменаслове былі такія імёны, як *Алег, Яўгеній, Мікалай, Віктар, Валерый, Павел, Міхаіл, Генадзій, Дзяніс, Вадзім, Максім, Руслан,* а ў жаночым *Юлія, Ганна, [Олеся], Вікторыя, Ала, Кацярына, Жанна, Ларыса, Іна, Надзея, Валянціна*.

На працягу дзесяцігоддзя ўзрастае ўжывальнасць онімаў *Аляксей*, *Дзмітрый*, *Дзяніс*, *Кірыла*, *Павел*, *Руслан*, *Яўгеній*. Адначасова зніжаецца папулярнасць такіх онімаў, як *Алег*, *Валерый*, *Віктар*, *Вячаслаў*, *Генадзій*, *Ігар*, *Леанід*, *Сяргей*, *Уладзімір*. Папулярнасць імя *Юлія* ўзрасла на працягу дзесяцігоддзя ў 10 разоў. Павышаецца таксама ўжывальнасць імён *Аксана*, *[Олеся]*, *Яўгенія*. Адначасова назіраецца спад такіх онімаў, як *Ала*, *Валянціна*, *Галіна*, *Жанна*, *Ірына*, *Ларыса*, *Людміла*, *Святлана*.

У параўнанні з папярэднім перыядам іменаслоў дадзенага дзесяцігоддзя выяўляе наступныя асаблівасці.

Даволі значна ўзрастае колькасць імёнаў актыўнага іменаслову. У мужчынскім іменаслове колькасць онімаў павялічваецца з 65 да 95 адзінак (на трэць). У жаночым такі паказчык павялічваецца таксама на трэць (з 84 да 125 адзінак). Такім чынам, склад актыўнага іменаслову дасягае паказчыкаў 50-х гадоў XX стагоддзя. Прычынай такой з'явы стала значнае павышэнне ўзроўню нараджальнасці. У такіх выпадках

колькасць імёнаў актыўнага іменаслову расце нязначна, таму што залежнасць колькасці онімаў ад колькасці носьбітаў знаходзіцца ў адносінах адваротнай прапарцыянальнасці. Як наступства, павялічваецца колькасная нагрузка на імя. Аднак такая нагрузка размяркоўваецца ў іменаслове нераўнамерна.

Такім чынам, улічваючы вышэй пералічаныя факты, можна сказаць, што адметнасцямі іменаслову з'яўляюцца:

1. Вялікая стабільнасць іменаслову разглядаемай паловы стагоддзя. Такое становішча склалася дзякуючы значнаму павелічэнню каэфіцыента аднайменнасці і адначасоваму захаванню ступені традыцыйнасці пры павелічэнні колькасці імёнаў. Гэта прывяло да раўнамернага размеркавання нагрузкі рэальнага ўжывання на асноўную частку онімнай сістэмы.

2. Уключэнне ў наш іменаслоў онімаў, характэрных для розных краін блізкага і далёкага замежжа, прычым такія онімы ўспрымаюцца носьбітамі нашага іменаслову як адназначна іншамоўныя. Прычынай такога працэсу сталі змешаныя шлюбы як вынік міграцыі прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей.

### Развіццё гомельскага іменаслову 80-х гадоў

У перыяд, які мы разглядаем, было ўжыта 121 мужчынскае і 163 жаночыя імёны. Колькасць носьбітаў складае 12 767 асоб мужчынскага і 12 190 асоб жаночага полу. Адпаведна, каэфіцыент аднайменнасці ў мужчынскім іменаслове роўны 106, у жаночым — 75. Дзясяткі найбольш папулярных онімаў наступныя: *Аляксандр* (1473), *Дзмітрый* (1192), *Сяргей* (1146), *Андрэй* (963), *Яўгеній* (636), *Аляксей* (529), *Дзяніс* (479), *Юрый* (477), *Віталій* (459), *Максім* (441); *Вольга* (1256), *Таццяна* (1052), *Алена* (1005), *Кацярына* (886), *Наталля* (858), *Ірына* (837), *Юлія* (792), *Ганна* (548), *Марына* (527), *Святлана* (473). Дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі было ахоплена 7795 асоб мужчынскага і 8234 асобы жаночага полу. Таксама вышэй за каэфіцыент папулярнасці ў гомельскім іменаслове гэтага перыяду адзначаюцца такія імёны, як *Павел, Ігар, Уладзімір, Мікалай, Арцём, Віктар, Міхаіл, Антон, Іван, Вячаслаў, Алег, Раман, Вадзім, Канстанцін, Станіслаў, Кірыл*; *Вікторыя, Настасся, Аксана, Марыя, [Олеся], Людміла, Галіна, Крысціна, Вераніка, Яўгенія, Аляксандра, Іна, Яніна, Надзея, Аліна, Дар'я, Валянціна, Ала*.

На працягу дзесяцігоддзя ўзрастае ўжывальнасць онімаў *Алег, Антон, Артур, Арцём, Ілья, Кірыла, Раман, Руслан, Станіслаў*. Адначасова зніжаецца папулярнасць онімаў *Васілій, Ігар, Сяргей, Уладзімір, Юрый*. Узрастае папулярнасць імён *Аліна, Дар'я, Кацярына, Крысціна, Настасся*. Адначасова назіраецца спад ужывальнасці такіх онімаў, як *Аксана, Алена, Алеся, Вера, Вольга, Галіна, Людміла, Наталля, [Олеся], Святлана*.

Асноўнымі зменамі ў іменаслове дадзенага перыяду ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем сталі наступныя.

Колькасць імён актыўнага іменаслову працягвае павялічвацца, хаця ўжо не такімі хуткімі тэмпамі. Так, у мужчынскім іменаслове колькасць афіцыйна зарэгістраваных імён павялічылася з 95 да 121 адзінкі, у жаночым — з 125 да 163. Адначасова крыху зніжаецца каэфіцыент аднайменнасці: у мужчынскім іменаслове ён апускаецца з 110 да 106, у жаночым гэты паказчык знізіўся з 78 да 75. Такая невялікая велічыня змянення дазваляе гаварыць аб тым, што стабільнасць іменаслову застаецца на дасягнутым узроўні.

Такім чынам, абранае дзесяцігоддзе вызначаецца такімі асаблівасцямі:

1. Працягваецца павелічэнне колькасці онімаў наяўнага іменаслову. У першую чаргу папаўненне адбываецца за кошт увядзення ў актыўны іменаслоў шматлікіх заходніх варыянтаў вядомых імён, а таксама ўключэнне ў склад нашага іменаслову новых замежных онімаў.

2. Зніжаецца каэфіцыент аднайменнасці і ступень традыцыйнасці, што прыводзіць да больш раўнамернай нагрузкі на асноўную частку онімнай сістэмы. Колькасная розніца паміж онімамі становіцца менш выражанай.

### Вызначальныя рысы гомельскага антрапанімікону 90-х гадоў

На адрэзку гэтага часу было ўжыта 153 мужчынскія і 175 жаночых імён, колькасцю носьбітаў якіх з'яўляліся 7186 асоб мужчынскага і 6736 асоб жаночага полу. Каэфіцыент аднайменнасці складае ў мужчынскім іменаслове 47, у жаночым — 38. Дзясяткі самых папулярных антрапонімаў выглядаюць наступным чынам: *Дзмітрый* (559), *Аляксандр* (535), *Андрэй* (428), *Яўгеній* (386), *Аляксей* (350), *Уладзіслаў* (341), *Сяргей* (331), *Арцём* (327), *Максім* (304), *Павел* (241); *Анастасія* (617), *Кацярына* (493), *Юлія* (374), *Ганна* (328), *Вікторыя* (325), *Таццяна* (288), *Вольга* (280), *Крысціна* (266), *Марыя* (262), *Дар'я* (248). Дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі былі ахоплены 3802 асобы мужчынскага і 3481 асоба жаночага полу.

У гэты час даволі значнай ступенню ўжывальнасці вызначаюцца і такія імёны, як *Мікіта, Дзяніс, Кірыла, Антон, Ілья, Ігар, Іван, Раман, Станіслаў, Уладзімір, Юрый, Віталій, Мікалай, Ягор, Міхаіл, Алег, Вадзім, Віктар, Канстанцін, Вячаслаў, Руслан, Артур, Валерый, Данііл; Алена, Алеся, Аліна, Ірына, Наталля, Аляксандра, Марына, Валерыя, Вераніка, Святлана, Ксенія, Яўгенія, Яніна, Яна, Лізавета, Аксана, Дыяна, Карына, Ангеліна, Паліна, Надзея, Маргарыта, Галіна.*

На працягу дзесяцігоддзя ўзрастае ўжывальнасць онімаў *Данііл, Мікіта, Уладзіслаў, Ягор*. Адначасова зніжаецца папулярнасць імён *Алег, Аляксей, Андрэй, Антон, Артур, Віктар, Віталій, Вячаслаў, Дзмітрый, Іван,*

*Ігар, Канстанцін, Максім, Мікалай, Міхаіл, Павел, Раман, Руслан, Сяргей, Уладзімір, Юрый, Яўгеній*. Узрастае папулярнасць імён *Аляксандра, Валерыя, Вераніка, Дар'я, Дыяна, Настасся, Паліна, Яна*. Адначасова назіраецца спад ужывальнасці такіх онімаў, як *Аксана, Алена, Валянціна, Вера, Вікторыя, Вольга, Ілона, Іна, Ірына, Кацярына, Крысціна, Лідзія, Лілія, Людміла, Маргарыта, Марына, Наталля, Святлана, Юлія, Яўгенія*.

Асноўным змяненнем у разглядаемы перыяд з'яўляецца даволі значнае павелічэнне колькасці імён актыўнага іменаслову, у мужчынскім іменаслове такі паказчык павялічыўся з 121 да 153 адзінак, у жаночым — з 163 да 175 адзінак. Адначасова паніжаецца каэфіцыент аднайменнасці: у мужчынскім іменаслове гэты паказчык знізіўся з 106 да 47, а ў жаночым розніца менш заўважная — з 75 да 38. Прычынай такой з'явы стала невялікае павелічэнне колькасці онімаў наяўнага іменаслову і заўважнае падзенне нараджальнасці.

Асноўнымі рысамі іменаслову гэтага дзесяцігоддзя з'яўляюцца:

1. Вялікая колькасць імён наяўнага іменаслову ў адносінах да колькасці носьбітаў. Адпаведна адзначаецца самы невялікі за палову стагоддзя каэфіцыент аднайменнасці. У суаднесенасці з вышэй прыведзеным фактарам і зніжэннем ступені традыцыйнасці можна зрабіць вывад аб тым, што ў дадзенае дзесяцігоддзе адзначаецца самае аптымальнае размеркаванне онімаў у адносінах да колькаснай нагрузкі.

2. Гэты перыяд валодае самай вялікай часткай нестандартнага іншаземнага іменаслову, што з'яўляецца паказчыкам інтэнсіўнасці працэсу інтэрнацыяналізацыі. Адначасова адбываецца вяртанне да імён, якія пэўны час былі па-за межамі актыўнага іменаслову.

**Асноўныя тэндэнцыі развіцця гомельскага іменаслову другой паловы XX стагоддзя**

У другой палове XX стагоддзя было ўжыта 250 мужчынскіх і 295 жаночых імён. Колькасць носьбітаў — 37 208 асоб мужчынскага полу і 35 175 асоб жаночага полу. Каэфіцыент аднайменнасці ў мужчынскім іменаслове роўны 149, у жаночым — 119. Дзясяткі найбольш ужывальных імён наступныя: *Аляксандр* (4575), *Сяргей* (3479), *Дзмітрый* (2594), *Андрэй* (2403), *Уладзімір* (1806), *Яўгеній* (1442), *Аляксей* (1337), *Юрый* (1261), *Ігар* (1252), *Віталій* (1176); *Алена* (3166), *Наталля* (2954), *Таццяна* (2861), *Вольга* (2395), *Ірына* (2275), *Святлана* (1869), *Кацярына* (1536), *Юлія* (1359), *Ганна* (1158), *Людміла* (1118).

Дзесяццю самымі папулярнымі імёнамі было ахоплена 21 325 асоб мужчынскага полу і 20 701 асоба жаночага полу.

**Табліца 1.** *Самыя папулярныя імёны антрапанімікону Гомеля другой паловы XX стагоддзя*

| *Мужчынскія імёны* | | *Жаночыя імёны* | |
|---|---|---|---|
| *Імя* | *Колькасць носьбітаў* | *Імя* | *Колькасць носьбітаў* |
| Аляксандр | 4575 | Алена | 3166 |
| Сяргей | 3479 | Наталля | 2954 |
| Дзмітрый | 2594 | Таццяна | 2861 |
| Андрэй | 2403 | Вольга | 2395 |
| Уладзімір | 1806 | Ірына | 2275 |
| Яўгеній | 1442 | Святлана | 1869 |
| Аляксей | 1337 | Кацярына | 1536 |
| Юрый | 1261 | Юлія | 1359 |
| Ігар | 1252 | Ганна | 1168 |
| Віталій | 1176 | Людміла | 1118 |

У другой палове XX стагоддзя ў гомельскім іменаслове вышэй за каэфіцыент аднайменнасці знаходзяцца (а значыць, з'яўляюцца ўжывальнымі) 39 мужчынскіх імён: *Аляксандр, Сяргей, Дзмітрый, Андрэй, Уладзімір, Яўгеній, Аляксей, Юрый, Ігар, Віталій, Віктар, Мікалай, Павел, Максім, Алег, Дзяніс, Вячаслаў, Міхаіл, Валерый, Арцём, Уладзіслаў, Іван, Генадзій, Анатолій, Вадзім, Раман, Антон, Станіслаў, Канстанцін, Кірыла, Леанід, Васілій, Руслан, Мікіта, Пётр, Ілья, Валянцін, Артур, Ягор*. Гэтымі імёнамі было ахоплена 35 746 асоб мужчынскага полу, ці 96,07 % носьбітаў. У жаночым іменаслове такіх антрапонімаў 40: *Алена, Наталля, Таццяна, Вольга, Ірына, Святлана, Кацярына, Юлія, Ганна, Людміла, Марына, Настасся, Вікторыя, Аксана, Галіна, Марыя, Валянціна, Ала, Крысціна, Надзея, Ларыса, [Олеся], Аляксандра, Аліна, Іна, Дар'я, Тамара, Вераніка, Яўгенія, Жанна, Любоў, Яніна, Валерыя, Ніна, Дыяна, Вера, Ксенія, Лідзія, Анжэла, Маргарыта*. Трэба адзначыць, што імі было ахоплена 32 772 асобы жаночага полу, ці 93,17 % носьбітаў.

Такім чынам, можна зрабіць вывад, што гомельскі іменаслоў другой паловы XX стагоддзя выяўляе наступныя характэрныя рысы.

1. Павелічэнне варыянтаў вядомых імёнаў за кошт запазычання заходнееўрапейскіх варыянтаў і ўласнай імятворчасці.

2. Пранікненне ў беларускі іменаслоў тых онімаў, што на працягу ўсяго працэсу развіцця нашага іменаслову не былі для яго характэрнымі. У першую чаргу гаворка ідзе пра арабскія, цюркскія імёны, якія пастутова становяцца неад'емнай часткай беларускага іменавання. Адзначаецца пэўная колькасць экзатычных антрапонімаў, што з'яўляецца вынікам інтэрнацыяналізацыі.

3. У актыўны іменаслоў вяртаюцца імёны, якія пэўны час былі па-за межамі ўжытку. Такія імёны адназначна атрымліваюць адзнаку «старыя» і з'яўляюцца выразнікам т. зв. працэсу «вяртання да вытокаў».

4. Пры любой змене іменаслову ў ім застаецца пэўнае ядро, якое складаюць імёны, што ўваходзяць у склад канкрэтнай антрапонімнай сістэмы на працягу ўсяго разглядаемага перыяду, змяняючы толькі сваю частотнасць. Наяўнасць такіх онімаў паказвае на пэўную ўстойлівасць іменаслоўнай сістэмы дадзенага рэгіёна. *Аналіз імёнаў антрапонімнага ядра дазваляе прасачыць асноўныя напрамкі гістарычнага развіцця іменаслову, а таксама вылучыць пэўныя этымалагічныя групы онімаў.*

**Літаратура**

1. Беларуская антрапанімія : вучэб. дапам. / Г. М. Мезенка (навук. рэд.) [і інш.]. — Віцебск : УА «ВДУ імя П. М. Машэрава», 2009. — 254 с.
2. Карніеўская, Т. А. Іменаслоў горада Гомеля другой паловы XX стагоддзя : манаграфія / Т. А. Карніеўская ; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. — Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2010. — 168 с.
3. Мезенка, Г. М. Беларуская анамастыка ў XXI стагоддзі: праблемы, перспектывы / Г. М. Мезенка // Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць : матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 20 красавіка 2010 г. / Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ; рэдкал.: І. Л. Капылоў [і інш.]. — Мінск, 2010. — С. 5–10.
4. Скребнёва, Т. В. Антропонимикон современного белорусского города в динамическом и социолингвистическом аспектах (на материале русскоязычных личных имён г. Витебска) : автореф. дис. … канд. филол. наук : 10.02.02 / Т. В. Скребнёва ; БГУ. — Минск, 2010. — 23 с.



**Таццяна Карніеўская**

Нарадзілася ў Гомелі. Скончыла сярэднюю школу № 12, Гомельскі музычна-педагагічны каледж, філалагічны факультэт ГДУ імя Францыска Скарыны і аспірантуру пры ім. Кандыдат філалагічных навук (2011). Працуе ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце старшым выкладчыкам кафедры замежных моваў.

**Сяргей Кураш**

## «Жылай здаецца яна залатой…»: Метафарычныя вобразы роднай мовы ў беларускай паэзіі

Паняцці *мова* і *паэзія* непарыўныя для нашай свядомасці. Паэзію на бытавым узроўні мы ўспрымаем перш за ўсё як незвычайную мову, якой выражаюцца тыя ці іншыя думкі.

У беларускай паэзіі МОВА — адзін з дамінантных шматгранных вобразаў-канцэптаў, у тэматычнае поле якога трапляе не толькі сама зыходная лексема *мова* (у пераважнай колькасці — у спалучэнні з азначэннямі *родная*, *бацькоўская*, *матчына* і інш.), але і даволі шырокае кола філалагічнай тэрміналагічнай лексікі.

Лексіка, якая складае тэматычнае поле МОВА, прадстаўлена ў беларускіх паэтаў як у зоне «левага» (A), так і «правага» (B) элементаў метафары, якая, як вядома, уяўляе сабою трохкампанентную структуру: A — тое, што падлягае метафарызаванаму ўспрыняццю; B — тое, што выкарыстоўваецца для метафарычнага асэнсавання A; нарэшце, агульная семантычная прымета, якая дазваляе ўспрыняць нейкае ўмоўнае A як умоўнае B. Іншымі словамі, МОВА не толькі здольная сама падлягаць метафарычнаму асэнсаванню, але і выяўляе патэнцыял як адна з крыніц для вобразна-метафарычнага асэнсавання пазамоўных аб'ектаў і з'яў рэчаіснасці.

Метафарычныя вобразы мовы і разнастайных моўных феноменаў у тэкстах беларускай паэзіі даволі цікавыя і адметныя.

Як «левы» элемент (A) метафар вобраз-канцэпт МОВА прадстаўлены ў большасці выпадкаў сваёй загалоўнай лексемай *мова*. Яе метафарычныя кантэксты семантычна накіраваны перш за ўсё на асэнсаванне мовы як нацыянальна вызначальнага феномену. Пры гэтым часцей за ўсё паэтамі акцэнтуюцца такія сэнсы, як багацце, прыгажосць, каштоўнасць роднай мовы. Гэтыя метафарычныя вобразы характарызуюцца яскравай нацыянальна-стылёвай афарбоўкай.

Вельмі паказальны прыклад — класічны верш Максіма Танка «Родная мова». Вобразны цэнтр тэкстаўтваральнай метафары — дзеепрыметнік *выткана*, аднесены да паняцця, прадстаўленага ў загалоўным словазлучэнні. Такое ўскоснае прыпадабненне мовы да тканага вырабу мае яскрава выражаную нацыянальна-культурную накіраванасць. Гэты ж лінгвакультурны фон падмацоўваецца і бліжэйшым кантэкстам: з чаго «*выткана*» мова?

З легендаў і казак былых пакаленняў,<br>
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,<br>
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,<br>
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,

З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго…

У іншым вершы гэтага ж паэта МОВЕ метафарычна прыпісваюцца такія дзейнасныя рысы, якія ствараюць сінестэтычнае (зрокава-абанняльна-акустычнае) успрыманне гэтай з’явы:

Усімі вясёлкамі ззяе,
Смалістымі пахне лясамі,
Жывымі звініць галасамі.

І падобных метафарычных вобразаў у беларускіх паэтаў даволі шмат. Параўн. таксама:

Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —
І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць.
Кожным гукам і словам — па каліўцу — тут прарастала
Разам з кожнай травінкай і зёлкай — найменнямі іх.

*(Н. Гілевіч)*

Вы паслухайце, мова якая!
Нібы рэчачка, ціха журчыць,
Нібы скрыпка, цудоўна спявае,
Трэба толькі на ёй гаварыць.

*(А. Балуценка)*

Нібы хваляй камень, шліфаваліся словы
Мовы маці маёй, Беларускае Мовы.

*(С. Сокалаў-Воюш)*

Традыцыйна вобразныя серыі з «левым» элементам *мова* ствараюцца ў тэкстах беларускай паэзіі па пэўных мадэлях, напрыклад:

**«Расліны, арганічны рост»**:

Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —
І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць.
Кожным гукам і словам — па каліўцу — тут прарастала
Разам з кожнай травінкай і зёлкай — найменнямі іх.

*(Н. Гілевіч)*

Усё на свеце выпадкова,
апроч зямлі,

дзе гукі найзванчэйшай мовы
праз сэрца прараслі.

*(В. Сахарчук)*

**«Зброя»**:

Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.

*(У. Караткевіч)*

**«Каштоўныя камяні»**:

О, колькі яшчэ не адкрыта
Адценняў у ёй і блакіту,
Патрэбных народу, паэтам,
Каштоўнай руды, самацветаў!

*(М. Танк)*

Звяртаюць на сябе ўвагу і метафарычна структураваныя рэакцыі на сучасны стан беларускай мовы, асаблівасці яе функцыянавання ў грамадстве, няпросты лёс. Так, напрыклад, верш Святланы Багданкевіч «Двухмоўе» заснаваны на метафарычным выкарыстанні вядомай прыказкі, у выніку чаго аўтар прапануе чытачу своеасаблівую развагу адносна нашай моўнай рэчаіснасці:

Усім — па мове,
Ну, а ў нас —
Дзве мовы.
Дзве маткі?
Вобраз трапны,
Хоць не новы.
Нібы ласкавае,
З той прыказкі,
Цялятка,
Мы хочам схітраваць —
Смактаць дзве маткі.
Але ці ўдасца
Ашукаць прыроду?
Такі імпэт
Каб не прывёў
Да зводу!

Іншую па складзе, але аналагічную па сутнасці метафару адчужэння многіх беларусаў ад роднай мовы стварае Іван Лагвіновіч:

…браты мае моўнае поле
ў суседзяў сваіх арандуюць!..

Рыгор Барадулін у вершы «Мова» выкарыстоўвае своеасаблівую «двухкрокавую» метафару ў дачыненні да загалоўнага паняцця, дзякуючы чаму цэнтральны вобраз асэнсоўваецца амбівалентна — ад «адмоўнага» да «станоўчага»:

Вяроўка, з ласкі звітая,
На якой
Ты можаш засіліць
Падступны смутак,
Разгубленаю рукой
Завязаўшы нямую пятлю.

Вяроўка, звітая з чысціні,
Якой
Залыгацьмеш чароды чутак,
Заганяючы іх у спакой
Непрыкаяным словам
«Люблю».

Параўн. таксама:

Не давай заскарузець слову.
Слова праўды — ружанец і меч.
Словам можна здымаць галовы,
але сэрцы ты ім не калеч.

*(М. Кавыль)*

У беларускіх паэтаў у фокус мастацкай метафорыкі трапляе перш за ўсё роднае, жывое слова. Адсюль характэрная накіраванасць метафарычных вобразных асацыяцый:

З мінулага часу,
з буслінага краю,
дзе рэха лясное
і поле льняное,
з'явілася слова,
забытае мною,
змарнелым дзіцяткам —
у сэрцы люляю.

*(І. Лагвіновіч)*

Радкі ляжаць
Квяцістых слоў з мае атавы.

*(Р. Крушына)*

Тваё слова — паветра для душы жывой.

*(В. Жуковіч)*

Якія знаёмыя назвы і словы,
Якая цудоўная родная мова!
І ўсё мілагучна для слыху майго:
І звонкае «дзе», і густое «чаго».

*(П. Панчанка)*

Вельмі багатая родная мова,
Жылай здаецца яна залатой,
Як залацінка, ў ёй кожнае слова…

*(А. Балуценка)*

Лексічныя складнікі тэматычнага поля МОВА шырока выкарыстоўваюцца і для метафарычнага асэнсавання пазамоўных рэалій (у якасці В-элемента), і перш за ўсё такіх, як:

**«Чалавек»**:

Мае настаўнікі і вучні,
Мае калегі і сябры,
Без вас,
Як без прыдатка — злучнік…

*(М. Аўрамчык)*

Твой чалавечы век —
Працяжнік
Між дзвюх абавязковых дат.

*(П. Макаль)*

**«Прырода»:**

Ускрай маладога жыта
сінія васількі —
сінія буквіцы
ў кнізе лета.

*(А. Разанаў)*

Асенняе шматкроп'е журавоў
Злятае ў вечнасць са старонак неба…

*(В. Зуенак)*

**«Прадметы»**:

Нада мной брывей двукоссе
І грудзей двукроп’е.

*(В. Стрыжак)*

Снег бела-бялюткі,
Як нерушны аркуш паперы,
Прашыты лісіным пункцірам,
Прабіты заечым двукроп’ем.

*(Ю. Свірка)*

**«Дзеянне, стан»:**

Як пытальнік над намі — спатканне
І чакае адказу ад нас.

*(Р. Баравікова)*

Дык не ўпусці блакітнай птушкі
Сваёй удачы і любві,
І покуль не замкнуцца дужкі,
Хвілінай кожнаю жыві.

*(П. Макаль)*

**«Адцягненыя паняцці»:**

Стаптаўшы роднасці радно,
Ламаем і сягоння коп’і,
Якіх ужо няма даўно…
Жыццё — бясконцае шматкроп’е.

*(П. Макаль)*

І мы не да кропкі — да коскі
ідзём
па жыцці.

*(Л. Рублеўская)*

Вельмі цікавым мастацкім прыёмам з’яўляецца метафарычнае выкарыстанне лінгвістычных тэрмінаў, заснаванае на памнажэнні значэнняў. Прыкладам можа быць верш Казіміра Камейшы «Простая мова, або Экзамен па мовазнаўству»:

— Хто ты ёсць? —
І пытанне на вуснах шыпіць,

Як укус.
— Беларус!
— ?
— Так і ёсць, беларус!
Мой найцяжкі экзамен
Прымае сягоння НКУС.
— Памыліўся, шаноўны, ты ў гэтай графе, —
Вусны крывяцца
Акантоўкаю галіфэ —
Гэта простая мова.
І пісаць усё трэба ў двукоссях.
Вось як?..
Я стаю і маўчу,
Абліваюся потам.
Зразумею ўсё потым,
Калі возьмуць мой лёс
У двукоссе калючага дроту.
Мая простая мова,
Лёс твой матчыным словам галосіць,
Як цябе два арлы небяспечна двукосяць.
Два арлы, ды з адной, як паглядзіш, пароды.
Разам з простаю мовай
Двукосяць народы.
Мая простая мова!
Я і сам прастаган,
Жыў у простай хацінцы.
Як экзамен той здаў,
На зямлі сваёй роднай
Стаўся чужынцам.
Плача, плача мой сказ
І рыбінай б'ецца аб слова чужое.
З крыўды цяжкіх двукоссяў
Не выйду няўжо я?
Мая простая мова!
Я нарэшце дазвол атрымаў на цябе,
А разам з дазволам і ўмову:
— Што ж, браток, гавары,
Не пярэчым мы болей,
Гавары… сам з сабою.

Як можна заўважыць, у кантэксце прыведзенага верша тэрміналагічнае спалучэнне *простая мова* падвяргаецца дэтэрміналагізацыі, у выніку чаго прыметнік *простая* набывае значэнне «народная», «матчына», родная»; таксама адбываецца і метафарызацыя слова *двукоссе*, чым таксама ствараецца шэраг сэнсава значных вобразаў: *«двукоссе калючага дроту», «крыўда цяжкіх двукоссяў»*, у тым ліку і аказіянальнага *двукосіць* — «выкошваць», «знішчаць».

Такім чынам, нават такіх пункцірных нататкаў дастаткова для таго, каб упэўніцца ў тым надзвычай важным месцы, якое займае асэнсаванне РОДНАЙ МОВЫ ў самым шырокім спектры яе securознабаковых ракурсаў беларускімі мастакамі паэтычнага слова. Перш за ўсё падкрэсліваюцца такія яе якасці, як багацце, самабытнасць, яскравасць, меладычнасць, мілагучнасць, аднак пры гэтым айчынных паэтаў вельмі непакоіць цяперашні стан і — галоўнае — далейшы лёс роднай мовы. Метафара пры гэтым адыгрывае ролю той прызмы, праз якую мы маем магчымасць разгледзець і рэльефна ўявіць сабе самыя тонкія, часам няўлоўныя, нечаканыя грані гэтага сапраўды бязмернага і каштоўнага паняцця, без якога немагчыма наша існаванне.

Пры гэтым, дзякуючы метафарычнаму механізму паэтычнага мыслення, і сама МОВА паспяхова адыгрывае ролю своеасаблівага люстэрка, праз якое мы здольныя ўспрымаць і ацэньваць розныя факты і з’явы матэрыяльнага і духоўнага кшталту.

Нарэшце, варта адзначыць і яскравую нацыянальна-культурную адметнасць большасці метафарычных вобразаў роднай мовы, якія прадстаўлены ў паэтычных тэкстах беларускіх лірыкаў.




**Сяргей Кураш**

Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай і рускай філалогіі Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. П. Шамякіна, выпускнік гэтай жа ВНУ (1995). Аўтар і сааўтар больш як 230 навуковых і навукова-метадычных прац, прысвечаных даследаванню праблем лінгваметафаралогіі, лінгвістыкі тэксту, этналінгвістыкі, лінгвадыдактыкі, у тым ліку манаграфій «Метафора и её пределы: микроконтекст — текст — интертекст» (2001), «Слова ў мастацкім кантэксце: онімы, метафары» (2013, у сааўт.), «Литературно-художественный интертекст в системно-структурном и тексто-дискурсивном измерениях» (2018, у сааўт.), а таксама шэрагу вучэбна-метадычных дапаможнікаў і навуковых артыкулаў, апублікаваных у навуковых выданнях Беларусі, Расіі, Украіны, Азербайджана, Літвы, Сербіі і інш.

**В о л ь г а   Л я ш ч ы н с к а я**

## Фразеалагізмы як адзінкі мовы паэзіі

Фразеалагізмы, ці ідыёмы, вызначаюцца сярод іншых адзінак мовы шэрагам уласцівасцей, прыкмет, пры гэтым у іх сукупнасці. Да такіх адносяцца: *раздзельная афармленасць* слоў-кампанентаў, *цэласнасць значэння*, якое не раўняецца суме значэнняў лексем-кампанентаў фразеалагізмаў і не выводзіцца з сумы іх семантыкі ў свабодным выкарыстанні па прычыне страты гэтымі словамі-кампанентамі свайго значэння ў выніку поўнага ці частковага пераасэнсавання як спосабу ўтварэння фразеалагізмаў, што лічацца другаснымі адзінкамі мовы, *узнаўляльнасць, экспрэсіўнасць* як катэгарыяльная ўласцівасць фразеалагічных адзінак, *эмацыянальнасць* і *ацэначнасць* як здольнасць выражаць эмоцыі маўленчай асобы, выклікаць эмоцыі ў суразмоўніка і даваць ацэнку абазначанаму, якія ў фразеалагізмах пераважаюць над функцыяй намінатыўнасці, *вобразнасць* і інш. Адпаведна фразеалагічныя адзінкі вызначаюцца і сваімі функцыямі ў мове і маўленні, якімі з'яўляюцца намінатыўная, перцэпцыйная, сігніфікатыўная, семасіялагічная, камунікатыўная, экспрэсіўная, эмацыянальная, ацэначная, кагнітыўная, прагматычная, стылістычная ў розных іх спалучэннях.

Для прыкладу возьмем фразеалагізм *закасваць /закасаць рукавы*, за якім замацавана пастаяннае значэнне — 'працаваць энергічна, старанна' і які складаецца з дзеяслоўнага кампанента *закасваць /закасаць* і назоўнікавага *рукавы* ў форме множнага ліку, а паводле структуры суадносіцца з дзеяслоўным словазлучэннем, паводле суаднесенасці з часцінай мовы — з дзеясловам, г. зн. ён называе дзеянне. Але фразеалагізм называе не толькі дзеянне — 'працаваць', але скіраваны, і ў найбольшай ступені, на характарыстыку выканання гэтага дзеяння — 'энергічна', 'старанна' і выражэнне станоўчай ацэнкі яго. Праз абраны вобраз фразеалагізм даводзіць скрытую інфармацыю з мінулых часоў пра асаблівасці рукавоў верхняга адзення, якія былі доўгія, часам даходзілі да каленяў і нават ніжэй, а таму для належнага выканання працы, якая была ў далёкім мінулым у асноўным ручной, рукавы патрэбна было закасваць. Такая падрыхтоўка да выканання працы набыла сімвалічнае значэнне ў паводзінах чалавека, які з закасанымі рукавамі быў гатовы да выканання пэўнай працы. І вобраз фразеалагічнай адзінкі *закасваць /закасаць рукавы*, па сутнасці, стаў служыць эталонам працы і яе выканання старанна, напружана, з вялікай аддачай сіл, ці фразеалагізм з'яўляецца свайго роду ілюстрацыяй выпрацаванага народам правіла, паводле якога ад выканаўцы любой работы патрабуецца максімум старання і ахвоты, напружання і прыкладання сіл, ці даецца парада, як трэба працаваць, вызначаючы дадатную ацэнку выканання такім чынам працы (параўн. фразеалагізм *спусціўшы рукавы*, за якім замацавана

значэнне ‘без належнай стараннасці, абы-як (рабіць што-небудзь)’ і які нясе адмоўную ацэнку).

І гэта ўсё для носьбітаў мовы даносіць фразеалагічная адзінка з двух слоў, якія страцілі сваё зыходнае значэнне ў складзе новай адзінкі мовы. А як у свой час заўважыў Б. А. Ларын, «у мове спалучэнне слоў дае сэнс большы, чым простая сума “значэнняў” асобных слоў» [1, с. 36]. А тут, як відаць нават на асобным фразеалагізме, не толькі маем новае значэнне, але і ўспрымаем вобраз на аснове тыповага абагульнення, эмацыянальнасць, выразную станоўчую ацэнку, да таго ж пры ўважлівым «прачытанні» ўзбагачаемся дадатковай інфармацыяй пра пакрой рукавоў у далёкім мінулым, пра метафарычнасць мыслення чалавека і інш. Сапраўды, фразеалагізмы выступаюць магутным сродкам кампрэсіі інфармацыі, яны лічацца самымі «культураноснымі» адзінкамі мовы, з дапамогай якіх можна не толькі абазначыць, але і вобразна ўявіць абазначанае, даць характарыстыку, ацаніць, выразіць свае адносіны да таго, пра што ці каго гаворыцца, данесці эмацыйнасць, дасягнуць, асабліва ў спалучэнні з іншымі моўнымі сродкамі, максімальнага ўздзеяння на чытача /слухача.

Зразумелым становіцца, чаму фразеалагізмы, якія не патрабуюць затрат слоўнага выражэння і якім уласціва сукупнасць прыкмет і спалучанасць шматлікіх функцый, шырока выкарыстоўваюцца як вобразна-выяўленчы сродак у мастацкай літаратуры, публіцыстыцы, а ў апошні час назіраецца нават іх пашырэнне ў навуковых тэкстах, што тлумачыцца пранікненнем элементаў экспрэсіўна-эмацыянальнага як неабходнай і натуральнай з’явы і для мовы навукі з мэтай прыцягнення ўвагі да навуковай інфармацыі, для даходлівага тлумачэння думкі, яе канкрэтызацыі і інш. [2].

Значнае месца фразеалагізмы займаюць і ў мове паэзіі, паколькі яны, з аднаго боку, надзвычай добра дастасоўваюцца да задач паэтычнага тэксту, дзе сцісла і ёмка, вобразна і выразна, эмацыянальна і запамінальна выказваюцца пачуцці і эмоцыі з мэтай аказаць эстэтычнае ўздзеянне на чытача музычнай плынню гукаў, новай сэнсавай накіраванасцю слоў як асноўных адзінак паэтычнага маўлення і дзе выкарыстоўваюцца адзінкі мовы не столькі дзеля наймення, абазначэння пэўнага прадмета, з’явы, дзеяння, прыкметы ці не толькі ў сваёй намінатыўнай функцыі, колькі для той эмацыянальна-ацэначнай выразнасці, стварэння вобразнасці, эстэтычна арганізаванага і накіраванага маўлення. З другога боку, фразеалагізмы адпавядаюць гэтым задачам паэзіі. А таму іх ужыванне, ды яшчэ ва ўмелым спалучэнні з іншымі моўнымі сродкамі ўсіх структурных узроўняў у іх эстэтычным аспекце дазваляе паэту сцісла, выразна, функцыянальна дакладна ахарактарызаваць тую ці іншую з’яву, а галоўнае — стварыць вобраз, сістэму вобразаў, выразіць сваю ацэнку і сваё бачанне адлюстраванага свету, адносіны да рэчаіснасці, светаўспрыманне і светаразуменне.

Спрыяе шырокаму выкарыстанню фразеалагізмаў у паэзіі і той факт, што экспрэсіўнасць і ацэначнасць шматлікіх фразеалагічных адзінак дасягаецца як тымі вобразамі, што абраны і пакладзены ў аснову іх утварэння як другасных адзінак мовы, так і самымі рознымі дадатковымі паэтычнымі прыёмамі і сродкамі іх утварэння [3]. Гэта найперш уласцівая многім фразеалагізмам рыфма, рытміка, алітарацыя, ці сіметрычны паўтор аднолькавых ці блізкіх зычных гукаў у пачатку, сярэдзіне ці канцы слоў, асананс (*без роду і плоду; з носа кап, а ў рот хап; з плеч ды ў печ; кату па пяту; купіла хвост залупіла; куку ў руку; мудрыкі на хітрыкі; наводзіць цень на пляцень; не майго носа палоса; ні да рады ні да звады; ні семя ні емя; ні ўцяць ні ўзяць; нос не дарос; пацеха з пустога меха; скура ды арматура; страсці-мардасці; у кожнай кішэні па жмені; фіглі-міглі; фу ты* <*ну-ты*>; *цюха-мацюха* і інш.), гіпербалізацыя, ці перабольшанне (*баяцца свайго ценю; валасы становяцца дыбам; дзясятая вада на кісялі; мора па калена; хоць у плуг запрагай* і інш.), літота як супрацьлегласць гіпербалізацыі (*вераб'ю па калена; двух слоў не звязаць; неба з аўчынку здаецца* і інш.), аксюмаран, ці спалучэнне слоў, якія выражаюць лагічна не спалучальныя паняцці (*жывы труп*) і інш. Такая адметнасць утварэння фразеалагізмаў тлумачыцца тым, што, як вядома, большая частка фразеалагізмаў, створаная, відавочна, яшчэ ў дапісьмовы перыяд і перададзеная ад пакалення да пакалення, служыла і сёння служыць для пазнання нормаў паводзін, правілаў і законаў арганізацыі жыцця, наладжвання ўзаемаадносін паміж людзьмі, для фарміравання светапогляду, для яднання людзей пэўнай тэрыторыі ў адзінае цэлае — народ з яго адметнасцямі і асаблівасцямі, для выхавання нас, беларусаў, у нашых традыцыях, паводле нашых правілаў і звычаяў, што і даводзілася ў сціслай, вобразнай і запамінальнай форме фразеалагічных адзінак з іх глыбокім павучальным і пазнавальным зместам.

Адзін з яркіх прыкладаў майстэрскага выкарыстання фразеалагізмаў дэманструе паэтычная творчасць класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы, які ўвогуле вызначаецца вялікім запасам фразеалагізмаў: у мове яго паэтычных, драматычных і публіцыстычных твораў налічваецца больш за тры тысячы толькі ўласна фразеалагізмаў, ці ідыёмаў [4]. І ў кожным выпадку яны з'яўляюцца сродкамі выражэння аўтарскіх адносін да таго, пра што ці каго ён піша, сродкамі стварэння і ўзмацнення вобразнасці, эматыўнасці, сродкамі аўтарскага ўздзеяння на чытача / слухача, сродкамі дасягнення максімальнага экспрэсіўнага эфекту пры лаканічнасці выказвання, паколькі фразеалагізмы не толькі называюць пэўныя прадметы, з'явы, дзеянні і інш., але адначасова ці нават толькі, як гэта характэрна, напрыклад, для выклічнікавых фразеалагізмаў, выражаюць эмоцыі, ацэньваюць, характарызуюць.

Паэт ужывае фразеалагізмы, улічваючы іх экспрэсіўна-стылістычныя функцыі, выкарыстоўваючы розныя спосабы і прыёмы іх увядзення ў кантэкст твораў, дастасоўвае іх да кантэксту, і яны, падпарад-

коўваючыся аўтарскай мэце, выконваюць шматлікія і разнастайныя стылістычныя функцыі ў мове яго твораў. Так, паэтычнай адметнасцю Купалы з'яўляецца ўжыванне фразеалагізмаў побач з семантычна блізкімі словамі, іншымі фразеалагізмамі для стварэння напружання, узмацнення выказвання і іншых стылістычных эфектаў. Напрыклад: *Жылі і нядолі не зналі – / **Свабодна, як рыбкі ў вадзе*** (Страшны вір); *Перапалохана кабеціна з дзяцьмі на шлях / Ідзе штодзень пад крыж і **пазірае** ўдаль: / **Прагледзела ўжо вочы** – ўсё ж надзея тліць у грудзях. **Праслухала і вушы** ўжо, а **слухае** на жаль* (Вясна 1915-я); *Зладзейства – **крый ты мяне Божа**, / Каб я зрабіў… **ражон мне ў бок!*** (Мой пагляд і мэты) і інш.

Ужыванне фразеалагізмаў з яркай экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай у спалучэнні з іншымі лексічнымі сродкамі з умелай іх сінтаксічнай арганізацыяй у кантэксце твора дазваляе паэту выразіць і данесці да адрасата яго перажыванні, цяжар неадступных дум, перадаць накал пачуццяў. Так, напрыклад, у апошняй страфе верша «Я бачыў»: *Я бачыў ўсё гэта й душою цярпеў, / Застыў смех на губах і песні не пеў, / Заплакаў, заліўся маркотнай слязінкай / Адзін над бярозкай, галубкай, дзяўчынкай*, дзе фразеалагізм *застыў смех на губах*, за якім замацавана значэнне 'хтонебудзь не мае жадання смяяцца, весяліцца' і які, безумоўна, больш вобразна, эмацыянальна перадае душэўныя перажыванні лірычнага героя, чым гэта было б названа спалучэннем слоў са свабодным значэннем *не мог смяяцца*. А градацыйная падача блізказначных дзеяслова *заплакаць* і фразеалагічнай адзінкі *заліцца слязінкай* – 'горка, няўцешна заплакаць' узмацняе змест выказвання, перадае інтэнсіўнасць дзеяння і эмацыянальнасці. Фразеалагізм *заліўся маркотнай слязінкай*, які выяўляе аўтарскі варыянт праз ускладненне дадатковым кампанентам *маркотнай*, істотна ўдакладняе і вобразна адлюстроўвае семантыку дзеяслова *заплакаць*, а разам яны найбольш поўна характарызуюць эмацыянальны стан лірычнага героя. Да таго ж ужыванне фразеалагічных адзінак дазваляе імітаваць размоўны стыль маўлення ў паэтычным творы, калі адзін чалавек выказвае другому і ўсім сваю скаргу, свае перажыванні, тым самым дазваляе выключна даставерна ўспрыняць змест і ўздзейнічаць на атрымальніка інфармацыі.

Адбор і аўтарскае пераўтварэнне агульнавядомых фразеалагічных адзінак – індывідуальная асаблівасць мастацкага маўлення Купалы. Паэт выкарыстоўвае фразеалагічныя адзінкі з рознага тыпу зменамі ў параўнанні з сучаснымі літаратурнымі адпаведнікамі. Але розныя тыпы «адхіленняў» ці «парушэнняў» ва ўжыванні фразеалагічных адзінак у мове паэта – гэта яшчэ і актуалізацыя ў фразеалагізмах тых сэнсаў, што абумоўлены мэтамі і задачамі мастацкага маўлення, тэматыкай і зместам твораў, індывідуальнасцю асобы самога творцы, які перадае сваё бачанне, адчуванне, вопыт і веды, эмацыянальныя адносіны да таго, пра што піша і што адлюстроўвае.

Пры аналізе фразеалагізмаў варта ўлічыць і тое, што ў большасці творчасць паэта — гэта паэтычная спадчына, ці вершаванае маўленне мастака. І тут маюцца свае законы, у сувязі з чым асаблівай увагі заслугоўвае думка М. М. Шанскага аб тым, што «ў вершаваным маўленні мы пастаянна сутыкаемся з такім выкарыстаннем фактаў і з'яў традыцыйнай паэтычнай фразеалогіі, якое ўлажыць у пракрустава ложа стылістычнай матывацыі — без суб'ектывізму і нацяжак — вельмі цяжка» [5, с. 117].

У прыватнасці, адной з самых пашыраных змен фразеалагічных адзінак у творчасці Янкі Купалы з'яўляецца замена аднаго ці некалькіх кампанентаў (адзначаецца 135 такіх адзінак, ужытых паэтам, як правіла, у паэтычных і драматычных творах) [6, с. 98]. Напрыклад, у вершы «З нуды» лірычны герой, любуючыся прыгажосцю дзяўчат, адзначаючы іх дзявочыя чары, выказвае сваё ўражанне і, відавочна, з прычыны свайго горкага вопыту робіць наступную выснову: *Ой, дзяўчаткі! Хоць вы гладкі, / Быццам маляваны, — / Не хацеў бы я папасці / Ў вашыя кайданы.* Агульнавядомы фразеалагізм *папасці ў рукі* падаецца з аўтарскай зменай — *папасці ў кайданы,* што ўзмацняе цытаваную перасцярогу, вывад аўтара ці лірычнага героя, паколькі пачуццё кахання, перажытае ім, асацыюецца з непажаданай для яго ўладай, якая пазбаўляе волі, бо *мае сваю вяліку сілу,* да таго ж з каханнем *Ахвоты да работы / Не прыдбаці,* а таму, трапіўшы ў сеці кахання да дзяўчат, *ужо гінеш,* бо *Любіш вас без меры.*

Безумоўна, выбіраючы і дастасоўваючы фразеалагізмы да сваіх мэт і задач, паэт кіруецца тым, якое значэнне яны маюць у сістэме мовы, а затым ужо пераафармляе, змяняе, удакладняе. Звычны фразеалагізм з уласцівым яму значэннем, спалучаючыся з іншымі моўнымі адзінкамі, захоўвае яго і ўсё ж у кантэксце твора пераасэнсоўваецца. І гэта звязана з тым, што ў паэтычным тэксце «адбываецца эмацыянальна-вобразная (эстэтычная) трансфармацыя агульнанароднай мовы, яна прыводзіць да фарміравання тэкстуальнай семантычнай нормы, г. зн. да рэалізацыі сістэмнага значэння моўных адзінак, арыентавана на кантэкстуальныя значэнні іншых кампанентаў» [7, с. 124].

Па-другое, пры стылістычным аналізе выкарыстання фразеалагізмаў у мове кожнага паэта патрэбна разглядаць іх з улікам часу жыцця і творчасці паэта. У прыватнасці, Янка Купала як майстар беларускага паэтычнага слова пачатку XX стагоддзя канстатуе факты сучаснай яму беларускай мовы, перадае варыянты фразеалагізмаў, якія датычацца фанетычнай афармленасці, словаўтваральнай будовы, марфалагічнай формы кампанентаў, сінтаксічнай канструкцыі. Таму варыянтнасць адзінак тлумачыцца найперш адсутнасцю нормы на той час і разам з тым пошукамі гэтай нормы паэтам, які дастасоўвае фразеалагізмы да патрэб паэтычнага тэксту. Параўн., напрыклад: *Нямой рыбай аб лёд біся / **Век-вяком** / І ў магілку паваліся / Бедаком* (З песень беззямельнага)

і *А жыла ж каб* ***век вяком,*** */ Спішу на паперы* (Песня аб песнях); *Вось якое / Ў сне пабачыў я там /* ***Дзіва дзіваў*** (Сон) і *Машэка доўбняй замахнуцца / Яшчэ на некага спяшыць… / І* ***дзіва дзіў****: рука самлела* (Магіла льва); ***Хлебам, соллю*** *прывітае, / Чарку паднясе* (Усе разам), *Вітаю* ***хлебам, соляй*** (Сон на кургане) і *Вітаю цябе я* ***і соллю і хлебам****!* (Табе, правадыр); *Сцёпка ж бухне* ***пад нос*** *сціха* (Сцёпка Жук), [Жонка:] *Што ты там бурчыш* ***пад носам****?* (Адвечная песня), *Буквы з памяці той клеце, / Той«таблічку»* ***ў нос*** *бурчыць* (У вучылішчы) і інш.

Мова паэзіі характарызуецца не толькі скарыстаннем гатовых фразеалагічных адзінак у тым ці іншым аб'ёме, што адлюстроўвае фразеалагічнае багацце пэўнага аўтара, яго густ, індывідуальную манеру выкарыстання, але і тым, што паэтычныя творы, мова паэзіі, як і ўвогуле мастацкая літаратура, — праваднік дыялектнай фразеалогіі ў літаратурную мову, а нярэдка і крыніца ўтварэння новых фразеалагізмаў.

У пацвярджэнне першага можна адзначыць многія ўжытыя паэтамі фразеалагізмы, што былі падслуханы імі ў народнай мове, зафіксаваны ў памяці і творча скарыстаны ў іх творчасці, а затым і ў іншых аўтараў, дзякуючы чаму яны і сталі здабыткам беларускай літаратурнай фразеалогіі. Так, менавіта з падачы Янкі Купалы шматлікія дыялектныя фразеалагізмы, розныя паводле паходжання і сферы выкарыстання, увайшлі ў літаратурны ўжытак, напрыклад: *вочы выбіраць* — 'папракаць, дакараць каго-небудзь'; *галава ходам ходзіць* — 'хто-небудзь адчувае галавакружэнне ад пэўнай прычыны'; *у жываце салаўі пяюць* — 'хто-небудзь адчувае моцны голад, вельмі хоча есці'; *як / быццам скурат на агні* — 'бесперастанку, няспынна' і інш.

Праўда, далёка не ўсе дыялектныя фразеалагізмы, ужытыя ў мове твораў Купалы і шырока вядомыя на тэрыторыі Беларусі, як, напрыклад, *абяцанак горы даць; брыды вярнуць; бубніць бубнам; бухаць грамабойным галасам; выбраць вочы; выкінуць на вока; вытарашчыць вочы; горы абяцаці; даваць паранкі; дарэмшчыну вясці; дзерці вочы; жаваць жвачку; разваліць язык; як суконкі драць; як учадзеўшы* і інш., увайшлі ў слоўнік фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы, што складзены І. Я. Лепешавым. Тлумачэнне гэтаму — позняе вывучэнне фразеалагічных рэсурсаў мовы твораў Янкі Купалы, як, дарэчы, і фразеалагічных багаццяў Якуба Коласа, а таму дыялектныя фразеалагічныя адзінкі, скарыстаныя класікамі беларускай літаратуры і заснавальнікамі беларускай літаратурнай мовы, да таго ж шырока вядомыя ў розных рэгіёнах краіны, складаюць вялікі рэзерв для папаўнення фразеалогіі беларускай літаратурнай мовы.

Можна адзначыць, што існуе прамая залежнасць фіксацыі фразеалагізмаў як літаратурных адзінак беларускай мовы ад іх выяўлення і вывучэння ў мове таго ці іншага аўтара. І пацвярджэннем гэтаму можа служыць, напрыклад, вызначэнне і аналіз І. Я. Лепешавым фразеалагічных запасаў мовы Кандрата Крапівы і іх адлюстраванне ў слоўніку літаратурных фразеалагізмаў.

Гэта палажэнне датычыць і заўвагі аб мове паэзіі як крыніцы ўзнікнення фразеалагізмаў. Узгадаем хаця б толькі такія асобныя фразеалагізмы, як *людзьмі звацца* – 'быць свабоднымі, шчаслівымі, займаць у жыцці належнае чалавеку месца', што абавязаны вершу «А хто там ідзе?» Купалы; *як дзядзька ў Вільні* – 'збянтэжана, непрывычна, ніякавата (адчуваць сябе, паводзіць сябе і пад.)', вытокам якога з'яўляецца паэма «Новая зямля» Коласа, *плячысты на жывот* – 'прагны да яды, пражэрлівы, любіць многа есці' і 'таўстапузы', што скарыстаны ў вершы «Фрыцавы трафеі» Крапівы, і інш.

Такім чынам, адбор і разнастайныя прыёмы семантычных і фармальных змен фразеалагізмаў пры іх выкарыстанні ў мове паэтычных твораў служыць дасягненню розных стылістычных функцый, сярод якіх нарашчэнне, удакладненне і нават змена семантыкі, актуалізацыя ўвагі, выдзяленне пэўнай думкі, узмацненне ўздзеяння на чытача-слухача, стварэнне новага сродку характарыстыкі і ацэнкі, выражэнне адносін да таго, пра каго ці што гаворыцца, стварэнне вобраза разам з іншымі адзінкамі мовы.

А яшчэ гэта фіксацыя народнай мудрасці, вызначэнне нацыянальнай адметнасці мовы свайго народа. Аналіз фразеалагізмаў у паэтычных творах паказвае, што яны з'яўляюцца адным з самых дзейсных сродкаў вобразнасці, эмацыянальнасці, стварэння гумару і сатыры, іх адбор, выкарыстанне заўсёды ілюструе індывідуальнасць і майстэрства аўтара, паказвае, што фразеалогія — невычэрпная крыніца стылістычных эфектаў.

### Літаратура

1. Ларин, Б. А. Эстетика слова и язык писателя : избранные статьи / Б. А. Ларин ; вступ. ст. А. В. Федорова. — Л. : Худож. лит., 1974. — 288 с.
2. Ляшчынская, В. А. Навуковыя тэксты і фразеалагізмы / В. А. Ляшчынская // Białorutenistyka Białostocka. T. 6. — Białystock, 2014. — S. 281–295.
3. Ляшчынская, В. А. Словаўтваральныя і фанетычныя сродкі стварэння эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі фразеалагізмаў / В. А. Ляшчынская // Словаўтварэнне і іншыя ўзроўні беларускай літаратурнай мовы: матэр. Міжнароднай навук. канфер. (Мінск, 24–25 лістапада 2014 г.) / Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; навук. рэд. В. М. Нікалаева. — Мінск : Права і эканоміка, 2014. — С. 135–139.
4. Ляшчынская, В. А., Шведава, З. У. Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы / В. А. Ляшчынская, З. У. Шведава ; М-ва адукац. РБ, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. — Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. — 312 с.
5. Шанский, Н. М. Новая работа о языке А. С. Пушкина / Н. М. Шанский // Русский язык в школе. — 1970. — № 4. — С. 116–120.
6. Ляшчынская, В. А. Фразеалагічныя адзінкі ў мове Янкі Купалы / В. А. Ляшчынская. — Мінск : РІВШ, 2008. — 186 с.

7. Трошина, Н. Н. Семантическая связность и нормативность поэтического текста / Н. Н. Трошина // Структура и функционирование поэтического текста (Очерки лингвистической поэтики). — М. : Наука, 1985. — С. 115–160.



**Вольга Ляшчынская**

Нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1968), аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі (1971). Доктар філалагічных навук, прафесар, прафесар кафедры беларускай мовы ГДУ імя Ф. Скарыны. Аўтар больш чым 380 навуковых і навукова-метадычных артыкулаў, манаграфій, слоўнікаў і вучэбных дапаможнікаў, прысвечаных вывучэнню пытанняў словаўтварэння, лексікалогіі, лексікаграфіі, фразеалогіі, культуры маўлення і стылістыкі, лінгвапаэтыкі, лінгвакультуралогіі і лінгвадыдактыкі. Публікуецца ў навуковых выданнях Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны.



# ПАЧЫТАЙ, МАТУЛЯ

**Анатоль Малюк**

## Матылёк і сонейка

### Калыханка

Прыляцелі птушкі,
Птушкі-шчабятушкі,
Птушкі-весялушкі
Селі на падушкі,
На падушкі селі,
Песенькі запелі
Пра вясну, пра кветкі.
Спіце смачна, дзеткі.

### Сястрычкі

Дзве сястрычкі, дзве пацешкі
На двары гулялі ў снежкі.
Весяліліся дзяўчынкі
На вялікім перапынку.

### Чаму месяц днём не свеціць?

Вы не ведаеце, дзеці,
Чаму месяц днём не свеціць?
Сцеражэ ён ноччу цішу
І дзяцей малых калыша.
Пасля ночы спіць ён смачна,
Таму днём яго не бачна.

### Прынцэса Зіна

Прапала лялька — прынцэса Зіна —
З універсальнага магазіна.
Друкуюць газеты яе прыкметы:
Дзяўчынка-бландзінка,
Блакітныя вочы,
Доўгія косы,
Касцюмчык стракаты,
Твар канапаты.
Шукаюць дарослыя,
Ў роспачы дзеці.
Шукаюць прапажу ўсе на свеце —
Ў Парыжы, Маскве і ў Багдадзе…
А Зіна гуляе з дзеткамі ў садзе.

### Падарунак

Імчуся па звонкай бетонцы,
Вязу ў падарунак я сонца
Маленькай дачушцы Алёнцы, —
Няхай яно радасна свеціць
І будзе шчаслівай на свеце.

### Хто вінаваты?

Вата не вінавата,
Што згарэла хата.
Вінавата Ніла,
Што вату падпаліла.

### Запалкі

Хавайце, мамы,
Ад дзетак запалкі.
Купляйце, мамы,
Дзеткам скакалкі.
Запалкі кусачыя,
Запалкі агнячыя.
Запалкі —
Цацкі
не дзіцячыя.

### Жоўты ліхтар

Змрочнасць дажджлівую
Восень прыносіць,
Лета даўно аддало ёй ключы,
— Мамка, — дачушка
Маленькая просіць, —
Сонца на небе ўключы!
Часам бываюць
Цуды на свеце,
Калі між прагалаў
Кудлатых хмар
Раптам па-летняму
Ярка засвеціць
Сонечны
Жоўты
Ліхтар…

### Анютка

У малой Анюткі
Засвяціўся тварык:
Перад ёй раскрыты
Новенькі букварык.
Ёй купляе мама
Кніжкі ў падарункі,
Разглядае Аня
Розныя малюнкі,
Толькі гэтых кніжак
Аня не чытае:
Ёй вучыцца трэба,
Шчэ яна малая.

### Добрай ночы

Дзень пагас,
І змрок прыкрочыў,
Дзеці спаць ляглі,
Светлых сноў ім,
Добрай ночы,
Шчасця на зямлі.

### Веснавы настрой

Радасці бясконца
У дзяцей распусных:
У вачах — па сонцу,
Па вясне — на вуснах,
Душы іх наросхрыст,
Рай дзятве, дый годзе,
Быццам бы мурашкі,
Стрэць вясну выходзяць.

### Верасень

Як школьнік, верасень ідзе
Няўрымслівы, вясёлы,
Дзяцей чародкамі вядзе
У сонечныя школы.

Настрой прыўзняты ў дзетвары:
Аж свецяцца усмешкі,
Бывайце, рэкі, і бары,
І пройдзеныя сцежкі.

Прыйшла асенняя пара,
І час за кніжкі брацца,
Бяжыць у школу дзетвара,
Што ветру не угнацца.

### Таніна мама

Таніна мама
Шмат чаго ведае,
Для Танечкі мама —
Энцыклапедыя:
На безліч таемных «чаму?»
Кожны раз
Мама дае
Падрабязны
Адказ.

### Куды едзе Федзя?

Едзе Федзя
На мапедзе
— Ты куды? —
Крычу яму.
— Еду, — кажа Федзя, —
З восені ў зіму.

### Цікава?

Цікава,
Ці гэта кава? —
Пытае Клава
У Яраслава.
— А ты не пытай,
Сама паспытай.

### Пліска

Каля хаты блізка
Спрытна скача пліска.
Не скачы так блізка
Каля хаты, пліска,
За табою сочыць
Хітрым вокам кіска.

### Кот Фядот

Падарылі мне суседзі
Кацяня па клічцы Федзя.
Гэты кот ужо праз год
Стаў не Федзя, а Фядот.
Есці, спаць любіў ён — жах!
І не думаў аб мышах.
У адзін звычайны вечар
Мышы кінуліся ў бой,
Кот спакойна спаў на печы
І мурлыкаў сам з сабой.
Мышы раптам наляцелі
І ката на печы з’елі.

Так прапаў лянівы кот,
Што па клічцы быў Фядот.

### Павук

Павук мае тэлефон —
Дужа спраўна служыць ён.
Ледзь павук прыкладзе вуха —
Ураз пачуе, дзе ёсць муха.

### Божая кароўка

Божая кароўка —
Чорная галоўка.
Ёй пашыла маці
У гарох абноўку.

### Грак

Ходзіць важна
Чорны грак,
У яго святочны фрак, —
Нават блізкія суседзі
Не пазналі аніяк.

### Кабанчык Фрол

Жыў-быў кабанчык Фрол,
Гуляў ён спрытна ў футбол,
Хоць быў яшчэ зусім малы,
А лоўка забіваў галы.

### Хрунь

Пазірае смачна Хрунь,
Дзе расце на полі рунь.
Кажа сыну строга Хрушка:
— Вунь, глядзі, вісіць папружка.

### Хамяк

Не мог хамяк
Пашыць ботаў ніяк,
Узялася шыншыла —
І ўраз боты пашыла.

### Матылёк

Прыляцеў да нас здалёк
Сіні-сіні матылёк,
Не, не сіні,
Белы-белы,
Не, не белы,
Жоўты-жоўты,
Не,
Такі ўвесь ён клёвы —
Рознакаляровы!

### Конік

Шустры конік
Купіў гармонік,
Ёсць ахвота вялікая:
Сядзіць і пілікае.

### Кабыла Сіўка

— Як завуць цябе, цётка кабыла?
— Імя сваё, дзеткі, забыла.
— Прыгожы твой хвосцік,
Заплецена грыўка…
— Успомніла, дзеткі, —
Завуць мяне Сіўка.

### Кыш і Малыш

Жывуць па суседству
Кыш і Малыш.
Кыш — гэта пеўнік,
А коцік — Малыш.

Як засумуе душа ў Кыша,
Ён кліча гуляць да сябе Малыша.
Кыш частаваў свайго сябра пшаніцай,
Малыш сябруку прапаноўваў мыш.
Не мог зразумець свайго сябра Малыш:
Чаму не частуецца мышкаю Кыш?

### Кабачок

На сонцы грэе свой бачок
Кабачок, як парсючок,
Каб не ўцёк ён, хтосьці
Прывязаў за хвосцік.

### Сінічкі

Мільгаюць сінічкі, як знічкі,
Змайструйце зімою
Ім, дзеці, кармушкі, —
Вясною аддзячаць
Шматкроць вам птушкі.

### Ліса — усяго лесу краса

Жыве ліса —
Усяго лесу краса,
Цяжка жывецца лісе —
Крыўдзяць усе:
Людзі палююць,
Кусаюць сабакі,
Нішчаць ваўкі —
Вось яе лёс які!
Давайце, дзеці,
Разам усе
Дапаможам жыць спакойна
Прыгажуні-лісе!

### Не чапай!

Пчол і восаў
Не цвялі,

Калі кветкі зацвілі,
Іх нектар
Салодкі вабіць,
Не чапай,
А то ўджаляць!

**Гультай янот**

Ніяк не мог вывучыць
Нот янот:
То на неба глядзіць, то за плот.
Ноту «ля» называе «я»,
Так лягчэй, відаць,
Для гультая!

**Чмель**

Чмель сядзіць на красцы
У рабой цяльняшцы,
Ён збірае з кветак
Мёд для сваіх дзетак.

**Мурашка**

Хатулёк з ядою
І з вадой біклажку
Валачэ дадому
Малышам мурашка.

**Камар**

Я — камар, малы камар,
Не баюся грозных хмар,
Пад лістом сабе сяджу, —
Так схаваўся ад дажджу.

**Красуля-карова**

— Як пажываеш, Красуля-карова?
— Добра жыву, дзякуй Богу, здарова,

Ацяліла нядаўна сыночка-бычка,
Для ўсіх цяпер хопіць майго малачка…
— За ўсё табе дзякуй, Красуля-карова,
За добрую ласку,
За шчырае слова!

**Матылёк і сонейка**

Ляцеў матылёк з усіх сваіх сіл,
За сонцам ляцеў безупынку,
А сонца схавалася за небасхіл,
Закацілася журавінкай.
Ад роспачы слёзы пырснулі з воч.
(Быў яшчэ дзень, а стала — ноч.)
Не плач, не гаруй, матылёк-вугалёк,
Ноч пераспіш на рабінавай гронцы,
Назаўтра народзіцца новы дзянёк
І вернецца зноўку сонца!



## Анатоль Малюк

Нарадзіўся 21 сакавіка 1938 года на Воранаўшчыне Гродзенскай вобласці. Скончыў Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Працаваў некаторы час дырэктарам школы на Палессі, пасля працягваў працу ў Мазырскім інстытуце і вучобу ў аспірантуры. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, стаў дацэнтам. Выкладаў сучасную беларускую мову, стылістыку, лінгвістычны аналіз мастацкага тэксту. Свае вершы Анатоль Малюк друкаваў у рэспубліканскіх газетах, часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Бярозка», «Вясёлка» і іншых, а таксама ў калектыўных зборніках: «Дзень паэзіі», «Палескія перазвоны», «Ты, Мазыр, — мой Парнас», «Сонца над буслянкай», «Прыпяцкія хвалі». Неаднаразова ўдзельнічаў у творчых семінарах, якія праводзіліся Саюзам пісьменнікаў; працяглы час узначальваў пры мясцовай газеце літаратурнае аб’яднанне «Прыпяцкія хвалі». Падрыхтаваў да друку два зборнікі сваіх вершаў. Да канца гэтага года выйдзе першая кніга — «Дабравесце». Зараз Анатоль Малюк на пенсіі і працягвае актыўнае і творчае жыццё, навёрстае, так бы мовіць, свой паэтычны патэнцыял.



*Рэдкалегія альманаха «Палац» віншуе Анатоля Малюка з 80-гадовым юбілеем і жадае яму добрага здароўя, творчых поспехаў і плёну ва ўсіх яго задумах і клопатах! Новых твораў, новых кніг, новых светлых уражанняў!*

Д з м і т р ы й  С а л і в о н ч ы к

# У горадзе малюкоў

*Казка*

### Ад аўтара

Тое здарылася і не так даўно, але ж і не зусім нядаўна, — акурат тады, калі майму сыну Сержуку павінна было споўніцца сем гадоў. Сем — лічба нейкая магічная, загадкавая і прыцягальная, як прыдарожны слуп выглядае, ды яшчэ з перакладзінкай наверсе. А потым тыя слупы, тэлеграфныя ўжо, злучаюцца дротам, па якіх бягуць чалавечыя размовы паміж людзьмі, якія жывуць у розных мясцінах зямлі…

То сёння ніякіх слупоў і тэлеграфных слупоў няма, сувязь чалавецтва здзяйсняецца пра спадарожнікі, а раней…

Дык вось — хутка будзе сем гадоў сыну. Што ж яму падараваць у гэты дзень? Але я пачаў задумвацца над гэтым яшчэ задоўга да дня яго сямігоддзя — калі яму мінула шэсць. Думаў, думаў — і прыдумаў.

Неяк Сярожа, седзячы побач са мной у легкавіку, прамовіў:

— Тата, і я хачу навучыцца кіраваць легкавіком, як і ты, стырно ў руках трымаць. І мой сябра Артур марыць.

— Добра, — адказваю, — вырасцеце і здзейсніце сваю мару.

Тая размова і стала штуршком да таго, каб мара і яго сябрука «здзейснілася» раней. Не насамрэч здзейснілася, а віртуальна. Якім чынам?

Я зраблю іх героямі казкі, якую прыдумаю, і адпраўлю ў прыдуманы горад цудаў, дзе дарослыя робяцца дзецьмі, а дзеці дарослымі. Там няхай і жывуць дзеці — малюпаны, малеча, малюкі, ці як іх яшчэ называць, — клопатамі дарослых, вучацца жыццю.

Не хацелася паўтарацца і называць іх «каратышкамі», як у М. Носава, які напісаў «Нязнайку», ды і непрыгожа так дзяцей называць, гэта, на мой погляд, гучыць амаль як абраза. Ды і плагіятам займацца я не хацеў. Я рашыў стварыць свой казачны горад, адметны, з рысамі нашага нацыянальнага характару і звычаяў, мовы і культуры.

У адным казачным горадзе яго жыхары будуць асвойваць правілы дарожнага руху і вучыцца кіраваць аўто, — назваў яго «Горад машын». Кансультаваўся ў гэтых пытаннях з адмыслоўцам — Віктарам Стырновым, які жыве ў кватэры за сцяной. Ён працуе інструктарам у аўташколе, вучыць ахвотных ваджэнню аўтамабілем.

Другі — «Горад без хваробаў», дзе адныя малюкі будуць дактарамі, а другія пацыентамі — «хворымі». Гэта ўжо тэма дзіцячых хваробаў.

Тут ужо кансультацыю давала мне доктарка па дзіцячых хваробах Вера Коклюшава, якая таксама жыве на нашай пляцоўцы.

А трэці — «Горад ветлівасці». Дзеці будуць вучыцца культуры паводзінаў, засвойваць правілы грамадскай ветлівасці і дабрыні, як вітацца і развітвацца, як шанаваць сваіх бацькоў. Тут ужо кансультанты мне не спатрэбіліся — маю асабісты досвед, бо вучыўся на псіхолага і вывучаў культуралогію.

І я ўзяўся за працу. Улічваючы тое, што ніколі літаратурным складаннем не займаўся, прызнаюся — мне тое далося цяжка. Цэлы год пакутаваў над радкамі. Але я ўклаўся ў прызначаны тэрмін. Незадоўга да Новага года, дакладней, 19 снежня 2002 года, я паклаў пад елку навагодні падарунак — кнігу ў цвёрдай вокладцы, якую назваў «Прыгоды ў Горадзе Цудаў». І падпісаў — «Сыну Сярожу ў Дзень сямігоддзя».

Вам цікава, што ў ёй?

Дзяцінства — гэта той цудоўны і непаўторны час, калі ўсё вакол выглядае казачным і дзіўным, калі і зоркі ў небе ладзяць карагоды, калі і месячык робіцца жывым і спускаецца на зямлю, каб пагуляць з малечай, гэта… Гэта ўсё можа быць толькі ў дзяцінстве, у час шчаслівай пары дзіцячай бесклапотнасці.

Запрашаю ўсіх — як дзяцей, так і дарослых — адправіцца ў тое падарожжа, у свет фантазіі і мараў. Можа так стацца, што там будуць і вашыя дзеці, — таму разам з вамі паназіраем, як яны будуць пачувацца ў тых абставінах. Толькі мы ўжо не зможам нешта падказаць ім, параіць, як зрабіць лепш ці нешта перамяніць, як тое робім дома, — там дарослыя не маюць сілы над дзецьмі. Яны там самі сабе гаспадары.

**Дзівосы чароўнага горада**

1

І трапілі сябры ў незвычайны і казачны горад. Быццам бы і знаёмы, як свой родны Гомель, але ўсё тут было неяк па-іншаму. Гэта як глянуць на свет праз памяншальнае шкло — усе дамы і людзі, машыны і птушкі зменшыліся ў памерах. Нават неба здалося нейкім малым, і сонейка, што выглядвала з ружовых аблокаў, зменшылася…

— Дзе мы? — спытаў Артур, аглядваючыся здзіўлена па баках. — І наш горад, і не наш.

Не меней здзіўлены быў і Сяргей.

— Дзіўна, — прамовіў ён, — нейкі чараўнік закінуў нас сюды. Толькі для чаго?

— Вось і будзем разам разбірацца, для чаго мы тут, — як старэйшы (на тры дні раней нарадзіўся) сябра, беручы ўжо сітуацыю ў свае рукі, прамовіў упэўнена Артур. — З чаго пачнём?

Хлопчыкі з’явіліся ў горадзе ранічкай, менавіта ў той час, калі месячыку пара прыйшла сысці з небасхілу, схавацца ў сваіх нябесных схованках. Але яго не хацелі адпускаць зоркі, якія з ім усю ноч вадзілі карагоды, не нагуляліся напоўніцу, хацелі затрымаць яго як надаўжэй. Але ж хіба яны маглі зрабіць тое? Месяц вунь які вялікі, а яны маленькія, дробненькія. Ды і сонца прачнулася ўжо, адпіхвала промнямі ноч, раніцу нараджала. Яно, сонейка, паднялося над брыжыкам гарызонту, пазяхнула, зрабілася чырвоным надзьмутым шарам, быццам з газавай духоўкі выпаўзла, махнула нябачнай рукой — адганяла ад сябе авальнае кола начнога вартаўніка. Не сябравалі сонейка і месяц, не маглі знаходзіцца побач, — так павялося ўжо спакон вякоў. Месячык ужо стаў падобны на кавалак сыру з дзірачкамі, пакрысе раставаў, быццам лядзяш на сонцы… Недзе там, дзе знаходзіліся драўляныя хаты, падаў запознена голас певень, мусіць, будзіў ужо тых, хто доўга спаў і не мог ніяк прачнуцца.

— Пеўнік, мы прачнуліся! — выгукнуў Сяржук.

— Добрай раніцы, пеўнік! — прамовіў і Артур. І, паглядзеўшы на сябра, пацікавіўся: — З чаго пачнём?

— Са знаёмства з горадам.

— Тады — наперад!

Яны стаялі на перакрыжоўцы вуліц. Можна было ісці прама, а можна і налева. Не думаючы, пайшлі па пераходзе. І як толькі яны ступілі крок наперад, перад імі ўзнік міліцыянт, перагарадзіў дарогу, трымаючы ў руцэ доўгую паласатую палку, строгім голасам абвясціў:

— Вы парушаеце правілы дарожнага руху! Мы павінны вас аштрафаваць, альбо вы павінны прайсці курс інструктажу, як хадзіць па нашым горадзе.

— У нас грошай няма, — прызнаўся Артур. — Мы ўпершыню ў вашым горадзе.

— Тады вось вам накіраванне на інструктаж. Пасля таго, як вы азнаёміцеся з горадам, абавязкова наведайце курсы-інструктаж. А яны знаходзяцца на вуліцы Парушальнікаў руху, дом № 2. Калі не пройдзеце, вас не выпусцяць з горада.

І дарожны патруль як нечакана ўзнік перад імі, так і растварыўся ў паветры. Сябры, дачакаўшыся, калі святлафор пакажа зялёнае святло, рушылі наперад.

2

— Нам трэба быць абачлівымі, — выказаў думку Сяргей, перайшоўшы на другі бок вуліцы, — тут сочаць за кожным крокам жыхара, усюды, значыць, выстаўлены відэакамеры.

— Так, будзем пільнымі, — згадзіўся Артур.

Дайшлі да новага пераходу, спыніліся, чакалі, калі загарыцца зялёнае. У кішэні Артура зашамацела абгортка ад цукеркі, яна быццам

ажыла і прасілася вонкі. Ён дастаў яе, разглядзеў, а потым хацеў выкінуць. Як толькі намерыўся тое зрабіць, калі ўзмахнуў рукой, на плячо села нейкая птушка, ці не варона, пракаркала:

— Парррру-шаеце грррра-мадскі парррра-аааа-дак! Дайдзі да сметніцы, там выкінь абгор-ррррр-тку! Альбо ка-ааар-рррр-тку парушальніка атрымаеце!

Артур уздрыгнуў ад нечаканасці, уцяў галаву ў плечы, падышоў да сметніцы і апусціў туды бліскучую паперчыну.

— Во дзівосы! — падзівіўся Сярожка. — І кроку ступіць нельга, каб не парушыць нешта.

— Так гэта не ў нашым, не казачным горадзе, дзе ўсе і ўсё кідаюць пад ногі, тут усё інакш. У нас дворнікі падмятаюць смецце, а тут мо яго і няма?

Калі прайшлі далей, то на зялёным вялізным табло-экране, што знаходзіўся на слупе, высвеціўся тэкст:

*«Дзякуем, Сярожа і Артур, што вы зразумелі, чаго нельга рабіць у нашым горадзе Чысціні! Дысцыплінаваным гасцям мы заўсёды рады!»*

—Ого! — падзівіўся Артур. — І адкуль яны ведаюць, як нас завуць?

— Не ведаю.

А ўжо і сонейка паднялося вышэй, з чырвонага ператварылася ў жоўты колер, як быццам вялікі лімон павіс у небе, а потым стала яркім, што і глядзець нельга было на яго. Сонца распачынала новы дзень.

І людзей ужо на вуліцах паболела, легкавушкі і тралейбусы снавалі туды-сюды. Ад купкі людзей аддзялілася дзяўчынка, падбегла да іх.

— І вы, хлопчыкі, тут?

На іх глядзела Светка Клімовіч, іх аднакласніца, стараста класа. На ёй ладна глядзеўся жоўты плашчык, быццам яна абгарнула сябе жоўтым лісцем, што падала з дрэў. На галаве чырвоны берэцік, як з казкі «Чырвоная шапачка».

Сябры пераглянуліся, а ў яе папыталіся:

— Светка, а ты як тут апынулася? Мо растлумачыш нам, што з намі здарылася, з табой?

Дзяўчынка засмяялася, коскі паправіла, хітрым позіркам зірнула на іх.

— Вы нічога не зразумелі?

— Не.

— То ж добры чараўнік закінуў нас сюды. Не толькі вы, а ўвесь наш клас тут. І Вера Сямёнаўна, нашая класная, і дырэктар школы Барыс Пятровіч тут, — ён гарадком кіруе.

— Дык што, тут уся школа?

— Не, толькі наш клас. Мы ж на алімпіядзе па гісторыі Беларусі занялі апошняе месца, вось і адправіў нас сюды чараўнік-фокуснік на курсы па ўдасканальванні ведаў.

— А дзе наш клас цяпер?

— А хто дзе. Кожны адправіўся ў той горад, дзе ён адчувае сябе камфортна. Горад падзелены на дробныя гарадочкі ці мікрараёны. Горад Загадак, Горад Майстроў, Спартыўны Горад, Горад Аўтамабілістаў, Горад нашай Гісторыі… Усіх не пералічыць — іх дзясяткі і сотні.

— І даўно вы тут?

— З тыдзень ужо. Напачатку, як і вы, здзівіліся, не ведалі, што рабіць і як сябе паводзіць, а потым прызвычаіліся. І нам тут вельмі падабаецца. Ходзім па крамах, купляем ласункі і цікавосткі.

— А грошы ў вас адкуль?

— Мы зарабілі іх. У першы дзень. Мы ўсе сталі дворнікамі, падмяталі вуліцы і двары. Так што і вы павінны стаць дворнікамі, каб займець свой першы капітал.

— Мы згодны! — радасна выгукнулі сябры. — А як імі стаць?

Светка адразу завяла іх у горад майстроў. Яшчэ здалёку Сяргей і Артур убачылі вялікую шыльду на фасадзе дома — «Дворнікі». Перад імі расчыніліся шкляныя дзверы, і яны ўвайшлі ў прасторнае фае. Яны падышлі да стала, за якім сядзела дзяўчынка з завязаным на галаве сінім бантам. На шыльдзе, што была за яе спінай, паведамлялася, што дзяўчына служыла дыспетчарам па размеркаванні падмятальнікаў вуліц.

— Вось прывяла, Галінка, новых працаўнікоў.

— Вопыт працы ў вас ёсць? — паглядзела на іх блакітнавокая дзяўчынка.

Хлопцы апусцілі вочы, а Сяргей пацікавіўся:

— А хіба тут патрэбен які вопыт?

— А як жа! — усклікнула дыспетчар. — Гэта самая адказная праца ў нашым горадзе! Усе вуліцы павінны быць чысценькімі, без адзінай пылінкі. А вы трымалі калі-небудзь у руках венік? Маме дапамагалі наводзіць парадак у кватэры?

Сябры маўчалі. Яны ніколі і не рабілі таго, нават і не задумваліся, хто тое мог рабіць. Дома, вядома, маці наводзіла парадак, а на вуліцы…

— Ну, нічога, не бядуйце, — перайшла дыспетчар з бантам на лагодны лад. — Я вас навучу, а далей вы ўжо самі. Толькі адна ўмова: не ленавацца.

— Не будзем ленавацца, — паабяцаў за дваіх Сярожа.

### Першыя дукаты

Яны выйшлі на вуліцу. Спыніліся каля каламажак на роварных колах, якія стаялі ўпрытык уздоўж сцяны. Патлумачыла:

— Вось тут наш увесь інвентар дворніка. Венікі, алюмініевая ёмкасць, падобная на вялікі карабок з-пад сярнічак, толькі з вечкам. Змялі ў яго смецце — і адразу вечка апусцілі. Да яго прымацаваны высокі драўляны чаранок, каб, не згінаючыся, перастаўляць з месца на месца. А цяпер пайшлі пакажу тэрыторыю, дзе вы будзеце працаваць.

Мінулі некалькі дамоў, якія злучалі цагляныя аркі, перайшлі адну вуліцу, потым другую і спыніліся на Праспекце Радасці.

— Вось тут аб'ект вашай працы. Тут пачынаецца, а заканчваецца вунь там, дзе высокі паркан.

Найперш паказала, як трэба выконваць працу. Рабіла гэта лёгка і хутка, гуляючы, як танцавала і песеньку пры гэтым спявала:

Горад любіць чысціню,
адусюль я бруд ганю…

А пад дрэвамі ў скверы яна згрэбла у кучу апалае лісце, цэлая горка атрымалася.

— Потым прыедзе машына і забярэ яго ў вялізную бочку. А цяпер паспрабуйце і вы, каб я ўбачыла і пераканалася, што вы ўмееце працаваць.

І сябры ўзялі ў рукі мётлы, пачалі падмятаць, зграбаць кожны ў свой карабок. Калі ж яны напаўнялася з каптуром, высыпалі ў тачку — у цэлафанавыя чорныя мяхі.

— Добра! — пераканалася Света ў бездакорнасці іх працы. — Пад вечар прыйду і праверу. А потым, як прыму працу, і выдам вам па дзвесце дукатаў.

— Дукатаў? — удакладніў Сярожа.

— Так. Наш гарадок дабіўся на агульным сходзе жыхароў, каб дазволілі нам карыстацца гэтымі грашыма. Гэта аказалася вельмі зручна. Хаця гэта і састарэлая грашовая адзінка большасці еўрапейскіх дзяржаваў, але нам яна прыйшлася па душы. Упершыню дукаты былі выпушчаны ў 1284 годзе Венецыянскай рэспублікай. Дукат адрозніваўся ад іншых грашовых адзінак тым, што на працягу некалькіх стагоддзяў ніколі не псаваўся.

— А ў школе нам пра гэта чамусьці не расказвалі, — прызнаўся Артур.

— Шмат пра што ў школе не расказваюць, — усміхнулася дыспетчарка. — А вы самі пра ўсё дазнавайцеся, на то і даў Бог чалавеку розум.

Не ведалі сябры, што сказаць у адказ. Дыспетчарка не вытрымала, вырашыла ім расказаць пра дукат і яшчэ колькі слоў:

— А апошнія польскія дукаты адчаканілі ў 1830–1831 гадах. Што тады адбывалася на нашай тэрыторыі, вы ведаеце?

— Ведаем, — першы адгукнуўся на пытанне Сяржук. — Я чуў, як мая маці расказвала старэйшаму брату Міхасю пра тыя падзеі. Той час лічылі і вайной, і паўстаннем супраць прыгнятальнікаў і прыгоннага права. Напачатку пад сцягамі Тадэвуша Касцюшкі, потым пад штандарамі Напалеона, а потым ужо, спадзеючыся на ўласныя сілы, паўстанцы і змагары за волю вялі вызваленчую вайну. А гэта была Рэч Паспалітая. Паўстанцы марылі аднавіць дзяржаўнасць, быць вольнымі…

